ББК 84Бел7
Д 81

Рэцэнзент
доктар мастацтвазнаўства
*А. Сабалеўскі*



**Дудараў А.**

Д 81 Дыялог: П'есы.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 272 с., 1 л. партр., 16 л. іл.: іл.

У кнізе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, беларускага драматурга і празаіка Аляксея Дударава прадстаўлены яго п'есы, якія пастаўлены шматлікімі тэатрамі Савецкага Саюза і за яго межамі. П'есы драматурга вызначаюцца вострай праблематыкай, навізной пастаноўкі пытанняў, высокай духоўнасцю, дакладнай сацыяльнай і маральнай трактоўкай вобразаў. А таксама выразнасцю і дакладнасцю мовы. У кнігу ўвайшлі «Радавыя», «Парог», «Вечар» і іншыя творы драматурга.

Д $\frac{4702120200-122}{М302(03)-87}$ 85—87 ББК 84Бел7

# РАДАВЫЯ

драматычная балада
ў дзвюх дзеях



*Калі кожнага савецкага чалавека, што загінуў у бойцы з фашызмам, ушанаваць мінутай маўчання, давядзецца маўчаць 38 гадоў.*

З газет

---

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

ДУГІН.
ДЗЕРВАЕД.
БУШЦЕЦ.
САЛЯНІК.
АДУВАНЧЫК.
МАР'Я.
ЛІДА.
ВЕРА.
ЛЮСЬКА.
ЖАНЧЫНА.
ЛЕЙТЭНАНТ.
ТЭЛЕФАНІСТ.
ГЛУХАНЯМЫ.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Сцяна невялікага касцёла, прабітая амаль на ўсю даўжыню цяжкім дальнабойным снарадам. Аграмадны чорны пралом. Гурбы рудога, бы ссохлая кроў, друзу. Злева і справа захаваліся невялічкія прадаўгаватыя акенцы з вітражамі, трошкі лепкі, і ўсё. Астатняе на зямлі.

Па будынку мітусяцца людзі. Побач, зусім побач грымоты бою. Выбухі, кулямётныя чэргі, чырвоныя бліскавіцы ў вітражах. Мабыць, гэта КП. Хрыпаты голас тэлефаніста не дазавецца:

— Победа, Победа — я Заря... Победа, Победа — я Заря... Ну куды ж ты падзелася? Победа, родненькая,— я Заря...

Чуваць і іншыя галасы:

— Куды?! Куды, маць вашу! Што ён робіць? Дай Гарбачэўскага! Назад! Назад, я сказаў! Прапускайце іх... Пяхоту, пяхоту адсякайце!!!

— Першы замацаваўся...

— Перанясі агонь!

— Бі па леваму флангу... Там у іх танкі аднекуль!

— Сурнач! Хапай усіх каго можна — дуй налева да Гарбачэўскага. Скажы, загадай, каб... Адным словам — дуй! Там разбярэшся.

— Победа, Победа — я Заря... Победа, Победа — я...

З грымотаў бою выдзяляецца прарэзлівы посвіст цяжкога снарада. Набліжаецца, мацнее...

— Лажысь!!

Выбух! Процілеглая сцяна здрыганулася і амаль уся абрынулася на людзей. Узнік яшчэ адзін пралом. Слуп сонечных промняў скрозь пыл урываецца ў будынак. Гэта толькі здавалася, што на вуліцы прыцемкі. А на вуліцы быў веснавы сонечны дзень. Усё раптоўна сціхла. І замест кулямётных чэргаў сыпануў свой пошчак салавей. Далёка праз пралом бачны спакойны лес, роўненькі зялёны луг, зверху звісаюць галіны нябачнага дрэва, што расце каля будынка. Нейкі час усё нерухома. Потым у адным месцы з-пад бітай цэглы выкараскаўся кантужаны тэлефаніст, усё яшчэ прыціскаючы да вуха разбітую тэлефонную трубку. Ашалела хаўкае ротам.

Тэлефаніст *(глядзіць шырока адкрытымі невідушчымі вачыма і ідзе на сцяну)*. По-бе-да... По-бе-да... Я — Заря... Я — Заря... *(Натыкаецца на сцяну, паварочваецца, ідзе па бітай цэгле да пралому*

*насустрач сонечнаму святлу.)* По-беда... Роднень-кая... По-бе-да-а-а... *(Падае вонкі.)*

Спявае-заліваецца салавей. Паўза. Здалёк павольна-павольна ідзе Дзерваед. Брудны, запылены, расхрыстаны, без каскі. Колькі яму гадоў, цяжка вызначыць. Можа, сорак, а можа, і трыццаць. Сівы ўвесь, нават бровы сівыя. Змучаныя вочы ўвесь час глядзяць пад ногі. Цягнучы за рэмень аўтамат і спатыкаючыся, прайшоў праз разбіты будынак да сцяны, прытуліўся да яе, споўз на зямлю. У адной з ніш, дзе звычайна стаяць каменныя постаці, узнікае маладая бялявая Жанчына з дзіцем на руках. Доўгая, вышываная чырвоным белая-белая сарочка. Стаіць і калыхае дзіця. Бязгучна, запаволена.

Дзерваед *(цяжка)*. Жывы, жывы я, Мар'я... Хочаш не хочаш, а жывы... Даруй ты мне... Нацярпеўся... Так нацярпеўся...

Мар'я не адказвае. Калыхае дзіця.

Пуста ў маім сэрцы, Мар'я... Выкіпела ўсё... Адпусці ты маю душу! Хоць трошкі на вайну спішы. Хоць трохі, Мар'я...

Мар'я не адказвае. Калыхаючы дзіця, знікае. Праз пралом уваходзіць Бушцец. Стомлены каржакаваты хлопец гадоў пад трыццаць. Гаворыць заўсёды зацята і нервова. Вочы сухія.

Бушцец *(прысеў ля процілеглай сцяны, зняў каску, выцер пот)*. Цэлы, партызан?..

Дзерваед. Цэлы...

Бушцец. Мяне адзін, сука, прыкладам гвазданўў... Кацялок трашчыць... Гальчанскага не бачыў?

Дзерваед. Не...

Бушцец. Дай глынуць чаго-небудзь...

Дзерваед здымае пагнутую біклагу. Трасе над вухам.

Дзерваед. Нямашака... Выцекла... Асколкам, здаецца, чапанула...

Бушцец. Шчасціць табе...

Дзерваед. Ага...

Бушцец. Каго з нашых бачыў?

Дзерваед. Кроў выстры... *(Моўчкі глядзіць перад сабой.)*

Бушцец *(нервова)*. Ну, чаго ты глядзіш? Чаго глядзіш?

Дзерваед. Цяжка мне...

Бушцец. Мне лёгка! Так лёгка — палячу хутка...

Дзерваед. То добра...

У праломе з'яўляюцца яшчэ два байцы. Хударлявы, з бледным тварам Салянік вядзе Адуванчыка з перабінтаванай галавой. Гэта зусім хлапчук. І сапраўды падобны на адуванчыка. Галава ў белых кучаравінках, толькі ў адным месцы над левай скроняй валасы не растуць. Плача. Салянік адпусціў таварыша, зняў каску, зняў з пляча аўтамат, перахрысціўся.

Бушцец. Што, Адуванчык, атрымаў на абаранкі?

Адуванчык. Балі-іць...

Бушцец. Ідзі ў санбат... *(Да Саляніка.)* Апостал, завядзі яго...

Адуванчык *(хныча)*. Вуха, паскуда, адгрыз... Счапіліся ў траншэі... У яго цясак, а ў мяне аўтамат... Адзін аднаго за рукі — і танцуем... Ён мяне нагой ззаду, я яго нагой ззаду... Худы, стары, а жылісты... І так я яго, і так... Як абцугамі за рукі схапіў! А потым хавальнік свой раскрыў, зубы жоўтыя, рэдкія, і за нос мяне — цап! Я морду ўбок, а ён за вуха, барбос паганы! І грызе... Я крычу, а ён грызе...

Бушцец. Ты б яму яшчэ што-небудзь падставіў...

Адуванчык. Ну як я буду без вуха? З аднаго боку падсмалены, а з другога без вуха!

Бушцец. У цырк пойдзеш... Людзей смяшыць...

Адуванчык. Дзякуй, Мішка Гальчанскі падаспеў... Закалоў гада, а то ён бы мяне саўсім загрыз...

Бушцец. А дзе Гальчанскі?

Адуванчык. Адкуль я ведаю? Ён далей пабег...

Салянік. Супакоіўся Мішка... Каля брамы ляжыць... Крокі тры да сцяны не дабег...

Бушцец. Мо параніла?

Салянік *(паківаў галавой)*. Я яму вочы закрываў...

Бушцец *(уздыхнуў)*. Значыць, закурым яго табачок... *(Пакорпаўся ў кішэнях, дастаў замусолены пачак «Казбеку». Да Дзерваеда.)* Бяры, партызан... Казаў, калі што-якое—на памінкі вам пакідаю.

А да Берліна дойдзем — перад Гітлерам выкуру, а акурак у яго на лбе затушу...

Дзерваед *(бярэ папяросу)*. Не затушыў...

Адуванчык. Дай і мне...

Бушцец. Кашляць будзеш...

Адуванчык *(злосна)*. Дай мне!!

Бушцец. Чаго крычыш? У мяне вушы цэлыя... *(Да Салянiка.)* Мацвей, пацягнеш сатанінскага зелля? Бяры, бяры... Памяні Мішку Гальчанскага...

Салянік. Я памяну... *(Папяросу не бярэ.)*

Кураць. Паўза.

Бушцец *(задуменна глядзіць на дымок ад папяросы)*. Ну, вось і ўсё, Мішка... Старыя твае і дзеткі малыя ў Ленінградзе з голаду памерлі ў блакаду, жонку на фронце забіла, сам ты пяць разоў быў паранены і два разы кантужаны і лёг касцьмі на чужой зямлі перад канцом вайны... *(Нервова затушыў папяросу аб уласную далонь.)* Два гады пад адным шынялькам спалі, з аднаго кацялка елі, па чарзе наркомаўскую пілі! Мне б зараз выць, валасы на сабе рваць, а я куру яго папяроску, і хоць бы... Нават рады, сволач, што не мяне сёння, а яго паклалі...

Салянік. Ужо і плакаць не можаш?..

Бушцец. Чым плакаць?! Калі б па адной слязінцы на кожную смерць, на ўсё, што бачыў, ды я б па кропельцы распляскаўся ад Ржэва да Германіі...

Салянік. Цяжка табе будзе... Калі ўсё высахла...

Бушцец. Ідзі ты!

Паўза.

Адуванчык *(падышоў да Дзерваеда)*. Дзед, а мне нашыўку дадуць?

Дзерваед. Што?

Адуванчык. Нашыўку, кажу, дадуць за вуха ці не? Ну, як у Гальчанскага былі... Раненне ўсё-ткі... Лёгкае...

Бушцец. Нашыўкі за раненне ад кулі даюць, а не ад гнілых зубоў.

Адуванчык. Дык мне ж яго не пацукі адгрызлі, а фашыст! Якая розніца, куляй ці зубамі? Вайна во-во скончыцца, а на гімнасцёрцы адны гузікі... Хоць бы нашыўку якую...

С а л я н і к *(ціха)*. Госпадзі, дай нам сілы...

Б у ш ц е ц. Каму ты молішся, ахламон? Гэта ж касцёл!

С а л я н і к. Бог адзін...

Б у ш ц е ц. Тут, можа, Гебельса хрысцілі, а ён моліцца, прыдурак. Адуванчык, папрасі, хай ён табе нашыўку вымаліць...

Д з е р в а е д. Не чапай чалавека... *(Да Адуванчыка.)* А ты за нашыўкамі не ганіся... Хопіць з цябе нашывак і на сэрцы... Жывым трэба застацца...

А д у в а н ч ы к. А мяне не заб'юць... Я яшчэ маленькі быў, матцы цыганка гадала на мяне... Па жылках... У мяне тады на твары жылкі такія сіненькія былі... Кажа, хай вады баіцца. Ад агню, ад кулі і ад сухот на ім закляцце ляжыць... А вады хай баіцца. Во! Агонь мяне і не ўзяў... Нас палілі... Прыходзяць, каля печы рукі пагрэлі, пытаюцца: «Матка, яйка, млеко, шпек партызант даваль?» Не, кажа, няма, не ведаем... «Шлехт, кажуць, плёхо, капут». Да печкі тварамі паставілі. У маткі сястрычка маленькая на руках. Матка просіць: «Паночкі, каб жа толькі не больна дзеткам было... Не страляйце больна...» А Зоська на вуха шэпча: «А гэта не шчакотна... калі страляюць?» Шчыкоткі баялася. Шчыкотна ж не было. І больна не было... Яны нас абушком па галаве кожнага... Каб не мучаліся, значыць... *(Да Салянiка.)* Слухай, Мацвей, а я тады бога трызніў... Гэта не грэх, бога трызніць?

С а л я н і к. Гэта знаменіе...

Б у ш ц е ц. Цьфу!

А д у в а н ч ы к. Знаменіе... Стаю, здаецца, на снезе... Вакол ні душы... Ні хат, ні дрэў... Як вымерла зямля. Адзін роўны снег. Бог падыходзіць. З барадой і лысінай, усё як паложана... Здароў, кажа, Лёня... Здароў, кажу, хоць цябе і няма. Даю табе, Лёнька, медаль... Здымае сонца з неба і давай мне на галаву адзяваць... А яно гарачэннае! Мазгі ў чэрапе закіпаюць... Плачу, адпіхваю яго, а ён сонца мне як кепку на галаву...

С а л я н і к. Благадаць на табе, Леанід...

А д у в а н ч ы к. Галавешка на мне была, а не благадаць! Ачуняў, а яна во тут во, каля скроні дагарае... Выпаліла ўсё да мяса... І валасы не растуць...

Д з е р в а е д. Ты б іх зачэсваў на гэта месца...

Адуванчык. Так што я ні агню, ні кулі не баюся... З агню тады нехта вынес, у партызанах адбыў, амаль год ваюю, і хоць бы драпіна... Кулі побач ціўкаюць... Ціў-у-у, ціў-у... Вуха толькі во сёння... І то не куляй...

Бушцец. Майму дзядзьку цыганка нагадала: загінеш ад гарэлкі. Напужа-ала — дваццаць гадоў не піў... Нават піва. І загінуў.

Салянік. Пачаў, значыцца...

Бушцец. Суседка над намі жыла. Яе мужык нелюбіў гэта дзела. Пачала аднойчы ганяць яго, непачатую пляшку праз акно выкінула, а дзядзька на лавачцы сядзеў... Бутэлькай «Московской особой» па цемечку — цюк! І гатоў. Загінуў ад гарэлкі... *(Нечакана.)* А пахаваюць у брацкай?

Дзерваед. Каго?

Бушцец. Мішку...

Дзерваед. Схадзі зірні...

Бушцец. Не пайду! Нікога мёртвага не бачыў... Ні маткі, ні бацькі, ні сясцёр... І яго не хачу! Схадзі ты... Га, партызан? Скажы, даруй за мяне... Схадзі, партызан... Ну, чаго ты глядзіш? Сходзіш?

Дзерваед. То добра... Нешта з маладых нікога няма...

Бушцец. Усё ў кучу, як авечкі, лезлі. Толькі заляжам — са ўсіх бакоў да мяне паўзуць! Куды, маць вашу?! Па кучах толькі і лупяць. Усё адно паўзуць, вочы вытрашчыўшы. Мяне Мішка ў атаках і блізка да сябе не падпускаў. Смерць, кажа, дыхне нада мной, а ты побач — і табе пападзе... Адчуваў, ці што?

Праз пралом уваходзіць старшына Дугін. Камандзір аддзялення. Спакойны, высокі, мудрыя і трошкі жорсткія вочы. У руках нясе тэрмас, біклагу, рэчмяшок. Падышоў да байцоў, кінуў усё на зямлю, прысеў на тэрмас.

Дугін. Хто Саляніка бачыў?

Бушцец. Вунь ён святых разглядвае... Мацвей!

Салянік. Што?

Дугін. Цьфу! А я яго па траншэях шукаю... *(Да Дзерваеда.)* Партызан, чаму без каскі быў?

Дзерваед. Забыўся...

Дугін. Я табе забуду! *(Да Адуванчыка.)* Што ў цябе, малы?

Адуванчык. Вуха...

Дугін. Моцна?

Адуванчык. Баліць...

Бушцец. Гальчанскага забіла.

Дугін. Бачыў...

Дзерваед. Яшчэ хто?

Дугін. Усё... Больш ніхто не прыйдзе. Якавенку мінай яшчэ ў сваім акопе да атакі... Гураў і Варонін у санбаце. Гураў, мабыць, выкараскаецца... У яго тут *(паказаў на грудзі)* скразное... Варонін цяжкі... І ў шпіталь не павязуць — паўжывата выдрала... Адваяваўся... Так што сёння нам лафа... Па паўлітру на брата наркомаўскай выйдзе... З трэцяга ўзвода падкінулі... Там саўсім піць няма каму. Пастраення не будзе, строіць няма каго... Усёй роце падзяка за вышыню... Так што будзем вячэраць, хлопцы... Давай, партызан, сцяліце плашч-палатку... Хто хоча, можа НЗ адкрыць. Хаця тут усяго хопіць... Бушцец!

Бушцец. Што?

Дугін. Не што, а я! Хадзі сюды...

Бушцец *(падыходзіць)*. Ну, я...

Дугін *(шэптам, зацята)*. Ты ў склепе быў?

Бушцец. У якім склепе?

Дугін. Ты тут Ваньку не строй... Пакажы сваю фінягу!

Бушцец, крыва ўсміхнуўшыся, дастае з-за спіны трафейны эсэсаўскі корцік, падае Дугіну. Той разглядвае.

Бушцец. Ну што ты, старшына... Я б яго выцер ці ў сажалцы спаласнуў... Бачыў, там сярод двара сажалка? Лебедзі чорныя плаваюць... Любяць, паскуды, чорнае... А што там у склепе, калі не сакрэт? *(І нечакана ўзвіўся.)* А калі б ён быў і ў крыві?! Што з таго?! Я з атакі, а не з бульварчыка!

Дугін. Разгаворчыкі! *(Спакойна, вяртаючы корцік.)* Адным словам, вось што, Сярожа: загад Вярхоўнага ты ведаеш... Ведаеш ці не?

Бушцец. Ну, ведаю...

Дугін. Не «ну»...

Бушцец. Так точна, таварыш старшына! За жорсткае абыходжанне з мірным насельніцтвам або з ваеннапалоннымі...

Дугін. Вось іменна... Ведаеш. Ты мне блізкі

чалавек... Брат. Але азвярэць, стаць такімі, як яны, я табе не дам! Чуеш? Яшчэ што-небудзь... я цябе без трыбунала... Сам... Усёк?

Б у ш ц е ц. Усёк.

Д у г і н. Мы з табой славяне, Сярожа... І прыйшлі сюды заваёўваць сімпатыю...

Б у ш ц е ц. А я на немцы жаніцца не збіраюся. Сімпатый мне не трэба.

Д у г і н. Мне таксама. Тваім дзецям можа спатрэбіцца.

Б у ш ц е ц. Чаму ж яны пра гэта не думалі?

Д у г і н. Мы з табой не яны! Я так думаю... Пытанні ёсць?

Б у ш ц е ц. Табе сны сняцца, Дугін?

Д у г і н. Я чацвёрты год не высыпаюся...

Б у ш ц е ц. А я засынаць баюся! Загад... Вярхоўны ў Маскве, а я тут... Бацька, маці, сястрычкі маленькія зямлю параць... Жонку ў канцлагеры спалілі... Мяне ад Люські з вясельнага стала ўзялі пасля першай чаркі... «Горка» нават не крычалі! Ведаеш, што мне сніцца?! Ад самага Ржэва! Вяселле маё. Сядзім за сталом усе ў белым... І перад кожным чарка... А ў чарцы кроў замест віна... І ўсе госці глядзяць на мяне! Я з Люськай павінен выпіць... Тады і ім не давядзецца... Я ўстаю, бяру гэтую чарку... І прачынаюся... Халодны пот, а ў роце салёны смак... *(Жорстка.)* Пытанні ёсць?!

Д у г і н. Пайшлі вып'ем... Вайна хутка скончыцца... І трэба будзе жыць... Разумееш, ж ы ц ь...

Б у ш ц е ц. Жыць...

Падыходзяць да рассцеленай плашч-палаткі. Дзерваед і Адуванчык ужо сабралі на стол, расстаўляюць кружкі.

Д з е р в а е д. Другі фронт адкрываць?

Д у г і н. Што?

Д з е р в а е д. Тушонку мерыканскую, кажу...

Д у г і н. Давай...

Б у ш ц е ц *(да Саляніка)*. Мацвей, грамульку возьмем ці граху баішся?

С а л я н і к. Чаму ж... Гэта як быццам памінкі... На памінках можна. На памінках не грэх...

Дзерваед разлівае гарэлку. Дайшоў да Адуванчыка.

Б у ш ц е ц. Куды ты яму столькі?

А д у в а н ч ы к. А ты баішся, што табе не хопіць? Не баісь. Лі, дзед...

Б у ш ц е ц. Ты ж з зямлі не падымешся, певень бязвухі...

А д у в а н ч ы к. Што табе маё вуха?! *(Адчайна.)* Вып'ю! Усё сваю долю вып'ю! Назло.

Б у ш ц е ц. Старшына, скажы...

Д у г і н. Хай п'е...

Д з е р в а е д *(скончыўшы разліваць)*. Маўчаць будзем?

Б у ш ц е ц. Ты і так бы язык праглынуў... Толькі глядзіць... Чаго?

Д у г і н. Што маўчаць? Давайце, хлопцы... *(Вельмі-вельмі проста, звычайна, ледзь не абыякава.)* Памянём нашага таварыша Мішку Гальчанскага і маладзейшых, Якавенку, Вароніна...

С а л я н і к. Вароніна нельга... Жывы ж...

Д у г і н. Наўрад... Ідзі, кажа, старшына, мне сумна робіцца... І ўсміхаецца... Твар нейкі светлы.

С а л я н і к. Грэх...

Б у ш ц е ц. Заткніся ты, расстрыга!

Д у г і н *(да Бушцеца, жорстка)*. Сядзь! Віны нашае перад імі няма... Ад куль з нас ніхто не хаваўся... Хай ім будзе пухам зямля чужая, а вам дай бог выжыць... Давайце, хлопцы...

Усе выпілі. Але закусваць не сталі. Сцішыліся неяк і ўсё ж памаўчалі. А за будынкам буяе чужая вясна. І пошчак салаўя разліваецца ў прасторы, ляціць да самага неба і здаецца, запаўняе ўсю зямлю. І так ён, гэты пяшчотны спеў, не дапасоўваецца ні да руін, ні да байцоў, стомленых цяжкім боем, ні да часу, што здаецца, во-во разарве сэрца.

Б у ш ц е ц *(не вытрываў)*. Ды змоўкне ён, сука, ці не?!

Схапіў аўтамат і з рукі часануў доўгай чаргой у той бок, адкуль далятае пошчак.

Д у г і н *(вырываючы аўтамат)*. Ты што, здурэў?!

У праломе з'яўляецца Ж а н ч ы н а ў с в е т л ы м.

Д з е р в а е д *(ціха)*. Даруй, Мар'я...

Д у г і н. Што?

Пошчак салаўя.

*З а ц я м н е н н е.*

Ноч. Ціхая, веснавая. Не змаўкае настырны салоўка. Перад чорным праломам у белай сарочцы, накінуўшы шынельку, сядзіць Дзерваед. Глыбока ў праломе, нібы здань, мроіцца воблік светлай Жанчыны з дзіцем. І ці не гэты воблік песню спявае:

Ой, чыё ж та поле,
Чые ж та пракосы?
Чыя ж та дзяўчына
Распусціла косы...

Дзерваед. Чаромха цвіце, Мар'я... Бульбу б цяпер садзіць... Зямля цёплая... Дыхае... Можа, паспею... Пазней трохі... Яно нічога... Дробненькая будзе... Не хадзі ты за мной, Мар'я. Не адводзь ад мяне бяду... Смерці не баюся... Жыць страшна...

Ой, чыё ж та поле,
Чые ж та пракосы?
Чыя ж та дзяўчына
Распусціла косы...

Падыходзіць Дугін. Жанчына з дзіцем знікае.

Дугін. З кім гэта ты?

Дзерваед. Так... Адзін...

Дугін. Чаму не спіш? *(Не чакаючы адказу.)* І я не магу... Зоркі сёння нізкія... Пасля першай кантузіі як быццам душу з цела выбіла... І тады во такія яны былі... Буйныя, халодныя, аж звіняць... Ляжу, і здаецца, як з паветра ўвесь... І мяне цягне ўгору, цягне, кожная зорачка мяне засмоктвае, нібы выліваюся некуды туды к чортавай матары... Пад бомбамі не страшна, а тут... *(Зірнуў угору.)* Чаго? Зоркі і зоркі... Зараз неба абвалачэ... Мабыць, дождж будзе... Чаго ты маўчыш?

Дзерваед. А што казаць?

Дугін. Пахваліўся б, расказаў, як партызаніў...

Дзерваед. Страляў...

Дугін. Дома хто-небудзь ёсць?

Дзерваед. Нікога...

Дугін. А былі?

Дзерваед. Усе былі...

Дугін. Фюрэры за гэту вайну ніколі не расплоцяцца з людзьмі...

Дзерваед. Мы плаціць будзем. Гітлеры шалеюць — мы плоцім... Скажы, старшына: чаму яны нараджаюцца? Гітлеры?

Д у г і н. Страшна не тое, што яны нараджаюцца, а тое, што людзі ім верыць пачынаюць... *(Паўза.)* Выпіць хочаш? Мне ротны віна даў... У склепе знайшлі...

Д з е р в а е д. Можна...

Д у г і н. Усё адно спаць не буду... Зоркі нізкія...

Д з е р в а е д. Слухай, старшына, папрасі ротнага — хай нашага малога куды перавядзе. Ён і так нацярпеўся... Наскочыць, дурань, на кулю... А яму жыць трэба... Душа яшчэ расце... Зялёны... Мо і забудзецца... Папрасі... У яго дзеці павінны быць прыгожымі...

Д у г і н. Ладна... А цябе яшчэ раз заўважу ў атацы без каскі — скажу ротнаму, каб на «губу» пасадзіў... Ясна?

Д з е р в а е д. Ага...

Крадучыся, уваходзіць Б у ш ц е ц.

Д у г і н. Дзе швэндаешся?

Б у ш ц е ц *(спалохаўся)*. Цьфу, чорт! Думаў, на вартавога напароўся!

Д у г і н. Дзе быў?

Б у ш ц е ц. У мястэчку... Сімпатыі заваёўваў...

Д у г і н. Сяргей!

Б у ш ц е ц. Не, не, старшына, усё нармальна... Так пахадзіў, паглядзеў... Агародчыкі капаюць... У нас магілкі, а яны агародчыкі... У нас крыжы скалочваюць, а яны шпакоўні... І не баяцца!

Д з е р в а е д. А чаго ім баяцца?

Б у ш ц е ц. Ну, канечне... Мы добранькія... Вунь партызан учора свой НЗ адной немцы аддаў... Пляваць хацелася...

Д у г і н. А ты б плюнуў і супакоіўся...

Б у ш ц е ц. Не магу! Ведаеце, зазірнуў у адзін домік... Чысценька ўсё, акуратненька, сцяжынкі жоўтым пясочкам пасыпаны, свечка гарыць, на раялі нехта дрэнькае... Заходжу. Сядзіць маладая немка. Прычэсаная, рукі белыя, пальцы доўгія, у халаціку... Стаў, гляджу... Паварочваецца, зубы паказвае, гадаўка... Шуберт, кажа... Гляджу і маўчу... Падымаецца, курва, халацік расшпільвае! Маўляў, бітэ, рус Іван, атрымлівай кантрыбуцыю... Нашы дзяўчаты сажай твары мазалі, адна, я чуў, кіслатой сваю

прыгажосць спаліла, а гэта халацік расшпільвае з усмешачкай...

Дугін. Далей...

Бушцец. Што далей? Стаіць, паскуда, голая, гладкая... і ўсміхаецца... Плюнуў — і ходу... Глядзець не магу на іх! Трасе! Вось калі мёртвы немец ляжыць — пацалаваць гатовы!

Дугін. Ідзі спаць...

Бушцец. Закурыць дайце...

Дугін *(падае цыгарэты)*. На...

Бушцец. Не... Партызан, дай свае махоркі... Ну, чаго глядзіш?

Бярэ ў Дзерваеда паперы і махоркі і, скручваючы цыгарку, адыходзіць у цемень.

Дзерваед *(нечакана)*. А яму лепей загінуць...

Дугін. Ты што, з глузду з'ехаў?! Малады, дурны, гарачы... Дый пераджыў...

Дзерваед. А ты не пераджыў?

Дугін. Ва ўсіх нас душы выхаладзіла... Не хутка сагрэемся.

Дзерваед. Можа, й памрэм халоднымі...

Дугін. Кінь!

Дзерваед. Жонка, старшына, за мной ходзіць... З дзіцем... Спаленыя... Другі год ходзіць.

Дугін. Расказаў бы... Лягчэй будзе...

Дзерваед. Лягчэй не будзе...

Дугін. Раскажы.

Дзерваед. Што расказваць? Хлеб яна нам пякла, мая Мар'я, значыць... Для ўсяго атрада... Мы ёй мукі прывозілі, яна і пякла... Выдаў нехта... Аднойчы з разведкі ішлі, пяцёра нас было... Удала схадзілі, добрую разведку неслі... Брыгаду потым уратавалі... Да мяне зазірнулі... Мар'я толькі на стол паставіла, я з дзіцёнкам пазабаўляўся, прыбягае белая: «Хлопчыкі, немцы ў Максютках!» З хаты выскачылі, да лесу паўзлі, а яны і адтуль пруць ланцугом плячо ў плячо... На дарозе машын дзесяць... Куды? Хоць скрозь зямлю праваліся! Палоска жыта была каля хаты... Запаўзлі, залеглі... Жыта высокае, добра ў тым годзе ўрадзіла... Пад'ехалі, гергочуць нешта, у хату ўвайшлі... Ляжым, не дыхаем... Пяцёра нас усяго. Двое сувязных саўсім без зброі... Ляжым... Бачу праз калоссе — муку з сенцаў выносяць! У мя-

не ўсё абарвалася! Адкуль у адзінокай бабы ў такі час гэтулькі мукі?.. І каму?.. Яснае дзела, каму... А на расправу яны лёгкія... Павярнуў галаву да камандзіра — той белы як палатно, шэпча дрыжачымі губамі: «Разведка, разведка...» І на сумку на сваю паказвае. Потым эсэсавец Васілька выносіць... На руках гушкае, забаўляецца, смяецца... І сынок смяецца... Адлягло трохі ад сэрца... Пашкадуюць, думаю... Смяецца ж...

Паўза.

Дугін. А потым?

Дзерваед. А потым хату запалілі... Я сівець пачаў... Мар'ю не вывелі... І стрэлу чуваць не было... Не ведаю, што з ёй зрабілі... З хаты не выводзілі...

Паўза.

Дугін. Гавары, яшчэ гавары...

Дзерваед. Васілька *(захліпнуўся паветрам)*... Не магу!!! Разоў дваццаць спрабаваў расказваць... не магу...

Дугін *(жорстка)*. Гавары!

Дзерваед. Аддыхаюся... Перад хатай антонаўка старая расла... За кашульку на сучок зачапіў, самі адышліся... горача стала... Хата гарыць, Васілька ад крыку на яблыньцы заходзіцца, я зямлю зубамі грызу... Пачуў, як па валасах холад пайшоў... І ўсё. У атрад хлопцы прынеслі... Яблыкі на антонаўцы печанымі сталі... Мар'я з Васількам за мной ходзіць... Вінаваты я...

Дугін. Чым ты вінаваты? Што ты мог зрабіць?

Дзерваед. Зрабіць я, канечне, нічога не мог... Мне трэба было з імі разам... А я ў жыце ляжаў... Сівеў і ляжаў... Да гэтага часу перад сваёй душой апраўдваюся: выскачыў бы — хлопцаў засыпаў, а разведка важная была... План карацельнай экспедыцыі неслі... Брыгаду ўратавалі... Цэлую брыгаду... Што там Мар'я з Васількам? Праўда?

Дугін. Тут не па арыфметыцы трэба...

Дзерваед. А па чым?

Дугін. Не ведаю... Можа, калі-небудзь хто-небудзь разбярэцца...

Дзерваед. Да шаптухі хадзіў... Ведаеш, што сказала? Кроў трэба нявінную праліць за Мар'ю і

Васілька... Тады іх душы супакояцца... А я ўчора кансервы свае аддаў... Дзіцёнак зморany, залатушны, нават не плача, стогне толькі... Якая там кроў?..

Дугін. Ведзьма нейкая сказала гэта табе.

Дзерваед. Не трэба... Гэту ведзьму два разы расстрэльвалі...

Дугін. Каску ў атаках усё ж адзявай...

Дзерваед. Не заб'юць... Мяне ўжо забілі... У жыце... Звечарэла мая душа...

Дугін. Пойдзем, партызан! Віпца трафейнага цяпнем... Памянём тваю Мар'ю і сына...

Пастаялі. Паслухалі салаўя.

Чуеш? Спявае, гад...

Дзерваед. То добра...

Пайшлі ўглыб. Салавей спявае. Паўза. Потым збоку шпарка выходзіць санінструктар Ліда. За ёй, трымаючыся за шчаку, выбягае Бушчэц.

Бушчэц. Ты што, звіхнулася?

Ліда. Я табе казала — не трэба!

Бушчэц. Усе спачатку кажуць «не трэба». Нашто па мордзе лупіць?

Ліда. Я не спачатку, я ў канцы, Сярожа... Не чапай мяне, калі ласка...

Бушчэц *(падыходзіць)*. Ды ладна...

Ліда *(жорстка)*. Сяргей!

Бушчэц *(таксама жорстка)*. Так бы адразу і сказала! Нашто рукамі махаць?!

Ліда. Балюча?

Бушчэц. Балюча... *(Пасля паўзы.)* Што, знайшла з зорачкамі на плячах?

Ліда. З зорачкамі... Толькі ў вачах.

Бушчэц. Ух ты! Гэта вясна з нямецкім салаўём на цябе дзейнічае... *(Паўза.)* Ну, а са мной і без зорачак не блага было? Пагрэлася і ў кусты?

Ліда. Я не грэлася... Я цябе адагрэць хацела...

Бушчэц. Слаба нешта грэла. Плакала больш...

Ліда. Хацела, каб і ты заплакаў...

Бушчэц. Ну-ну... І шмат для каго ты цёпленькай была? Толькі без рук!

Ліда *(нечакана проста)*. Шмат... Даруй, Сярожа... Холадна мне з табой і страшна...

Бушчэц. Чаго прыйшла?

Л і д а. Пакліч Дувянца...

Б у ш ц е ц. Каго-о-о?! Адуванчыка?

Л і д а. Мне перавязку трэба зрабіць...

Б у ш ц е ц. Ноччу?

Л і д а. Пакліч...

Б у ш ц е ц. Ну, Лідэс! Ну, драпежніца! Ты ведаеш, колькі яму гадоў?

Л і д а *(нервова)*. А колькі мне?! Ты ведаеш?! Што, рукі не тыя? А колькі вашай крыві на гэтыя рукі вылілася, ты ведаеш? Грудзі не тыя? А колькі я прапаўзла на гэтых грудзях, ты ведаеш?

Б у ш ц е ц *(ніякавата)*. Усё правільна... Зіма канчаецца — трэба гняздзечка віць... Нашто ён табе? На гады свае не глядзі. Ты даўно перарасла іх. Па акопах і бліндажах раскідала за вайну...

Л і д а. Сабяру...

Б у ш ц е ц. Не збярэш, дурненькая... Табе не Адуванчык, а такі, як я, патрэбны... Я цябе зразумею. У нас з табой в а й н а... Адна на дваіх. А ён нецалаваны, Лідка... Яго жанчыны там... падрастаюць. Яго ўсё там. За Перамогай...

Л і д а. А дзе маё?

Б у ш ц е ц. А тваё тут... у акопах. І ты ў іх застанешся назаўжды! Вайна нас з табой ніколі не адпусціць... Ты гэта разумееш? Кветачкі, месяц над рэчкай, салодкі салоўка — гэта прайшло міма...

Чутны грымоты навальніцы.

Таму, каля каго рваліся снарады, вясновая навальніца да самай смерці артналётам здавацца будзе... Мы з табой, Лідка, усё паклалі для Перамогі... І жыццё сваё. І душы. Ты дзіця хочаш?

Л і д а. Я жанчына...

Б у ш ц е ц. А я не хачу! Нікога пасля сябе не хачу пакідаць! Якія дзеці ў мяне могуць нарадзіцца? Не хачу, каб і яны раслі дзеля такога...

Л і д а. Гэта вайна апошняя...

Б у ш ц е ц. Ага. Залечаць раны, забудуць мёртвых... І зноў пачнуць... Праўда, нам з табой гэта ўжо не страшна. Я да вайны крыві баяўся... А цяпер у рукапашных баюся прамахнуцца, ударыць не трапна. Так вось пад левую лапатку — рраз! Ты ведаеш, мне гэта падабаецца... А кроў... Забыўся, якая яна...

У сне бачу ружовую... Як віно... Адуванчыка я зараз паклічу...

Л і д а *(падышла да яго, нечакана прытулілася).* Сярожа...

Б у ш ц е ц *(зразумеў, што гэта ласка не жанчыны).* Вось гэтага не трэба!

Л і д а. Спыні сваю душу, Сярожа...

Чутны грымоты навальніцы.

Б у ш ц е ц. Дождж будзе?

Л і д а. Будзе...

Б у ш ц е ц. Спыні дождж, Ліда...

Л і д а. Сярожа...

Б у ш ц е ц. Пусці!

Пайшоў. Ліда прысела на друз. Слухае грымоты. Праходзіць С а л я н і к.

С а л я н і к. Чаму ты, Лідка, не спіш?

Л і д а. Пагадай мне, дзядзька Мацвей...

С а л я н і к. Я не ўмею...

Л і д а. А калі ў бога не верыш, маліцца можна?

С а л я н і к. Можна. Хто-небудзь пачуе...

Л і д а. Я буду жыць, дзядзька?

С а л я н і к. Захочаш — будзеш... Ідзі спаць.

Адыходзіць. З глыбіні Б у ш ц е ц цягне за руку А д у в а н ч ы к а. Той упіраецца.

А д у в а н ч ы к. Пусці, я табе сказаў!

Б у ш ц е ц. Давай, давай...

А д у в а н ч ы к. Што табе трэба, Мазепа дурны?!

Б у ш ц е ц *(падвёў яго да Ліды).* От! Цёпленькі... Акурат для сугрэву — з пасцелі падняў...

Хацеў яшчэ нешта сказаць, але не сказаў. Павярнуўся і хутка пайшоў. Ліда глядзіць на Адуванчыка. Той на яе.

А д у в а н ч ы к. Ну што?

Л і д а. Сядай, я табе павязку змяню...

А д у в а н ч ы к. Дык ты ж удзень мяняла...

Л і д а. Яшчэ змяню... Але калі ты хочаш спаць— ідзі спі...

А д у в а н ч ы к. Спаць не хачу... Мяняй...

Сядае. Ліда пачынае разбінтоўваць яму галаву.

Л і д а. Кроў прысохла... Не баліць?

Адуванчык. Не...

Ліда. Лёнька, чаму цябе Адуванчыкам завуць?

Адуванчык. Мішка Гальчанскі празваў... Калі ў роту прыйшоў, у мяне з гэтага боку валасы саўсім не раслі... Ён засмяяўся і кажа: «Зірпіце — Адуванчык!» Так і завуць... Мішку забіла, а мяне завуць...

Ліда. Хочаш шакаладу? Еш, ты ж любіш салодкае...

Адуванчык есць. Ліда пяшчотна разбінтоўвае.

Адуванчык. А адкуль у цябе шакалад?

Ліда. Лётчыкі падарылі...

Адуванчык *(аддае)*. Не хачу!

Ліда. Ну што ты, дурненькі?.. У мяне толькі з табой душа жыць пачала... Не думай нічога...

Адуванчык. Я не думаю...

Ліда. Я ні ў чым не вінаватая: ні перад табой, ні перад сабой... Але ты ўсё адно даруй мне...

Адуванчык. Не трэба, Ліда...

Ліда. Табе што-небудзь гаварылі пра мяне?

Адуванчык. Я не слухаў...

Ліда. Ведаеш, бацька, адыходзячы на фронт, сказаў маці: «Даруй мне... калі я загіну... Я табе дарую, калі не дачакаешся». І ты мне, Лёнька, даруй...

Адуванчык. За што?

Ліда. Не ведаю, але даруй... Я цябе не дачакалася... Чатыры гады полымя, кроў, смерць побач... кожны дзень. Мне схавацца за каго-небудзь хацелася... я і хавалася... А потым баяцца перастала... Нават клікала не адзін раз... З вашага аддзялення хлопец такі чарнявы, на цыгана падобны, з ранай у жывот... Як яго?

Адуванчык. Варонін...

Ліда. Як звалі?

Адуванчык. Не ведаю... Ён з папаўнення... Малады...

Ліда. Малады... Усміхаецца, а слёзы з вачэй... Сястрычка, я не плачу, гэта мне пяском у вочы ад выбуху... Дай вады, кажа, усё адно ж горай не будзе... Губы кусае, крычаць саромеецца... Я ад палаткі адышлася, на калені стала і... прашу... Смерці прашу: забяры яго, прашу, зрабі ласку, забяры... Вяр-

таюся — ён ужо сцішыўся... Толькі ўсмешка засталася... І вочы на сонца глядзяць. Гэта ж жудасць! Смерці маліцца... Яе ж праклінаць трэба... *(Паўза.)* Са мной нешта сталася, Лёнька, калі я сустрэлася з табой... Па начах у сне чую: плача нехта... Так тоненька, жаласліва ўсхліпвае... Я не вушамі, я сэрцам гэта чую... Ведаеш, хто гэта? Мае ненароджаныя дзеці плачуць... Да святла просяцца... Баюся, што пасля ўсяго гэтага я нарадзіць не змагу... Жыць засталося мала — трэба яшчэ выжыць... Толькі б выжыць... Толькі б выжыць...

Яркая бледна-блакітная бліскавіца шуганула з неба. І ўслед за ёй траскучы ўдар грому. Адуванчык упаў на калені і нервова прытуліўся тварам да Ліды. Тая моцна прыціснула яго да сябе.

Што ты, што ты, дурненькі... Гэта ж не снарад... Гэта навальніца.

Адуванчык. Я снарадаў не баюся... Я перуна баюся...

Ліда. Чаго?

Адуванчык. Ён перад вайной да нас у хату залятаў... Такі белы мячык. Акно было адчынена, ён і прыплыў... Мы вячэралі — ён над сталом і павіс... Маці схапіла чыгунок дый накрыла яго. Як чахнула перад самым носам! Я потым месяц заікам быў... Бацька кажа: нешта нядобрае будзе... Угадаў: праз месяц вайна пачалася. А мяне з таго часу, як навальніца надыходзіць,— трэсці пачынае. Снарады побач вухкаюць — не страшна, толькі рот раскрываю, а то вушам балюча, а як навальніца — гатовы пад зямлю залезці...

Ліда. Гэта пройдзе... У цябе хоць хто-небудзь застаўся?

Адуванчык. Бацька, можа, жывы, яго на вайну забралі... А так нікога... І вёскі няма. І суседзяў. Палілі нас...

Ліда. Усё хутка скончыцца... І будзе ціха-ціха на зямлі... І я буду тваёй сястрой... І маці... Гэтаму я навучылася за вайну. Мы паедзем куды-небудзь далёка, дзе няма пажарышчаў і руін, дзе шмат-шмат цішыні... Дзе журчыць чыстая рэчка... І будзем успамінаць толькі наша дзяцінства, нашых мам, школу, як нас прымалі ў піянеры... І ніколі-ніколі не ўспомнім вайну... А калі надыдзе навальніца — я

заспяваю, і ты не пачуеш, як неба разрываюць грымоты... І пярун ужо не будзе прадвеснікам бяды...

Абдымае яго, плача.

А д у в а н ч ы к. Не трэба, Ліда... Не плач.

Л і д а. Гэта не слёзы, Лёнька... Гэта душа мая смяецца...

З'яўляецца Ж а н ч ы н а з д з і ц е м на руках.

А д у в а н ч ы к. Пачакай, Ліда... Нехта глядзіць на нас...

Л і д а. Усе спяць.

А д у в а н ч ы к. Глядзіць!

З неба на зямлю абрынуўся ласкавы веснавы дождж.

*З а ц я м н е н н е.*

Гэткія ж самыя руіны. Вельмі падобныя на першыя. Магчыма, гэта быў музей ці палац які-небудзь. Паўзмрок. Успыхваюць крывавыя бліскавіцы, выбухі. Так падобна ўсё гэта на навальніцу, ды гэта не навальніца. Гэта бой. Пражэзліва енчаць міны, захліпваюцца ад злосці аўтаматы, ціўкаюць кулі. У будынак урываюцца б а й ц ы. Д з е р в а е д на сярэдзіне схапіўся з некім, пакаціўся па друзу. Цяжкое дыханне, глухія гукі ўдараў. Падбягае Б у ш ц е ц.

Б у ш ц е ц. Галаву! Адвярні галаву, партызан!!! Пусці яго, суку!

Кароткі ўзмах корціка, хрыпаты стогн.

Цэлы?! Бяры аўтамат...

Д у г і н. Дзед! Вазьмі левае акно! Малы, прыкрывай яго!

А д у в а н ч ы к. Ад каго тут прыкрываць? *(Кідаецца да пралому.)*

Д у г і н. Куды лезеш, маць тваю?!

А д у в а н ч ы к. Што табе мая маці?!

Д у г і н. Біце доўгімі чэргамі, прыціскайце іх да зямлі! Зараз назад палезуць! Астатнія па аднаму за мной!

Д у г і н, Б у ш ц е ц і С а л я н і к па чарзе знікаюць у праломе. Дзерваед становіцца ля акна. А д у в а н ч ы к падбягае.

Д з е р в а е д. Куды?! Глядзі ззаду!

А д у в а н ч ы к. Ідзі ты к чорту! Ззаду нікога няма!

Д з е р в а е д. Не лезь!

Страляе. Недзе зусім блізка прашыпела зялёная ракета. Страляніна паступова заціхае.

Здаецца, замацаваліся... Дзякуй богу... *(Паклаў аўтамат на падаконнік, стомлена прытуліўся да сцяны.)* Хадзі, Лёнька, закурым...

А д у в а н ч ы к *(пакрыўджана)*. Сам куры...

Д з е р в а е д. Чаго ты?

А д у в а н ч ы к. А вы? Чаго вы мяне за свае спіны хаваеце? Цябе вунь да ордэна прадставілі, а ў мяне і нашыўкі няма...

Д з е р в а е д. Нашто табе ордэн, дурань?

А д у в а н ч ы к. На грудзях насіць!

Д з е р в а е д. Свой аддам, калі дадуць...

У праломе з'яўляецца разгарачаны Б у ш ц е ц.

Б у ш ц е ц. Дзе Салянік?

Д з е р в а е д. З вамі ж пабег...

Б у ш ц е ц *(узбуджана)*. Ротны загадаў далей не лезці... Зараз іх «кацюшамі» прычэсваць будуць. Гэй, Адуванчык! Вушы сёння цэлыя? Ты, партызан, паглядвай... Ці мала што ў іх наўме... Ох, вясёленькі бой быў!

Д з е р в а е д. Нашто ты яго?

Б у ш ц е ц. Каго?

Д з е р в а е д. Палоннага...

Б у ш ц е ц. Ён жа сядзеў на табе, пень! Які палонны? Вораг не здаецца — яго знішчаюць! Хто сказаў?

Д з е р в а е д. Я ў яго аўтамат выбіў...

Б у ш ц е ц. О-ё-ёй! Дайце яму крылы — анёлам будзе! *(Зацята.)* Мабыць, мала... яны вас білі...

Д з е р в а е д. Не табе казаць, як нас білі!

Б у ш ц е ц. Жаласнік, тваю дывізію! Ты яшчэ з Гітлерам у Берліне пацалуйся! Ладна! Пайду шукаць яшчэ аднага праведніка... Толькі б выжыў, паскуда... Толькі б выжыў! *(Знікае ў праломе.)*

Д з е р в а е д *(хапае аўтамат)*. Ашалела дзеўка! Куды яна лезе? Куды?! *(Крычыць.)* Паўзі, дурная! Лажысь! *(І часануў доўгай чаргой у акно. У адказ*

*загрукатаў нямецкі аўтамат. Дзерваед страляе да тае пары, пакуль у акне не з'яўляецца Ліда, кідае аўтамат, хапае дзяўчыну, цягне ў будынак.)* Што ў цябе ў галаве, прыпадачная?!

Л і д а. Невідзімкі, дзед. Невідзімкі ў галаве... Дзе Лёнька?

Д з е р в а е д. Лёня!

А д у в а н ч ы к. Ну што?

Л і д а. Ты жывы?

А д у в а н ч ы к. А ты не бачыш?

Л і д а. І я жывая... *(Корпаецца ў санітарнай сумцы, дастае некалькі плітак шакаладу.)* Вось я табе прынесла трафейнага. У бліндажы знайшла...

Д з е р в а е д. Што ты будзеш рабіць!

Л і д а. Еш, Лёнька... А я пабягу... Параненыя там. Сёння нешта параненых шмат... *(Падыходзіць да Дзерваеда.)* Дзед, гэта праўда, што сэрца заўжды бяду чуе?

Д з е р в а е д. Праўда...

Л і д а. Нуда мяне смокча апошнія дні... Аж мутарна... *(Шэптам.)* Дзед, родненькі, пабеража́ыце вы яго! Гэта ратунак мой, маё збавенне...

Д з е р в а е д. Ідзі, Лідка... Усё будзе добра...

Л і д а *(падышла да Адуванчыка)*. Лёнька...

А д у в а н ч ы к. Што?

Л і д а. Нічога... Я пайду...

А д у в а н ч ы к. Ідзі...

Л і д а. Ты б хоць дзякуй сказаў...

А д у в а н ч ы к. Дзякуй...

Л і д а *(правяла рукой па яго валасах)*. Як у цябе павязка?

А д у в а н ч ы к. Нічога. Добра.

Л і д а рэзка павярнулася і пабегла ў пралом. Адуванчык падыходзіць да Дзерваеда.

Дзед, шакалад будзеш?

Д з е р в а е д. Табе маці сніцца, Лёнька?

А д у в а н ч ы к. Сніцца, а што?

Д з е р в а е д. Падумаеш дрэнна пра жанчыну — пракляне́ш сваю маці...

А д у в а н ч ы к. Я нічога не думаю!

Д з е р в а е д. То добра...

А д у в а н ч ы к. А да чаго ты гэта?

Дзерваед. Так...

У праломе з'яўляецца Салянік.

Салянік. Як вы тут?

Дзерваед. Чакаем...

Салянік. Дзякуй богу, у нас усе цэлыя... На левым фланзе дрэнна... Там у іх дот быў. Пятрок, чаму яны не скараюцца? Канец жа... Усё адно канец.

Дзерваед. Чаму д'ябал богу не скараецца? Таму што — д'ябал...

З'яўляецца Бушцец. Падыходзіць да Саляніка.

Бушцец. Пакажы аўтамат...

Салянік. Нашто?

Бушцец. Пакажы аўтамат, сволач!

Дзерваед. Чаго ты?

Бушцец. Не лезь, партызан!

Салянік *(падае аўтамат)*. На...

Бушцец бярэ аўтамат, дастае з яго дыск. І раптам з маху б'е Саляніка па твары.

Бушцец. Паскуда!

Дзерваед. Ты што робіш?!

Бушцец. На, зірні, усе патроны цэленькія, змазка свежая. Ніводнага разу, сука, за атаку не стрэліў... Мы павінны! Ён чысценькі, а мы — чэрці! Ён на беражку пастаіць, а нам за яго ў крыві купацца?!

Салянік. А табе гэта падабаецца...

Бушцец. Праз цябе, гадаўка, лёг Мішка Гальчанскі, Якавенка, Варонін і ўсе астатнія... *(Трасе дыскам.)* Гэтыя кулі, можа, ад іх смерць адвялі б...

Салянік. З імі я заўжды побач быў... Ні за іх, ні за цябе ніколі не хаваўся... Не мая віна, што...

Бушцец. Не твая? *(Спрытна забівае дыск у аўтамат.)* Ану, станавіся да сцяны!

Адуванчык. Ты што?! У штрафбат захацеў?

Бушцец. Я з сорак першага ў штрафбаце! Станавіся!

Салянік. Не рабі гэтага, Бушцец... Прашу цябе... Не бяры і гэтага на сваю душу... Хопіць.

Бушцец. Не клапаціся пра нашы душы. Ідзі да сцяны!

Салянік. Як хочаш... *(Ідзе.)*

А д у в а н ч ы к *(у адчаі)*. Дзед!!!
С а л я н і к. Толькі я адвярнуся... Ладна?
Б у ш ц е ц. Ну не! Мішку Гальчанскаму ў твар стралялі...
С а л я н і к. Як хочаш...

Бушцец падымае аўтамат.

Д з е р в а е д *(цяжка)*. Пакладзі!
Б у ш ц е ц. Што?
Д з е р в а е д. Пакладзі аўтамат на зямлю...
Б у ш ц е ц. Шкада? Табе шкада?! А ты ўспомні, як тваіх палілі... Што рабілі з тваёй Мар'яй?! Як тваё дзіця пяклося на сучку з яблыкамі! Ён у іх не хоча страляць! Чаго глядзіш?!
Д з е р в а е д. Пакладзі аўтамат на зямлю...
А д у в а н ч ы к. Сяргей, кінь! Ну яго к чорту, не трэба... Супакойся... Я табе сёння сваю порцыю наркомаўскай аддам...
Д з е р в а е д *(да Саляніка)*. Адыдзі ад сцяны... Не корчы з сябе... На Хрыста ты не падобны... *(Да Бушцеца.)* А ты пакладзі аўтамат...

Салянік адыходзіць ад сцяны. Бушцец стаіць нерухома. З'яўляецца Д у г і н.

Д у г і н. Ты што, аглух? Кінь зброю!

Бушцец шпурнуў пад ногі аўтамат і, цяжка дыхаючы, прысеў на друз.

Атака яшчэ не скончылася, хлопчыкі... Што такое?

Усе маўчаць.

*(Злосна.)* Што такое, я пытаюся, дзед?!
Д з е р в а е д. Нічога. Пагаварылі...
Д у г і н *(падымае аўтамат)*. Чый?
С а л я н і к. Мой... Я не страляў...
Д у г і н. Не чую...
С а л я н і к *(крычыць)*. Я не страляў! І раней не страляў! Верую я!!
Д у г і н. Вось цяпер чую... *(Паўза.)* А гэта трыбунал, Мацвей...
С а л я н і к. Я ведаю...
Д у г і н. Толькі зараз даведаўся?
С а л я н і к. Не трэба, старшына... І раней знаў... Я грэшны, слабы чалавек...

Д у г і н. Значыць, зброю ўсё-ткі ўзяць узяў... І думаў як-небудзь ціхай сапай да канца вайны пратупаць... І перад богам чыст, і людзі задаволены... І вашым і нашым... Але бог шэльму меціць... Не атрымалася...

С а л я н і к. Я ў атакі разам з табой бегаў, старшына... Не хаваўся...

Д у г і н. На перадавой не схаваешся, Мацвей... Дзед, дай махоркі... *(Падыходзіць да Дзерваеда, пачынае круціць цыгарку.)* Што ж нам, бедным, рабіць? Га, партызан? Чалавек пад трыбунал пойдзе, а нам з Гітлерам трэба да канца разлічыцца... *(Закурыў, падышоў да Саляніка.)* Як думаеш: боскае праклянцце і смяротны грэх на нашым Дзерваедзе ляжыць?

С а л я н і к. Я вам не суддзя...

Д у г і н. Я не казаў, каб ты нас судзіў. Я толькі спытаўся. Як? Ты? Думаеш?

С а л я н і к. Бог раз і назаўжды сказаў: не ўбій... Нікога! Нідзе! Ніколі! Нізашто! А чалавек, да крыві прывыкшы, адразу выйсце знайшоў: а калі хто супраць бога? Значыць, можна! А калі не тымі пальцамі хрысціцца? Можна! А калі ерэтык? На касцёр яго! Хто забівае «во славу божию», гэткі ж забойца, як і той, хто забівае за кашалёк! Бог сказаў: не ўкрадзі! А калі крадзенае? Можна! Святое дзела! Не пажадай жонкі бліжняга... А ў мяне любоў! Можна! Што нам святое ні скажы — мы ўсё перакруцім, пераверцім і падгонім пад сябе... Не жыццё, не абставіны прымушаюць нас грашыць, а похаць душы нашае...

Д у г і н. Амінь?

С а л я н і к. Не трэба...

Д у г і н. Хто ў цябе дома застаўся, Мацвей?

С а л я н і к. Бацька, маці, жонка і дзеці...

Д у г і н. Усе жывыя?

С а л я н і к. Дзякуй богу...

Д у г і н *(дагаворвае за яго)*. ...які нашымі рукамі, крывёй, грахом нашым не пусціў звера ў твой дом... Лёгка быць святому, Мацвей... калі ты адзін, у пустыні! У мяне, можа б, і хапіла сілы здохнуць з голаду, а чужога не ўзяць... А калі побач малое дзіця з голаду памірае? Тады што? Глядзець і думаць пра «не ўкрадзі»?!

Салянік. Папрасі!

Дзерваед. А не дадуць?..

Салянік. Тады ўкрадзь...

Дугін. Ага!

Салянік. Але ніколі не думай, што зрабіў добра...

Дугін. А калі прыйдуць у мой дом і на вачах у мяне заб'юць майго бацьку, раскрыжуюць маці, згвалтуюць сястру... Што мне рабіць? Папрасіць? Адуванчык, што твая маці ў іх прасіла: «Паночкі, не страляйце дзетак больна»? І што?!

Бушчац, як у сне, трасучыся, пачынае падымацца, сціскаючы аўтамат.

*(Не паварочваючыся да яго).* Табе было сказана: пакладзі аўтамат на зямлю! *(Бушчац сеў.)* Дык што ж мне, грэшнаму, бог параіць, Мацвей?

Салянік маўчыць.

Правільна... Забі, але не думай, што гэта добра. Дык я і без бога ведаю, што гэта дрэнна... Ты колькі на фронце? А я забіваю з сорак першага! І з сорак першага знаю: не ў кожным немцу сядзіць Гітлер... Большасць з іх няшчасныя, простыя людзі... Але я буду страляць! І біць трапна! Да канца! Таму што ваюю супраць д'ябла! Праўда, ён у Берліне, але тут, у акопах, яго анёлы... Як там у вас: ці адракаешся ад д'ябла і анёлаў яго... Адракаюся!

Салянік. Ім таксама кажуць, што з імі бог... А мы д'яблы...

Дугін. Ма-аленькая розніца ёсць. Я не праліў ні кроплі нявіннай крыві...

Салянік. Загадаюць — пральеш...

Дугін. Не!!! Сустрэну партызан, дзяцей тых, хто паліў тваю Мар'ю,— я іх не зачаплю! Руку сабе да локця адсяку, але не зачаплю! Не ўбій!.. Яно ў яго было... *(Паказаў на Дзерваеда.)* Калі жонку з дзіцем на смерць аддаў, каб іншых не забілі... Ты думаеш, яму кара гасподня страшная? Ды ён ужо быў у пекле. Тут, на зямлі...

Дзерваед. Не трэба так, старшына...

Дугін. Трэба! *(Да Саляніка.)* Дай запалку. Патухла... *(Зноў прыкурвае. Паўза.)* Усё! Пагаварылі, і досыць... Зараз артпадрыхтоўка... Пойдзем да-

лей... Раней сядзем — раней выйдзем... *(Вельмі проста.)* Бяры аўтамат, Мацвей...

Салянік стаіць нерухома.

Бяры...

Салянік маўчыць. Паўза. Дугін дастае з аўтамата дыск.

Хлопцы, у каго патронаў мала?

Дзерваед. У мяне...

Дугін. На, дзед... *(Аддае дыск Дзерваеду, а пусты аўтамат Саляніку.)* Ротны з зампалітам у суседнім будынку... Здай зброю і пра ўсё далажы... Мне некалі. Зараз атака.... Малы, завядзі яго...

Бушцец *(хрыпата)*. Я завяду.

Дугін. А мабыць, і не трэба... Ты ж сам, Мацвей, дойдзеш? Праўда?

Салянік. Дайду... Не насі на мяне злосць...

Дугін. Будзь здароў.

Салянік пайшоў у пралом. Дугін падыходзіць да Бушцеца.

Устаць!

Бушцец. Што? *(Падхапіўся.)*

Дугін. Ты хто? Вярхоўны Галоўнакамандуючы? Пракурор? Суддзя, каб чалавека да сценкі ставіць?

Бушцец. Я — франтавік! Я маю права...

Дугін. Тады ў камендацкі ўзвод шуруй! А ў маім аддзяленні ніхто перад носам зброяй махаць не будзе! Усёк?

Прарэзлівы посвіст. Усе падаюць на падлогу. Бліскавіца на ўвесь пралом. Выбух. Пыл. Цішыня. Байцы падымаюць галовы.

Адуванчык. Нічога сабе дзеўбанула... *(Падымаецца, падыходзіць да Дугіна.)* Старшына, ну на які д'ябал трэба было яго з абозу браць?..

Дугін. Людзей не было. Вышыню браць трэба... і маўчы!

Адуванчык. Я маўчу.

У праломе, без каскі, шэры ад пылу, скурчыўшыся, з'яўляецца Салянік.

Дугін. У каго ёсць пакет? Дайце пакет!

Дзерваед. Зараз!

Салянік. Не трэба, хлопцы... Нічога не трэба... Даруйце мяне...

Дугін *(да Адуванчыка)*. Збегай за Лідкай... Яна на КП... *(Адуванчык знікае ў праломе.)*

Салянік *(да Бушцеца)*. Даруй, Сяргей... Праўда твая... Толькі ты спыніся... калі можаш... Падыдзі, Пятрок...

Дзерваед падыходзіць.

Дзерваед. Што, Мацвей? Што?

Салянік. Адпусці мне грахі мае...

Дзерваед. Што ты! Не веру я... Не веру...

Салянік. У бога можна не верыць, трэба жыць па ім...

Дзерваед. Ты не бойся, Мацвей, не бойся...

Салянік. Я не баюся... На ўсіх нас на зямлі адна душа... Тыя, хто мучае, забівае,— пройдуць па слядах пакутнікаў, па жыцці ахвяр сваіх... Пекла тут... На зямлі... І ачышчэнне чалавека... Госпадзі, што ж ты з намі робіш? Што ж ты робіш?

Прыбягаюць Адуванчык і Ліда.

Ліда. Зараз, зараз, дзядзька Мацвей... *(Корпаецца ў сумцы.)* Што гэта ты?

Салянік. Не трэба, дачушка... Пасядзі так. Памаўчы...

З кароткім шыпеннем над будынкам праносяцца снарады гвардзейскіх мінамётаў.

Дугін. Пачалося! Рыхтуемся, хлопцы... Чакайце чырвонай! Артналёт кароткі будзе... Адуванчык! Памажы тут...

Адуванчык. Што тут памагаць?

Дугін *(злосна)*. Рабі, што сказана!!

Дугін, Дзерваед, Бушцец падбеглі да вокнаў, чакаюць.

Ліда. Дзядзька Мацвей, ну што мне зрабіць? Што мне зрабіць?

Салянік. Заспявай...

Ліда. Што?

Салянік. Што хочаш... Заспявай, Лідка... Жаночая песня — малітва... Пра косы ведаеш? Гэта... ой, чыё ж та... поле... *(Заціхае.)*

Ліда. Не ведаю...

Салянік. Усё адно заспявай...

Ліда. Не ведаю!!

У праломе з'яўляецца Жанчына з дзіцем. І палілася чыстая ціхая песня:

Ой, чыё ж та поле?
Чые ж та пракосы?
Чыя ж та дзяўчына
Распусціла косы...

Крывавым заравам успыхнула ракета.

Дугін. Пайшлі, мужыкі! Лапаткі ў рукі — пакажам ім кузькіну маць! Ура-а-а!!!

Усе выскокваюць праз вокны. І грознае, страшнае «ўра» пакацілася над зямлёй, перарасло ў крык-стогн «а-а-а». Стрэлы, выбухі, тупат тысяч ног па зруйнаванай зямлі.

Ой, чыё ж та поле,
Чые ж та пра...

Песня абрываецца.

*Зацямненне.*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Руіны рачнога вакзала. Бой грыміць недзе далёка. Мокры да апошняе ніткі, сядзіць на камянях Адуванчык. Есць размоклы шакалад і горка плача. Каля сцяны сушыцца Дзерваед.

Адуванчык. Дзед, чаму яна ўтапілася? Я плаваць не ўмею і выплыў... Чаму я выплыў? Я ж вады баюся... У плыт як дасць — у яе толькі калені мільганулі... А я выплыў... Ой, сволачы! Ой, гады... Ну, чаго ты маўчыш?

Дзерваед. А ты паплач... Яно нічога... Паплач... Табе трэба плакаць...

Адуванчык. Яна прыгожая была? Га, дзед? Ліплі ж усе да яе...

Дзерваед. Прыгожая...

Адуванчык. А я падсмалены і пакусаны... Чаго ж яна так да мяне... Я ёй пра цыганку расказаў... Пасмяялася, а потым рукой вось так правяла... Я, кажа, і ад вады на цябе закляцце зраблю...

Дзерваед. Баба што хочаш можа... Калі душой любіць... Гэта сіла...

Адуванчык. А можа, яна гэтым закляццем усе свае сілы аддала? Каб я жыў?

Дзерваед. Можа...

Адуванчык. Нарадзіць хацела... Я, кажа, Лёнька, ад цябе колькі змагу — столькі нараджу... Колькі на руках у мяне памерла... І колькі сама забіла... Столькі і нараджу... Тады душа супакоіцца... А чаго ў яе душа неспакойная была? Фрыцаў жа забівала...

Дзерваед. Бабе дзяцей трэба няньчыць, а не...

Адуванчык. Цяперака мне вады можна і не баяцца...

Дзерваед. Можна...

Адуванчык. Хочаш шакаладу?

Дзерваед. Давай...

Без гімнасцёркі, з кацялком у руках падыходзіць Дугін.

Д у г і н. Ідзіце да кухні... Кашу ўжо даюць...

Д з е р в а е д. То добра...

Д у г і н. Там і абсушыцеся... Чаго цябе трасе, малы? Застудзіўся?

А д у в а н ч ы к. Застудзіўся...

Д з е р в а е д. Пайшлі, Лёнька... Што б там ні было, а каша — першае дзела...

Д у г і н. Дзед, хочаш грамульку для сугрэву душы...

Д з е р в а е д. Не хачу...

А д у в а н ч ы к. Дай мне! *(Бярэ ў Дугіна біклагу, робіць некалькі адчайных глыткоў, кашляе, закусвае шакаладам.)* Пайшлі, дзед...

Адыходзяць. Дугін сядае на зямлю і, заціснуўшы паміж каленяў кацялок, есць салдацкую кашу. Падыходзіць Л е й т э н а н т. Новенькая гімнасцёрка, новенькая фуражка, новенькія боты. Адным словам, з іголачкі. Нават і твар, здаецца, з іголачкі.

Л е й т э н а н т. Тут першы ўзвод, баец?

Д у г і н. Тут...

Л е й т э н а н т. Я са штаба дывізіі... Дзе камандзіра знайсці?

Д у г і н. Я камандзір...

Л е й т э н а н т *(прысеў побач)*. Слухай, у цябе тут служыць такі Дугін... Як ён?

Д у г і н. Ваюе...

Л е й т э н а н т. Ты за ім нічога такога не заўважыў?

Д у г і н. Ладна, лейтэнант, не будзем у кошкімышкі гуляць... Дугін я. Што я павінен быў за сабой заўважаць?

Л е й т э н а н т *(ніякавата крэкнуў)*. Та-ак... Тады пару пытанняў да вас, старшына...

Д у г і н. Давай... Толькі я кашу даем... Галодны як сабака.

Л е й т э н а н т. Еш, еш...

Д у г і н. Ты, калі хочаш, таксама да кухні падыдзі... У нас добрая каша сёння...

Л е й т э н а н т. Не, дзякую, я ўжо снедаў.

Д у г і н. Ну, глядзі...

Есць кашу. Лейтэнант пазірае за ім.

Л е й т э н а н т. З якога года ваюеце?

Д у г і н. З сорак першага...

Лейтэнант. І ў якім званні пачалі вайну?

Дугін. Старшы палітрук...

Лейтэнант. Аднак вы выраслі... Такі малады і ўжо старшына... Як гэта так ліха ад старшага палітрука да старшыны?

Дугін. Ты ведаеш, што ў сорак першым тварылася?

Лейтэнант. Адступалі... часова...

Дугін. Ды не адступалі мы, а ўцякалі...

Лейтэнант. Не ўсе, канечне...

Дугін. Ага... Хто пад гусеніцы іх танкаў трапіў, канечне, не ўцёк... Супраць лома няма прыёма... Два месяцы быў у акружэнні, выйшаў са зброяй, праверка — радавым у строй... Пад Масквой узвод далі, потым роту, потым зноў у радавыя...

Лейтэнант. За што?

Дугін. Вышыню не ўзяў. Потым яе два батальёны бралі, а я павінен быў з ротай узяць... Напалову выбітай... Пад Сталінградам званне вярнулі, пад Курскам разжалавалі... Падонка ў расход пусціў. У адным сяле жанчыну мардаваў... Яна там жыла з некім... ці то са старастам, ці то з немцам... Чорт яе ведае! Дык ён яе і яе дзіцёначка... Адным словам, самасуд атрымаўся... Добрага байца за нямецкую падсцілку хлопнуў. І каяцца не стаў... У цябе закурыць ёсць? Маё ўсё вымакла на пераправе.

Лейтэнант дастае пачак папярос. Дугін бярэ адну.

«Казбе-ек»... Даваенным пахне...

Лейтэнант. Далей...

Дугін. Далей усё нармальна... Змыў віну крывёй... Пасля штрафбата далі аддзяленне... Цяпер замяшчаю ўзводнага...

Лейтэнант. Біяграфія... Куды ні кінь — адусюль пакрыўджаны.

Дугін. Вайна, лейтэнант... Крыўдзіцца пасля Перамогі будзем. І вось што: хопіць цямніць! Што трэба — пытайся! Не строй з сябе Шэрлака Холмса...

Лейтэнант. Спакойна, спакойна, старшына... Я, здаецца, пакуль што вышэй па званні...

Дугін. Даўно з вучылішча?

Лейтэнант. Нядаўна.

Дугін. Яно і відаць. Пытайся...

Лейтэнант. У вас ёсць жонка?

Дугін. Ёсць...

Лейтэнант. А пісьмы ад яе?

Дугін. Няма. Ну, хопіць...

Лейтэнант дастае з сумкі канверт.

Лейтэнант. Скажыце, старшына, як магло стацца, што ў той час, калі ваша дывізія стаяла на фарміраванні, была далёка ад фронту, ваша жонка, Вера Іванаўна Дугіна, атрымала пісьмо?.. Вось гэта во... На штабным бланку, за фальшывым подпісам фальшывага камандзіра... У ім паведамляецца, што... цытую: «Дугін Уладзімір Паўлавіч загінуў смерцю храбрых у баях за Радзіму і пахаваны ў брацкай магіле каля сяла Зельва». А ёсць такое сяло?

Дугін. Ёсць. І брацкая магіла ёсць.

Лейтэнант. Раю казаць праўду, старшына...

Дугін. Я заўсёды праўду кажу... Пісьмо адпраўлена па маёй просьбе... Хто адпраўляў — не скажу! А ўвогуле так: бланк украў і напісаў сам... Нашто? Любоў у мяне, лейтэнант, разумееш? Сустрэў у шпіталі адну сястрычку, ну і закруцілася ў нас з ёй... Вырашыў: дзяцей няма, яна маладая... Не прападзе, знойдзе сабе... Ну і каб з маху абрэзаць усё...

Лейтэнант. Стоп, стоп, старшына... Натхнёная хлусня — гэта талент. Вы ў гэтым — круглы нуль... Вочы выдаюць. Мітусяцца... Няма ж ніякай сястрычкі... Ды і не было. А можа, усё прасцей? Абрэзаць усе канцы і да іх махнуць.

Дугін. Да каго «іх»?

Лейтэнант. Праз нічыйную паласу...

Дугін *(пасля паўзы)*. Лейтэнант, я куру тваю папяросу... Скажы дзякуй богу... А так бы ты праехаўся ў сваёй новенькай гімнасцёрцы па зямлі...

Лейтэнант. Добра. Больш я нічога пытацца не буду. Але скажы: як ты, франтавік, мог... *(Патрос пісьмом.)* Прыкрывацца ад чаго б там ні было тымі, хто ад Масквы да Германіі ў брацкіх магілах ляжыць? Прыкрывацца іх светлымі імёнамі, светлай памяццю тых, каго, можа, і сам хаваў... Як ты змог? Сволач ты, старшына! Гэта я не ад сябе кажу... Твая праўда, я толькі з вучылішча, пораху не нюхаў... Не мне цябе судзіць... Гэта я табе ад свайго бацькі! Ён над Мінскам ляжыць. Дарэчы, у братняй таксама...

З'яўляецца Вера. Прыгожая жанчына ў форме ваенурача трэцяга рангу.

Гэта я табе і ад тваёй жонкі...

Вера. Ад мяне не трэба, лейтэнант...

Лейтэнант. Даруйце... *(Пайшоў.)*

Вера. Дай пісьмо... *(Лейтэнант аддае.)* Пачакай мяне ў машыне, калі ласка... Я зараз прыйду...

Лейтэнант. Добра... *(Пайшоў.)*

Вера. Добры дзень, Валодзька...

Дугін. Добры дзень, Вера...

Вера. Ты не бойся, Валодзька... Пра гэта *(паказала пісьмо)* ніхто не ведае... Лейтэнант мой сябар... Нікому не скажа. Не хвалюйся.

Дугін. Я не хвалююся...

Вера. Ты нават можаш забраць яго. Бяры, бяры...

Дугін бярэ пісьмо.

І каб цябе не мучыла сумленне — скажу: я па табе не плакала... Як бачыш, не пасівела... Жанчыны, Валодзька, бяду прадчуваюць... Як звяры землетрасенне... Асабліва тыя, хто любіць... А я цябе люблю... Прачытала гэта і падумала: глупства нейкае, бязглуздзіца! І лягла спаць. І пакуль не заснула, шаптала ўсё: «Прысніся мне, Валодзька, прысніся...» Так і заснула. І ты мне прысніўся... Стаіш сярод белай чаромхі, памятаеш, мы пасля вяселля да мамы ездзілі? Было шмат чаромхі.

Дугін. Памятаю...

Вера. Дык вось, ты стаіш і голенькага хлопчыка на руках трымаеш... Я ведаю, што гэта сон і што голы хлопчык у сне не к дабру... Пытаюся ў цябе: «Ты жывы?» Ты сумна-сумна галавой кіўнуў. Маўляў, жывы... А я чамусьці пытаюся: «Дзе ты загінуў?» Ты на куст чаромхі паказваеш... А пад тым кустом стол стаіць. Папера нейкая. Ты гэта на стале пісаў?

Дугін. На тумбачцы.

Вера. Я запыт на наступны дзень зрабіла... Але дывізію вашу расфарміравалі ўжо... Канцоў не знойдзеш... Ты і гэта ўлічыў... Але я знайшла цябе...

Дугін *(цяжка)*. Ідзі, Вера... Даруй і ідзі...

Вера. Табе не трэба прасіць прабачэння... І той, хто палюбіць, і той, хто разлюбіць,— аднолькава невінаватыя... Я толькі хацела паглядзець табе ў вочы, Валодзька... І ўсё.

Д у г і н. Глядзі.

В е р а. Хто яна?

Д у г і н. Жанчына.

В е р а. Як завуць?

Д у г і н. Лідка.

В е р а. Няпраўда... Калі б яна была, ты б сказаў Ліда...

Д у г і н. Яна... проста маладзенькая. Ідзі, Вера... Прашу цябе...

В е р а *(гледзячы ў вочы, спалохана)*. Госпадзі... Валодзька... Ты ж любіш мяне...

Д у г і н *(працягвае пісьмо)*. Любіў.

В е р а. Можа, табе што-небудзь пра мяне напісалі?.. Чатыры гады расстання... Потым фронт, шпіталі... Параненыя, скалечаныя, пакінутыя... Усялякае было... Але душа мая чыстая... І каханне маё чыстае... Клянуся табе! Ты чуеш?!

Д у г і н. Забяры пісьмо!!! У ім усё правільна...

В е р а *(амаль істэрычна)*. Растлума-а-ач!!!

Д у г і н. У сорак першым мы выходзілі з акружэння... Знясіленыя голадам ушчэнт. Той, хто не мог ісці далей ці быў паранены,— цішком сыходзіў у хмызняк. Таму што не толькі несці каго-небудзь, а нават весці пад руку ні ў кога не было сіл... Пачнеш дапамагаць — ляжаш сам... Вось тады і ўзнікла такая маўклівая дамоўленасць: скончацца сілы —у лес! Прастрэлілі ногі — у лес! Палкавы камісар падаў прыклад. Падазваў мяне і кажа: «Слухай, палітрук: калі са мной што якое — павядзеш атрад. Не спыняцца! Што б ні здарылася! Паўтары». Я паўтарыў... Ноччу ён знік... З акружэння выйшла сорак шэсць чалавек. Астатнія ў лесе... Па аднаму. Лічы, што і я сышоў у гэткі ж лес... Гэта ўсё, што я магу табе сказаць... Ты ні ў чым не вінаватая перада мной, а я перад табой... Вайна... Скончыцца, праклятая,— выходзь замуж...

В е р а. Што ты кажаш?!

Д у г і н *(упарта)*. Выходзь замуж і як мага больш нарадзі дзяцей... Колькі зможаш! Нас павыбівала к чортавай матары, а народ павінен быць моцным. Можа, яшчэ якую-небудзь бяду яму давядзецца ўзяць на свае плечы... Ідзі, Вера...

В е р а *(праз слёзы)*. Не разумею...

Д у г і н. Супакоішся і зразумееш...

Прыбягае Бушцец.

Бушцец. Старшына, танкі!!

Дугін. Дзе?

Бушцец. З-за ўзгорка па беразе пруць!

Дугін. Можа, нашы?

Бушцец. Якое там?! «Фердынанды»!

Дугін. Адкуль яны ўзяліся?

Бушцец. Чорт іх ведае!

Дугін. Ідзі, Вера, ідзі... *(Да Бушцеца.)* Пяхоты не відно?

Бушцец. Здаецца, не...

Вера. Валодзька, мілы... Даруй мяне! Даруй! Я ўсё жыццё перад табой на каленях стаяць буду!!!

Дугін. Лейтэнант, забяры яе!

Прыбягае Лейтэнант.

Дуй хутчэй адгэтуль! Зараз горача будзе! Заскочыш на КП палка! Скажы, каб агнём падтрымалі...

Лейтэнант. А што такое?

Дугін. Танкі аднекуль прарваліся!

Вера. Валодзька!

Дугін *(кідаецца да пралому)*. Узво-од! У каго ёсць гранаты — звязкі, звязкі рыхтуйце! Астатнія ў будынак... Жмі, лейтэнант!

Лейтэнант. Ёсць!

Вера *(крычыць)*. Я люблю цябе, Валодзька! Я люблю цябе!

Лёскат гусеніц танкаў.

*Зацямненне.*

І зноў руіны нейкага будынка. Разбітая мэбля, каля сцяны на століку патэфон. На падлозе разбіты бюст Гітлера. Ціха. Грымотаў вайны не чутно. У будынку размясцілася на адпачынак наша аддзяленне. Бушцец курыць, Дзерваед зашывае нешта на гімнасцёрцы, Адуванчык сноўдаецца па будынку.

Дзерваед. А старшыну, мабыць, ад нас забяруць... У штаб дывізіі выклікалі...

Бушцец. Які ён старшына?

Дзерваед. Старшына... Ён старшына і ёсць...

Бушцец. Вайна канчаецца... Што рабіць?

Дзерваед. Жыць...

Бушцец. Жыць... *(Падышоў да кавалкаў бю-*

*ста, пастукаў па галаве прыкладам.)* Праўду кажуць, што ён артыстам быў?

Д з е р в а е д. Хто?

Б у ш ц е ц. Фюрэр...

Д з е р в а е д. Кажуць...

Б у ш ц е ц. Устроіў спектакль... Слухай, а яго ж нехта і радзіў?..

Д з е р в а е д. Ну, вядома ж, не ў капусце знайшлі...

Б у ш ц е ц. І што адчувала гэта баба, калі радзіла яго?

Д з е р в а е д. Радасць...

Б у ш ц е ц. І грудзямі карміла?

Д з е р в а е д. Карміла, мабыць... А то як жа?

Б у ш ц е ц. І вось не захлібнуўся ж ад мацярынскага малака, паскуда... І радзімец яго не схапіў... Ой, сустрэць бы гэту ведзьму, калі яна жывая яшчэ... Ну чаго глядзіш?

Д з е р в а е д. Не крычы...

У гэты момант з другога пакоя выходзіць А д у в а н ч ы к. На ім вялікага памеру нязграбны генеральскі мундзір, фуражка з высокім верхам. З-пад казырка тырчыць толькі адзін нос. У руках лялька-галыш. Ціхенька падышоў да патэфона, паставіў пласцінку. Палілася песня. Не бравурная, а так... просценькі нямецкі шлягер.

А д у в а н ч ы к *(блазнавата)*. Іх бін гойтэ дранг нах остэн!

Б у ш ц е ц *(азірнуўся, спакойна)*. Во дзіцёнак... *(І раптам узвіўся.)* Здымі!! Зараз жа здымі гэта, шчанюк!! Я каму сказаў?!

А д у в а н ч ы к *(спалохана скідвае фуражку і мундзір)*. Чаго ты?! Чаго затросся, псіх шалёны?!

Б у ш ц е ц падымаецца і выходзіць. Каля патэфона лёгка стукнуў прыкладам па пласцінцы. Песня захліпнулася.

Ідзі ў санбат! Табе лячыцца трэба... *(Паўза.)* Дзед, а я яго баюся. Калі заводзіцца, у яго вочы мутнымі робяцца... А тут генерал жыў... Генерала ўчора выкурылі... Мабыць, і дзеці ў яго былі... Бачыш, во лялька... *(Уздыхнуў.)* Каб Зоська не згарэла — ёй бы трафей прывёз... *(Запіхвае ляльку ў свой рэчмяшок.)* Дзед, а куды ты пасля вайны?

Д з е р в а е д. Не ведаю...

А д у в а н ч ы к. І я не ведаю... Дзед, а паедзем куды-небудзь разам? Га? Мы з Лідкай у Сібір дамаў-

ляліся... Лясоў там! Звяр'я! Страляць навучыліся — на паляванне хадзіць будзем... Рыбу лавіць... Га?

Д з е р в а е д. Дадому трэба... У Максюткі... Я і магілкі сваім не зрабіў яшчэ...

А д у в а н ч ы к. Дадому не хачу. Хачу туды, дзе абсмаленых комінаў няма... Дзе ціха-ціха...

Уваходзіць Д у г і н. Ён у той жа засціранай гімнасцёрцы, але з новенькімі капітанскімі пагонамі. На грудзях Зорка Героя. Дзерваед і Адуванчык аслупянела падымаюцца.

Д у г і н *(жартаўліва)*. Вольна... Сам радавы...

А д у в а н ч ы к *(ашалела)*. Ёш тваю клёш! За што цябе так?..

Д у г і н *(сур'ёзна)*. За вайну...

А д у в а н ч ы к. Дай прымераць, га?

Д з е р в а е д. Гэта не мераюць, Лёнька... *(Падышоў да Дугіна, моцна паціснуў руку.)* Ну, то віншую... Гэта добра... Чэснае слова, рады...

Д у г і н. Дзякую, дзед...

А д у в а н ч ы к. Ды раскажы хоць!

Д у г і н. Выклікалі да камандзіва... Прыходжу. Па ўсім штабе шорах. Начштаба накінуўся: у чым ты прыйшоў?! Гімнасцёрка, бачыце, засціраная... Хацеў аднаго старшыну раздзець, каб я пераапрануўся... Пайшлі вы, кажу... Заходжу. А ў камандзіва маршал сядзіць.

А д у в а н ч ы к. Ідзі ты!

Д у г і н. Што ж ты, пытаецца, старшына, ад узнагароды бегаеш? Вайна ганяе, во і бегаю... Ну, раскажы, як танкі паліў... Я яму пра Маскву давай расказваць. Не тое, кажа... Я пра Сталінград. Не тое! Я пра гэту рэчку праклятушчую, дзе нас «фердынанды» накрылі. Зноў не тое! Ну, тады, кажу, не па адрасу. Шукайце іншага. А пра Курск чаму не расказваеш, пытаецца? Пад Курскам мяне разжалавалі, што тут расказваць? Смяецца... Аказваецца, званне вярнулі адразу ж... Але шпіталь, перафарміраванне, усялякая катавасія — згубілася...

А д у в а н ч ы к. Гэта ж трэба! А ты столькі ў радавых хадзіў...

Д у г і н. А мы ўсе ў радавых... Ад маршала да цябе...

Д з е р в а е д. То добра...

Д у г і н. А потым Зорку дастае... У мяне ў вачах пацямнела... Я думаў, ордэн будзе... Гэта табе,

капітан, і за Маскву, і за Сталінград, і за Курск, і за ўсю вайну... *(Задуменна і сумна.)* За ўсю вайну...

Адуванчык. Ёлкі зялёныя! Герой... Слухай, старшына, цябе ж цяпер паважаць трэба...

Дугін. Паважай, паважай... А заадно збірайся, паедзеш у штаб дывізіі... Машына чакае.

Адуванчык. Нашто?

Дзерваед. Як нашто? Можа, і табе што-небудзь перападзе...

Адуванчык. Не, сапраўды, нашто?

Дугін. Ім там тэлефаніст спатрэбіўся... Загадалі, каб...

Адуванчык. Не паеду!

Дугін *(жорстка)*. Паедзеш!! Гэта я сказаў, малы... Усёк?

Адуванчык *(плаксіва)*. Ну, за што, старшына? Што я табе зрабіў? Я ж прападу без вас...

Дугін *(прытуліў яго да сябе)*. Эх ты, Адуванчык... Дурань ты, дурань... Да начальства бліжэй будзеш... На вачах! Хутчэй медаль дадуць ці лычкі якія...

Адуванчык. Не хачу я...

Дугін. Калі што якое, крыўдзіць пачнуць — скажы, што ў аддзяленні Дугіна ваяваў... Цэлы год...

Дзерваед сабраў рэчы Адуванчыка, падае.

Адуванчык. Дзед, ну скажы ты... Колькі там тае вайны засталося? Цэлы я буду...

Дзерваед. Едзь, Лёнька... Нічога, едзь...

Дугін. Давай, давай... Машына чакае... *(Дастае з кішэні шакалад.)* Нá шакаладу на дарогу...

Адуванчык. Не хачу! Мог бы чарку паставіць за Героя...

Дугін. Бяры, што даюць! Ну і бывай, гвардзеец! *(Абдымае.)*

Адуванчык. Ну, то бывайце... Калі што якое дзе-небудзь трохі не таго — ліхам не памінайце... Я вас... люблю... *(І каб да канца не расплакацца — выбег.)*

Дугін. Праводзь яго, дзед...

Дзерваед. Ага... *(Пайшоў.)*

Дугін. І вось яшчэ... Там, каля калонкі, дзве нашыя жанчыны... Ну, рускія, з лагера... Прывядзі, накармі іх... Адна, здаецца, цяжарная...

Дзерваед. Як?

Дугін *(амаль злосна).* Ну, як жанчына цяжарная бывае?!

Дзерваед. То ясна.

Дугін. У цябе знойдзецца што паесці?

Дзерваед. Ды знайду... Ёсць трохі. Кансервы там, тушонка... А малы праўду кажа: магарыч з цябе, старшына... Выставіш ужо нам па грамульцы...

Дугін *(дастае з сумкі бутэльку).* На, п'яніца... Маскоўская! Камдзіў павіншаваў.

Дзерваед. О, то добра... Вечарком зазірні... На трох раздавім... Цяперака нас трое засталося... Сяргей, ты, я...

Дугін. Заўтра папаўненне прышлюць...

Дзерваед. То добра...

Гудзе машына.

Дугін. Ды пачакай ты! Слухай, дзед, нешта мне сумна глядзець на цябе... Аж сэрца заходзіцца...

Дзерваед. Чаго?

Дугін. Мар'я яшчэ ходзіць за табой?

Дзерваед. Ходзіць...

Дугін. Давай я і цябе перавяду куды...

Дзерваед толькі махнуў рукой і выйшаў.

*(Адзін.)* Ну што ж... Будзем яшчэ раз прымаць роту...

Ідзе ў пралом. Чуваць гук ад'язджаючай машыны.

Голас Адуванчыка. Бывайце, хлопцы! Я вас люблю-ю-ю!!!

Праз нейкі момант у будынак уваходзяць старая Жанчына і Люська. За імі Дзерваед.

Жанчына. А вёска наша, салдацік, чыстая, вясёлая... Антанёва называецца... Чуў, можа?

Дзерваед. Не... Я зараз, сядайце... *(Дастае з рэчмяшка хлеб, рэжа яго, адкрывае кансервы, да Люські.)* Я табе малака дам... У мяне тут згушчонка недзе была...

Жанчына. Вясёлая вёска... Над Нёманам стаіць... Вясной, у паводку, вада аж да парога падбіраецца... А на тым беразе шыро-о-ока, аж да самай пушчы...

Дзерваед. Ешце... Толькі хапаць не трэба...

Гэта я ўсё вам у дарогу аддам... І яшчэ таго-сяго назбіраю... *(Да Люські.)* Ну, не хапай ты так, я табе сказаў... Ты пажуй, пажуй... У цябе ж ніхто з рук не вырывае...

Жанчына *(есць).* Смачна... Каўбасой пахне... Мы з маім старым добрыя каўбасы робім... Ці павесыш, аж да самага лета вісяць, адрэжаш, як свежыя... *(Есць.)*

Дзерваед *(да Люські).* Ну, усё... Пакладзі пакуль што... Пагаворым... Цябе як завуць?

Люська. Люська...

Дзерваед. Адкуль?

Люська. Крынічанск... Гарадок такі невялікі...

Дзерваед. Чуў, чуў... З лагера цяпер?

Люська. Былі ў лагеры... Паўгода таму баўэр адзін забраў... За свіннямі глядзелі... *(Усхліпнула.)* Цяжарная я, дзядзька...

Дзерваед. Ну што ж... Дзела такое... Людзей пабіла шмат... Радзіць трэба... Дзела такое...

Люська. І нараджу!

Дзерваед. А то як жа?.. На́ згушчонкі... Салодкая. Яно трэба...

Жанчына. Прыязджаў бы ты, салдацік, да нас у Антанёва... Дачка ў мяне вырасла... Ты ж адзін?

Дзерваед. Адзін.

Жанчына. Дык і нявестка табе будзе... А вёска ў нас чыстая, вясёлая...

Дзерваед. Што ты такое кажаш?

Люська. Памаўчы, дзядзька... Хай гаворыць...

Жанчына. О-о, Гальку ты маю не бачыў! Бывала, з бані прыйдзем, яна такая распараная, чыстая, свежым малаком пахне... Як памыецца — заўсёды свежым малаком пахне... А валасы ў яе! У Антанёва яе Вадзяніцай звалі... Русалка, значыцца... Я яе на камень стаўлю... Ля парога ў нас камень ляжыць... Таму што валасы ніжэй пят... І як лён мяккія-мяккія... Пастаўлю і грабянцом іх, грабянцом... А яна аж свеціцца... Сонца вечаровае ў валасах... Аж свеціцца... Прыязджай, салдацік...

Дзерваед. Ты еш, еш...

Люська. Ты, дзядзька, не слухай... Нікога ў яе няма... Ні Антанёва, ні хаты, ні дачкі... У лагеры яны былі... Дачку ў дваццаты блок забралі... Блок такі ў лагеры быў... Яны там аперацыі вучыліся рабіць...

І хваробы лячыць... Высокіх дзяўчат выбіралі... Мяне ў той блок забракавалі: ногі тонкія і грудзей няма... А ім трэба, каб усё было... Гальку ўзялі... Сапраўды прыгожая была... Дык во ходзіць цяпер і каго ні сустрэне — за сваю Гальку сватае...

Д з е р в а е д *(да жанчыны).* Цябе як завуць?

Ж а н ч ы н а. Наста... Наста з Антанёва... А дачку маю — Галька... Прыязджай, салдацік...

Д з е р в а е д. Я прыеду. Кончу вайну — і да вас у Антанёва...

Ж а н ч ы н а. А вёска ў нас чыстая, вясёлая... Каля кожнай хаты па крыніцы...

Д з е р в а е д. То добра... Ты толькі больш нікому не расказвай пра Гальку. А я прыеду... Гітлера канчым, і прыеду...

Ж а н ч ы н а. Ага...

Д з е р в а е д. Ешце... *(Да Люські.)* Ты хлебам, хлебам макай у згушчонку... Цяпер можна, калі жывот не забалеў... *(Дастае яшчэ хлеба.)* Гэта вам на дарожку... Нічога, дзеўкі! Нас не скруціш... І гэта перацерпім-перажывём... Нас б'юць, а мы жыта сеем...

Уваходзіць Б у ш ц е ц, несучы ў руках некалькі банак кансерваў, хлеб, канцэнтраты. Узбуджаны, вясёлы. І раптам нібы натыкаецца на нябачную сцяну. Пасунуўся назад, прыціснуўся спіной да сцяны. Стаіць здранцвела.

Д з е р в а е д *(да Люські).* А ў цябе хоць хто-небудзь застаўся?

Л ю с ь к а. Расстралялі ўсіх... Мы партызанам медыкаменты ў лес перапраўлялі... Як яны даведаліся?

Д з е р в а е д. Значыць, нікога?

Л ю с ь к а. Нікога... Мужа ў армію з вяселля забралі... З папяровай кветачкай на грудзях... Забілі, мабыць... Як яны б'юць, дзядзька... Як яны б'юць...

Д з е р в а е д. Яно нічога... Забываць трэба... Хутчэй забудзеш — лягчэй жыць будзе... А жыць трэба... Трэба жыць... А гэта... чый ён...

Бушцец нерухома стаіць каля сцяны.

Л ю с ь к а *(правяла далоняй па жывату).* Мой... Больш сказаць... няма чаго сказаць... Ён пачаў жыць без любві, пад страхам і бяссільнымі слязьмі... Але без граху, дзядзька... Без граху!

Ж а н ч ы н а. А вёска ў нас чыстая, вясёлая... *(Есць.)*

Дзерваед. А ты не плач... Бяды няма...

Люська. Можна праклінаць бога, вайну, Гітлера, увесь свет, а яго і мяне... за што ж?.. Нам і так дасталася... Што я толькі не рабіла! І ў халоднай вадзе сядзела, каб застудзіцца, і з лесвіцы знарок валілася, і... Што толькі не рабіла... А ён аднойчы сярод ночы пад сэрцам мяне пагладзіў... Знутры, па жываце... Як папрасіўся: не трэба, не вінаваты я, пусці мяне жыць... Я, я неяк супакоілася... Я ж са сваім нават не нацалавалася ўдосталь... З вяселля забралі... Толькі думала пра яго ды ў сне бачыла... У душы насіла... І гэта будзе яго дзіця... Яго. Душа мяне не асудзіць... Ні яго, ні мая... Людзі — хай. Душа не асудзіць...

Бушцец нерухома стаіць каля сцяны.

Дзерваед. Які там суд? Ён твой... І ты яго нікому не аддавай.

Люська. Не аддам...

Дзерваед. Зберажы ад усяго шалёнага свету...

Люська. Зберагу...

Дзерваед. Навучы дабру і любові...

Люська. Навучу... *(Паўза.)* Дзякуй табе, дзядзька... Прыязджай да нас у Крынічанск...

Дзерваед. Яно можна...

Жанчына. Крыніц у нас шмат... І Нёман вясной разліваецца шыро-о-ока...

Люська. Пойдзем, цётка Наста... *(Да Дзерваеда.)* Нас па зборным пункце чакаюць...

Дзерваед. Нá згушчонкі... Еш патрохі... Яно трэба...

Люська. Дзякуй табе, дзядзька... Хай цябе куля абміне... Хадзем, цётка...

Нізка пакланілася Дзерваеду. Жанчына таксама. Выходзяць. Бушцец як здранцвелы стаіць каля сцяны і не міргаючы глядзіць перад сабой. Дзерваед збірае рэшткі прадуктаў, заўважае Бушцеца.

Дзерваед. Сяргей, хто гэта ў нас у роце з Крынічанска быў? Гураў ці Воронін?

Бушцец *(хрыпіць)*. Я...

Дзерваеда як ударыла. Павольна-павольна падымаецца. Падыходзіць да таварыша. Паўза.

Дзерваед *(ціха)*. Яно ўсё так... але дагнаць

трэба... Не наша з табой гэта вайна, Сяргей... Не мы яе вынеслі, а яны... Бабы нашы... На іх яна лягла... У іх слязах і ў іх крыві Гітлер пракляты захлынуўся... У іх душах праўда вечная... І любоў. Калі б мне Мар'ю вярнуць... Каб толькі можна вярнуць.

У праломе з'яўляецца Жанчына з дзіцем.

Я б перад ёй да магілы на каленях хадзіў... Не мы ім, а яны нам даравáць павінны... За жудасць, якую перажылі... За страх і слёзы нявінныя, за смерць і пакуты, якія мы на сябе ўзяць не змаглі... За тое, што мы забіваем, а яны параджаюць... Яно дагнаць трэба... Дзіцё яно дзіцё... Нашае вады з крыніц пап'е, пад нашым сонцам пагрэецца, нашых песень наслухаецца — яно і нашым будзе.. Нашы бабы добра спяваюць... Яно дагнаць трэба... Супакоіць...

Бушчац не зварухнуўся.

*(Крычыць.)* Дагані!!!

Бушчац *(зрабіў рух, але, як падкошаны, апусціўся на падлогу)*. Не... магу...*(Таксама крычыць.)* Не магу!!!

Жанчына з дзіцем знікае.

*Зацямненне.*

Ізноў руіны нейкага будынка. Ноч. Скрыня з-пад снарадаў, на ёй газнічка, хлеб салдацкі, тры кружкі. Вакол скрыні сядзяць Дугін, Дзерваед і Бушчац. Ціха так сядзяць. Думаюць. І па ўсёй зямлі цішыня. Як вымерла ўсё. Дзерваед ціха-ціха спявае:

Ой, чыё ж та поле?
Чые ж та пракосы?
Чыя ж та дзяўчына
Распусціла косы.

Дугін. Дап'ём?

Дзерваед. Можна...

Дугін. Давайце, хлопцы... За Перамогу... Цяпер можна... Сёння ці заўтра капітуляцыю падпішуць... Безагаворачную!! Будзьце жывы! *(П'е.)*

Дзерваед таксама выпівае. Бушчац сядзіць нерухома.

Чаго ты, Сяргей?

Бушчац. Га?

Дугін. Пі...

Б у ш ц е ц *(бярэ кружку).* Ціха... Як у магіле... Аж мутарна. *(Выпіў, ляпнуў кружкай па скрынцы. Раз! Другі! Трэці! Усё мацней, мацней, мацней.)*

Д у г і н. Хопіць псіхаваць!

Б у ш ц е ц *(кінуў кружку, да Дугіна).* Ты ў арміі застанешся?

Д у г і н. Не... Здароўя няма...

Б у ш ц е ц. Дарэмна... З Зоркай пайшоў бы далёка... Куды дзявацца? Страляць умею... *(Дастае з-за спіны корцік.)* Біць пад левую лапатку — умею! *(Спрытна ўваткнуў нож у скрыню.)* Гранату з дваццаці метраў у вядро закінуць змагу... Усё жыццё буду ўспамінаць вайну... Толькі вайну ўспамінаць...

Д з е р в а е д. Усё міне... Абы жыць...

Б у ш ц е ц. Нічога не мінае... *(Дражніць.)* «Абы жыць...» Капітан, хочаш, корцік падару? Пад Ленінградам здабыў... Ён на мяне замахнуўся, а я думаю: «Ого, які прыгожы!» Ды за руку! Ды сапёрнай лапаткай па шыі! Хочаш падару?

Д у г і н. Давай... *(Бярэ корцік.)*

Д з е р в а е д. Малы пісьмо прыслаў...

Б у ш ц е ц. Што піша?

Д з е р в а е д. Медаль далі... Ну і прывет усім...

Б у ш ц е ц. Калі ж наступную чакаць?

Д з е р в а е д. Што?

Б у ш ц е ц. Вайну... Калі новы Гітлер народзіцца? І чаму так? Чаму ім верацъ? Чым больш чокнуты, тым яму больш верацъ...

Д у г і н. Хацеў, сволач, каб усе жылі, як яму хочацца... Як ён гэта бачыць... А не хочаш — трэба прымусіць! Страхам, агнём, куляй, канцлагерам... І народ за ім пайшоў...

Д з е р в а е д. Некалі людзі зразумеюць, што чужым хлебам заўсёды падавішся... Чужое сілай возьмеш — разлічышся... Не ты, дык твае дзеці, не дзеці, дык унукі... Гітлер во разлічыўся... Здох!

Б у ш ц е ц. Госпадзі, як ціха! Ёсць яшчэ гарэлка?

Д у г і н. Няма. Хопіць.

Д з е р в а е д. Сеяць трэба...

Б у ш ц е ц. Што?

Д з е р в а е д. Нічога...

Бушцец раптам засмяяўся.

Д у г і н. Чаго ты?

Бушцец. Бачыш, колькі друзу? Колькі спаленага? Пабітага? Зруйнаванага па ўсёй зямлі?

Дугін. Ну...

Бушцец. А калі і ў нашых душах тое ж... Га?

Дзерваед. Адбудуем. Не прывыкаць. Абы трохі ціхага часу далі... Добраму чалавеку нічога не трэба... Абы ціхі час... Ён і хлебам накорміць усіх, і дзяцей вырасціць, і песню добрую складзе, і зямлю кветкамі засее... Дайце яму гэтую часіну! Не чапайце вы яго! Не дадумаліся людзі яшчэ, што на зямлі на ўсіх нас адна душа... Што пачынаць ваяваць — супраць сябе ж ваяваць, што пачынаць забіваць — сябе ж забіваць... Адна ж душа...

Бушцец. Гэта і ў цябе, і ў Гітлера, і ў тваёй Мар'і?

Дзерваед. Пры чым тут Гітлер?

Бушцец. Тады не ный тут! Развёў дэмагогію... Адна душа... Як хто, а я нікому нічога не забуду! Ніколі. У мяне ўсё агнём і крывёй у сэрца ўвайшло... Адна душа... Іх усіх трэба пад корань! Як заразную балячку — гарачым жалезам!

Дугін. Ладна, хопіць... А то дагаворыцеся...

Паўза.

Дзерваед. Спаць пойдзем, ці што?

Дугін. Я не буду... Зоркі нізкія...

Дзерваед. Пыталіся цябе сёння, старшына... Забыўся сказаць. Калі ў камандзіра быў...

Дугін. Хто?

Дзерваед. Ваенурач. З армейскага шпіталя. Я кажу: камандзір выклікаў... Заўтра заедзе, сказала...

Бушцец. Знайдзі яшчэ грамульку, капітан...

Дугін. Уставаць заўтра рана... З саюзнікамі сустракаемся... Быць ва ўсім парадзе... *(Зірнуў угору.)* Ды хоць бы хмары нацягнула, ці што?

Бушцец. Чаго ты?

Дугін. Ды не магу. Зоркі цягнуць... Аж трасе...

Дзерваед. Закурым...

Маўчаць. Кураць. Думаюць. На зямлі цішыня. Зумер палявога тэлефона.

Дзерваед. Звоняць, здаецца, старшына...

Дугін падымае трубку.

Дугін. Што, Лісянкоў? Чаму не спіш?.. А-а-а...

Ну, давай... Слухаю, Іван Данілавіч, слухаю... Не, не спаў... Ды ўсё тут ціха, што яны выдумалі?! Во няхай заўтра прыходзяць і шукаюць, каго ім трэба! Добра, мы можам адысці, хай бамбяць, калі так баяцца... Што? Якая каштоўнасць? Іван Данілавіч, а мы не каштоўнасць? Вайна канчаецца... Ладна, яшчэ раз праверым... Злазім і ў падвалы... Хай прыязджаюць... Добра... Першы ўзвод вазьму... Усё як з іголачкі... Усё нармальна. Спакойнай ночы... *(Паклаў трубку, нервова.)* Кампалка званіў! Амерыканцаў нехта напужаў... Баяцца прыязджаць, кажуць, што да таго, як мы падышлі, тут снайпер сядзеў і зрэдку пастрэльваў... Самалёты гатовы прысладь бамбіць...

Б у ш ц е ц. Ну і няхай бамбяць!

Д у г і н. Нельга... Архітэктурная каштоўнасць... Дванаццаты век...

Б у ш ц е ц. О-о-ой!

Д у г і н. Аж смешна! Як які-небудзь вывіх на зямлі — усё на нас! Усім павінны мазгі ўпраўляць: Чынгісхану! Рыцарам! Напалеону! Кайзеру! Гітлеру! Як праклянцце якое на народ! Тыдзень тут стаялі, а нам зараз шукай яго!

Б у ш ц е ц. Пазвані заўтра і скажы, што ўсё аблазілі і нікога не знайшлі...

Д у г і н. Не... Давайце для ачысткі сумлення глянем... Роту падымаць не буду... Самі зірнём... Чорт іх ведае... Можа, затаіўся дзе... Дзед, нá ліхтарык, злазь у падвалы, пасвяці там... Толькі калі што-якое — не лезь здуру, адразу назад...

Д з е р в а е д. То добра... *(Пайшоў да пралому, потым нечакана і хутка вярнуўся.)*

Д у г і н. Што, дзед?

Д з е р в а е д. Гэта... Спытаць хацеў...

Д у г і н. Пра што?

Д з е р в а е д. Нешта хацеў, а во з галавы выскачыла... Чорт!

Д у г і н *(усміхнуўся)*. Ускочыш назад — спытаеш... Ідзі.

Свецячы ліхтарыкам, Д з е р в а е д палез у падвал.

*(Глядзіць угору.)* Што гэта... Царква, ці што?

Б у ш ц е ц. Чорт яе ведае! Можа, ратуша якая...

Д у г і н. Злазь наверх... Там, я бачу, закуткоў, як кратовых нор...

Б у ш ц е ц. Дык завалена ўсё к чортавай матары...

Д у г і н. На вуліцы дрэва... Можа, з дрэва як...

Б у ш ц е ц. Ага...

Д у г і н. Толькі ж глядзі! Сваю галаву я табе не пазычу...

Б у ш ц е ц *(аглядаючы аўтамат, радасна)*. Усё будзе абгэмахт, капітан... *(Пайшоў у пралом, спыніўся, блазнавата ўсміхнуўся.)* Іш, геррой!

Д у г і н. Ідзі, дурань... А я пасты праверу на ўсялякі пажарны...

Б у ш ц е ц знікае ў праломе. Дугін глядзіць угору.

Ну і свецяць... *(Задуменна.)* Свецяць...

Пайшоў. Некаторы час будынак пусты. Потым у адной сцяне з рыпам адчыняецца патаемны ход, і ў чорнай яго пройме з'яўляецца м а л е н ь к а я п о с т а ц ь. Гэта падлетак. Хлапчук. Худы, мурзаты, валасы ўскудлачаныя, вар'яцкія затраўленыя вочы... У руках снайперская вінтоўка. Не міргаючы глядзіць ці то на газнічку, ці то на кавалачак чорнага хлеба, што застаўся на скрыні. Павольна-павольна набліжаецца да газнічкі і скрыні. Мычыць нешта. Адным горлам. Мабыць, нямы. Падышоў. Глядзіць на хлеб. Вінтоўку паклаў на зямлю. З'яўляецца Д у г і н.

Д у г і н *(даволі гучна)*. Гэй, ты што тут забыўся?

Але падлетак нават не зварухнуўся. Ён узяў хлеб і павольна-павольна падымае яго над сабой. Разглядвае. Мычыць.

*(Больш гучна.)* Я цябе пытаюся... Што за чорт!

Нямы трымае акраец і мычыць.

Ты што, аглух? Ану-ка павярніся!

І ён павярнуўся. Але не ад загаду капітана, а так, сам па сабе. І ўбачыў Дугіна! І адразу ж, як толькі ўбачыў, віскнуў дзікім звярком, кінуў хлеб, схапіў вінтоўку, адскочыў да сцяны. Мычыць.

Ого! Ціха, ціха... Не ерапенься... Усё гут... Усё алес гут... Крыг капут... Гітлеру вашаму трындзец... Ніхто цябе не зачэпіць. Пакладзі вінтовачку... Ду іст кляйне... Ніхт фашыст, ніхт зольдат... Пакладзі вінтовачку, пакладзі... Ты чуеш?

Але Дугін не зразумеў ці забыўся, што той не чуе. І зрабіў крок. Адзін толькі крок. Са ствала шуганула полымя. Схапіўшыся за жывот, Дугін сагнуўся. Нямы кінуўся ў сваю дзірку.

*(Стогнучы.)* Во паскуда! Ах, каб ты здох... Так падурному...

З падвала выскоквае Д з е р в а е д.

Д з е р в а е д. Старшына!!!

Д у г і н. Спакойна, партызан... Усё алес гут...

Аднекуль зверху саскочыў Б у ш ц е ц.

Б у ш ц е ц. Што? Што такое?

Д у г і н. Ён тут... Ах, саюзнічкі... *(Паказвае на дзірку.)* Тут... шчанюк пракляты...

Б у ш ц е ц. Так, партызан, глядзі тут... Я зверху! Там такая ж нара ёсць... Зараз мы яго, суку, прычэшам! *(Пабег.)*

Д у г і н. Не суйцеся дарэмна... Яго лёгка ўзяць... Глухі... Ні храна не чуе...

Б у ш ц е ц. Зараз анямее, сука... *(Палез наверх.)*

Д з е р в а е д. Як жа ты гэтак, Валодзя?

Д у г і н. Дурань! Пісталет не дастаў... Што, што, дзед, ты ў мяне спытацца хацеў? Пытайся... пакуль не позна...

Д з е р в а е д. Так... нічога... Пакажы, куды цябе...

Д у г і н. Потым, потым... Ідзі, Сяргею памажы... Толькі не падлезце здуру, як я...

Д з е р в а е д. Цярпі, цярпі, старшына...

Д у г і н. Што ж мне яшчэ рабіць?

Д з е р в а е д. А мы зараз...

Перасмыкнуў затвор аўтамата і нырнуў у дзірку.

Д у г і н *(як-кольвечы расправіўся, шэпча)*. Вера-а... Пачуй мяне... Ты ж недалёка... Прашу... Пачуй... Убач у сне ці так... Толькі пачуй...

У праломе ўзнікае Ж а н ч ы н а з д з і ц е м.

Я не вінаваты перад табой... Даруй, што хаваўся за гэту праклятую пахаронку... Пад Курскам быў паранены, Вера... Так, пусцяковіна... Але... цяпер можна... Цяпер ужо можна... Ні мужам, ні бацькам я быць ужо не змог бы... Ніколі... Ні для каго... Выйсця не было, Вера... Гэта не той цяжар, які можна ўзяць на плечы жаночыя... І я ўспомніў пра лес, Вера... Пра лес сорак першага... І сышоў у яго... Пройдзе час... ты зразумееш, што іншага мне не заставалася... Ты чуеш мяне?!

Жанчына ў праломе калыхае дзіця.

Нарадзі іх... Як мага больш нарадзі дзяцей... Толькі ніколі, ніколі не кармі іх грудзямі, калі ў цябе будзе злосць у сэрцы... Хай лепей будуць галоднымі, хай

плачуць — не кармі! Пакуль не прымірышся з людзьмі і са ўсім светам... Пакуль у душы спакой не з'явіцца... Спакой, цішыня і любоў... Пакуль зоркі не зазвіняць...

Павярнуўся і пайшоў да Жанчыны з дзіцем, да пралому. Спыніўся, падняў рукі, нібы хацеў абняць і Жанчыну, і дзіця, і свет, і ўсе яго пакуты.

Я люблю цябе, Вера!!! Я люблю цябе!!!

Падае ў пралом. Жанчына з дзіцем знікае. Праз хвіліну з патаемнага ходу выкочваецца нямы падлетак. За ім, трымаючы ў адной руцэ аўтамат, а ў другой свой салдацкі рэмень, ідзе Дзерваед. Ідзе і з усяго размаху б'е рэменем па чым папала.

Дзерваед *(б'е)*. Во табе «хайль»! Во табе «Гітлер»! Во табе «млека»! Во табе «матка»! Я цябе навучу! Родзіну любіць! Я цябе...

З дзіркі, трасучыся, выскоквае Бушчэц. Белы, страшны. Падбег, адштурхнуў Дзерваеда.

Бушчэц *(хрыпіць)*. Не та-а-а-ак!!!

Дзерваед. Сяргей!

Але Бушчэц ужо ўскінуў аўтамат. Асечка! Перасмыкнуў затвор. Асечка! Яшчэ. Асечка!

Кінь! Ну яго, шчанюка... Сам здохне...

Бушчэц. Дай аўтамат!!!

Дзерваед. Не чапай! Ён жа калека!! Мычыць толькі... Кінь, Сяргей! Калека ж...

Бушчэц. Дай, сволач, аўтамат! Я вас усіх! Жаласнікаў! У расход!!

Схапіўся за ствол аўтамата, цягне да сябе. Дзерваед змагаецца з ім.

Дзерваед. Сяргей, супакойся! Апамятайся ты!

Бушчэц. Усё адно кончу! Разам з табой, падла! За Мішку Гальчанскага! За Люську! За бацьку! За ўсіх!!!

Дзерваед. Пусці!

Змагаюцца. Удвух пачалі падаць, трымаючыся за аўтамат. Упалі! Аўтамат стукнуўся прыкладам аб каменную падлогу і ад сатрасення сам па сабе стрэліў. Бушчэц устаў і здзіўлена-здзіўлена паглядзеў на нямога падлетка, што зацiснуўся ў кут. Твар яго стаў светлым, цёплым, нібы ў тую ж мінуту пасля стрэлу ён зразумеў нешта важнае і вялікае. Потым пачаў асядаць на зямлю.

Дзерваед *(падпоўз да яго, перасмыкнуў затвор)*. На́, Сяргей, на́! Рабі што хочаш. Гэта не я...

Прыклад ударыўся... Само. Бяры страляй... Толькі мяне спачатку, а потым яго... Яно нічога...

Бушцец *(раптам усміхнуўся).* Дурань ты, партызан... Дурань... Патрымай мяне... Кружацца... Зоркі кружацца...

Дзерваед *(прыціскаючы таварыша да сябе).* У-уй, гады... Уй, гады!

Бушцец. Баяўся я цябе, дзед... Чаго я цябе баяўся?.. Цяпер глядзі... Цяпер можна... Эх, дзе-ед...

Дзерваед. Ты не гавары, не гавары...

Бушцец *(трызніць).* Піць... Была маленькая светлая крынічка!.. Люська адбівалася ў ёй... У кароценькім паркалёвым плацці... Каля маіх губ адбівалася... І я п'ю яе валасы, яе вочы, яе кароценькае плацце... П'ю і напіцца не магу... Эх, дзе-ед... *(Памірае.)*

Дзерваед *(прыціскаючы яго да сябе).* Яно нічога... Ты засні... Цябе прымуць зоркі... І душа твая змучаная адагрэецца каля іх святла... Адагрэецца... І шмат хто ўспомніць цябе добрым словам... Ты спі... А я пайду... Я далажу... Яно трэба...

Асцярожна паклаў Бушцеца на падлогу, стаў падымацца сам. І ў той жа момант у праломе ўспыхнула рознакаляровае зарава. Загрукаталі аўтаматы, вінтоўкі, пісталеты. Як салют па тых, хто толькі што загінуў. Па апошніх. Дзерваед як-кольвечы дабраўся да сцяны, трымаючыся рукой за параненае вайной сэрца. А кананада нарастала, шырылася, трасіруючыя кулі ляцелі з зямлі да зорак. І з гэтай канапады вырас немы нечалавеча радасны крык-стогн: «ПО-БЕ-Е-Е-ДА-А-А-А!!!» Але не чуў наш салдат гэтае доўгачаканае весткі. Не было ў яго сілы пачуць гэта. Не бачыў ён і таго, як глуханямы пямецкі падлетак знайшоў хлеб і грыз, прагна грыз яго. Прагна еў рускі салдацкі хлеб. А Дзерваед плакаў. Горка, няўцешна. Грымеў салют над усёй зямлёй, радаваліся ўсе людзі. А Дзерваед плакаў.

Дзерваед. Даруй... Даруй мне, Мар'я... Мы больш не будзем. Мы больш ніколі не будзем... Даруй...

І ўзнікла Жанчына з дзіцем, і стала набліжацца да салдата. І падышла, трымаючы на руках сваё дзіця, сваё прадаўжэнне на гэтай зямлі. Падышла зусім блізка да свайго мужа і салдата і спынілася, каб суцешыць яго. Грымеў салют. А далёка ад свайго разбуранага дома, далёка ад спаленай зямлі сваёй сядзеў і плакаў просты салдат. Салдат-пераможца. Радавы.

*Зацямненне.*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

МУЛЬЦІК —
80 гадоў.

ГАННА —
76 год.

ГАСТРЫТ —
78 гадоў.

Нашы дні. Усходняя Беларусь.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Вуліца сучаснай неперспектыўнай вёскі. Хата, яе фасад. Пад вокнамі лавачка. Злева, каля плота, стары рыпучы жураваль. На адным яго канцы ледзь пагойдваецца абшарпанае драўлянае вядро, на другім — груз. Чаго тут толькі не панавешана! І шчарбатая шасцяронка ад камбайна, і доўгая мядзяная гільза ад снарада, і кавалак гусеніцы ад трактара, і нават іржавая прабітая каска. Калі набіраюць ваду, праз тужлівы рып жураўля чуваць перазвон гэтых жалязяк.

У гэту хату сонца свеціць ва ўсе вокны. Калі ўзыходзіць — сыпле промні праз лістоўе старога саду, высока падымецца — свеціць у тыя вокны, што заўсёды задуменна глядзяць на вуліцу, а скончыцца доўгі летні дзень, яно зробіць апошні позірк у акно, што выходзіць на захад, і ўжо пасля гэтага схаваецца ў драўлянае вядро калодзежа. І вясёлы акрайчык месяца павісне над комінам.

Толькі-толькі пачынаецца дзень. Шэрая раніца. Сонца яшчэ спіць. Недзе далёка самотная зязюля лічыць некаму гады. Нястройны і яшчэ нясмелы птушыны хор і смелы ўрачысты покліч «ку-ка-рэ-ку-у-у-у» абвяшчаюць усёй вёсцы, што надышоў новы дзень. Павольна-павольна з-за вугла сваёй хаты выходзіць Мульцік з вядром. Высокі, худы, нетаропкі ні ў рухах, ні ў словах, ні ў думках. Павесіў на калок вядро, пачаў адчыняць варотцы з вуліцы на двор сваёй хаты.

Мульцік *(пазіраючы за сад)*. Уставай, уставай ужо... І сёння трэба жыць. З табой, з зямлёю і з людзьмі... Людзі добрыя ўсе, мо толькі забыліся пра гэта... Бягуць, едуць, ляцяць... Ці то ўцякаем ад некага, ці то даганяем—ліха нас ведае, якая нам галавешка ў штаны трапіла... *(Падыходзіць да калодзежа, пачынае даставаць ваду.)* Як у чыгунку жывём! Як быццам нас на агонь паставілі... Аж бурбалкі, аж пара прэ... Немаведама хто толькі гэту поліўку сёрбаць будзе, калі яна ўрэшце зварыцца... *(Дастаў вядро, пераліў у сваё, аднёс у бок ад калодзежа, выліў на зямлю.)* Гэта на тваю хату, Сёмка... *(Вяртаецца, зноў пачынае даставаць ваду.)* Як пaспакайнець? Няма спакою, і дабрыні не знойдзеш... Дабрыня ціхая... *(Дастаў вядро, пераліў, аднёс, вы-*

*ліў.)* А гэта на тваю хату, Іван... *(Вяртаецца, зноў дастае ваду.)* Думаеш, глупствам займаюся? Няма каму ваду з калодзежа браць... Раз'ехаліся ўсе... А калодзеж жывы павінен быць... З яго чэрпаць трэба, каб вада ў зямлю не пайшла, каб не застаялася, каб свежай была... Во я і выбіраю яе штодня... За былых сваіх суседзяў, за дзяцей іх і за свайго сына... *(Аднёс вядро, выліў.)* На тваю хату, Пятрок... Ах, дзеткі, дзеткі... Такія вы ў нас грамацеі выраслі! Яны табе і пра космас адбарабаняць, і бога на лапаткі пакладуць, і, калі захочуць, дакажуць, што Іуда некалі добрую справу зрабіў... Усё могуць. Толькі сваіх дзяцей не хочуць на свет пускаць... Ці то баяцца, ці то лянуюцца, ці то хочуць, каб ніхто жыць не замінаў... Дык ты сам жывеш, дык і другому дай... Ненароджаныя дзеткі — гэта ж усё адно як памершыя... Слухаеш? Ну, слухай, слухай... Холадна, мабыць, там і цёмна... Дзе там? У космасе, канечна... Дзе ж яшчэ? Я во падумаю-падумаю, а што, калі б мае бацька-маці ўзялі дый не нарадзілі мяне?! Га? Ды я б ім гэтага ніколі не дараваў! Салодкага, праўда, мала з'еў: тры вайны адпляскаў, шабляй махноўцы секлі, кулакі ў трыццаць другім цвікамі на кладзішчы да крыжа прымалацілі, на фінскайногі адмарозіў, у партызанах немцы расстрэльвалі, потым ваяваў — два разы параніла, тры разы кантузіла. І гэта яшчэ не ўсё! Двух дзетак за вайну пахаваў, і нішчымніца пасляваенная была, і хату пярун паліў, і карова здыхала, і жонка памерла, і сын апошні гадоў пяць пісем не піша... Толькі паўспамінаць, дык язык забаліць, расказваючы... Слухаеш? Слухай, слухай... І прачынайся... Пеўні ўжо ахрыплі, цябе гукаючы...

Разам з Сонцам прачнулася і радыё. Са старэнькага дынаміка, што стаіць на падаконніку, паліліся пазыўныя, а затым бадзёра-радасны голас дыктара.

Голас дыктара. Добрай раніцы, таварышы!

Мульцік. Здароў...

Голас дыктара. Сёння аўторак, трыццаць першага ліпеня!

Мульцік. Што ты кажаш! А я думаў — трыццаць другога...

Да калодзежа падыходзіць Гапа. Такая ж, як і Мульцік, старэнькая, белая. І яна нікуды не спяшаецца. Спынілася, паслухала.

Ганна. Чаго й та ты, Васіль?

Мульцік. Што?

Ганна. Бубніш нешта сам сабе... Маліўся, ці што?

Мульцік. Размаўляў... з Сонцам размаўляў...

Ганна. Ашалеў пад старасць... З богам, з богам трэба размаўляць, а ты немаведама з кім...

Мульцік. Немаведама... Вунь свеціць... І грэе ўсіх... Усё на зямлі ад цяпла і святла... Калі душа ў чалавека цёплая і светлая, значыць, кавалак сонца па зямлі ходзіць... Ёсць такія людзі, ёсць...

Ганна. Грэх...

Мульцік. З кім хачу, з тым і размаўляю... У нас свабода совесці... Радыё правялі — я з ім размаўляў, тэлевізар паставілі — з ім гаманіў... Надакучыла. Я ім адно — яны другое... Цяпер з Сонцам раюся... Маўчыць яно. Свеціць і маўчыць. Слухае...

Ганна. Доўга ты яшчэ пражывеш, Васіль...

Мульцік. Кінь ты! Дваццаты год на пенсіі...

Ганна. Прыкмета такая... Гаварыць табе яшчэ хочацца з кім-небудзь... А перад смерцю чалавек заціхае і маўчыць, як тваё Сонца... Колькі гэта табе?

Мульцік. Восемдзесят, а мо і болей... Лічыць надакучыла...

Ганна. Дык гэта ты старэйшы за мяне?

Мульцік. А ты думала?..

Ганна. Ну-у, тады і мне яшчэ трохі пасмылець трэба... Хаця б да тваіх гадоў...

Мульцік. Смылей на здароўе...

Ганна. Вады з твайго калодзежа вазьму...

Мульцік. Бяры... *(Уважліва глядзіць некуды ўдалячынь, падымаецца, выходзіць уперад.)*

Ганна. Што там?

Мульцік. Ідзе нехта...

І Ганна падыходзіць. Глядзяць удваіх.

Павярнуў... У Займішча, мабыць...

Ганна падыходзіць да калодзежа, марудна апускае драўлянае вядро. Тужліва рыпіць журавель, звіняць жалезкі.

Ганна. Грышка твой усё не піша?

Мульцік. З'ехаў пасля арміі і як у балота праваліўся... Саўсім забыўся, што ў яго бацька ёсць.

Ганна. Была б Наста жывая, дык пісаў бы і прыязджаў.

Мульцік. Бацьку дзеці лягчэй забываюць... Твая праўда...

Ганна. Сон я сёння бачыла... Можа, разгадаеш?

Мульцік. Знайшла цыганку...

Ганна. Дык ты ж Сонцу молішся!

Мульцік. Расказвай, разгадаю...

Ганна. Іваньку бачыла... Старэйшага свайго... Здаецца, ро-оўненькае поле жытнёвае, неба над ім чыстае-чыстае! І жаўрукі ў ім вісяць. І як быццам Іванька мой ідзе гэтым полем, раз-пораз жменю зерня дастае з кішэні і сыпле сабе пад ногі. Я стаю на ўзмежку дый думаю: «Навошта ён зерне кідае ў зямлю? Жыта ж ужо вырасла, у каласы пайшло, а ён нанава сеяць надумаўся...» Спытаць хацела, а голасу няма. Ён і прайшоў. Я і не спытала...

Мульцік *(не адразу)*. Добры сон...

Ганна. А чым?

Мульцік. Неба было чыстае?

Ганна. Ну.

Мульцік. Чыстае неба заўсёды на дабро. Жыта было?

Ганна. Было...

Мульцік. Хлеб на дабро. Жаўрукі з песняй таксама на радасць...

Ганна. А Іванька? Нябожчыка ж сніць гэта ж, кажуць...

Мульцік. Ён жа «без весці»! Які ж нябожчык, дурніца старая?!

Ганна. Яно-та так...

Мульцік. Я табе кажу — добры сон... Чакай.

Ганна. Што чакаць?

Мульцік. Радасці, дзіва нейкага...

Ганна. Ну, дзякуй табе... Маліся далей, пайду казу пасвіць... У Займішча буду заходзіць, мо ўзяць што?

Мульцік. Хлеба купі... І пенсію сёння павінны даць...

Ганна. Ага...

Разышліся. Мульцік панёс вядро з вадой дахаты. З другога боку вуліцы выходзіць Гастрыт. Маленькі, жвавы і ней-

кі калючы дзядок. Усё ў яго вострае: і барада, і плечы, і локці, і калені, і нос. Прыйшоў па ваду з чайнікам. Дастаў, наліў у чайнік, выпіў з носіка. Пастаяў, уздыхнуў, прысеў на лавачку.

Г а с т р ы т *(кліча)*. Васіль!

За плотам з'явіўся М у л ь ц і к.

М у л ь ц і к. Га?

Г а с т р ы т. Калі паміраць думаеш?

М у л ь ц і к *(без паўзы)*. У сераду...

Г а с т р ы т *(збянтэжыўся)*. У гэту, ці што?

М у л ь ц і к. У якую, ліха яе ведае, а што ў сераду — гэта як піць даць. Самы зручны дзень. Памру, значыць, зранку... Не, не! Пасля абеду. Памыюць вадой вось з гэтага калодзежа...

Г а с т р ы т. Халодная ж...

М у л ь ц і к. Табе халодная, а мне ў акурат... Ну, увесь чацвер паляжу ў хаце... У пятніцу, значыць, на кладзішча, а потым ужо ўсе выхадныя памінайце... Піце, гуляйце аж да панядзелка... На гэта сотнюдругую пакіну...

Г а с т р ы т *(падумаўшы, злосна)*. Брэшаш! Не веру. І ты баішся. Павінен баяцца, а не... Ну што ты ў жыцці бачыў, каб з лёгкай душой смерць прымаць?

М у л ь ц і к. Усё трэба рабіць з лёгкай душой...

Г а с т р ы т. Брэшаш!

М у л ь ц і к. А ты не гаўкай тады! Прыпёрся, ёлкі-маталкі, да старога чалавека і пра смерць бае. Знайшоў пра што... А я, можа, на ўсю сотпю замахнуўся як даўгажыцель гор...

Г а с т р ы т. Нашто табе столькі свет капціць?

М у л ь ц і к. Унукаў дачакацца трэба... Каб ведаць, што маё насенне корані пусціла ў гэтым свеце.

Г а с т р ы т *(усміхнуўся)*. Дык а яны, можа, ужо ёсць, а ты і не ведаеш. Унукі... Корані... Піша каму-небудзь твой Грышка?

М у л ь ц і к *(ніякавата)*. Піша... Мне піша... Во нядаўна...

Г а с т р ы т. Брэшаш... Мае не пішуць, і твой павінен не пісаць...

М у л ь ц і к. Піша!

Г а с т р ы т *(спакойна)*. Брэшаш...

М у л ь ц і к *(нечакана)*. Калі ты нарадзіўся, Мікіта?

Г а с т р ы т. Ну, восенню...

М у л ь ц і к *(падумаў, нібы падлічваючы)*. Правільна...

Г а с т р ы т. Што правільна?

М у л ь ц і к. У каляды цябе бацька з маткай рабілі, во што! У самую сцюжу... і на сугробе... Душа ў цябе атрымалася халодная... як жаба...

Г а с т р ы т. А цябе...

М у л ь ц і к *(не даў дагаварыць)*. Мяне на печы. На гарачых цаглінах. І ўсё! Ідзі дадому, Мікіта... З табой пагаворыш — потым цэлую ноч поскудзь усялякая сніцца...

Г а с т р ы т *(зацята)*. Ладна! Пагляджу я, ці такі ты будзеш вясёлы, калі гэта сука касая ўсур'ёз за цябе возьмецца... Пагляджу!

М у л ь ц і к. А мо мне давядзецца паглядзець? Га? Ты ж ад сваёй злосці капыты адкінеш... Твар вунь, як жоўты кукіш...

Г а с т р ы т. На гэта не надзейся!

М у л ь ц і к. Здурнеў я, ці што, на чужую смерць спадзявацца. Век не спадзяваўся.

Г а с т р ы т. Здохну, а цябе перажыву!

М у л ь ц і к. Пакарала цябе, Мікіта, Сонца за нешта. Усе людзі, увесь свет, сам сабе ты не любы... Ляжыць у цябе нешта на душы...

Г а с т р ы т. На зберкніжцы ў мяне ляжыць, а не на душы!

М у л ь ц і к *(зірнуў на дарогу)*. Пачакай, пачакай... Едзе нехта! У вёску едзе!

Выбеглі ўперад, глядзяць. Чакаюць. Уздыхнулі.

Г а с т р ы т. Павярнулі... Па грыбы прыкацілі... А ты ўжо ўзрадаваўся! Не прыедуць... *(Засмяяўся.)* Дальбог, мы з табой, як крумкачы ці чарапахі, гадоў сто трыццаць пражывём! Яны ж і на хаўтуры не прыедуць! Сорамна будзе ў труне ляжаць...

М у л ь ц і к. І чаму ты так пра смерць любіш пагаварыць, не раўнуючы як я пра свой раўматызм?.. Дык у мяне хвароба, яна, праклятая, косці ломіць, хочаш не хочаш, а будзеш і памятаць і гаварыць... А пра смерць...

Г а с т р ы т. Дай сказаць!

М у л ь ц і к. На які д'ябал языком мянціць, пра-

Г а н н а. Няма. Снег круціць, неба нізкае...

М у л ь ц і к. І сцяжынку ў Вежкі замяло?

Г а н н а. Дык а каму ж па ёй хадзіць? Адна я на нагах... Замяло.

М у л ь ц і к. Не дачакаюся. Хоць бы праменьчык, хоць бы каліўца Сонца — дальбог, устаў бы з ложка...

Г а н н а. Каб у бальніцу лёг, дык даўно б ужо ўстаў са сваім інхварктам...

М у л ь ц і к. Ніякага ў мяне інфаркту няма! Проста сэрца лопнула, і ўсё...

Г а н н а *(бубніць)*. І прасілі, і малілі — упёрся, як бык, ні ў якую... Пеўня, бачыце, яму ў палату трэба, каб кукарэкаў зранку...

М у л ь ц і к. Я без пеўня не магу! Баюся... Заснуць засну, а калі раніцой не закукарэкае — магу не прачнуцца...

Г а н н а. Дык хто ж гэта пеўня ў палату пусціць?! А калі я захварэю, дык што мне — казу з сабой браць? *(Бубніць.)* Лякарстваў яму на цэлую дзесятку накупіла...

М у л ь ц і к. Накупіла, во сама і еш...

Г а н н а. Ляжыць сабе, калодзежную ваду сёрбае... Лечыцца!

М у л ь ц і к. Хопіць квахтаць! Хадзіла на пошту?

Г а н н а. Хадзіла... Паслалі ўсё. Хутка знойдуць, казалі... Прывязуць твайго Грышку.

М у л ь ц і к. Як гэта прывязуць? Што ён, злодзей, ці што, каб яго прывозіць? Сам прыедзе... *(Паўза.)* І чаго яны так жывуць? Ні ў што не вераць, ні да чаго сэрцам не прывязаны, смяюцца над усім... Ох, вылезуць ім бокам гэтыя хіханькі-хаханькі! Холадна неяк жывуць, па-зімоваму... Рэдка на Сонца глядзяць маладыя...

Г а н н а. Зноў сонца!

М у л ь ц і к. А ты маўчы!

Паўза. Старая тупае каля печы. Дзед слухае завею. Гаворыць радыё. Звычайныя апошнія навіны. І, на жаль, яны амаль заўсёды паведамляюць пра слёзы, кроў, людскія пакуты на гэтай зямлі.

М у л ь ц і к *(раптам роспачна засмяяўся)*. Ну, людзі!

Г а н н а. Чаго й та ты?

Мульцік *(паказаў рукой на дынамік)*. Ваююць!

Старая паслухала.

Ганна. У-у-у, знайшоў, з чаго дзівіцца. Заўжды ваююць. Не там, дык там...

Мульцік. Дурні. Як быццам рабіць больш няма чаго... Каб жа хоць жылі доўга, а то... Колькі там кожнаму адмерана? Мізер нейкі... Разумныя, а дурні... У космас лезуць, кібернэтыкі ўсялякай навыдумлялі, а ўсё адно... вайна ім трэба...

Ганна. Чаго ты разбубніўся? Сам жа ваяваў.

Мульцік. То не раўняй... То трэба было... То за Радзіму...

Ганна. А мо і ім прыспічыла. Сказалі «ваяваць» — і ваююць... Дый трэба людзям вайна, ой трэба... Заеліся ўсе...

Мульцік. Ой, ты дагаворышся! Закон ёсць. Во будзеш дзе-небудзь казаць, што вайна трэба,— на пяць год у турму ўпякуць...

Ганна. Ды ну-у-у? Хіба ёсць такі закон?

Мульцік. А ты думала?

Ганна *(падышла, прысела каля палка)*. Ты глядзі... *(Паўза.)* Як табе сёння?

Мульцік. А нічога... Палягчэла неяк, ды і баліць, здаецца, слабей...

Ганна. Змарнеў во ўвесь, косці адны... Не ясі нічога...

Мульцік. Ай, ладна табе... Аладак драных згатуй — можа, з'ямо...

Ганна. Ну то згатую...

Маўчыць. Слухаюць завею.

Васіль, а чаго й та мы жылі?

Мульцік. А што было рабіць? Нашай згоды бацькі не пыталі... Нарадзілі, і ўсё... Хочаш не хочаш, а жыць трэба... Цяжка... Усё жыццё амаль са смерцю пад ручку хадзілі... На адзін век тры вайны мнагавата... Ды і без вайны жыццё мёдам не было... Бачыш, рукі ў мяне прабітыя?

Ганна. Гэта кулі?

Мульцік. Цвікі... Вы тады з Пілiпам на заробкі некуды ездзілі... Зяпа і Цяркоўскі Петрака Харытановіча хацелі спаліць... Жыўцом, у хаце... А ў яго,

ты ж ведаеш, пяцёра дзетак было... Я выпадкам падслухаў, як яны дамаўляліся... Людзей падняў, усёй вёскай збегліся ратаваць... Пятрок прачнуўся, наган у яго быў... Ён малодшага брата Цяркоўскага і паклаў... Зяпу трэба было, а таго... Смаркач саўсім, гадоў семнаццаць... Кінулі яго, самі ўцяклі... Праз дзён колькі радуніца была, дзядоў трэба было памінаць... Пайшоў з раніцы магілкі падправіць... А яны там... Ну, што, кажуць, рабіць будзем, Васіль... Ведалі ўжо, што я людзей падняў, сказаў нехта... Кажу, дзеці ж там былі... Пятрок Петраком, але ж дзеці... А табе, пытаюць, нашых дзяцей не шкада было, калі вы іх з хат выганялі? А брата майго малодшага не шкада? Шкада, кажу... А-а-а, дык ты, падла, усіх шкадуеш! Як бог? Як Хрыстос? А вочы ў абаіх звярыныя... Кінуўся бегчы, дагналі, па галаве нечым стукнулі... нічога больш не памятаю... Потым як быццам сон бачу: стаю на свежай баразне, рукі выцягнуў, прашу нечага ў людзей... А мне ў далоні пякучае вуголле кладуць... Пятрок Харытановіч у левую, а Зяпа ў правую... Ну, неяк ачуняў ад холаду... Гэта ж на што пайшлі выродкі! Ну, застрэлілі б, зарэзалі, а то... Раздзелі нагала і... цвікамі да крыжа драўлянага прымалацілі... Людзі з вёскі дзядоў...

Г а н н а. Госпадзі, твая воля!

М у л ь ц і к. ...ідуць памінаць, а я на крыжы ў чым мамка радзіла... Напужаліся, назад усе пабеглі, за папом у Кляны паслалі... Знялі неяк... З таго часу як толькі дождж збіраецца, ручухны мае ныюць і ныюць... А калі ўжо навальніца — саўсім спаць не дадуць... Так баляць, хоць ты іх адарві і ў кусты закінь... Мяне за іх і Мульцікам празвалі... Хадзіў некалі да старшыні, давайце, кажу, я вам надвор'е па нашаму сельсавету ўгадваць буду... Рукі забаляць — дождж, значыцца, будзе... Пасмяяліся... Ты, кажуць, не дзед, а Мульцік... А чаго смешнага? Угадваў бы...

Г а н н а *(уздыхнула)*. У цябе хоць Грышка недзе ёсць... Ну хай сабе і не піша... Але ж жыве палюдску... А мой Віцёк... І ў каго толькі такі ўдаўся? І хто вінаваты? Можа, Піліп, што не ў час ад сваіх ран ды кантузіі памёр? А можа, я, што нарадзіла яго такім? А можа... Вунь дактары па радзіву на жанок цяжарных сварацца: і піць няможна, і курыць няможна, і хвалявацца няможна... А то дзіцёнак дрэн-

ны родзіцца... А пад бомбамі ляжаць можна? А жыўцом гарэць у сваёй хаце можна? А сядзець во з такім жыватом у сцюдзёнай балотнай твані можна? А ўвесь час калаціцца ад страху, што цябе во-во схопяць і заб'юць — можна? А галадаць, а трох дзетак за месяц закапаць, а страляць самой у людзей можна?..

Мульцік. Ты не ў людзей... Ты ў фашыстаў страляла...

Ганна. Ну, у фашыстаў... Ён, мой Віцёк, яшчэ там, у мяне пад сэрцам, на ўвесь свет абазліўся. Якім жа яму было яшчэ нарадзіцца? Толькі няўдачным... Бабе трэба ласкавай быць, на сонца, як ты кажаш, часцей глядзець, тады і дзіцёнак цёплым родзіцца і ласкавым... А я... Толькі ваявала ды вайны баялася... Толькі дзетак нараджала ды хавала... Рабіла, рабіла, рабіла... а на гэтым свеце няма чаго пакінуць... І нашто нарадзілася?

Мульцік. Кінь! Мы з табой нарадзіліся людзей хлебам карміць... Усіх. Давядзецца на Сонцы адказ трымаць, скажам: кармілі! Усё жыццё! Каб не войны праклятыя — лепей бы кармілі... Таму і жылі спакойна... З Зямлёй і Сонцам у згодзе...

*У сенцах нешта ляпнула. Мульцік падняў галаву з падушкі.*

Чуеш? Нехта дзверы адчыніць не можа? Чуеш?

Ганна. Гэта вецер...

Мульцік. Не, Ганна, не! Прыйшоў нехта... Я крокі чуў... Ідзі, сустрэнь... Прыйшоў нехта...

*Ганна пайшла да дзвярэй, але дзверы ўжо самі адчыняюцца. На парозе Гастрыт. Загорнуты ў бальнічную коўдру. З-пад коўдры бачны белыя ісподнікі. На нагах галёшы.*

Гастрыт *(запалым голасам)*. Холадна... Ой, людцы, холадна...

Ганна. О божухна!

Гастрыт. Дзе Васіль?

Мульцік. Тут...

Гастрыт. Хварэеш усё?..

Мульцік. Не. Паміраю.

Гастрыт *(з адчаем)*. А я з бальніцы ўцёк... Вазьміце мяне... Коляць, а мне ўсё цяжэй... Парашкамі кормяць, а мне ўсё страшней... Не магу больш... Цяжка... Холадна... Страшна без вас... Я, Васіль... я

тваю смерць на сябе вазьму... За дваімі яна не прыйдзе... Толькі не праганяйце мяне... Пашкадуйце... Ведаю, няма за што... Проста так... Вы гэта ўмееце... Я во тут, каля печы, на падлозе прылягу... І маўчаць буду... Не праганяйце мяне... Не праганяйце толькі...

Хата. Каля печы на палку галава да галавы ляжаць Мульцік і Гастрыт. Два старыя чалавекі. На склоне доўгая зімовая ноч. За акном злосна і тужліва вые вецер.

Гастрыт *(падняў галаву, трывожна)*. Ты спіш, Васіль?
Мульцік. Не...
Гастрыт. Не спі, ладна?
Мульцік. Не буду...
Гастрыт. Баюся...
Мульцік. Чаго?
Гастрыт. Баюся, што бог ёсць ці сонца тваё... Баюся, што спытае... А што мне сказаць яму?

Мульцік бярэ кружку, зачэрпвае ваду.

Мульцік. Выпі... Вада душу супакоіць... Выпі...

Гастрыт п'е. Мульцік таксама.

Гастрыт. Ты пра мяне, Васіль, яшчэ што-небудзь скажы...
Мульцік *(уздыхнуў)*. Што сказаць?
Гастрыт. Усё... Самае нядобрае, самае паганае... Я цябе слухаю — душа спакайнее...
Мульцік. Гэта ад вады...
Гастрыт. Ад цябе... Ну, пагавары... Туды ж нельга з неспакойнай душой ісці... Пагавары... Я ж не злодзей які-небудзь, жыў, як усе... Шчасця хацеў... Мы ж за ім на гэты свет і прыходзім, працуем, пакутуем... Чаго ж мне так млосна? Чаму ж цішыні ў душы няма?
Мульцік. Ты любіў мала...
Гастрыт. Мала...
Мульцік. Шкадаваў мала...
Гастрыт. Мала.
Мульцік. Плакаў мала...
Гастрыт. Мала... *(Нервова.)* Яшчэ! Кажы яшчэ!

Мульцік. Усё... Разумней любові, шкадавання і слёз людзі нічога не прыдумалі... І ці прыдумаюць?.. Спі...

Гастрыт. Не магу... Болей скажы... Пасудзі...

Мульцік. Я не суддзя, Мікіта... Ды ты і сам усё ведаеш...

Гастрыт *(заплакаў)*. Госпадзі! Як жа гэта? Я ж чэсна працаваў, падтрымліваў, стараўся... Казалі ісці — ішоў, казалі рабіць — рабіў, гаварыць — гаварыў... Ой, Васіль! Свет, свет наўкол паганы...

Мульцік. Свет добры... Чысты... Гэта мы яшчэ дрэнныя... Нам саміх сябе перарабіць трэба, а мы, дурні, усё свет перарабіць хочам, пад сябе падагнаць...

Гастрыт. Не ўсё ж я для сябе рабіў! Сэрца сваё, бывала, да болю ў кулак заціскаў і... рабіў...

Мульцік. Значыць, не тое... і не так. Калі без сэрца...

Гастрыт. На Андрэя вашага тады я... напісаў...

Мульцік. Ты казаў...

Гастрыт. Але... Я праўду напісаў... Хавалі вы зерня мяшок... у лесе... На самагонку... Каб у сваты ісці да маёй... Алёны... Нельга было зерне хаваць... Сабатаж... Я не з-за Алёны... а таму, што сабатаж. *(Нервова.)* Не слухай! Зноў кручуся... З-за Алёны!

Мульцік. Я ведаю...

Гастрыт. Дык любіў жа...

Мульцік. Любіў...

Гастрыт. Як думаеш, дзеці прыедуць, калі я...

Мульцік. Прыедуць...

Гастрыт. А я б не паехаў... Да сябе б не паехаў... Ой, як цяжка...

Мульцік. Прыедуць...

Гастрыт. Памажы мне, Васіль...

Мульцік. Чым?

Гастрыт. Памаліся... Бога няма, каб быў... ён бы нас не давёў да гэтага... Памаліся свайму сонцу, каб хоць на магілку маю свяціла...

Мульцік. Я не малюся... Я размаўляю... Моляцца на каленях...

Гастрыт. Ну, пагавары... Каб свяціла...

Мульцік. Яно будзе свяціць... Спі...

Гастрыт. Дай вады...

Мульцік падае ваду. Гастрыт прагна п'е, ставіць кружку, адварочваецца і заціхае. Увайшла Ганна з вядром у адной руцэ і з дрывамі ў другой. Тупае ля печы.

Ганна. Ці спіце вы там?

Мульцік. Не...

Ганна. Што на сняданак рабіць?

Мульцік. Што зробіш — тое і ладна...

Ганна. Старшыню ж сустрэла... Перадай, кажа, свайму неўміручаму дзеду, гэта табе значыць, што калі пішуць ананімкі, дык не падпісваюцца і адрас не пакідаюць... А ён мала таго што падпісаўся, дык яшчэ напісаў, што яго Мульцікам клічуць... І што Дзянікіным ніколі не быў і не будзе... А гэта не ананімка.

Мульцік. А я ведаю?! Першы раз у жыцці ананімку пісаў...

Ганна. А каня, кажа, мы яму і так дадзім... Бясплатна... Аформім як ветэрану. Варта было, кажа, з-за такога глупства шум на ўсю краіну падымаць...

Мульцік. Во! Цяпер ужо глупства, а раней быў сродак!

Ганна. Хай, кажа, папраўляецца і прыходзіць... Аформім.

Мульцік. Так і сказаў?

Ганна. Ну...

Мульцік. Дапякло! *(Уздыхнуў.)* Што ж рабіць? Я паміраць настроіўся...

Ганна. Кінь такое гаварыць! Не дражні яе!

Мульцік. А чаго? Нараджацца ж ні ты, ні я не баяліся... А яе чаго баяцца? Смерць як кусачая сабака... Ні баяцца, ні ў вочы глядзець не трэба... А ўжо бегчы ад яе ані-ні! Адразу схопіць за штаны! *(Паўза.)* Ганна!

Ганна. Чаго?

Мульцік. Што на двары?

Ганна. Развязло... Вецер сыры, са страхі цячэ... Макрэча на двары...

Мульцік *(зусім іншым голасам)*. Гэта не макрэча... Гэта адліга... Першая...

Ганна. Яшчэ прымарозіць...

Мульцік *(сам сабе)*. Усё!

І марудна-марудна пачынае падымацца, трымаючыся рукой за сэрца. Абапёрся на локаць. Паляжаў так, аддыхаўся. Потым яшчэ трохі. Яшчэ! Рука саслізнула — упаў на падушку. Ляжыць нерухома. І зноўку гэтак жа цяжка і марудна падымаецца. Сеў. Дрыжачай рукой узяў кружку, напіўся. Звесіў худыя босыя ногі ў белым.

*(Ціха.)* Ганна, прынясі штаны!

Ганна выходзіць з-за печы.

Ганна *(уражана)*. Ці й та ты ашалеў?! Чаго ўскруціўся?!

Мульцік. Я сказаў — давай штаны...

Ганна. Я табе зараз чапялой па штанах! Ляж, певень трухлявы!

Мульцік. Ганна! Адмяцеліць я цябе і без штаноў змагу... Ты мяне ведаеш... *(Ужо грамчэй.)* Каму сказана!

Ганна. Нашто яны табе?

Мульцік. Пайду на вуліцу ветрам падыхаю...

Ганна. Вядро прынясу — тут дыхай...

Мульцік не адказаў. Толькі глядзіць. Па-мужчынску. Як гаспадар. Старая пакорліва і нават паспешліва прыносіць штаны, бубніць.

З парваным сэрцам на вуліцу яму захацелася... Доктарка вунь казала, каб тры месяцы ляжаў і не варушыўся... Каб мне язык адваліўся! І нашто было пра гэтага каня казаць... Давай памагу...

Мульцік. Свае штаны сам заўжды здымаў, сам і надзену... Ідзі адсюль...

Ганна пайшла да печы. Мульцік адзяваецца, нерашуча злазіць з палка. Выпрамляецца. Пастаяў, аддыхаўся. Зрабіў першы крок. Пайшоў па хаце. Зірнуў у акно. Чуваць капёж.

*(Расчулена.)* Капае... *(Падышоў да жонкі.)* Накінь мне кажух на плечы... Рукі цяжка падымаць...

Ганна апранае Мульціка. Гастрыт падняў галаву, глядзіць.

Ганна. Давай я цябе выведу...

Мульцік. Сам...

Выходзіць.

Гастрыт. Ганна!

Ганна. Га? Што, Мікіта?

Гастрыт. Хадзі сюды.

Ганна падыходзіць.

*(Паказвае рукой на дзверы.)* Ты яму... яму не давай паміраць... Не пускай яго туды... Што хочаш рабі, сама заместа яго ляж, а не пускай. Ён тут павінен быць... Жывуць жа людзі па сто гадоў, хай і ён... Там яму няма чаго рабіць...

Ганна. Ляжы ты, Мікіта, ляжы...

Гастрыт. Прытуліся да мяне... Калі можаш...

Ганна *(сагнулася да яго, прытулілася, пагладзіла па валасах)*. Мікіта...

Гастрыт. Лягчэй стала... Саўсім лёгка... Памятаеш, ты хадзіла ў Піліпа свайго дазволу прасіць... каб жыць з Васілём?

Ганна. Ага...

Гастрыт. Схадзі і яшчэ раз... На кладзішча... Ва ўсіх, хто там, прабачэння папрасі... За мяне... Сам не паспею... Сходзіш?

Ганна. Добра, Мікіта, добра... Ты не... не трэба.

Гастрыт. А лепей цяпер схадзі... Зараз ідзі... Ідзі, Ганна, а то я раней... Ідзі...

Ганна. Добра, добра...

Гастрыт. І скажы... Васілю скажы... каб... Ён ведае. Усё... Даруй... Ідзі...

Ганна спалохана падыходзіць да дзвярэй. Ляпнула, але не выйшла, а толькі сціснулася ля парога. Гастрыт выпаўз з-пад коўдры, стаў на калені.

Дзе ты, хто ты, ці ёсць ты — не ведаю... Калі ёсць, на зямлю гэту ты мяне ўжо не пусціш... Я не слухаў яе... І не пачуў... Дай здароўя Мульціку... Ты на ім тут яшчэ і трымаешся... Калі б можна... Калі б другое жыццё... У мяне б нічога не было... Толькі шмат дзяцей і хлеба... Я здуру людзей жыць вучыў, а мне б хлеб расціць, дзяцей гадаваць... Гэта святое... Гэта ўсё...

Падымаецца, узлез на палок, знік за посцілкай. Ціхая-ціхая паўза.

Ганна *(ледзь чутна)*. Мікіта... *(Зразумела ўсё, ўсхліпнула.)* А-а-а божачкі-і-і... А Мікітухна-а-а...

Ляпнулі дзверы. Увайшоў Мульцік. Ганна хуценька выцерла слёзы.

Мульцік. Капае... Ужо не прымарозіць... Цёплы вецер наваліўся... Вясна за дзела ўзялася...

Ганна. Ідзі ляж, Вася... На ложак, каля акна...

Мульцік. Няма калі разлежвацца... Гной хутка вывозіць... Каб з цёплым дажджом у зямлю... Развіднее — пайду за сваім канём...

Ганна. Куды? У цябе ж сэрца...

Мульцік. Сэрцы ва ўсіх. А зямля не чакае... Яна без нашых рук хварэе... *(Зірнуў на Ганну.)* Што?

Ганна. Ты толькі не хвалюйся... Табе нельга... Табе жыць, Вася, трэба... *(Заплакала.)*

Мульцік *(ласкава, нават пяшчотна)*. Чаго ты?

Ганна. Мікіта... памёр, здаецца...

Мульцік узлез на палок. Зазірнуў за посцілку.

Мульцік. Які сёння дзень?

Ганна. Серада...

Мульцік. Што ж гэта ты, Мікіта, мой дзень заняў? Га? Значыць, у аўторак давядзецца... Ганна!

Ганна. Што, Вася?

Мульцік *(злазячы)*. За канём я ўсё-ткі пайду... А ты вазьмі нашу кніжку, схадзі ў касу, здымі сотні дзве на памінкі... Касцюм яму новы купі, бялізну, чаравікі... Трэба па-добраму чалавека да Сонца адправіць.

Ганна. У яго ж свае грошы...

Мульцік. Яго — гэта яго, а нашы — гэта нашы... Здымі...

Ганна. Добра...

Мульцік. На пошце тэлеграмы дзецям адбі: так і так, бацька памёр... Прыязджайце... Адрасы ў яго кішэні... Ён казаў... Хату прыбяры... І яго, і нашу... І ката яго забяры да нас...

Ганна. Ага...

Мульцік. Ну, а пра астатняе я са старшынёй дагаваруся...

Ганна. Васіль... Ён цябе памаліцца прасіў...

Мульцік. Добра.

Ганна. Мне выйсці?

Мульцік. Нашто? Стой побач... Толькі ціха. І не румзай...

Ганна. Добра.

Яны выйшлі ўперад. Спыніліся. Двое старых працаўнікоў зямлі нашай. Глядзяць у той бок, дзе кожную раніцу за іх доўгае жыццё ўзыходзіла сонца, каб асвятліць і сагрэць вечную зямлю.

Мульцік *(ціха і ўрачыста)*. Аджыў сваё чалавек... Прыйшла яго ноч... Прыйшоў наш вечар... Дзякуй вам, бацька-маці, што вы нас нарадзілі і вырасцілі... І табе, Сонейка, дзякуй... Дзякуй таму, хто дадумаўся Адама з Евай зрабіць... Дзякуй табе, Ева, што ты яблык нейкі забаронены ў боскім садзе з'ела, што выгналі вас з раю, што вы спаць пад адной коўдрай пачалі, род людскі па свеце пусцілі, ішло-ішло і да нас дайшло... І мы некалі вочы расплюшчылі і Сонца ўбачылі... А калі людзі з малпаў пачаліся, дык і той малпе, што з глузду з'ехала і чалавекам захацела стаць,— дзякуй... Ні за адну, нават самую горкую, слязінку не наракаем на жыццё. Дзякуй за тое, што жылі, мучыліся, смяяліся, плакалі... Дай і нашым дзеткам цяпла і святла... Сагрэй іх... І каб вайны не было... Не дай бог — праклянуць цябе людзі... Калі будзе каму праклінаць... Уратуй ты нас ад гэтай чалавечай дурноты... Няхай ва ўсіх будзе шмат дзяцей... Можа, і нашы душы прыляцяць з Сонца і ў іх уселяцца... Сонейка, наша Сонейка — прачынайся! *(Прыглядаецца, выходзіць уперад.)* Ганна! Ідзе нехта! У вёску ідзе...

Ганна падыходзіць да яго. Стаяць, глядзяць. Чакаюць.

*Заслона.*

# ПАРОГ

драма ў дзвюх дзеях



## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

АНДРЭЙ БУСЛАЙ.
МАЦІ.
БАЦЬКА.
АЛІНА.
ДРАГУН.
МІКОЛА.
НІНА.
РЫГОРКА.
ШАРГАЁЎ.
КРАСОЎСКІ.
МІЛІЦЫЯНЕР.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Невялікі пакой у гарадской кватэры. Простыя, васільковага колеру шпалеры. Мэбля вельмі старая, якая ўжо даўно выйшла з моды. Усё самае неабходнае: стол, два крэслы, канапа. На сцяне ў драўлянай рамцы сямейныя фотаздымкі. Побач на цвіку вісіць вышываны ручнік. Увесь пакой нечым нагадвае вясковую хату. У куце тэлевізар старой маркі, над ім гадзіннік з зязюляй.

Раніца. На канапе спіць Буслай. Звініць тэлефон. Раз, другі, трэці... Буслай ляжыць нерухома. Тэлефон супакойваецца на хвіліну і зноўку звініць. Буслай паварушыўся, з неймаверным намаганнем падняў галаву з заплюшчанымі вачыма і зноўку чмякнуўся на падушку. Зноў тэлефон.

Буслай *(хрыпата)*. Бэра! Выключы будзільнік, я ўсё адно не падымуся...

Тэлефон.

Выключы будзільнік, паразіт!

Тэлефон.

Ну й паскуда ж ты, Бэра...

Падымаецца з ложка і ўрэшце расплюшчвае вочы. Азіраецца, не разумеючы, дзе ён. Цяпер яго можна разгледзець. Год пад пяцьдзесят з першага погляду, але толькі з першага. На самой справе і сарака няма. Няголены апухлы твар, брудная кашуля, ускудлачаныя валасы. Уважліва-ўважліва аглядае ложак, стол, падлогу. Мабыць, думае, што прачнуўся ў вёсцы.

Мама!

Цішыня. Буслай ідзе да акна, адхінуў фіранку, зірнуў на вуліцу. І раптам спалохана адскоквае ўбок. Цяжка дыхаючы, зноў падыходзіць, з перасцярогай зазірае некуды ўніз. Зразумела, што кватэра знаходзіцца ў высотным доме. Буслай трэ рукамі твар, трасе галавой.

Буслай. Нічога сабе жартачкі... Ашалець можна.

Уважліва аглядае кватэру. Нічога не разумее. Падыходзіць да фотаздымкаў, мацае рукой ручнік.

Ды што ж гэта такое, ёлкіна маць?! Сплю я, ці што?

Тэлефон. Буслай доўга яго шукае, знаходзіць на падаконніку, падымае трубку.

Алё... Не ведаю... Нічога не ведаю... *(Кладзе трубку, здымае, набірае два нумары.)* Алё... Якая сорак восьмая?.. Я ў справачную званю... А-а-а, справачная! Скажыце, калі ласка, які гэта горад?.. Ды не ганяю я вальтоў, я сапраўды... *(Зразумела, што на другім канцы кінулі трубку.)* Цьфу! *(Зноў набірае два нумары.)* Алё!! А-а-а, ты ўжо дзевятая?.. А дзе ваша сорак восьмая?.. Я ёй у каханні прызнаюся! Ага, Гарык я, Гарык... Давай сорак восьмую! *(Паўза.)* Сорак восьмая? Слухай, ты, лічба, табе што, цяжка сказаць, які гэта горад?.. З Марса зваліўся, мяне туды запускалі... А спусціць забыліся... Ды ведаю я, які год! І месяц ведаю! Што-о-о?! А чаго гэта я ў Дубровенску?.. Не ведаеш? І я не ведаю... А колькі цяпер часу?.. Колькі? А-а-а, ужо даюць... Ну, дзякуй, лічба! Прывітанне Гарыку...

Паклаў трубку, хвіліну сядзеў з тупым выглядам, потым махнуў рукой.

А-а-а, адзін чорт! Павінен жа хто-небудзь сюды прыйсці калі-небудзь... *(Ідзе па пакоі.)* Ты глянь! Не ведаю гаспадара, але што ў яго клёпак не хапае — гэта факт... Ручнік, ходзікі з птушачкай... Куку, ку-ку... А дзе ж тут гэта самае месца?.. Вой, божухна! Калі як у вёсцы — будзе дзялоў!

Бегае па кватэры, зазіраючы ў пакоі, знаходзіць тое, што шукаў, знікае. Нейкі час кватэра пустая. Потым ляпнулі дзверы, у пакой уваходзіць Аліна. Ёй год дваццаць восем. Стройная, прыгожая, усміхаецца рэдка. Апранута модна і сучасна, але з густам. Аліна праходзіць, сядае на зэдлік, дастае з сумачкі цыгарэту, закурвае. З'яўляецца Буслай. Вочы заплюшчаныя, стогне. Аліна азірнулася.

Аліна *(спалохана)*. А-а-а!

Буслай *(таксама спалохана)*. Чаго ты?!

Аліна. Адкуль вы?

Буслай. З туалета...

Аліна. Вельмі падобна... Стойце і не варушыцеся... Іначай я буду крычаць!

Буслай. Не трэба. У мяне галава баліць... Я толькі прылягу ціхусенька, і ўсё...

А л і н а. Не падыходзьце!

Б у с л а й. Я табе сказаў — не крычы!

А л і н а. Вы дарэмна... дарэмна залезлі сюды... Тут няма чаго браць... Ён грошы дома не трымае... Дарэмна...

Б у с л а й. Во завялася, во завялася... Што мне да тваіх грошай? У мяне чэрці ў галаве мак таўкуць... Не магу разабрацца, дзе я і хто я...

А л і н а. Зараз разбярэмся разам... *(Падыходзіць да тэлефона.)*

Б у с л а й *(кінуўся да яе)*. Ну, дарагуша, званіць у міліцыю ты не будзеш!

А л і н а. Не падыходзьце!

Б у с л а й. Ды я не злодзей, я просты алкаголік... Жыву ў пасёлку Светлым без прапіскі, так што з міліцыяй у мяне адносіны сапсаваныя... Пакладзі трубку, я табе сказаў!

А л і н а. Добра... Тады кажыце, што вы тут рабілі?

Б у с л а й. На ўнітазе сядзеў. А да гэтага спаў... А да гэтага не ведаю. Я ледзь з глузду не з'ехаў у гэтай кватэрцы! Прачнуўся — хата вясковая, ходзікі на сцяне... У нас уся вёска такімі шпалерамі абклеена... З акна зірнуў — ёлкіна маць! Зямля ўнізе! Людзі, як мурашкі, бегаюць... Ад страху ледзь сэрца ў жывот не заскочыла... Ну, думаю, дапіўся — хата ў паветра паднялася... І які гэта псіх тут жыве?

А л і н а *(рэзка)*. Як вы сюды трапілі?

Б у с л а й. Чаго ты вішчыш як недарэзаная? Ты гаспадыня, ці што? Сама, мабыць, зацягнула мяне ў ложак, а цяпер крычыць...

А л і н а. Што-о? Цябе ў ложак? Зірні ў люстэрка, лапаць... Цябе ў труну час класці, а не ў ложак...

Б у с л а й. Чаму гэта?

А л і н а. Ты ж сіні...

Б у с л а й. Гэта сіндром...

А л і н а. Які сіндром?

Б у с л а й. Пахмельны, цемната...

А л і н а. Та-ак... Алкаголік, значыцца?

Б у с л а й. Прафесіянальны алкаголік. З чатырохгадовым стажам лячэння...

А л і н а. Вельмі прыемна...

Б у с л а й. А мне не вельмі... На душы як у грэшніка ў пекле... Дай што-небудзь глынуць...

А л і н а. Хто цябе прывёў сюды? Гарухін? Дык вось, вымятайся і скажы яму, што за гэты мілы жарт я наб'ю яму морду!

Б у с л а й. А хоць горла перагрызі, што мне да таго! Я табе, авечка джынсовая, казаў, што нічога не памятаю. Ні бум-бум! Я ўжо другі год толькі да абеду сваё жыццё бачу і пра яго думаю, а пасля як у торбе сяджу паўдня і ноч... Правал... Сплюшчылася маё жыццё. Я нават не ведаў, што ў вашым Дубровенску апынуўся, а ты мяне дапытваеш пра гэту кватэру, хто прывёў, як апынуўся...

А л і н а. Адкуль жа ты зараз ведаеш, што гэта Дубровенск?

Б у с л а й. Званіў у справачную.

А л і н а. Вобмацкам? Ну, герой... Дык ты, можа, сам і прыпоўз сюды?

Б у с л а й. Які гэта паверх?

А л і н а. Дзевяты.

Б у с л а й. Наўрад. Чаго б гэта я шкробся аж да дзевятага... І хто б мяне сюды пусціў?

А л і н а. Гэта не праблема. Кватэра не замыкаецца...

Б у с л а й. Як гэта? Без замка гарадская кватэра?

А л і н а. Любы можа зайсці... І ў любы час...

Б у с л а й. Ну я ж казаў, што гаспадар чокнуты...

А л і н а. Замаўчы! Ты хоць ведаеш, чыя гэта кватэра?

Б у с л а й. Ну?

А л і н а. Максіма Пакутовіча...

Б у с л а й. А чаго ты шэптам пра гэта сказала? Ён што, пракурор? Ці мо начальнік міліцыі?

А л і н а. Ты не ведаеш Пакутовіча?

Б у с л а й. А ты Бэру ведаеш?

А л і н а. Якую яшчэ Бэру?

Б у с л а й. Не якую, а якога... А, не ведаеш... У кожнага свая кампанія.

А л і н а. Гэта вядомы пісьменнік... Яго ўжо ў школе вывучаюць. Няўжо не чытаў ніколі?

Б у с л а й. Ага, мне толькі яшчэ чытаць кніжкі засталося, і ўсё ў парадку... Што ты кажаш? Самы

сапраўдны пісьменнік? А дзе крышталь? У пісьменніка павінен быць крышталь.

Аліна. Вось што, даражэнькі, адпачыў, выспаўся, схадзіў куды трэба, а цяпер збірай манаткі і шуруй адсюль...

Буслай. Куды ж я пайду? Мне крыху ачуняць трэба пасля ўчарашняга...

Аліна. Не хочаш ісці, дык паедзеш...

Буслай. На чым гэта?

Аліна. На машыне з палосачкай...

Буслай. Ёлкіна маць! А чаго гэта ты тут раскамандавалася? Ты што, жонка гэтага пісьменніка?

Аліна. Не...

Буслай. Сваячніца?

Аліна. Не твая справа!

Буслай. А-а-а...

Аліна. І не «а-а-а»! Я яго пацыентка...

Буслай. Хто-о? Пацыентка? А чым жа ён цябе лечыць? Аўтаручкай?

Аліна. Уяві сабе! Менавіта аўтаручкай...

Буслай. Ну дык вось што, пацыентка... Станавіся ў чаргу і чакай доктара... Псіхбальніца, а не дом! Кватэры як пры прыгонным праве, дзверы не замыкаюцца, лечацца ў пісьменнікаў... Што вы за людзі?

Аліна. Я — звычайная, а ён святы...

Буслай. Ну, канечне... Пісьменнік! Грошы куры не клююць, хочаш не хочаш, а ў святыя запішуць... Я аднойчы па латарэі матацыкл выйграў. Таксама ўся вёска святым лічыла, пакуль не прапіў...

Аліна. Дурань! Гэта незвычайны, дзівосны чалавек... Самы сапраўдны інжынер чалавечых душ...

Буслай. Для маёй душы не інжынер, а сантэхнік трэба... Слухай, авечка...

Аліна. Якая я табе авечка?

Буслай. Джынсавая. Ты не крыўдуй. Ты ўся такая мяккая, далікатная, як... каўнер у кажуха...

Аліна. Прыдурак!

Буслай. Ну дык скажы, як цябе завуць, калі не хочаш у авечках хадзіць...

Аліна. Аліна...

Буслай. Імя ж нейкае... французскае...

Аліна. Я яго не выбірала... У дзетдоме далі...

Буслай. Ты сіротка?

Аліна. Падкідыш я. Усё жыццё як падкідыш жыву.

Буслай. А я выкідыш... Жыццё мяне выкінула некуды, і лётаю, лётаю, лётаю... І прызямліцца не магу... Слухай, авечка...

Аліна. Яшчэ раз так мяне назавеш — па фізіяноміі атрымаеш!

Буслай. У-ю-юй, як страшна! Ладна, ладна, не пыхці... А гэта не ён сюды мяне зацягнуў? У пацыенты, на даследаванне, як падвопытнага кроліка...

Аліна. Не падобна. Нічога цікавага, апроч сіняга носа, у цябе няма.

Буслай. А што, яму толькі цікавае падавай? А я, можа, цікавы тым, што зусім-зусім нецікавы. Ува мне нічога няма, і мне нічога не трэба. А кажуць, чым чалавеку меней трэба — тым ён лепшы і цікавейшы...

Аліна. Філосаф...

Буслай. Дай мне апахмяліцца, я яшчэ не такое загну... Я іншым разам такім разумным бываю, аж страх бярэ... Твой пісьменнік, мабыць, з-за гэтага і прыцягнуў мяне да сябе на хату... Як жывы персанаж. З мяне нашарашыць раман — раз плюнуць... Паднясі толькі чарку ды салёненькі гурочак, я такое магу ўляляшчыць — ніводзін вучоны не разбярэ. Во ўчора, мабыць, калі з ім паддавалі...

Аліна. Ды не мог ён з табой піць...

Буслай. Адкуль ты ведаеш?

Аліна. Ён не п'е...

Буслай. Саўсім?

Аліна. Зусім. Гарэлка супраць прыроды.

Буслай. Не зразумеў...

Аліна. Гэта зелле вынайшла чалавецтва... У натуральным стане спірт не сустракаецца... Гэта вынік распаду, гніення... Ніводная жывёліна спірт ужываць не будзе.

Буслай. Чалавек не жывёла, дарагуша... У яго ў гэтым кацялку *(паляпаў па галаве)* думкі розныя. Калі сабаку навучыць думаць, і сабака піць пачне... І не курыць?

Аліна. Не. Гэта таксама супраць прыроды...

Б у с л а й. Ну, а астатняе па прыродзе... Добра ён цябе тут лечыць?

Аліна падыходзіць і з усяго размаху б'е Буслая па шчацэ.

А л і н а *(вельмі спакойна)*. Я табе сказала, хамула, ён святы чалавек! А калі ты яшчэ раз якую-небудзь пашляціну ляпнеш пра яго, я магу цябе забіць. Ты чуеш?

Б у с л а й. Дзе там чую?! У мяне ад тваёй аплявухі ў вушах звініць. Ну й ручка! Адбойны малаток... Дай што-небудзь выпіць! Мне жыць не хочацца.

А л і н а. Ідзі ў ванну і пі з-пад крана...

Б у с л а й. Ваду не выпіваюць, а п'юць... А мне выпіць трэба...

А л і н а. Прыйдзе гаспадар, у яго і папросіш...

Б у с л а й. Ну, пашкадуй ты мяне! Чарачку, маленькую... Га?

А л і н а. Адчапіся!

Б у с л а й. Ты не жанчына — ты баба-яга...

А л і н а. Яна таксама жанчына...

Б у с л а й. Жанчына, але ведзьма... Тады так... Я ніцма кладуся на ложак і не варушуся, а ты сядзі і маўчы як рыба. У мяне сіндром. Колькі цяпер?

А л і н а. Палова дванаццатай...

Б у с л а й. У дванаццаць буду скрыгатаць зубамі... Не палохайся...

А л і н а. Зараз кавы звару, вып'еш, палягчэе...

Б у с л а й. Што мне твая кава? Знайдзі хоць адэкалону глыток... Мяне ж ужо ліхаманка біць пачынае... Ты што, думаеш, я дурня строю? Я ж кончаны... Гэта ж хвароба...

А л і н а. Жудасць! *(Знікае на кухні.)*

Б у с л а й *(корчыцца на ложку)*. Божухна, як цяжка... Душа пад каменнем... І страшна... І дзіка...

У роспачы б'е кулаком па сцяне... І раптам невялікі чатырохкутнік сцяны паварочваецца, і адчыняецца адмыслова зроблены бар з цёмнымі бутэлькамі і зіхоткімі чарачкамі. Буслай як у сне падымаецца, дрыжачымі рукамі хапае бутэльку, з неймаверным намаганнем спрабуе рукой выцягнуць корак. Нічога не атрымліваецца. Выцягнуў корак зубамі, прыліп ротам да рыльца. Зубы стукаюць аб шкло. Жудаснае відовішча! Уваходзіць А л і н а.

А л і н а. Што? Што ты робіш?

Буслай, не адрываючыся ад бутэлькі, мычыць нешта ў адказ. Аліна падбягае і вырывае з яго рук бутэльку.

Ты ведаеш, што ты выжлукціў?

Буслай. Адзін чорт! Гарэлкай пахне, і добра... Я перапіў ужо ўсё на свеце: дэнатурат, бээфы, ласьёны, зубныя пасты... *(З палёгкай.)* Фу-у, бог у тапачках па душы прайшоўся... Што гэта такое?

Аліна. «Напалеон»...

Буслай. Які? Банапарт?

Аліна. Ён самы.

Буслай. Што, сродак супраць молі?

Аліна. Каньяк. З гэтай бутэлькі пазаўчора італьянская дэлегацыя піла...

Буслай. Глядзі ты! А на смак як палітура... *(Смяецца.)* Ніколі не думаў, што буду з праклятымі капіталістамі з адной бутэлькі піць... Во лёс! Дай сюды, я не разабраўся як след...

Аліна *(хавае бутэльку ў бар)*. Пераб'ешся... Піў каву!

Буслай. Ладна! Я ўжо ў норме... Заскакалі чорцікі па жылах...

Падымаецца з ложка, робіць некалькі гімнастычных практыкаванняў. Твар яго пасвятлеў, ажывіўся, набыў натуральны для здаровага чалавека выраз і колер.

Ведаеш, Аліна, гарэлка — вялікае дзела! Мне Бэра казаў, што Ісус Хрыстос як толькі навучыўся цуды рабіць — першае, што ўчудзіў,— ператварыў ваду ў віно... Во! Хто-хто, а ўжо Хрыстос ведаў, што чалавеку патрэбна... Чаго ты вылупілася? Гэта па бібліі так... Ух, каб я гэтыя цуды мог рабіць! Я б яе, родненькую, у водаправод пусціў бы... Піце, людцы!

Аліна. Ты нават і біблію чытаў?

Буслай. Бэра чытаў. У яго бабка сектантка.

Аліна. Бэра такі, як і ты, канечне?

Буслай. Ты што-о? Ён на службе... Кацельную ў райспажыўсаюзе паліць... На сваім хлебе.

Аліна. А ты?

Буслай. А я ў яго прыжывала... З восені ўжо. Не бяруць нікуды. Ды і самому не надта хочацца... Я ўжо кончаны.

Аліна. Ты з вёскі?

Буслай. Ага...

Аліна. Сям'я ёсць?

Буслай. Ёсць. І жонка ёсць. Замуж нядаўна выйшла... Усё ёсць, аднаго мяне няма...

Аліна. Як цябе горад сапсаваў, беднага...

Буслай. Я, Алена, у горад прыехаў ужо сапсаваны ўшчэнт. Пры чым тут горад? Як што якое — дык адразу на горад валяць: ах, такі-разгэтакі, жыццё мне загубіў! А на які чорт ехаў тады? Ну, чаго ты так глядзіш на мяне?

Аліна. А ў нас у дзетдоме на двары калодзеж быў... Зазірнеш у яго, і страшна робіцца... Вось я зараз зірнула на твае вочы і гэты калодзеж успомніла...

Буслай. Што, пустыя?

Аліна. У калодзежы была вада... Бліщчыць, але далёка-далёка... Глыбокія ў цябе вочы...

Буслай. Глядзі, не закахайся.

Аліна. І мёртвыя...

Буслай. У цябе жывыя?

Аліна. І ў мяне мёртвыя... Вось ён хутка прыйдзе — убачым жывыя... Глядзіць, а табе хочацца сэрца сваё адкрыць...

Буслай. І кофтачку расшпіліць...

Аліна. Я цябе папярэджвала, падонак...

Моўчкі ідзе на Буслая.

Буслай. Ну-ну-ну! Ты што, ненармальная?!

Аліна. Я цябе папярэджвала.

Буслай. Я пажартаваў... Выпі вады, на цябе ж глядзець страшна...

Адчыняюцца дзверы. На парозе Драгун. Танклявы юнак год дваццаці. У яго абліччы ёсць нейкая зацятасць і сканцэнтраваны спакой. Апрануты проста, што не адпавядае яго ўзросту.

Драгун. Добры дзень...

Буслай. Здароў, братка! Ты гаспадар ці таксама пацыент? Калі гаспадар, сунімі ты гэту кошку, яна мне вочы збіраецца выдраць...

Драгун *(да Аліны)*. Супакойся, Аліна...

Аліна *(да Буслая)*. Пайшоў вон адсюль!

Драгун. Аліна! Ён прыйшоў не да цябе... *(Падае часопіс.)* Вось прачытай і супакойся... Гэта пра цябе... Толькі што купіў у кіёску...

Аліна бярэ часопіс, адыходзіць убок, чытае.

Буслай *(з нахабнай усмешкай да Драгуна)*. Значыць, так... завуць мяне Андрэй Буслай...

Драгун. Ну што ж, зараз будзем снедаць, Андрэй... Як спалася на новым месцы?

Буслай. Як у бога за пазухай... Дзякую. Калі ты з гэтай *(кіўнуў на Аліну)* нешта напісаў — з мяне пяць камедый накрэмзаеш. Увесь свет смяяцца будзе... Ты малайчына, так і трэба... З жыцця чэрпаць, з народу! А народ дзе? У забягалаўках...

Драгун. Прабач, я нешта нічога не разумею...

Буслай. Як я зразумеў, нешта такое ты пра яе напісаў... Пра яе можна напісаць, яна з выгляду трохі чокнутая, а я яшчэ лепей... Я ўжо да донца дакаціўся. Не падвяду! Усё, усю душу табе выверну, як памыйнае вядро... Пішы! Праслаўляйся! А мне за гэта толькі зранку і вечарам па кроплі «Банапарта». Згода?

Драгун. Не.

Буслай. Няўжо табе не цікава пачуць, як я дажыўся да такога?

Драгун. Не.

Буслай. Вы ж, пісакі, толькі пра ненармальных і пішаце, а я ненармальны са знакам якасці... Я ўжо і не чалавек, лічы што...

Драгун. Я не пісьменнік, я тут толькі жыву...

Буслай. А-а, таксама пацыент... Тады я гаспадара пачакаю... Будзе ён пра мяне пісаць, я ведаю...

Драгун. Не будзе.

Буслай. Чаму?

Драгун. Ён піша казкі... І потым, ты ж сябе за чалавека не лічыш, а ён піша пра людзей.

Буслай. Дык на які ж чорт ён мяне зацягнуў сюды?

Драгун. Ніхто цябе нікуды не цягаў... Ён вярнуўся ўчора са Светлага і знайшоў цябе за горадам. Ты ляжаў у гурбе снегу, накрыўшыся «Советским спортом».

Буслай. А дзе ён цяпер?

Драгун. У паліклініцы. Калі ён цябе грузіў у сваю машыну, ты разбіў яму акуляры і шклом парэзаў твар...

Буслай *(паспешліва)*. А-а, дык я гэта... пайду тады... Раз пісаць пра мяне ён не будзе, я магу зараз пайсці?

Драгун. Канечне...

Б у с л а й. Толькі дай руб, раз вы тут такія добрыя... Я ж са Светлага. Даехаць мне трэба?

Д р а г у н. Аліна, колькі каштуе білет да Светлага на электрычцы?

А л і н а. Дваццаць капеек...

Д р а г у н. Дай, калі ласка...

А л і н а *(дастае з сумачкі манетку)*. Бярыце...

Д р а г у н. Бяры...

Б у с л а й. Ты што? На піва нават не хопіць.

Д р а г у н. Табе на білет ці на піва?

Б у с л а й. На «чарніла».

Д р а г у н. Гуляй...

Б у с л а й. Ну й скнары ж вы! Жывуць, разумееш, як паны, каньяк французскі глушаць, хату над селяніна згаблявалі, а простаму селяніну рубля шкада... Перадайце вашаму пісьменніку, што я на яго плюю. Вось так, вось: цьфу, і ўсё! Развесіў ручнікі! Хай у вёску едзе, а тут камедыю не ламае... Селянін на дзевятым паверсе, ёлкіна маць!

А л і н а. Замаўчы ты!

Б у с л а й. Сама маўчы, авечка джынсавая. *(Выходзіць.)*

А л і н а. Хамула няўдзячны!

Д р а г у н! Аліна! Ён жа цябе прасіў: ніколі і не пра кога апроч сябе не думаць і не гаварыць блага...

А л і н а. Але ж ты чуў, што ён тут...

Д р а г у н. Яму можна. Табе — не.

А л і н а. Прабач...

Адчыняюцца дзверы. Гэта вярнуўся Б у с л а й.

Б у с л а й. Я на хвілінку... Навошта ён мяне падабраў учора за горадам п'янага?

Д р а г у н. А хіба ты не падабраў бы яго? Калі б ён ляжаў у снезе.

Б у с л а й. Я — іншая справа... У мяне машыны няма. А яму навошта гэта было?

Д р а г у н. Не ведаю... Мабыць, не хацеў, каб ты акалеў там да раніцы ў адной кашулі... У цябе што, паліто няма?

Б у с л а й. Сябру даў панасіць... А чаму ён не здаў мяне ў міліцыю? Завёз бы, выгрузіў, і ніякіх клопатаў...

Д р а г у н. Не па дарозе было...

Б у с л а й. Дай руб.

Драгун. Паліто магу даць...
Буслай. Давай паліто!

Драгун падыходзіць да шафы, дастае паліто.

Драгун. Апранай.
Буслай. Стараватае, канечне.
Драгун. Можа, дублёнку даць?
Буслай. Жартую. Ну і выпіць на дарожку, а то мяне блажыць пачынае.

Драгун. Той, хто п'е ці дае піць іншаму, робіць злачынства супраць прыроды...

Буслай. Ну-у, тады ўсе чатыры мільярды трэба ў каталажку заканапаціць... *(Шэптам.)* Слухайце, а можа, вы якія-небудзь сектанты? Га? Дык я магу і памаліцца за кампанію, толькі дайце кроплю...

Драгун. Так, дружа, дажыўся ты... У сне такога не ўбачыш... Бывай здароў...

Буслай. Дык вы б хоць паагітавалі мяне, ці што? Усе ж агітуюць...

Драгун. Ідзі...
Буслай. Во, чудзікі...

Буслай выходзіць. Паўза. Аліна паклала часопіс на калені, уздыхнула.

Драгун. Прачытала?
Аліна. Казка... Добрая казка...

*Зацямненне.*

Дэкарацыі амаль тыя ж, толькі гэта ўжо самая сапраўдная вясковая хата. Тэлевізар, радыё, канапа. Над ёй дыван з мядзведзькамі. Печ. На печы старая Маці Андрэя Буслая. На канапе спіць Бацька. Ціха шчоўкаюць ходзікі. Ноч.

Маці *(трызнячы)*. Андрэй... Андрэйка... Дзе ж твае валёнкі, сукін сын? Чаму ж ты кашулю скінуў, халадзіна гэткая...

Бацька *(падымае галаву)*. Маруся! Чаго й та ты?

Маці. Міцік... гэта ты?

Бацька. Хто ж яшчэ? Чаго ты маркочаш сярод ночы?

М а ц і. Вой, саснілася мне нешта нядобрае пра Андрэя... Як быццам поле снегавое як вокам кінуць... Ані дрэўца, ані кусціка... І ён стаіць сярод гэтага поля босы, без кашулі, у адных існодніках... Бягу да яго, а ён стаіць, не варухнецца, і толькі слёзы па шчаках, па шчаках ды на снег... Капнуць ды чырвонай плямай разыходзяцца, кроў — як слова... Сэрца як з грудзей не выскачыць... Вой, нядобра нешта з ім.

Б а ц ь к а. Гэта ад хваробы ўсялякая лухта прымроіцца... Спі.

М а ц і. Гэтулькі год ані звання. Хоць бы пісьмо даслаў, сукін сын... І чым жа гэта мы так саграшылі, Міцік, што бог нас так неўзлюбіў? Дзетак нарадзілі, зберaглі ад бяды-ліха, і во... Памятаю, у партызанах, калі вёскі ўсе ў акрузе папалілі, галадуха была, божухна ты мой мілы! Настулька маленькая грудзей насмокчацца дый спіць, ёй і гора мала. А Андрэйку ўжо шосты гадок ішоў... Кару бярозавую грызлі... Я гэтай кары нажву, нажву ў кансерку нямецкую, потым употай ад яго ў ельніку ў гэту кару малака з грудзей націсну колькі змагу дый даю яму есці... Есць дай пытаецца: матулечка, а чаму гэта кара такая салодкая, белая ды смачная? Праўду скажы, дык есці не будзе, вялікі ж ужо... Так, кажу, дзетухна, гатаваць я яе ўмею... Колькі выцерпелі ўсяго, і во... Настульку зямля забрала, і Андрэйка па свеце, як па цёмным лесе, бадзяецца... А нам паміраць, бы пустазеллю якому, трэба будзе...

Б а ц ь к а. Ну во, завялася сярод ночы...

М а ц і. Гэта ж я чую, што памру неўзабаве...

Б а ц ь к а. От бабы... Колькі разоў хварэюць — столькі паміраюць.

М а ц і. Грэх сказаць, паплакаць на хаўтурах не будзе каму...

Б а ц ь к а. За гэта не перажывай. Суседкі пагалосяць... Хаця нашто?

М а ц і. Яно-то праўда. А ўсё ж неяк бы там весялей было, каб свой, родны, слязой на магілку капнуў...

Б а ц ь к а. До табе ўжо! Вось пеўні закукарэкаюць, тады і пра смерць можна...

Паўза.

М а ц і. Слухай, Міцік, учора да мяне Васіліна

заходзіла. Вы, кажа, яго, Андрэя, значыцца, праз міліцыю знайдзіце...

Б а ц ь к а. Што-о?

М а ц і. Скажыце, кажа, там, што ён Канстытуцыю парушае, самы галоўны закон. А там, як слова, запісана, што дзеці пра сваіх бацькоў клапаціцца павінны... Га, Міцік? Мо яго па Канстытуцыі дадому прыцягнуць?

Б а ц ь к а. Старая дурніца твая Васіліна! Клапаціцца, значыць грашыма дапамагаць... Карміць, як раней казалі. А што, нам есці няма чаго? Дзве пенсіі, гарод, малако сваё, сала, паўтары тысячы на кніжцы. Смяяцца ж будуць...

М а ц і. А калі б нічога не было?

Б а ц ь к а. Тады б яго знайшлі, аліменты прысудзілі.

М а ц і. Ты што? Аліменты — гэта ж на бязбацькавічаў...

Б а ц ь к а. На ўсіх. Хто, значыцца, здзяцініцца — таму і аліменты. Ай! Лепш ужо, як ты кажаш, бярозавую кару грызці, чым з роднага сына па Канстытуцыі аліменты драць... Забыўся — бог яму суддзя! Ён пра сына свайго забыўся, а што ўжо мы...

М а ц і. Ды не забыўся, Міцік! Не мог ён пра нас забыцца... У яго ж сэрца жаласлівае... З гора, з сораму ён сюды вачэй не кажа... Каб гэта цытра вучоная не кінула яго тады, не збегла да Міколы, жыў бы ён тут...

Б а ц ь к а. А піць з якога гора-сораму ён пачаў?

М а ц і. Кажуць, што Мікола Рыгорку на сваё прозвішча хоча запісаць... Мо нам бы, Міцік, высудзіць свайго ўнучка як? Га?

Б а ц ь к а. Ды што гэта ты пад старасць судзіцца з усімі задумала? Век не судзілася, а цяпер...

М а ц і. У яго ж ёсць бацька родны, і прозвішча яго павінна быць — Буслай... Рыгор Буслай... Наша сям'я, наш род, наша кроў... Хіба ж можна яго сціраць з жыцця?

Б а ц ь к а. З кім судзіцца? З роднай маці? З чалавекам, які корміць яго? З Міколам? Сам ён, сынок наш, сцёр з жыцця і сябе і сям'ю сваю. Колькі жыву, ніводнага разу не бачыў, каб чалавек піў так заўзята... Як хвароба нейкая на яго навалілася, як наслан-

нё... Гарэлкай нібы паводкай усё і затапіў: і хату сваю, і сябе, і жонку, і сына...

Маці. Не кажы пра яго так! Ён жа сын табе. Ну, што ж рабіць, калі на яго такое няшчасце звалілася...

Бацька. Якое няшчасце? Ён што, аднарукі, сляпы, кульгавы? Няшчасце... Мо яго няшчасце ў тым, што ты малаком са сваіх грудзей усё жыццё яго карміла! Мо няшчасце ў тым, што шчасце занадта тоўстую лусту лёс адмераў...

Маці. Кроў дурная гэта ў яго. Спадчына трухлявая. Кажуць жа, што ад бацькоў усё чыста да дзяцей пераходзіць... А Андрэй увесь па табе.

Бацька. Дык калі ж гэта я піў? Ты што?

Маці. Не ты... Дзед твой, кажуць, жлукціў яе, брыдоту гэту, як конь з цэбра... Во яна, кроў гэта п'яная, і вылезла ў ім...

Бацька *(трохі зазлаваў)*. Ёрш тваю ў лапці! Чаго ж ты яго нарадзіла гэткім? Трэ было сваёй крыві больш дабаўляць!

Маці. Дык твая ж гарачая, упартая... Яна заўсёды верх возьме...

Маўчаць.

Маці. Не сярдуй, Міцік... Я ж не за сябе перажываю... Мне ўжо што? Я дасмылела на гэтым свеце, а табе яшчэ аднаму жыць дый жыць...

Бацька. Ага! У сваты яшчэ збегаю...

Маці. А што ты думаеш? І жаніся.

Бацька. Цьфу!

Маці. Трэба ж, каб нехта каля печы тупаў. Во Васіліну і бяры. Яна баба добрая, руплівая... Разам і дажывяце.

Бацька. З глузду з'ехала? Спі ты ўжо! *(Паўза.)* Я, Маруся, калі з табой што якое і здарыцца, таксама тут не затрымаюся. Зрасліся мы з табой адно з адным за ўсё жыццё... Як лісце з каранямі. Корані памруць — лісце пажухне. Як жа мне без цябе жыць, валёнка ты мая старая? У нас жа, лічы, і сэрца ўжо адно: палавіна твая, а палавіна мая... А з палавінкай ці многа нажывеш?

Маўчаць.

Маці. Ты, Міцік, глядзі! Даганяць мяне там і

не думай... Гэта нягожа туды за сабой цягнуць... Жыві, колькі бог адважыў, а то я не прыму цябе там...

Бацька. Дзе ты дзенешся?

Маці. Адвярнуся ў труне да цябе гэтым самым месцам ды так і буду ляжаць...

Бацька. Ёрш тваю ў лапці! А чаго гэта ўжо ты са мной як нябожчыца размаўляеш? Бач ты яе! Навастрыла лыжы! Сабралася! Хто табе сказаў, што ты першая туды застрыгікаеш?

Маці. Чую я. Сны дрэнныя сняцца. Не на дабро... І сэрца ные...

Бацька. Давай спаць класціся... Што б там ні было, да світанку трэба дажыць...

Паўза. Потым нехта трывожна пастукаў у акно.

І каго ж гэта нясе ў такую рань? *(Падышоў да акна, узіраецца ў цемру.)* Хто там?

Голас *(трывожна)*. Я, дзядзька Міцік, я... Мікола... Не пужайся...

Бацька. Чаго ж мне пужацца? Зараз адчыню, ідзі на ганак... *(Старой.)* Мікола нечага прыпёрся...

Маці. Што яму трэба?

Бацька. А ці ж я ведаю?

Стары падымаецца з ложка, уключае святло, ідзе ў сенцы. Вяртаецца ў хату разам з Міколам. Гэта каржакаваты, моцны мужчына. Светлавалосы, з цяжкімі рукамі. Мікола нечым узрушаны.

Мікола. Добры дзень...

Бацька. Здароў...

Маці. Які ж дзень? Пеўні яшчэ не галасілі. Чаго ты белы як палатно? Ці не з Рыгоркам што?!

Мікола. Спіць Рыгорка, спіць... Як здароўе, цётка Маруся?

Маці. Ці ты на ноч гледзячы пра маё здароўе прыйшоў пытацца? Кажы!

Мікола *(няшчыра ўсміхнуўся)*. Я да дзядзькі... Мужчынская размова... Хадзі сюды, дзядзька... Грошай мне трэба... Калі ёсць... трохі...

Бацька. Ці ў цябе сваіх нямашака?

Мікола не адказвае, адводзіць старога ўбок.

Мікола *(шэптам)*. З Цыбулек мне толькі-толькі званілі... Участковы...

Бацька. Ну...

Мікола. Тэлефон у вёсцы толькі ў мяне і ў дырэктара школы... Кантора зачынена, заўтра выхадны...

Бацька. Ды кажы ты нарэшце!

Мікола. Ну мне, значыцца, і званілі... Прасілі, каб перадаў...

Бацька. Што?..

Мікола. У Дубровенск трэба з'ездзіць вам... Нешта там з Андрэем...

Бацька. Што з ім?

Мікола. Не ведаю... Не сказаў участковы...

Бацька. Брэшаш! Па вачах бачу! Кажы...

Мікола. Ну... здаецца, знайшлі яго... у Дубровенску...

Бацька. Хто знайшоў? Міліцыя?

Мікола. Як быццам...

Бацька. А што ён такое адмачыў, што яго міліцыя загрыбчыла?..

Мікола. Не тое, дзядзька, не тое... Пад снегам яго знайшлі...

Бацька. А чаго ён пад снегам? Пад якім снегам?..

Мікола. Вясна... Сонца прыгрэла, адтаяў...

Бацька. Дык як гэта? Забіў яго хто ці як?...

Мікола. Не ведаю... Адным словам, участковы сказаў: трэба ехаць на апазнанне... Можа, і не ён гэта яшчэ... Трэба ехаць вам ці каму з родных... Я да Цыбулек давязу на матацыкле... Да першага рэйсу паспеем... А там на вакзале ў міліцыю зойдзеце, скажуць. Ну я пайду... Дайце мне пяцёрку якую, я на вуліцы аддам...

Бацька. Якую пяцёрку?

Мікола. Грошы...

Бацька. Нашто?

Мікола. Ну, каб цётка падумала, што я сапраўды па грошы прыходзіў. Яна ж і так чуць ліпіць, а тут гэткае гора... Мо не казаць пакуль?

Бацька. А дзе ты дзенешся? Не скажаш сёння — заўтра трэба будзе...

Мікола. Ну, як ведаеце... Пайду па матацыкл...

Выходзіць. Стары нейкі момант стаіць сярод хаты. Потым ідзе да печы, шукае анучы, сядае на зэдлік, пачынае абувацца.

Маці. Куды гэта ты?

Бацька. У Дубровенск...

Маці. Чаго?

Стары абуваецца.

Маці *(ужо з трывогай)*. Што ён табе тут нашаптаў? Якія грошы?

Бацька *(абуваецца)*. Во як яно выходзіць, Маруся... Мы з табой тут спрачаемся, каму ў зямлю раней легчы, а паміраць нам акурат і нявыкрутка... *(Усхліпнуў.)* Сына... апошняга... на могілкі... адвезці... трэба... Так што хопіць хварэць, потым ужо якнебудзь памрэш, падымайся, прыбірай хату да хаўтур...

Маці. Што ты пляцеш, пустабрэх стары!

Бацька. Званілі Міколу... У Дубровенску знайшлі яго мёртвага пад снегам...

Маці *(з жахам)*. Каго?

Бацька. Андрэя... Адпіўся, сынок... Сам адмучыўся і ўсіх адмучыў...

Маці *(спачатку ціха, а потым усё грамчэй і грамчэй)*. Ай-а-а-ай. А мой жа ты маленькі Андрэйка... А чула ж маё сэрцайка! А няшчаснае ж ты маё дзіцятка! За што ж табе такі злы лёс?! Сыно-о-очак!

*Зацямненне.*

Кватэра Пакутовіча. Вечар. Аліна прыбірае. Больш нікога няма. Званок у дзверы.

Аліна. Урывайцеся, не зачынена...

Дзверы асцярожна адчыняюцца, зазірае Буслай. Без паліто. Спыняецца каля парога.

Аліна. З'явіўся, філосаф...

Буслай *(ніякавата)*. А ты яшчэ не пайшла? Так увесь месяц і сядзіш тут?

Аліна. Дзе паліто? Прапіў?..

Буслай. Дык думаў, што цёпла будзе... Скінуў, а тут такая халадзіна, хоць сам да сябе ў кішэню залезь. Падла, а не вясна! Спадарожнікамі ўсё перамяшалі: зіму, лета, восень... Вінегрэт з надвор'я

зрабілі... І што гэта такое? Чым далей жывём, тым усё халадней і халадней...

А л і н а. Чаго прыйшоў? Ні чаркі, ні грошай ты тут не атрымаеш...

Б у с л а й. Мне б хлебца кавалачак... Я ўжо забыўся, калі еў... Бэра вудачкі зматаў некуды. Я трэці месяц за яго кацельную палю, а грошы гэтай сектантцы пасылаюць... Некалькі разоў бегаў на вакзал, цэмент разгружаў, а апошні тыдзень хварэў, дык кішкі падцягнула, да хрыбта прыраслі... Дай што-небудзь пакусаць, я і пайду...

А л і н а. Зараз... *(Выходзіць на кухню.)*

Б у с л а й. А дзе гаспадар?

А л і н а. Навошта ён табе?

Б у с л а й. Я яго кніжку чытаў...

А л і н а. Што ты кажаш? Няўжо ў бібліятэку хадзіў?

Б у с л а й. Купіў, у кіёску..

А л і н а. Подзвіг...

Б у с л а й. Для мяне — подзвіг... На адну бутэльку «чарніла» меней узяў, а кніжку купіў.

А л і н а. Па аўтограф прыйшоў?

Б у с л а й. Паесці... Пайшоў на заробкі... На вакзале пад мехам мукі ўпаў, алкашы прагналі з брыгады... У галаве туман, калені дрыжаць... Думаў ужо ў міліцыю ісці здавацца, а тут успомніў, зайшоў...

З кухні выходзіць А л і н а. У руках талерка з супам.

А л і н а. Бяры крэсла і сядай да стала...

Б у с л а й. Я і без крэсла магу...

А л і н а. Еш...

Б у с л а й. А хлеба?

А л і н а. Колькі ты не еўшы?

Б у с л а й. Ну, адразу як захварэў... На падаконніку знайшоў скарынку, згрыз, а болей, здаецца, нічога не еў. Тыдзень... Дай хлеба.

А л і н а. Дурань! З галадухі скруціць абаранкам. З'еш супу спачатку... Потым хлеба дам.

Буслай сядае да стала, прагна сёрбае суп. Аліна з жалем і пагардай назірае за ім.

А л і н а. Госпадзі, божа мой! Дваццаты век, людзі ў космас лётаюць, а ты як жабрак ходзіш, пабіраешся... І не сорамна?

Буслай. Не! Каб жа сорамна, Аліна! Каб жа сорамна было... Ці я б тут сядзеў... Спіць мая душа. Закалыхаў я яе... Закалыхаў, каб не мучылася, бедная... *(Есць.)*

Аліна. А чаму ты дадому не едзеш?

Буслай. Каб мець дом, трэба чалавекам быць... Мяне там не чакаюць... Мне не патрэбны ніхто і я нікому... *(Есць.)*

Аліна. Слухай, а чаму цябе не забяруць?

Буслай. Куды?

Аліна. Ну, у спецлячэбніцу, ці што? Лечаць жа вас такіх пад прымусам.

Буслай. А ў мяне калектыву няма... Туды калектыў пуцёўку дае. Я ж не працую нідзе і без прапіскі жыву ў Бэры... Цішком тунеядца ганяю... А так ніхто не здае. Во ён жа не завёз мяне ў міліцыю. А калі б завёз, я ўжо за жалезнай брамай сядзеў бы... Ды я і сам чатыры разы лячыўся... Добраахвотна... Бывала, што паху гэтай брыдоты не пераносіў...

Аліна. Якой брыдоты?

Буслай. Гарэлкі...

Аліна. Гм...

Буслай. Вось табе і гм... Ад аднаго паху ўсяго навыварат перакручвала... А ўсё адно пачынаў піць. Гвалтаваў сябе, давіўся, вочы ад агіды на лоб лезлі, а піў... На сэрцы, калі доўга не п'ю, такая пустэча, такі страх, боль нейкі... Не, не боль, а нуда цягучая, якая смокча, смокча яе, душу маю расхрыстаную...

Аліна. А сёння ты цвярозы?

Буслай. Калі б я быў пад мухай, хіба мне б хацелася есці? Калі вып'еш — нічога не хочацца... Гэта я з-за хваробы так доўга не прыкладваўся да рыльца.. А здаровы я б не вытрымаў... У мяне нерваў не хапае цвярозым доўга быць. Вельмі шмат пра што думаць пачынаю. Ты ведаеш, прыйшоў я аднойчы да гэтага... ну, што дурняў лечыць... Як іх называюць?

Аліна. Псіхіятр.

Буслай. Ага! Ён самы. Прыйшоў і кажу: прабіце вы мне чэрап і якую-небудзь жылку перацісніце, каб я меней думаў, каб дурнейшым трохі стаў, тады я піць кіну, не трэба ўжо будзе... Ты ж бачыла: вып'е чалавек чарачку, дурнее адразу, сядзіць,

усміхаецца, вачаняткі бліпічаць, жыццём задаволены, усіх любіць, усіх перацалаваць гатовы... Добры, спагадлівы... У яго душа спявае ад радасці... Чаму ж мы цвярозыя не такія?

А л і н а. Гэта самаабман. Так толькі здаецца...

Б у с л а й. Калі верыш у тое, што здаецца,— гэта ўжо не здаецца, гэта ўжо ёсць. Ну й думаю... зрабіць бы што-небудзь у галаве, каб усяго, што ёсць, не бачыў, каб усяго, што лішняе, не разумеў. Каб менш думаў і больш адчуваў...

А л і н а. Ну, і што псіхіятр?

Б у с л а й. Выгнаў. Дэгенератам абазваў і выгнаў. Кажа, людзі з сябе жылы цягнуць, маладосць сваю за кніжкамі слепнуць, каб болей ведаць, каб болей пазнаць, каб хоць крышачку наблізіцца да ісціны, а ты добраахвотна прыйшоў у дурні запісвацца. А нашто мне гэта ісціна? Людзі за той час, які яны топчуць гэту зямлю, ужо столькі навыдумлялі, ужо столькі панавыходзілі — у самай разумнай галаве не змесціцца... А хіба яны сталі шчаслівейшымі, лепшымі, чысцейшымі? Ісціна...

А л і н а. Ты ж вясковы... Адкуль у цябе гэта ў галаве?

Б у с л а й. Не ведаю. Я з вывіхам нейкім нарадзіўся. Усе мае аднагодкі жывуць сабе спакойненька, а я не жыву, а думаю... А ад думак моташна робіцца. Вып'ю, усё робіцца зразумелым, радасным і ўсе праблемы прыемнымі робяцца, прасплюся — усё спачатку.

А л і н а. Няўжо ва ўсіх, хто п'е, галава забіта гэткім тлумам?

Б у с л а й. Ды не, мабыць, не ва ўсіх... Але ўсе адчуваюць, што дрэнна, не так жывуць, таму і...

А л і н а. Зараз катлет прынясу...

Б у с л а й. І хлеба! Ты за мой жывот не перажывай. Ён у мяне цвікі перацірань можа. Прывучаны! А мо і кроплю дасі?

А л і н а. У гэтым доме не п'юць.

Б у с л а й. А каньячок?

А л і н а. Для замежнай дэлегацыі. Італьянскія пісьменнікі прыходзілі. Давялося частаваць... А так ніхто ніколі не п'е...

Б у с л а й. Музей, а не хата... Што ён хворы, твой пісьменнік?

А л і н а. Чаму хворы?

Б у с л а й. Таму што ўсе здаровыя глушаць яе дай божа...

А л і н а. На катлеты, філосаф... Еш...

Буслай есць катлеты.

Б у с л а й *(прагна жуючы)*. Дык дзе ж гаспадар?

А л і н а. Ён хутка прыйдзе...

Б у с л а й. Хачу яму сюжэцік загнаць... Рублі за тры... Было гэта ў Светлым. Ёсць у нас у новым мікрараёне прыпынак... «Безыменны» называецца... Дажылі! Ужо нечым прыпынак назваць... Ну, і насупраць гэтага прыпынку жыў кандыдат навук, лаўрэат нават... Па медыцыне... Сам вучоны, сам лаўрэат, сам доктар і сам жа хворы на гэту хваробу... Ну, калі цукру ўсюды поўна, і ў крыві, і ў унітазе... Хоць ты ім чай саладзі...

А л і н а. Цукровы дыябет?

Б у с л а й. Ага! І вось аднойчы мінулай восенню рабіў лаўрэат у сваёй кватэры рамонт... Апрануў нейкі задрыпаны пінжачок, чаравікі стаптаныя, старэнькія штаны... Твар у яго быў праставаты, вызадзец, як цяпер кажуць, і ў гэтым абліччы ханыга ханыгай... І не пераапрануўшыся выбег за нечым у магазін са сваім цукровым дыябетам... Толькі да прыпынку дайшоў — тут яно і схапіла: затрасло, ледзьве да лавачкі дабраўся... Прысеў, потым прылёг і ку-ку! Паднялі яго з лавачкі праз сем гадзін ужо задубелага... За сем гадзін ніводзін чалавек не падышоў... Кажуць, потым у труну не маглі запіхнуць... Сам вінаваты, лаўрэат... Ідзеш у магазін — апрані гальштук, а то ці мала хто валяецца... Няўжо гэта гісторыя трох рублёў не каштуе?

А л і н а. Даражэй, намнога даражэй...

Б у с л а й. Я хадзіў на гэты «Безыменны»... Пасядзеў на лавачцы, дзе кандыдат медыцынскіх навук богу душу аддаў... Сяджу, аўтобусы пад'язджаюць, ад'язджаюць, а я людзей лічу... Дзвесце чалавек налічыў! За адну гадзіну! Без старых, дзяцей, цяжарных жанчын... Дзвесце на сем... Падумаць страшна! І ўсе яго бачылі! Ну дай хоць рубель за расказ, а ён хай паспрабуе казку напісаць...

А л і н а. Я ведаю, куды пойдзе гэты рубель...

Буслай. А табе якая справа?

Аліна. Я цябе шкадую...

Буслай. Ух ты! Месяц назад вочы хацела выдраць, а цяпер ужо шкадуе.

Аліна. Я за гэты месяц як у чыстай крыніцы памылася... Дзякуючы гэтаму чалавеку...

Буслай. Ды ёлкіна маць! Што ж ён ужо за чалавек такі ваш казачнік?

Аліна. Хутка прыйдзе. Убачыш... Ад яго нібы промні цеплыні ідуць. Ты вось яго не бачыў, толькі пераначаваў у яго і ўжо не такі, якім быў раней...

Буслай. Не-е, я такі...

Аліна. У тваіх вачах боль з'явіўся...

Буслай. А што ты хочаш?.. Цэлы тыдзень хварэў, не мог зарабіць... Не зарабіўшы не вып'еш... Таму і боль... А твайму пісьменніку я не веру!

Аліна. Твая справа.

Буслай. Злосць мяне разбірае. Маеш ты машыну, жывеш утульна, ведаюць цябе ўсе... Едзеш і едзь! Ляжыць чалавек — не твая справа! Ёсць каму падымаць... Падымуць! Дык не... Спыняецца, цягне ў машыну, дадому вязе... Зірніце, які я добры! Ніхто не падняў п'янтоса няшчаснага, а я паспачуваў... Я ў ім чалавека бачу...

Аліна. Так і ёсць. Апошняе ты сказаў правільна...

Буслай. Паказуха ўсё гэта. Маральны капітал, які заўсёды можна абмяняць на звычайныя рублі і капеечкі...

Аліна. А навошта ты расказваў пра гэтага беднага лаўрэата на прыпынку? Навошта ездзіў туды, лічыў людзей...

Буслай. Каб ведаць, колькі чалавек і да мяне змогуць не падысці...

Аліна. А ты сам бы падышоў да яго?

Буслай. Шчыра?

Аліна. Шчыра...

Буслай. Не! Цвярозы б не падышоў, а выпіўшы... Калі п'яны, мне ўсіх шкада, я ўсіх люблю... У мяне ў п'янага — слёзы з вачэй ад замілавання людзьмі, дрэвамі, зямлёй... Усім-усім! *(Нечакана засмяяўся.)* А ведаеш, ён бы сам... каб можна яго было жывой вадой паліць, падняць і прывесці на гэты пры-

пынак... Ён бы сам да сябе не падышоў бы... Лаўрэат гэты... Галаву даю адсекчы — не падышоў бы!

А л і н а. Да самога сябе падышоў бы...

Б у с л а й. Ну, а да іншага? Да мяне, напрыклад?..

А л і н а. Калі ў чалавека баляць чужыя раны, ён падыдзе, спытае, дапаможа... Калі ён у іншых, як у люстэрку, сябе бачыць...

Б у с л а й. Тысяча чалавек прайшлі, і ніводзін не ўбачыў... Асляплі, аглухлі... Душу сваю закармілі так, што ўсе нармальныя чалавечыя пачуцці толькі ў п'яным выглядзе вонкі вырываюцца... А яшчэ галдзяць: чаму п'яце, чаму п'яце? Таму што вельмі ўжо цвярозыя сталі. Вельмі цвярозыя! А чалавеку хоць хвілiначку жаласлівым, добразычлівым пабыць хочацца...

А л і н а. А ці не занадта ў цябе шмат прэтэнзій да людзей?

Б у с л а й. Гэта і да сябе таксама... І ў мяне душа тлушчам заплыла... Во і п'ю з-за гэтага, і п'ю... Была ў мяне сястрычка, малодшая, Настулька... Купацца пайшла — утапілася, бедалага малая. Маці валасы на галаве рве, у бацькі скроні як снегам абсыпала за адзін дзень, а я стаю, хачу заплакаць, сястра ж родная, хачу і не магу! Здранцвенне нейкае найшло... Ды не, не! Не ад гора... Не шкада мне яе было! Разумееш? Ляжыць сястрычка, дзевяты клас скончыла, у труне, а ў мяне такія думкі: ну, яна шаснаццаць аджыла, мне ўжо дваццаць адзін, а ў шэсцьдзесят ці трохі пазней і я лягу ў гэты пенал... Ну якая розніца? Дык яна пражыла сваё каротенькае жыццё ўсхвалявана, толькі чысціню бачыла ва ўсім, а я ў брудзе вунь купаюся... Я ўжо і тады піў... І гэты самы бруд на той свет пацягну... Хто ж з нас болей выгадаў? Цвярозы быў, праўда... А на памінках выпіў, у галаву гарачы туман ударыў, заплакаў... Зірнуў на акно — сонейка чырвонае на лес садзіцца, а Настулька не ўбача ўжо гэтага... І плакаць праз сваё каханне не будзе! І першага пякучага пацалунка не будзе! І вяселля не будзе! І дзіцяці не будзе!.. Холад! Цішыня! Небыццё... Ёлкіна маць! Такі жаль сціснуў сэрца — спасу няма, ледзь адкачалі... Але гэта я п'яны быў... Прачнуўся — сорамна! Зноў тлустая душа пачуцці за горла

схапіла... Сорамна... Чаму? Перад кім? Не ведаю... Бяда наша, Алена, што мы слёз сваіх, шчырых слоў, чысціні сваёй сaромецца сталі... І з чаго гэта пачалося? Калі?..

А л і н а. Я забылася, як цябе завуць... Прабач.

Б у с л а й. Буслай... Светлае ў мяне прозвішча. Ад буслоў... Птушак зямлі нашай... Птушак шчасця...

А л і н а. Як завуць?

Б у с л а й. Андрэем...

А л і н а. Ты хворы, Андрэйка...

Б у с л а й. А то як жа... Алкаш...

А л і н а. У цябе душа хворая...

Б у с л а й. Няма ў мяне душы... Мне яе гарэлка замяняе...

А л і н а. Ён хутка прыйдзе... Раскажы яму ўсё... Усё ад пачатку да канца... Не саромся, не думай ні пра што... Раскажы! Ён здольны прывесці тваю душу ў раўнавагу...

Б у с л а й. Яна ў мяне ў раўнавазе... Як вада ў балоце... Ды і што ён можа зрабіць? Кніжку фельетонаў напіша хіба?

Асцярожны стук у дзверы.

А л і н а. Калі ласка...

З'яўляецца К р а с о ў с к і. Гадоў сорак пяць, лысаваты, спартыўнага тыпу мужчына, які сочыць за сваім здароўем і знешнім выглядам. Трымаецца трошкі нахабна, але толькі трошкі. Пра такіх кажуць: упэўнены ў сабе, але не самаўпэўнены. Вельмі часта і абаяльна ўсміхаецца.

К р а с о ў с к і *(з усмешкай, Аліне)*. Вітаю вас...

А л і н а *(трохі разгублена)*. Добры дзень...

Б у с л а й. Здароў...

К р а с о ў с к і *(да Аліны)*. Вось так стой і не варушыся... Я павінен запомніць цябе з анучай у руках у кватэры чужога мужчыны... *(Аглядае з усіх бакоў.)* Непараўнальна! Я ў захапленні! Карціна, вартая вялікага Пікасо... Колькі самабытнасці, першародства, пратэсту... Якое гарманічнае спалучэнне! Фірменная джынсавая спадніца і брудная анучa! Якая замілаваная поза! Плакаць хочацца! *(Зірнуў на Буслая.)* Та-ак... А гэта, мабыць, новы круг сяброў... *(Падае руку.)* Красоўскі. Кандыдат навук...

Буслай. Буслай... Алкаголік.

Красоўскі. Вельмі прыемна. Вы сябар гэтага дома?

Буслай. Не. Пад'есці зайшоў. Галодны я...

Красоўскі. А-а, так сказаць, пажалавалі на званы абед?

Буслай. А чаго ты?

Красоўскі. Што?

Буслай. Прыдурка з сябе строіш?

Красоўскі. Я адчуваю, што ў вас было цяжкае дзяцінства...

Буслай. У мяне ўсё жыццё цяжкае.

Аліна *(ужо зусім спакойна)*. Хопіць блазнаваць, Красоўскі. Істэрыкі не будзе.

Красоўскі. Ба! Ты падлячыла нервы?

Аліна. Душу. Душу я падлячыла...

Красоўскі. Ну, гэта амаль адно і тое ж...

Аліна. Чаго табе трэба?

Красоўскі. Не па тэорыі, дзяўчынка. Спачатку пытаюцца, як ты мяне знайшоў, а ўжо потым...

Аліна. Не блазнуй... Мне сумна і брыдка. Чаго прыйшоў?

Красоўскі. Пры нашых з табою юрыдычных і фактычных адносінах гэтае пытанне гучыць дзіўна...

Аліна. У нас ніякіх адносін ужо няма. Ды і не было. Калі не лічыць пасцелі.

Красоўскі *(да Буслая)*. Будзьце так ласкавы, шаноўны... Я муж гэтай легкадумнай жанчыны і хацеў бы пагутарыць з ёй канфедэнцыйна...

Буслай. Што?

Аліна. Ён нікуды не пойдзе. Не забывайся — гэта чужая кватэра, і ён прыйшоў не да мяне...

Красоўскі. Але, мяркуючы па анучы, ты ў нейкай ступені таксама гаспадыня... Ці толькі прыбіральшчыца?

Аліна. Ты здагадаўся. Толькі прыбіральшчыца. Бруд знішчаю.

Буслай *(да Аліны)*. Калі трэба, дык я...

Аліна. Не трэба...

Красоўскі *(падыходзіць да Буслая, дастае з кішэні пяцёрку)*. Вось, калі ласка, схадзіце ў кіно і пакаштуйце марожанага...

Аліна *(нервова)*. Красоўскі, не будзь быдлам!

Красоўскі *(усміхнуўшыся)*. Пазнаю ранейшую экспрэсію...

Аліна *(нечакана)*. Прабач...

Красоўскі *(здзіўлена)*. Што?

Аліна. Прабач...

Буслай *(глядзіць на пяцёрку, глытае сліну)*. Ад кіно ўдзень спаць хочацца... А марожанае. Гланды ў мяне! Зразумеў? Гланды!

Красоўскі. Значыць, шкодна крычаць... *(Хавае пяцёрку.)* Ну, добра... Пры сведках наша размова не набудзе экстрэмальнага характару...

Аліна *(мые падлогу)*. Слухаю...

Красоўскі. Я спадзяюся, ты не думаеш, што я з'явіўся сюды з-за бяссільнай рэўнасці ці духоўнай раны, якую ты нанесла мне сваім нечаканым знікненнем...

Аліна *(працягваючы прыбіраць)*. Я так не думаю... Далей...

Красоўскі. У мяне шмат сяброў, даражэнькая... І мне абрыдла для кожнага выдумляць легенду, дзе ты і што з табой. Драздоўскім я, к прыкладу, сказаў, што ты ў Саратаве, ля ложка паміраючай цёткі... Нібы той поп з «Дванаццаці крэслаў», Антону Кірылавічу тлумачыў, што ты паехала ў Ялту лячыць нервы... Але ты ў горадзе, я чуў, што нават ужо працуеш...

Аліна. Так, працую...

Красоўскі. Цікава ж, на якой ніве?

Аліна. У дзіцячым садзіку...

Красоўскі. Выхавацелькай?

Аліна. Нянькай...

Красоўскі. З глузду з'ехаць! Гэта ў цябе, мабыць, генная спадчына... Тут ануча, там гаршкі... Цікава, кім быў твой бацька?

Аліна. Гэткай жа сволаччу, як і ты...

Буслай. У нас у вёсцы адна цётка кожны дзень вокны мыла...

Красоўскі. А маўчаць у вашай вёсцы могуць?

Буслай. Могуць. Каровы, калі іх за цыцкі цягаюць...

Красоўскі. А быкі?

Буслай. Быкі рогі аб зямлю чэшуць...

Красоўскі *(да Аліны)*. Дык вось, цябе ў любы момант могуць сустрэць, і мне шмат чаго давядзецца тлумачыць. Я не хачу апынуцца ў пікавым становішчы. Улічы, я ніводнага разу за жыццё не трапляў у недарэчнае становішча.

Буслай. Пражыў, як у бубен адбарабаніў...

Красоўскі. Адным словам, вось што: досыць шызаваць, сядай у машыну, паедзем дадому. Вечарам паедзем на дачу да Гарухіна. Ён абараніў доктарскую...

Аліна. Я з ім спала...

Красоўскі *(не адразу)*. З кім канкрэтна? З гэтым *(кіўнуў на Буслая)* расстрыгам ці з дзеячам літаратуры, што прыгрэў цябе?

Аліна. З Гарухіным. З тваім сябрам. Толькі не трэба, не трэба рабіць выгляд, што цябе гэта хвалюе ці табе гэта не было вядома...

Красоўскі. Я ад цябе споведзі ніколі не патрабаваў...

Аліна. Дрэнна! Вельмі дрэнна. Кожнаму чалавеку патрэбна споведзь. Як святло, як вада, як хлеб...

Красоўскі. Ба! Які натхнёны выгляд. Сара Бернар! Плакаць хочацца!

Аліна. Паплач.

Красоўскі. Сарамеюся староніх...

Буслай. А хто такая Бернар?

Красоўскі. Вялікая актрыса.

Буслай. А чаму Сара?

Красоўскі. Таму што не Фрося. Ну, досыць, Аліна. Я дарую табе гэты літаратурна-драматычны ваяж, збірайся. Нам яшчэ трэба расстарацца мяса на шашлыкі. Ну? Прыгоды заўсёды тым і цікавыя, што яны калі-некалі канчаюцца...

Аліна. Скажы, Красоўскі, у цябе калі-небудзь балела душа?

Буслай. Навошта яму душа, у яго гемарой ёсць...

Красоўскі. Як ты здагадаўся?

Буслай. Па вачах. Яны ў цябе задуменныя...

Красоўскі *(дастаў ключы ад машыны)*. Усё! Паехалі... Ты ў гэтага казачніка грошы брала? Колькі? Мы пакінем іх тут на стале...

Аліна. Я нікуды не паеду...

Красоўскі. Тады адкажы, псіхапатка, чаго табе не хапала?

Аліна. Цяпла. Чалавечнасці. Веры.

Красоўскі *(іранічна)*. Надзеі і любві...

Аліна *(сур'ёзна)*. Надзеі і любві... Ты, Красоўскі, злачынца...

Красоўскі. Цікава-цікава...

Аліна. Ты з мяне, жывога чалавека, зрабіў рэч. Прыгожую, зручную рэч, якая зрэдку была табе патрэбна. Зрэдку. А калі надакучвала, ты яе не зміргнуўшы вокам сплаўляў сваім сябрам... Госпадзі! Як я вытрымала ўсе гэтыя гады сярод бруду, шчырага, бессаромнага цынізму... Вы ведаеце... Вы — нежывыя людзі... Вы мерцвякі...

Красоўскі. Што-што?

Аліна. Так... Мерцвякі... І ты, і Гарухін, і Драздоўскі... Дзеячы навукі! Вы ж нічога не робіце і ці рабілі калі-небудзь? Пляваць вам на навуку, на людзей, на саміх сябе... Зразумелі, што сэнс жыцця ў асалодзе! Вышэйшая мэта — асалода! Заплылі сэрцы, азызлі душы... Небыццё! Жывеце, як статак жывёл! Прынцыпы, прыстойнасці толькі знешне, на словах, а ўнутры...

Красоўскі. Досыць! Калі Гарухін здолеў зацягнуць цябе ў ложак, не трэба свой грэх перакладаць на іншых...

Аліна. Ён гэта зрабіў з тваёй маўклівай згоды, мой мілы... Гэтак жа, як і ты з яго Лялькай...

Красоўскі. Адкуль ты пра гэта ведаеш?

Аліна. А ён падзяліўся... Сказаў, што свабода — прыкмета нашага часу.

Буслай. Ну, браткі, вы і жывяце... Ёлкіна маць!

Красоўскі. Заткніся ты!

Буслай. А ты мне шпунт дай!

Красоўскі. Зараз...

Аліна. Пакінь яго ў спакоі. Ён не горшы за цябе і мяне. Можа, нават лепей. Проста няшчасны чалавек...

Красоўскі *(не адразу)*. Ну, добра... Мы благія, амаральныя, цынічныя... А ты сама? Калі ж ты чыстая такая, як жа гэта ў цябе атрымалася з Гарухіным?

А л і н а. Проста... Хацела стаць такой, як і вы... Замуж жа я за цябе здолела выйсці, гэтулькі год здолела жыць, як пакаёвая балонка з блакітным бантікам на шыі... Захацела эмансіпіравацца да канца! Цьфу! Слова ж якое паганае! Ну, а Гарухін заўсёды быў гатовы дапамагчы... Я думала, што доўга пакутаваць не буду. Душа прымае бруд гэтак жа, як і святасць... Анямее, і ўсё. Памрэ, іначай кажучы... Я і старалася усё зрабіць для гэтага. Вельмі ўжо цяжка жыць з жывой душой...

К р а с о ў с к і. Паслухай, ці не замнога? Раскажаш іншым разам... Пойдзем, прашу цябе...

А л і н а. Я піла гарэлку, старалася напівацца, не звяртаць ні на што ўвагі, з Гарухіным звязалася... Але... Нічога не атрымлівалася... І вось месяц назад ехала я ад гэтага тлустага вепра, сябра сям'і, ад Гарухіна... З любоўнага спаткання ехала... Цьфу! Ехала ў электрычцы і плакала... Пусты вагон... Ліхтары мільгаюць і слёзы... І тут падыходзіць ён... Зірнуў на мяне, нават не сказаў нічога, толькі зірнуў, а мяне нібы гарачай хваляй дабрыні, спагады, жаласці абдало... Дзетдом успомніўся... Была ў нас выхавацелька Лізавета Андрэеўна... Кожную нядзелю па чарзе вадзіла нас да сябе на кватэру... Малочным супам карміла... Тых, хто дрэнна вучыўся, часцей вадзіла... Я з-за гэтага двойкі старалася атрымліваць... Толькі яна так глядзела... Я ад гэтага позірку паднялася і ўсё расказала яму. Усё! І пра цябе, Красоўскі, і пра Гарухіна, пра сябе... Доўга расказвала, да самага горада... Ён выслухаў і кажа: ты ж прастытутка! Проста так, як быццам сказаў, што ў мяне прыгожыя валасы... Сказаў — і ў вочы глядзіць... Мне адразу лягчэй стала... Менавіта гэта слова мне павінен быў нехта сказаць... Ён сышоў... Я пайшла ўслед.

К р а с о ў с к і. Бяздомныя сучкі заўсёды гаспадара шукаюць...

А л і н а. Красоўскі! Так, як ты мяне абражаў раней, мяне ўжо ніхто ніколі не зможа абразіць...

К р а с о ў с к і. Ну, далей, далей...

А л і н а. Далей нічога не было... Ён прывёў мяне дадому, напаіў чаем, супакоіў, паклаў спаць...

К р а с о ў с к і. Побач?

А л і н а. Тут не тыя меркі, Красоўскі. Для гэта-

га чалавека жыццё і ўсё лепшае, што павінна ў ім быць,— святасць...

Красоўскі. Чытаў я прымітыўныя казачкі гэтага святога пісакі. Бяздарнасць! Усе кнігарні забітыя яго шэранькімі шэдэўрамі... Ніхто не купляе, і ніхто не чытае...

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Драгун.

Драгун. А вы, здаецца, прачыталі?

Красоўскі *(не разгубіўся)*. Давялося. Павінен жа я ведаць, што крэмзае чалавек, які спіць з маёй жонкай.

Драгун. Раней, наколькі мне вядома, гэта вас не цікавіла...

Красоўскі. І раней і цяпер я ніколі не дараваў абразы. Нікому.

Б'е Драгуна па шчацэ. Той збялеў, увесь напружыўся. Аліна падбегла, схапіла Драгуна за рукі.

Аліна. Саша, мілы, я прашу цябе, не трэба... Не чапай яго! Чуеш? Не чапай... Даруй яму... Табе нельга яму адказаць тут. Нельга! Хочаш... Хочаш, я стану перад табой на калені? Даруй яму...

Буслай. Яму, можа, і нельга, а я паспрабую...

Красоўскі. Ну, ну... Паспрабуй, лішэнец...

Буслай. Зараз як гваздану па разумнай лысіне — вушы адклеюцца.

Аліна. Супакойся! Ідзі, Красоўскі. Чуеш? Прэч адсюль!

Драгун *(ужо спакойна)*. Ідзіце... Я не кажу «вон», таму што гэта не мая кватэра... Ідзіце. Тое, што вы згубілі, немагчыма вярнуць ні аплявухай, ні прыгожымі словамі, ні пагрозамі... Ідзіце.

Красоўскі. Та-а-ак... Значыць, ты не пісьменнік? Памылачка атрымалася... Прыношу свае прабачэнні...

Драгун. Прабачце спачатку самому сабе. Астатнія вам даруюць...

Красоўскі *(раптам закрычаў)*. Што гэта ў вас тут?! Што! Чаму вы так глядзіце?! Я гэту вашу секту разганю! Я вам пакажу споведзі, душэўныя размовы! *(Да Аліны.)* Ану збірайся зараз жа, і паедзем! Папярэджваю: калі ты тут застанешся, у

твайго казачніка будуць зямныя непрыемнасці... Не сумнявайся, я ведаю, куды звярнуцца...

Драгун. Ніхто не сумняваецца...

Буслай. Ананімку нашрайбай... Пракурору. Маўляў, так і так... Людзі хочуць быць людзьмі. Непарадак.

Красоўскі *(да Аліны)*. Паедзеш?

Аліна разгублена маўчыць.

Драгун. Не смей, Аліна... Чуеш, не смей!

Красоўскі. Апошні раз пытаюся... Паедзеш?

Аліна. Не!

Красоўскі. Ну, добра, хрыстосікі прыпадачныя... Я вас завалаку на галгофу!

Выходзіць. Паўза.

Буслай. Дык дзе ж ваш гаспадар?..

Драгун. Ён хутка прыйдзе...

*Зацямненне.*

Хата старых Буслаеў. Маці стаіць на каленях перад пустым кутом.

Маці. Ды каб цябе чэрві не елі на тым свеце, ды каб на тваёй магілцы трава не расла, каб цябе ні неба, ні зямля не прынялі ніколі... Даруй, божухна... Ніколі нікога не праклінала... Не магу... Як жа гэта ты дазволіў, каб нейкі ірад, нячысцік паганы прыдумаў гэту поскудзь, гэта зелле праклятае на згубу, на здзек людзям?.. Усё ж на зямлі на радасць створана... Сонца свеціць — радуйцеся, дождж зямельку мые — радуйцеся, траўка-кветачкі растуць — радуйцеся, людцы! Хто ж гэта пітво прыдумаў, каб яму сваёй крывёй апрэгчыся... Сыночак мой. Ці ж дзеля таго я цябе радзіла, малаком са сваіх грудзей выкарміла, ад бяды-ліха зберагла, каб ты такую нялюдскую смерць прыпяў праз гэту атруту пякучую...

Уваходзіць Ніна. Ёй год трыццаць пяць. Прыгожая. Вясковае жыццё не паклала адбітак на яе знешнасць. Стройная, добра апранутая, прычэсаная. Гаворыць знешне спакойна, аднак бачна, колькі душэўных намаганняў каштуе гэты спакой.

Н і н а *(не адразу).* Добры дзень, цётка Маруся...

М а ц і. Для цябе, можа, і добры... Чаго прыпёрлася? Што табе трэба?

Н і н а. Дзядзька не прыехаў яшчэ?

М а ц і. Ну што, дачакалася? Вольная як птушка цяпер... Радуйся.

Н і н а. Так, мне толькі радавацца... Прыдумаць не магу, дзе, у чым і перад кім так саграшыла, што пяты год гэткі цяжар, гэткую пакуту нясу на сваіх плячах...

М а ц і. Гэта ў цябе цяжар? Гэта ў цябе пакута? Як толькі твой язык паварочваецца такія словы гаварыць, сучка ты... Ты ж яго на той свет папіхнула! Ты! Адраклася ад яго, да Міколы збегла... Яго сам-пасам з бядой пакінула, сына, крывінку яго, адабрала...

Н і н а. Вы ўсё што заўгодна кажыце, мне цяжэй не будзе... Хоць у твар плюньце... Я ледзьве не памерла гэтай ноччу, калі пазваніў участковы з Цыбулек... Здранцвенне нейкае нашло, холад па ўсім целе... Бы замерзла там, у Дубровенску, разам з ім... А можа, гэта і не ён там?

М а ц і. Каб жа... каб жа не ён...

Н і н а. Цётачка, мілая, я ж кахаю яго...

М а ц і. Мёртвых заўсёды любяць... А яму жывому твая любоў патрэбна была... Ды што там любоў! Хоць бы дапамога! А ты...

Н і н а. А што? Што я магла зрабіць? Чым дапамагчы?

М а ц і. Не кідаць аднаго! Волі вам багата далі. Я б вас, круцёлак гэткіх, што ад жывых мужыкоў бегаюць, пад суд бы, пад суд... Спакон веку такога бязладдзя не было. Чацвёра сходзяцца, васьмёра разыходзяцца! А каб і мы так! А каб і дзяды вашы так?! Што тады? Перавёўся б род людскі...

Н і н а. Я з ім пяць гадоў мучылася...

М а ц і. А я са сваім пяцьдзесят мучаюся! Ты што ж думаеш, у нас толькі купальскія кветкі ў жыцці былі? Усё было. Цярпела! Я цярпела, і ён цярпеў... Жыццё — гэта не цукерчына... Гэта жыццё! А вы ад яго толькі салодкага хочаце! А хто горкае есці будзе?

Н і н а. І я б цярпела. Калі б яго гора якое на-

паткала. Цярпела б... Я б яго з лыжачкі карміла, як дзіця малое, сваімі слязьмі кожную раніцу яго абмывала, гаршкі з-пад яго выносіла і была б шчаслівай... А такога... Ён жа і на чалавека стаў не падобны! Азызлы, вочы пустыя, начамі зубамі скрыгатаў, а днём хадзіў, як пабіты сабака... І я ж вінаватая? І мяне ж праклінаць трэба?! Эх, цётухна...

Маці. Біцца за яго трэ было! Біцца!

Ніна. З кім?

Маці. Хоць з д'ябалам, хоць з богам...

Ніна. Усё я рабіла... Усё, што толькі можна было... Ласкі жаночай пазбаўляла...

Маці. Знайшла выйсце...

Ніна. Апошні год не спалі разам. А яму на ўсё гэта напляваць! Піў, піў, піў! Гэта пахучая поскудзь усё можа замяніць: жонку, сына, маці, радасць, сэнс жыцця, будучыню... Усё! І з цвярозым размаўляла. І ўпрошвала, і пагражала, і зразумець старалася... А ён толькі адно: страшна мне, Ніна... Не ведаю, ад чаго, але страшна... Не разумела! Ну як жа было жыць далей? Цярпець, пакутаваць, як вы раіце? У мяне адно жыццё, цётка, адно! Мне хочацца жыць, радавацца, абдымаць цвярозага здаровага мужчыну... А за мае пакуты і слёзы мне ніхто не заплоціць...

Маці. Во! Вам плата за ўсё трэба... Вы за кожнае добрае слоўца хочаце па ведамасці атрымаць. Як пенсію... А вось я сваё жыццё бясплатна пражыла... І гэтулькі працавала бясплатна... І ў вайну з голаду і холаду ў партызанах бясплатна гібела... Хто ведае, ці не заплоціць мне хто-небудзь дзе-небудзь за ўсё... Ці не аддасі гэтую самую плату, якую я не чакаю і на якую не спадзяюся...

Ніна. Мы маладыя, нам пра гэта думаць нельга...

Маці. Пра ўсё трэба думаць, дзеўка, пра ўсё...

Уваходзіць Фядос Шаргаеў. Аднагодак Андрэя. Высокі, сухі, заўсёды нейкі ўрачыста-ўсхваляваны. Стан яго зразумець цяжка: нешта сярэдняе паміж лёгкай апахмелкай і хранічным пахмеллем.

Шаргаеў *(з парога)*. Вось... прыйшоў. Сэрца прывяло, такскаць... Прыйшоў, значыцца, засведчыць... І паспачуваць. Мы з Андрэем сябры былі

неразлучныя, мы з ім у лапту рэзаліся... і з урокаў разам уцякалі... І мне цяпер цяжка. Гора маё сэрца грызе, як свіння рэпу... Калі б галава не балела — заплакаў бы...

Мацi. Што ты пляцеш тут, боўдзіла драўлянае?

Шаргаёў. Спачуваю. Мне ля магазіна ўсё расказалі... Так што, калі трэба магілку выкапаць,— я тут... Дзела, праўда, невясёлае, але для Андрэя Шаргай што хочаш зробіць! Я для Андрэя сам у труну залезу, таму што чалавек ён быў з шарыкамі ў галаве і з болем у сэрцы...

Мацi. Глядзі ты! Прыляцеў крумкач на здабычу... Магілку ўжо сыну майму капаць сабраўся, каб цябе ў мурашнік закапалі! А мо гэта і не Андрэй там саўсім? А ты яму магілку?

Шаргаёў. Калі не Андрэй, я яе зноўку закапаю... А выкапаць цётка трэба... Прымха такая... Выкапаеш, як быццам смерці кукіш пакажаш... А не трэба, дай бог здароўя, я яе закапаю з радасцю... Для Андрэя я што хочаш зраблю...

Мацi. На памінкі захацелася, паганая твая душа! Сябру свайму магілку гатоў выкапаць, абы толькі бельмы заліць свае...

Шаргаёў. Не з-за гэтага, цётка... Ты мне ў сэрца стрэмку не заганяй. Шаргай, можа, розум свой прапіў, здароўе прапіў, але сумленне... Я навогул на памінкі магу не прыйсці, а магілку выкапаю... Скажы толькі дзе: побач з Настулькай ці каля дзеда з бабай?

Мацi. Пайшоў вон, ірад! А то во вазьму чапялу ды па мазгаўні тваёй дурной! Я табе выкапаю!

Шаргаёў. Не крыўдую. Таму што разумею — гора. Зямля цяперака мёрзлая, работы шмат, ломам дзяўбці трэба, а ў мяне рукі трасуцца... Адну толькі грамульку трэба... Ці рублік. І ўсё зраблю як мае быць... Ямачку акуратна і снег ад яе адкіну, каб, такскаць, утульна было і вада не замачыла...

Мацi. Во-он!

Шаргаёў. Я не за грошы, вядома, а засведчыць... І таму, што рукі трасуцца... А там ломам трэба...

Ніна *(не вытрымала, дастала з кішэні грошы).* На, нягоднік, на табе траячку, толькі ідзі адсюль... Марадзёр!

Ш а р г а ё ў. Я мо і марадзёр, але за Андрэева сябра замуж не выходзіў... *(Грошы бярэ.)* Толькі рублік, на чырвонае... Рэшту прынясу.

М а ц і *(ускочыла).* Ну, ідзі, капай! Ты ж яму ўжо пры жыцці магілку выкапаў, калі спаіваў яго ў сталоўцы штодня...

Ш а р г а ё ў. Памылачка! Частаваў ён мяне, не я... З маімі заробкамі і вераб'я не пачастуеш...

М а ц і. Ты ж яму яшчэ два гады таму і труну падрыхтаваў, і кашулю на смерць, і магілку... Ідзі, каб ты з галавы выйшаў, дарабляй сваё чорнае дзела! І вось яе забяры... Яна дапаможа! А прыйдзе яе кабель, я і яго выпраўлю на кладзішча сябруку ямі-ну капаць... Ідзіце! Пахавайце чалавека, які ад сваёй маці адарваўся, а сярод вас прытулку не знайшоў... Ідзіце!

Ш а р г а ё ў. Не крыўдую. Таму што — гора. *(Выходзіць.)*

Н і н а *(праз слёзы).* За што вы мяне гэтак? Вой, як цяжка... *(Хапаецца рукой за сэрца.)* Вой, што гэта? Я ж за ім услед магу пайсці... А Рыгорка, сыночак наш?.. Не трэба са мной так... Нават калі я і вінаватая... Усё адно не трэба... Мне не лягчэй, чым вам, цётка... Я за гэтыя гады такое перажыла — ворагу грэх пажадаць... Думала, з Міколам мне добра будзе, са школы ж кахае мяне... А мне яго каханне горай за пакаранне... Я і цяпер Андрэя вашага люблю... І Мікола гэта бачыць... Ён за гэтыя гады нацярпеўся са мной... Усё бачыць, усё разумее. Ніколі не кахала я яго, не кахаю і пакахаць не змагу... Да Андрэя маё сэрца прывязана... Не трэба так са мной...

Старая кідаецца да Ніны.

М а ц і. Заплач, чуеш, заплач... А то ў тваё сэрца зараз слёзы ўліваюцца, а гэтага не дай бог... Заплач...

Н і н а. Нельга мне плакаць. Зараз Мікола вярнуцца павінен... Не хачу, каб на яго сэрца слёзы капалі... Хай ужо на маё...

Гул матацыкла. Маці скамянела.

М а ц і. Прыехалі... Госпадзі, твая воля, праясі... Зрабі так, каб гэта не ён быў... Каб толькі не

ён... Забяры ж ты ўжо лепей мяне, а яго пакінь жыць... Дзеля чаго ж я тады жыла, за жыццё чаплялася, аддавала ўсё, што толькі магла аддаць? Мне ж цяжка паміраць будзе... Коласам пустым у зямлю лажыцца...

Н і н а. Толькі б не ён, толькі б не ён...

Уваходзяць Б а ц ь к а і М і к о л а. Бацька моўчкі пачынае распранацца.

М а ц і. Ну?

Б а ц ь к а. Што?

М а ц і. Ён ці не? Ну не маўчы ж ты, пень стары! Рэж ужо адразу...

Б а ц ь к а. Ён...

М а ц і. Ты яго сам бачыў?

Б а ц ь к а. Бачыў. У трупярню міліцыя вадзіла. Ляжыць голы, зморшчаны, счарнелы, правае вока не закрыта... Сказалі, што з Новага года пад сугробам каля дарогі... Маразы тады былі лютыя, ды яшчэ з завірухай... Адпачыць лёг... Во і адпачывае... І бутэлька ў кішэні нявыпітая размерзлася... Не папіў усю... *(Дастае струхлелы пашпарт.)* А во і пашпарт... У сельсавет трэба занесці...

М а ц і *(раптам вельмі спакойна)*. Не-е, божухна, няма цябе на свеце... Што хочаш са мной рабі, але няма цябе... *(Да Бацькі.)* Ці дужа ж страшны?

Б а ц ь к а. Гэтулькі ляжаць пад снегам... Толькі па вопратцы і пазнаў... Тут жа, у сельмагу, паліто куплялі... Ніна во яшчэ купляла... Дый пашпарт у кішэні... Па пашпарту і нас знайшлі... Пайду да старшыні машыну прасіць... Дай грошай якіх-небудзь... Труну ў горадзе абяцалі дастаць па дзяшоўцы... Ай, сынок, сынок... Грэх які раней за бацькоў смерць прымаць...

М і к о л а *(да Ніны)*. Ідзі дадому, Ніна...

Н і н а. Я тут пабуду... Мо дапамагчы што трэба будзе...

М і к о л а. Як хочаш. А дзе Рыгорка?

Н і н а. Да маці занесла...

Б а ц ь к а. З'ездзіш са мной, Мікола?

М і к о л а. Навошта?

Б а ц ь к а. Дапаможаш... Не з міліцыяй жа мне яго грузіць...

М і к о л а. Добра...

Б а ц ь к а *(да Маці)*. Маруся, схадзі да каго, каб магілку выкапалі... Злева ад Настачкі... А ўжо з дзядамі мы ляжам... Ай, сынок...

М а ц і. Шаргай ужо наняўся... І аванс узяў.

Б а ц ь к а. Ну, Шаргай дык Шаргай... Дзела такое... Пойдзем, Мікола...

Выходзяць. Старая ўздыхнула, выцерла слёзы, спакойна і ўрачыста пачала рыхтаваць хату да хаўтур. Ніна як анямелая стаіць пасярэдзіне і не зварухнецца. Маці выключае радыё, якое недарэчна гучна гаворыць у хаце, падышла да ходзікаў, спыніла маятнік, пакорпалася ў куфры, дастала дзве чорныя хусцінкі, завесіла люстэрка, тэлевізар. Ніна здранцвела назірае за ёй. І раптам крычыць, апускаецца на падлогу, плача. Старая робіць сваё.

*З а с л о н а.*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Хата Буслаеў. Усё па-ранейшаму. Радыё маўчыць, ходзікі стаяць, на люстэрку і тэлевізары чорныя хусцінкі. На сцяне з чорнай стужкай партрэт Андрэя Буслая. Пасярэдзіне стол, на ім хлеб, салёныя агуркі, сала, малако, шклянкі. З могілак вяртаюцца Мацi і Бацька, Ніна і Мікола. Марудна-марудна распранаюцца, маўчаць. А пра што гаварыць?

Бацька. Ну што, будзем сядаць, га?

Маці. Пачакаем крыху... Бульбу пастаўлю, пакуль зварыцца — Шаргай магілку закапае... Божухна ты мой літасцівы, за што ж ты на нас так угнявіўся?

Бацька. Ціха! На кладзішчы адплакала-адгаласіла, а тут нечага... Тут памінаць трэба... *(Да Ніны.)* А Рыгорка дзе?

Ніна. Да маці завяла... Змёрз на кладзішчы... Мама, мароз за вушкі кусае, апрані шапачку... Што яму тут рабіць?

Маці. Як гэта што? Як гэта што? Гэта ж яго бацька!

Бацька. Ціха, я сказаў!

Маці. І каб на чужое прозвішча яго і не думалі запісваць! Чуеце? А то ў суд завалачэм...

Мікола. Не запішам. Толькі яму ўсё адно: Андрэевічам расці ці Мікалаевічам...

Маці. Нам не ўсё адно.

Мікола. Ён не запомніць нічога... Запамінаць не было чаго... Хіба што кладзішча... Калі мароз за вушкі кусаў...

Ніна *(да Маці)*. Можа, вам дапамагчы што, цётка Маруся?

Маці. Ты ўжо дапамагла... Сядзі.

Ніна *(ледзь не плачучы)*. Цётачка...

Бацька. Сціхніце! Каб ні гу-гу! Ніхто! Моўчкі памінаць будзем. Без слоў.

Мікола. Сапраўды. Што гаварыць?

Б а ц ь к а. І ты маўчы.

М і к о л а. Буду. Што ж мне яшчэ рабіць?

Н і н а. Коля...

М і к о л а. Што, Ніна...

І маўчаць. Толькі капёж чуваць на вуліцы. Там вясна. Уваходзіць Ш а р г а ё ў.

Ш а р г а ё ў *(узрушана)*. Усё! Няхай ён нам і дзіцятку свайму сніцца... Сябар наш, такскаць, муж і бацька... Чэсць, такскаць, ад усіх добрых людзей і ад бацькоўскіх... Не, не! Ад дзядоўскіх касцей... Я ў аборку вербалозіну ссек, каля ног пасадзіў... Сонейка прыгрэе, коцікі пойдуць... Хай у цяньку ляжыць Андрэйка наш дарагі...

Б а ц ь к а. Сядаем...

М а ц і. Бульба ж не зварылася.

Б а ц ь к а. Потым падасі... Ніна, Мікола... Чаго вы адно на адно надзьмуліся, як мышы на крупы?

М і к о л а. У гонар памяці...

Н і н а. Коля...

Б а ц ь к а. Сядайце... Ды не, побач сядайце... Нічога. Ён не пакрыўдзіцца... Няма за што... Нясі, Маруся...

М а ц і. Не зварылася яшчэ...

Б а ц ь к а. Гарэлку нясі...

М а ц і. А яе няма!

Б а ц ь к а. Я ж купляў...

М а ц і. А я за хлеў выліла! Не дазволю! Атрута гэта яго ў зямлю звяла і яе ж на памінках піць? З таго свету душу ягоную заклікаць да чаркі? Не дазволю!

Б а ц ь к а. Ладна, до табе галаву дурыць... Нясі!

М а ц і. Няма! Выліла! І бутэлькі пабіла аб вугал...

Ш а р г а ё ў. Ёлкі-маталкі! Ужо ж магазін зачынілі! Што ж гэта будзе? Памінкі без гарэлкі... Грэх...

М а ц і. Перад д'яблам грэх! Перад д'яблам! Гэта ён прычапіў да роду чалавечага гэта зелле... Ён зрабіў так, што яно ідзе за ім ад першага крыку да апошняга стогну... Вось малачко, малачком памінайце! Яно з маіх грудзей, яго ў партызанах ад смерці ўратавала... Малачко святое... Яно пасля вайны галадаць яму не давала... Налівайце! *(Падышла да*

*стала, наліла з банкі малака ў шклянку.)* Хадзі, сыночак мой, малачко піці, кашу есці... Хадзі, дзетка...

П'е. Усе глядзяць.

Ш а р г а ё ў. Што ж гэта атрымліваецца? Магілку капаў, на холадзе адубеў, вярбу пасадзіў — і на табе...

М а ц і. А-а-а, нячыстая твая душа! Прызнаўся! З-за гэтай поскудзі прыйшоў сюды... Не памянуць сябрука, не слязой па ім капнуць, а назюзюкацца да ікаўкі!

Ш а р г а ё ў. І не з-за гэтага! Я магу саўсім не... Зусім. Калі захачу! Але я не кітаец, ёлкі-маталкі, не ёг індыйскі, каб сябра, з якім на адной парце сядзеў, сырадоем памінаць... *(Да Бацькі.)* Дзядзька Міцік, пазыч пяцёрку... Я ў Цыбулькі злётаю, пляшку куплю...

М а ц і. Я яе табе на галаве разаб'ю, п'янтос няшчасны! Ты ж ужо сам з чортам пад ручкі ходзіш, табе ж самому смерць у вочы глядзіць! Дапіўся...

Ш а р г а ё ў. Не крыўдую — таму што гора. *(Рашуча падымаецца.)* Пайду ў маці траячку выпрашу... І на магілцы яго памяну... Пад крыжам.

Б а ц ь к а. Сядзь...

Ш а р г а ё ў. Калі так — няхай так...

Б а ц ь к а. Сядзь, я табе сказаў! *(Да жонкі.)* І ты сядай, Маруся... Сядай... Не ў гэтым справа... Не ў гэтым...

Маці сядае. Б а ц ь к а выходзіць у сенцы, прыносіць дзве бутэлькі гарэлкі. Ставіць на стол.

Б а ц ь к а. Налівай, Мікола... Нічога, налівай... Не ў гэтым справа... Вяроўка не вінаватая, калі чалавек з яе пятлю для свае шыі зробіць... І гарэлка не вінаватая... Па мне, яна хоць рэчкай цячэ, хоць з неба дажджом льецца — нічога не прап'ю... Не было калі мне за сваё жыццё напівацца... Часцей ад гора-злыбяды п'яны хадзіў, аж хістаўся. З чатырнаццаці гадоў за гаспадара... З чатырнаццаці гадоў сям'ю кармлю... І ці толькі сям'ю?.. Калі ж тут піць? Вады з калодзежа не заўсёды быў час напіцца... А цяпер людзі перасталі сябе карміць... Толькі грошы зарабляюць, пра грошы думаюць... А пра хлеб

свой святы і думаць забыліся... Пустэча ў душы, во яны яе і заліваюць... Налівай, Мікола...

Шаргаёў. Як то перасталі? Ты мяне корміш, ці што?

Бацька. Кожны павінен ад зямлі ўсё браць... Сам... Хлеб, ваду, соль... А вы ж на сталоўкі перайшлі, забыліся пра ўсё... Вы ж у гэтых сталоўках толькі закусваеце... Во, Ніна, давалі ж вам з Андрэем кавалак зямлі... Калгас даваў... Чаму не ўзялі?

Ніна. А навошта? Мы ж даволі зараблялі, калгас кватэру даў... Навошта?

Бацька. Вось... Непатрэбна ўжо людзям зямля... І сын мой, нябожчык, ад яе адрокся... Ці ж мужчынская гэта справа бібліятэкарам быць, у клубе з бабамі песні развучваць? Сілу ж сваю аддаць трэба! Але, хай сабе на трактар не сеў, хай сабе і ў клубе рабіў... Дык хацяб кавалачак гэтай зямлі лашчыў... Не захацеў... Грошы былі... А тое, што зямелька наша чалавеку дае, ні за якія грошы не купіш... Налівай, Мікола...

Мікола. Ну гэта вы, дзядзька, дарэмна на нас... Ці толькі ж з-за таго п'юць, што на зямлі не робяць?! І ў гарадах п'юць...

Бацька. А я, Мікола, не вучоны, што ведаю, як думаю, тое і кажу... Пра горад кажаш? А хто ў ім жыве? Тыя ж, хто ўчора босымі вось па гэтай зямлі бегалі... Продкі іх спрадвеку, як ад малпаў род свой узялі, так і жылі на зямлі... Свае сілы, любоў, пот і здароўе ёй аддавалі, а яна іх карміла... Яны зямлі — зямля ім... Мір і згода была... Хлеба ўдосталь не елі, а песні спявалі... Рукі былі мазолістыя, а сэрцы чыстыя... А цяпер рукі чыстыя, а сэрцы ў мазалях. З машынамі лягчэй жыць стала... Сам чалавек ужо нічога амаль не аддае, а толькі забірае... А гэта дрэнна! Гэта ўсё адно што глытаць паветра і не выдыхаць... Што ж будзе? Лопнеш! Ды я гэта і не пра цябе, Мікола... Ты піць не будзеш... Гора шмат бачыў у жыцці... А ад гора не п'юць, ад гора плачуць... А слёзы душу чысцейшай робяць...

Мікола. Дык няўжо ж ад добрага жыцця, ад радасці гэта бяда ў людзей?

Бацька. Ад радасці і так хораша... П'юць, калі ні гора, ні радасці...

Маці. Ды што гэта вы завяліся, як на сходзе?

Б а ц ь к а. І то праўда... Чаго гэта мы? Налівай, Мікола...

Мікола налівае гарэлку. Шаргаёў хапае шклянку, падымаецца.

Ш а р г а ё ў. Хачу тост сказаць...

Н і н а. Ашалеў...

Ш а р г а ё ў. Мы сабраліся, такскаць, тут, за гэтым жалобным сталом... Родныя і блізкія... сябры, каб памянуць нашага дарагога... нашага...

М і к о л а. Замаўчы! Дзядзька, скажыце, хай ён моўчкі п'е!

Ш а р г а ё ў *(разгублена)*. Я каб па форме...

М а ц і. Сядай ты ўжо... Не словамі добрымі памінаць трэба, думкамі. Шмат сталі людзі гаварыць... Шмат...

Шаргаёў сядае.

Б а ц ь к а. Давайце...

Усе, акрамя Міколы, выпіваюць.

Б а ц ь к а. А ты, Мікола?..

М і к о л а. Не магу, дзядзька... Ні слоў, ні думак няма. Не крыўдуйце...

М а ц і. Ён жа тваім дружбаком быў... Ты ж з ім усё дзяцінства на вось гэтай печы праседзеў... З жонкай яго цяперака спіш, і думкі добрае пра яго не знойдзецца... Каб табе...

Б а ц ь к а *(грукнуў кулаком па стале)*. Ціха, ёрш тваю ў лапці! Кажы, Мікола, кажы...

М і к о л а. Жыві доўга, дзядзька Міцік... Але вось калі мне давядзецца цябе памінаць...

Б а ц ь к а. Давядзецца, дзе ты дзенешся... Не хапала яшчэ, каб я цябе памінаў...

М і к о л а. Дык вось... Калі давядзецца — плакаць буду... Як па роднаму бацьку не плакаў... Таму што ты дзеля мяне, чужога чалавека, некалі на злачынства пайшоў...

Б а ц ь к а. Кінь ты...

М і к о л а. Памятаеш?

Б а ц ь к а. Не...

М і к о л а. Гарод у нас адразу пасля вайны вы-

мак, а карову пярун забіў... Бацька хворы ляжыць, а я з голаду пухну, маці вешацца ад гора хацела... І вось тады ты паўмеха зерня з калгаснага свірну прынёс нам... На хлеб!

Бацька. Не памятаю...

**Мікола.** Ты дадому зерне ніколі ў жыцці не насіў, Андрэй таксама недаядаў, а нам прынёс... Ты ж ведаў, што ў тыя часы за гэтае горкае зерне табе магло быць! Маці хлеба напякла... Тры боханы з блішчастай карычневай скарынкай... Толькі з печы дастала — мне лусту адрэзала... Я яго гарачым еў, губы апякаючы. З таго часу кожны кавалачак хлеба мне іх апякае... Я не толькі памяну цябе словам-думкай, я дзецям сваім, калі яны і ў мяне будуць, загадаю маліцца за цябе... За той гарачы хлеб...

Бацька. Я не абразок, маліцца не трэба... Дый не памятаю я...

Мікола. Я памятаю... Ну, а пра Андрэя... Ведаю, што так нельга, ды яшчэ мне, але... Няма ў мяне добрай думкі. Няма. Што мне, добрым словам успомніць за тое, што вось яе *(кіўнуў на Ніну)* адабраў у мяне?

Ніна. Коля, апамятайся! Успомні, дзе ты!

Мікола. Адабраў проста так, яна ж непатрэбна яму была... Прыгожае — значыць, маё! Успамінаць за тое, што мучыў яе гэтулькі год?! За тое, што я цяпер яго сына кармлю-рашчу і сэрца сваё любіць прымушаю? За тое, што шчасціла яму без меры ва ўсім? І за тое, што гэтым шчасцем ён ні з кім не падзяліўся?.. За тое, што і вам толькі гора прынёс?.. Не магу.

Шаргаёў *(усхапіўся)*. Выйдзі, анархіст! Здурэў?! Так пра нябожчыка...

Мікола. А як яшчэ?

Шаргаёў. Толькі добрае...

Бацька. Чаму?

Шаргаёў. Завядзёнка такая... Па форме...

Бацька. Памерці гэта ўсе паміраюць... Медалёў за гэта не даюць. Памерці — гэта не ў космас злётаць...

Маці *(плача)*. Пень стары! Пра твайго роднага сына ды яшчэ на памінках такое, а ты... Вой, вы-

людкі! *(Да Міколы.)* Дык а чаго ж ты прыпёрся тады, калі ў цябе гэткае ў сэрцы? Чаго прыйшоў?!

Мікола. Гора ваша разам з вамі выпіць... *(П'е гарэлку.)*

*Зацямненне.*

Кватэра Максіма Пакутовіча. Вечар. Драгун адзін сядзіць каля акна. Тэлефон. Драгун здымае трубку.

Драгун. Слухаю... Не, вы памыліліся, гэта не ён... Няма... Не ведаю, хутка прыйдзе... Я — ніхто... Што раблю тут?.. На зоркі гляджу... Не, без тэлескопа... А вы паспрабуйце, вельмі цікава... Добра, перадам... *(Кладзе трубку.)*

Дзверы асцярожна адчыняюцца. Уваходзіць Буслай.

Буслай *(пахмурна)*. Хто ў церамочку жыве?

Драгун *(запальвае святло)*. Заходзь...

Буслай. Здароў!

Драгун. Прывітанне... Як жыццё?

Буслай. Як у казцы. Гадзіну таму вешаўся...

Драгун *(ашалела)*. Што-о?

Буслай. Сто! Вяроўку ў кацельнай за крук, другі канец на шыю і з катла ўніз!

Драгун. З глузду з'ехаў!

Буслай. Крук разам з цаглінай са сцяны выскачыў і я-ак гваздане па патыліцы! Ну і будуюць, ёлкіна маць! Павесіцца немагчыма!

Драгун *(не адразу)*. Ну, што сказаць? Ідыёт... І ўсё... Сядай... Есці хочаш?

Буслай. Дай выпіць!

Драгун. Есці хочаш?

Буслай. Ідзіце вы к чортавай матары са сваёй спагадай! Праведнікі! Што вы са мной зрабілі? Чаму мне так мутарна? Мяне ўжо і гарэлка не бярэ!

Драгун. Не крычы!

Буслай. Дзе гаспадар?

Драгун. Хутка прыйдзе...

Буслай. Хто ён такі? Я ж пасля той праклятай ночы як пад гіпнозам хаджу! У мяне сэрца баліць! Я галіцца пачаў!

Драгун. Падараваць электрабрытву?

Буслай. Пайшоў ты! Ты мне адкажы: адкуль

ён усё ведае? Ты тады спаў, а ён маю душу ўсю ноч на кавалачкі рэзаў, як каўбасу... Ведаеш, што ён сказаў? Чалавечая душа — крыніца! З яе павінны чэрпаць! Калі не чэрпаюць — хоць малюсенькая рučаінка павінна выліваццa... А з маёй нічога не вычэрпвалася і не вылівалася! Ані кропелькі! Яна і пачала пакутаваць! Зацвіла, памутнела... Лужынай стала, а не крыніцай! Бруднай лужынай! Сорак год хутка! Ніводнаму чалавеку дабра не зрабіў, нікога не сагрэў, ніводнага разу над чужым горам не паплакаў, дрэўца не пасадзіў! Толькі браў, грэўся сам каля іншых, з чужых дрэў галінкі ламіў... Во й дажыўся! Выйсці толькі на плошчу Свабоды, задраць галаву да месяца і завыць, як галоднаму ваўку. Чаго? Чаго ты лыбішся?

Драгун. Дай руку...

Буслай. Ідзі ты!

Драгун. Дай руку!

Буслай. Я табе па мордзе гэтай рукой дам... Табе і твайму гаспадару...

Драгун. За што?

Буслай. За праўду.

Драгун. Правільна зробіш...

Буслай. І скажы ж ты, паразіт, як усё хітра робіць! Дзесяць гадоў адно толькі і чуў: кінь піць! Не губі сябе! У цябе ж сям'я! Ты ж на чалавека не падобны! Кінь піць! А ён за ўсю ноч, што мы з ім гаварылі, ніводнага разу і не сказаў, каб я кінуў піць... За душу маю ўчапіўся, як кот кіпцюрамі... Ёлкіна маць! Я думаў, што гэтай душы ў мяне ўжо і не засталося... І ў вочы глядзіць, глядзіць... Ну, казачнік! Ну, дзед Міхед! Ты не ведаеш, чаму ён казкі піша? Чаму менавіта казкі?

Драгун. Мабыць, таму, што людзі цяпер сталі вельмі адукаваныя, разумныя, разважлівыя... І па старадаўняй звычцы з невуцтвам змагаюцца. Казкі разбураюць... Таму што казка — гэта ўвогуле няпраўда, а чалавеку ісціна патрэбна... Канечне, патрэбна... Але і казка таксама... Казка, песня...

Буслай. А я свайму сыну іх не расказваў, з жонкай ніводнай песні не спеў цвярозы... Саромеўся! Ведаеш, чым займаўся ўсё сваё пакручастае жыццё? Заробкамі! Каб дом быў, каб гарнітур быў, халадзільнік, водаправод, катлеты тры разы на

дзень... І вось дом ёсць, гарнітур купіў, водаправод правялі, катлеты жрэм... Што далей? Машыну? Можна было і машыну... А далей? Дачу? У вёсцы жывём — дача не патрэбна... Усё!!! Прыехалі, хлопчыкі... Выпрагайце коней, налівайце чаркі... Вось я яе і наліваў штодня. І дакаціўся... Каб ён згарэў, твой казачнік!

Драгун. Чаму мой? І твой ужо таксама...

Буслай. Ну, на які д'ябал ён падабраў мяне тады на дарозе? Навошта душу мне развярэдзіў? Што мне рабіць?

Драгун. Пачынаць усё спачатку...

Буслай. Дык ужо ж сорак гадоў!!

Драгун. Што зробіш, калі раней не атрымалася... Вінаваціць няма каго.

Буслай. Значыць, я ва ўсім вінаваты? Адзін я?

Драгун. А ты гэтага яшчэ не зразумеў?

Буслай. Брэшаш! І я табе дакажу... Выхоўваюць нас, рыхтуюць да жыцця, да жыццёвых цяжкасцяў і перашкод! Ці не так? Так... А дзе яны цяпер, гэтыя цяжкасці? Дзе? Пузаты дзядзя ў магазіне абураецца, што мяса не хапае? Ніколі не скажа, паразіт, што яму веры, мэты, чысціні не хапае... Мяса!!! Гэта цяжкасці? Абжорства! Нас не да гэтага трэба рыхтаваць! Жыццё дасць па зубах раз-другі, сам навучышся, дзе галаву трэба прыгнуць, а дзе зубы сціснуць. Не здохнеш! А вось да лёгкага жыцця, да таго, калі ўсё само плыве ў рукі,— ніхто не рыхтуе... Думаюць, што лёгкае лёгка пераўжыць можна! Чорта лысага! Блакаду мы пераўжывём, а вось ад сытасці перадохнем! Ты ведаеш, што мае бацькі пераўжылі на сваім вяку? Ворагу пажадаеш — бог не даруе! Але ж жылі! А я... Падумаў аднойчы: дзеля чаго ж ты, Андрэйка, жывеш? Каб нашчадкаў пусціць на свет белы? Дык гэта і жабы робяць... Каб мае дзеці жылі лепей за мяне? А што значыць лепей? Лепей елі, лепей апраналіся, утульней спалі... І ўсё? Якая ж гэта мэта? Я ж жыву лепей за сваіх бацькоў, спакойней, утульней... Чаму ж мне гэтак мутарна? Чаму ў мяне душа баліць? Ці варта ўвогуле жыць, калі шчасце чалавечае толькі ў тым, каб смачней з'есці, мець прыгожую бабу, нічога не рабіць і атрымліваць кучу грошай?.. Ці варта?

Драгун. Ведаеш што? Каціся ты са сваімі ад-

вечнымі пытаннямі далёка-далёка! Людзі жывуць не дзеля таго, каб лепей жыць, а каб лепей быць...

Буслай. Ага! Толькі іншым разам блытаюць адно з другім...

Драгун. Можа. Можа, і блытаюць. Але прыйдзе час, ён хутка прыйдзе, і яны зразумеюць, што толькі любоў, давер, спагада, глыбокая сумленнасць уратуюць іх ад пакут, сумненняў і душэўнага разладу... Што ўсе лозунгі, якія мы пішам і да якіх адносімся скептычна,— трэба прыняць! Душой прыняць! Прыйдзе час — прымем...

Буслай (*паказвае кукіш*). Во! Во з адной рукі, а во з другой... Во гэта во зразумеем, а во гэта прымем... Твой пісьменнік чудзік! І цябе зрабіў гэткім жа! Вы — чудзікі!

Драгун. Чудзік... Што ён такога асаблівага, дзіўнага зрабіў ці сказаў табе?

Буслай. Падабраў на вуліцы!

Драгун. Але ж...

Буслай. Маўчы! Нармальны чалавек праедзе міма, ну, а калі і спыніцца, дык здасць потым у міліцыю... А ён не здаў! І з табой няньчыцца, і з гэтай Алінай...

Драгун. Дык што ж тут дзіўнага, растлумач ты мне?! Звычайная чалавечнасць, звычайная спагада! Чудзік... Дафіласофстваваліся! На людзей, якія жывуць па законах сумлення, ашчаджаюць чысціню душы, не хлусяць, не прыстасоўваюцца, кажам — чудзікі... Ён пэражыў некалі тое, што і ты... Лёгка жыў, але зразумеў, што лёгка жыць — цяжкі грэх... І цяпер амаль усё аддае іншым. Так трэба! Аддаваць, аддаваць, аддаваць. Больш аддасі — спакайней спаць будзеш, радасней жыць, нават смерць сустрэнеш з усмешкай... Што ён чудзік таму, што лічыць цябе за чалавека?

Буслай. Я сябе за чалавека не лічу, а ён ліча! Навошта яму гэта? Што, яму больш займацца няма чым? Хай казачкі свае піша, а ў душу да мяне не лезе!

Драгун. Чаго ты прыйшоў?

Буслай. Сказаць гэтаму святому маразмацiку, што я яго ненавіджу!

Драгун (*не адразу*). Та-ак... Такім, як ты, мабыць, нельга пераступаць гэты парог... З табой толь-

кі ў міліцыі і размаўляць... Ідзі! Чуеш? Зараз жа ідзі адсюль!

Буслай *(злосна)*. Не, я яго пачакаю... Я і яму ўсё скажу!

Стук у дзверы.

А, вось і гаспадар! Заходзь, апостал цара нябеснага!

Уваходзіць міліцыянер. Трохі ўжо сівы, стомлены неспакойнай службай чалавек. Буслай аслупянеў.

Міліцыянер. Дазвольце?

Драгун. Добры вечар...

Міліцыянер *(зірнуў на Буслая, потым на Драгуна)*. Пакутовіч Максім Данілавіч?

Драгун. Драгун Аляксандр Пятровіч...

Міліцыянер. Гэта дваццаць шостая?

Драгун. Так...

Міліцыянер. Але ж тут, здаецца, жыве...

Драгун. Максім Пакутовіч...

Міліцыянер. Дзе ён?

Драгун. Хутка прыйдзе.

Міліцыянер. А вы хто? Яго сябар?

Драгун. Не... Пацыент...

Міліцыянер. Што-што?

Драгун. Па-цы-ент...

Міліцыянер. Вы што, хворы?

Драгун. Выздараўліваю...

Міліцыянер. Так, так... Значыцца, усё ж правільна напісалі...

Драгун. Што напісалі?

Міліцыянер. А тое, што ў гэтай кватэры розныя дзіўныя рэчы вырабляюцца...

Драгун. Правільна напісалі...

Міліцыянер. Што сходкі розныя бываюць, размовы, людзі без прапіскі жывуць... *(Да Буслая.)* Вы таксама пацыент ці ардынатар?

Буслай *(пахмурна)*. Медбрат...

Драгун. Ён ніякіх адносін да Пакутовіча не мае...

Міліцыянер. Але ж жыве тут?

Драгун. Не. Ён... Ён да мяне зайшоў... Проста так...

Міліцыянер. А вы тут жывяце?

Драгун. Як бачыце.

Міліцыянер. А дзе прапісаны?

Драгун. Паказаць пашпарт?

Міліцыянер. Дзе прапісаны?

Драгун. Вуліца Міру, сто пяць...

Міліцыянер. Чакайце, чакайце... Дык Драгун...

Драгун. Мой бацька.

Міліцыянер. Вунь яно што! Дык а чаго ж вы тут? Без прапіскі нельга...

Драгун. З прапіскай таксама. Пакуль што...

Міліцыянер. Ведаеш што, я міліцыянер, гэтыя вашы кантэксты-падтэксты не разумею... *(Да Буслая.)* А вы дзе прапісаны?

Буслай. Я...

Драгун. Няма чаго разумець. Тры месяцы таму я быў вызвалены па амністыі і за добрыя паводзіны...

Міліцыянер. Адкуль вызвалены?

Драгун. Ну, вядома ж, не з дому адпачынку...

Міліцыянер. Сядзеў?

Драгун. Не, не сядзеў. Лес пілаваў...

Міліцыянер. Пакажы пашпарт...

Драгун падае пашпарт.

Міліцыянер. За што сядзеў?

Драгун. Ні за што...

Міліцыянер. Ну-ну!

Драгун. Вы не нукайце! Я ведаю, што ў нас ні за што не садзяць... Было. Ішоў з дня нараджэння. П'яны не быў, але цвярозым таксама... Ну, і ўбачыў, што адзін даўгавязы падонак б'е дзяўчыну... Падбег, даў па мордзе. Той няўдала ўпаў — сатрасенне! Міліцыя, пратакол... П'яная бойка. Бацькуназванілі... А той сказаў: судзіце шчанюка! Закон у нас для ўсіх адзін! Дайшло да суда. І вось на судзе гэта дзяўчынка бітая заяўляе, што я хуліган, чапляўся да яе на вуліцы з цёмнымі намерамі, а калі жаніх — той хлопец жаніхом аказаўся — хацеў заступіцца, я яго прыбіў. Суддзя пытае: так было?.. А я гляджу ў вочы гэтай пявесце і сам не ведаю, чаму адказваю: так!

Міліцыянер. Ну й дурань!

Д р а г у н. Канечне, дурань... Хто ж яшчэ?.. Год і прыпаялі за дурасць. А бацька і на суд не прыйшоў. Ён у мяне прынцыповы...

М і л і ц ы я н е р. Ад крыўды да яго і не вяртаешся?

Д р а г у н. Ад злосці... Пакуль я знаходзіўся там, яна штодня, кожную секунду ў маё сэрца ўлівалася... У душы ўсё спрахла, у небыццё пайшло... Толькі злосць, толькі злосць... Я стаў нейкім дынамітным. Іскарку адну, і ўзарвуся... Ну, нічога... Вызвалілі датэрмінова... Прыехаў у горад і пачаў выношваць план помсты... Як граф Монтэ-Крыста... Папершае, з гэтай нявестай вырашыў зрабіць усё менавіта так, як яна расказвала на судзе!

М і л і ц ы я н е р. З глузду з'ехаў!

Д р а г у н. Па-другое, бацьку на вочы трапляцца як мага часцей у выглядзе затурканага няшчасцем чалавека... Але не размаўляць! Прага помсты давозіць чалавека да ідыятызму... Але мне пашчасціла... Сустрэўся зусім выпадкова з Пакутовічам... І расказаў яму ўсё... Ведаеце, яму чамусьці усё хочацца расказваць... Слухаць, мабыць, умее...

М і л і ц ы я н е р. І ён адгаварыў?

Д р а г у н. Не... Па вуху даў...

М і л і ц ы я н е р. Як?

Д р а г у н. Кулаком. Сволач, кажа, з чым ты жывеш? Ідзі ўтапіся лепей, не ганьбі зямлю, якая нарадзіла цябе... За добрую справу, за высакародства пакуту прыняў? Ну й што? Малады, здаровы, што табе гэтыя чатыры месяцы? Я ўсяго чатыры месяцы адбыў... Ну, пакрыўдзілі, кажа, не разабраліся, але ж душа твая чыстая! Навошта ж ты ў яе бруд піхаеш? Ты ж, кажа, і ў галаву не возьмеш, з якой пакутай жыве гэта няшчасная дзяўчына... Яна сама сябе пакарала на ўсё жыццё! Ты ж ёй да самай старасці сніцца будзеш... А ўжо ні кахання, ні шчасця, ні радасці з тым вылюдкам, які падбухторыў яе на хлусню, ніколі не будзе... А ты помсціць, дурань! Калі даруем — гэта страшней за помсту... Супакойся, кажа, дай сэрцу адпачыць... А покуль злосць не выйдзе — пажыві разам са мной... Во і жыву.

М і л і ц ы я н е р. Гэта як жа разумець? На кватэры, ці што?

Д р а г у н. Як быццам... Лёгка з ім. Як у мален-

стве з маці — і прылашчыць, і пасварыцца... Казкі піша...

Міліцыянер. І колькі ён з цябе бярэ?

Драгун. Што з мяне можна ўзяць? На стыпендыю жыву... Ён мяне нават корміць...

Міліцыянер. Проста так?

Драгун. Не, з лыжачкі...

Міліцыянер. А бацька ведае, што ты тут?

Драгун. Не.

Міліцыянер. Дрэнна...

Драгун. Ужо ведаю... Страшны не той, хто робіць дрэннае, а той, хто не можа дараваць гэта...

Міліцыянер. Занадта мудра...

Драгун. Гэта ён сказаў...

Міліцыянер. Чакай, чакай... А што дрэннага твой бацька зрабіў? Ты яму расказаў, як усё адбылося?

Драгун. А ён і не спытаўся. Ён паверыў прataколу...

Міліцыянер. Та-ак... А праўда, што кватэра тут не замыкаецца?

Драгун. Праўда...

Міліцыянер. Ніколі?

Драгун. Замка зусім няма.

Міліцыянер падыходзіць да дзвярэй, адчыняе, глядзіць.

Міліцыянер. Трэба ж... Ну, а калі залезе хто?

Драгун. Злодзеі, ці што? А хіба тут ёсць чым пажывіцца? Старэнькая пішучая машынка? Вось гэта лямпа? Тэлевізар? Ён яго не ўключае ніколі. Я не ведаю, ці спраўны ён...

Міліцыянер. Ну, а навошта?

Драгун. Што?

Міліцыянер. Без замка жыць? Навошта выстаўляцца? Што, ён лепшы, больш сумленны за іншых?

Драгун. Не. Ён лічыць, што людзі дабрэйшыя, чым ёсць... І трымае дзверы адчыненымі... У сваю хату і ў душу. А раптам хто зойдзе?

Міліцыянер. А ён нармальны? Як ты лічыш?

Драгун. А мы з вамі нармальныя? Як вы лічыце?

Міліцыянер. Ладна, чорт з вамі! Я праверыў пісьмо, што на яго накрэмзалі,— лухта! Гарэлкі не п'яце?

Буслай. Пілі б... Не даюць.

Міліцыянер. Ого! Загаварыў. А я думаю, чаму гэта ён такі задуменны і маўклівы?

Буслай. Сказаць няма чаго.

Міліцыянер. А бабы сюды ходзяць?

Драгун. Жанчыны ходзяць...

Міліцыянер. Ім можна. Ну, а што без прапіскі... Лічы, што я ў цябе пашпарт не глядзеў... Толькі да бацькі ўсё ж схадзі... Ты і сам хлопчык, я бачу, не цукровы... Шмат ад людзей патрабуеш... Трэба ад сябе патрабаваць.

Драгун. Ну во... Дзесяць мінут пабылі ў кватэры і ўжо загаварылі, як пісьменнік Пакутовіч...

Міліцыянер. Як міліцыянер я гавару, як міліцыянер...

Драгун. Вас бацька прыслаў?

Міліцыянер. Служба мяне прыслала. Сігнал. Ты не ведаеш, чаму людзі не любяць адзін аднаго?

Драгун. Ведаю. Таму што сябе не любяць.

Міліцыянер. Та-ак... Чым там яшчэ абураўся сумленны грамадзянін? А-а... Дае прытулак алкаголікам і іншым цёмным асобам... *(Усміхнуўся.)* Вось навучыліся людзі пісаць! Ну, а гэта як?

Драгун. Праўда. Недзе месяц таму ноччу падабраў на вуліцы чалавека і прывёз дадому. Не даў змерзнуць, прасцей кажучы... А ў чым тут крамола? Нават калі і цёмная асоба, дык што: лепей пакінуць яе здыхаць у гурбе снегу?

Міліцыянер. Ну ладна, ладна... Вух, вожык! Я ж нічога не кажу... Правільна зрабіў, што падабраў. А то вунь аднаго мне ўчора давялося падымаць... Усю зіму праляжаў пад снегам. Бацька родны прыехаў — пазнаць не мог... Паліто яго, кажа, пакажыце, тут і глядзець няма на што! Зірнуў на паліто, на пашпарт, далётаўся, кажа, бацян... Зламаў крылы...

Драгун. Чаму бацян?

Міліцыянер. Прозвішча ў яго такое мудрагелістае было... Як гэта? Ну, бацян, толькі неяк інакш...

Буслай. Бусел...

М і л і ц ы я н е р. Во-во! Буслай... Я яшчэ падумаў: як быццам і наша прозвішча, а быццам і не... Рэдкае...

Б у с л а й *(раптам нервова зарагатаў)*. Ха-ха-ха!

М і л і ц ы я н е р. Чаго ты?

Б у с л а й. А адкуль ён?

М і л і ц ы я н е р. З Цыбулькаўскага раёна.

Б у с л а й *(дзіка смяецца)*. Бэра!!!

М і л і ц ы я н е р. Ты ведаў яго, ці што?

Б у с л а й. Не-а! *(Смяецца.)* Гэта я... так...

М і л і ц ы я н е р. А чаго ты рагочаш?

Б у с л а й. Ды бацька яго... смешна так... Далётаўся бусел... Зламаў крылы...

М і л і ц ы я н е р. Што тут смешнага?

Д р а г у н *(сам сабе)*. Жах! *(Міліцыянеру.)* Ну, а пахаваць яго паспелі?

М і л і ц ы я н е р. Наўрад! Учора вечарам толькі забралі...

Д р а г у н. А як вы даведаліся, што ён з вёскі?

М і л і ц ы я н е р. Дык я кажу, пашпарт у кішэні быў... Прапісаны ў вёсцы, а бадзяўся чамусьці тут...

Д р а г у н. Зразумела...

М і л і ц ы я н е р. Ну, ладна, будзь здароў. Перадай гаспадару, хай замок паставіць... І начаваць абы-каго не пускае... А то і вышэй напісаць змогуць. І каб да бацькі схадзіў, а то я выселю цябе адсюль... *(Буслаю.)* Да пабачэння...

Буслай у адказ нервова смяецца. М і л і ц ы я н е р выходзіць.

Б у с л а й. А гэта ж я... Мяне... хаваць будуць... Чуў? Ты ўсё чуў? Зламаў бусел крылцы! Нябожчык!

Д р а г у н. Ды кінь ты! Мабыць, аднафамілец...

Б у с л а й *(дрыжачым голасам)*. Не! Не! Паліто ў нас было адно на двух... Сваё ён прапіў...

Д р а г у н. Хто?

Б у с л а й. Бэра! Я ў яго ў кацельнай жыў... Аднойчы з раніцы рубель нашкрэблі на бутэльку «чарніла»... Бяжы, кажу, Бэра... Ён паліто і апрануў... А ў паліто пашпарт... Я ўжо і забыўся пра яго... Пайшоў, і з канцамі... І дзень няма, і два... І ўсю зіму...

Д р а г у н. А хто ж працаваў замест яго?

Буслай. Я...

Драгун. Чакай, чакай... Але ж усю зіму... Ён жа ў ведамасці распісвацца павінен быў... Няўжо не спахапіліся?

Буслай. Я і распісваўся заместа яго... А ён заместа мяне пад гурбай снегу ляжаў... Нябожчык я!

Драгун. Ды не, не можа быць... Супадзенне, мабыць...

Буслай. Прозвішча! Пашпарт без прапіскі! Раён! І Бэра прапаў! Нябожчык я! Нябожчык! Госпадзі! Маці сястру пахавала, і зноў хаўтуры ў хаце! Што ж з ёй будзе? Ма-ма!!

Драгун. Ну, Федзя Пратасаў! Ну... Зараз жа едзь дадому! Неадкладна! Ён сказаў, што забралі толькі ўчора... Можа, не паспелі яшчэ? *(Кінуўся да тэлефона, набірае нумар.)* Алё! Дзяўчына, мілая, прышліце тэрмінова таксі... Як праз гадзіну? Вы што? Чалавеку дрэнна! Я ведаю, што вы не «хуткая дапамога», але зразумейце... *(Паклаў трубку, сумна.)* Зразумела... *(Зноўку набірае нумар.)* Добры вечар... Паклічце, калі ласка, Аліну... Добра, пачакаю... *(Буслаю.)* У цябе грошы ёсць?

Буслай *(разгублена)*. Дзве капейкі... Толькі пажарнікам пазваніць.

Драгун *(дастае з кішэні дзесятку)*. На!

Буслай. Апошняя?!

Драгун. Бяры, ёлупень! Хопіць?

Буслай. Не ведаю...

Драгун. Колькі кіламетраў?

Буслай. Да Цыбулек сто... А там пабач...

Драгун. Зразумела... *(У трубку.)* Аліна? Гэта я, Драгун. Слухай уважліва: каля вашага садзіка, здаецца, прыпынак таксі... Зірні, стаяць машыны ці не? Стаяць? Хапай машыну і неадкладна прыязджай да Пакутовіча... Не, з ім усё нармальна... Нашаму філосафу дрэнна... Я табе потым усё растлумачу... Што? Сама не зможаш прыехаць?.. Ну добра, добра... Збегай на прыпынак і назад... Грошы ў цябе ёсць? Колькі? Аддай шафёру ўсе, упрасі яго ў Цыбулькі злётаць... Потым, Аліна, потым... Чакаем машыну. *(Паклаў трубку.)* Зараз паедзеш... Тут пабач... Ашалець! У кіно такога не бывае...

Буслай *(раптам заплакаў)*. Не крыўдуй на мяне...

Драгун. За што? Чаго ты румзаеш?

Буслай. За тое, што я гаварыў тут пра нашага казачніка... Сволач я! Нябожчык!

Драгун. Ладна! Не да гэтага цяпер...

Буслай. Ён, мусіць, сапраўды святы... І вас зрабіў святымі...

Драгун. Усе людзі на зямлі святыя... Толькі забываюць пра гэта... Значыць, так: прыедзеш, глядзі, адразу дадому не заходзь... З глузду ўсе з'едуць... Зазірні спачатку да каго-небудзь з суседзяў...

Буслай. Добра... Грошы я вам прышлю... Зараблю і прышлю...

Драгун. Як ведаеш... *(Падыходзіць да сцяны, адчыняе бар, налівае вялікую чарку каньяку.)* На, выпі...

Буслай. Не буду!

Драгун. Пі, табе кажуць, а то чокнешся, пакуль даедзеш...

Буслай. Ён жа сказаў: грэх перад прыродай... Злачынства...

Драгун. Калі не трэба — грэх, а калі неабходна — грэх не выпіць... Давай!

Буслай п'е. Драгун глядзіць на вуліцу праз акно.

Драгун. Машына! Пайшлі!

Буслай. Дзякуй... Дзякуй вам...

Выходзяць. Праз некаторы час Драгун вяртаецца. Паўза. Драгун сядае ў крэсла, пра нешта думае. Потым здымае трубку тэлефона, набірае нумар.

Драгун. Добры вечар... Гэта кватэра Драгуна? Прабач, тата, я ўжо забыўся твой голас... Прабач мне... Недалёка... Так, у горадзе... Мне можна прыйсці? Ты, можа, не так зразумеў мяне? Я кажу — прыйсці зусім, дадому прыйсці... Не, машыну не трэба... Я пехатой... Ведаеш што: завары, калі ласка, чаю... Вялікі чайнік у васільках... Разбіўся? Ну, усё адно завары... Каб на ўсю ноч хапіла... Толькі чай... Піць мы не будзем... У мяне і так шмат туману ў галаве... Я — хутка...

Паклаў трубку, хуценька сабраў свае рэчы, прысеў на хвілінку, абвёў позіркам кватэру, выключыў святло, выйшаў. Звініць тэлефон.

*Зацямненне.*

Вёска. Шаргаёва хата. Амаль такая ж, як і хата Буслаёў. Нікога няма. За вокнамі шапоча дождж. Уваходзіць Б у с л а й. Ён увесь мокры, без паліто і шапкі. Цвярозы.

Б у с л а й *(спыніўся каля парога)*. Добры дзень у хату...

Ніхто не адказаў. Буслай падышоў да печы, рукамі і тварам прытуліўся да яе.

Ах ты, мая родненькая... Цёплая, ласкавая, белая...

Пастаяў, падышоў да стала, узяў акраец хлеба, есць. На вуліцы чуваць песню. Ш а р г а ё ў вяртаецца з памінак.

Ш а р г а ё ў *(уваходзіць п'яны-п'яны)*.

А-а-а-аб ёй мне баюць казкі-сны
На лі-іпе бусел клёкатам
І крык вароненых грамад
На могілкавым кладбішчы...

Б у с л а й *(паклаў хлеб)*. Здароў, Фядос...

Ш а р г а ё ў. Здароў... Лье, падла, у трыццаць струменяў з пырскамі... Вясна... Зямля піць просіць... Туман снег з'есць і траўк... траўк... аў... аў...

Вочы ў Шаргаёва палезлі на лоб. Аслупянеў. Хаўкае ротам, спрабуючы нешта сказаць.

Б у с л а й. Фядос! Слухай, Фядос...

Ш а р г а ё ў. Каў... каў...

Б у с л а й. Хопіць каўкаць, я зараз усё растлумачу.

Ш а р г а ё ў *(глядзіць вар'яцкімі вачыма)*. І не баюся! Таму што цябе няма... Няма цябе! *(Замахаў рукамі.)* Кыш! Кыш, нячысцік... Ну выпіў трохі залішне — во і мроіцца ўсялякі опіум для народа... Кыш!

Б у с л а й. Ты пазнаў мяне? Гэта ж я...

Ш а р г а ё ў. І не баюся! Я ўжо і чарцей надоечы бачыў... Зялёненькіх! У місцы з агуркамі Лявоніху гоцалі... Гарэлка ўсё... Ідзі, адкуль прыйшоў...

Б у с л а й. Куды ісці?

Ш а р г а ё ў. Дадому, на кладзішча... А мяне не чапай... Я табе магілку выкапаў як мае быць... Пастараўся... Крыж там, вярбу пасадзіў, каб цянёк... Спяшаўся, праўда, каб на памінкі не спазніцца... Грэх, ведаю...

Б у с л а й. Жывы я, разумееш, жывы!

Шаргаёў заплюшчыў вочы і доўга трос галавой. Расплюшчыў вочы.

6 Зак. 3075

Буслай. Фядос...
Шаргаёў. Людзі-і-і!!!
Буслай. Цьфу!

Шаргаёў падбег да парога, дзе стаялі вёдры з вадой. Зачэрпаў кружку, выліў на галаву. Зірнуў на Буслая. Той не знікае. Шаргаёў зачэрпаў другую, зноў выліў.

Буслай. Ну, ачуняў?
Шаргаёў. Хто ты?
Буслай. Андрэй я... Андрэй Буслай...
Шаргаёў. Хто цябе выкапаў?
Буслай. Як выкапаў? Адкуль?
Шаргаёў. З магілкі... Ты памерлы... Я цябе закапаў паўдня назад...
Буслай. Гэта памылка, Федзя! Во ж я стаю, размаўляю з табой...
Шаргаёў. І ўшчыпнуць мяне можаш?
Буслай. Магу.
Шаргаёў. Ушчыпні...

Буслай падыходзіць, шчыпае яго за руку.

Шаргаёў. Гы! Баліць!.. А памацаць цябе можна?
Буслай. Мацай, прыдурак...

Шаргаёў мацае.

Шаргаёў *(здзіўлена)*. Цёплы... Дык як жа гэта? Чакай! Як цябе завуць?
Буслай. Я ж табе казаў...
Шаргаёў. Кажы, як завуць, зараза!
Буслай. Андрэем...
Шаргаёў. А маці як завуць?
Буслай. Чыю?
Шаргаёў. Тваю...
Буслай. Ды чаго ты дапытваеш мяне?
Шаргаёў. Кажы, а то хрысціцца пачну! Я хрышчоны, мне можна!
Буслай. Марусяй — матку, бацьку — Міцікам, цябе, дурня,— Фядосам, старшыню сельсавета — Патапчуком!
Шаргаёў. Патапчука знялі...
Буслай. Што яшчэ?
Шаргаёў. Дай мне ў вуха.

Буслай. Ідзі ты!

Шаргаёў. Ну дай, я, можа, кеміць пачну... Я ж, такскаць, толькі-толькі з тваіх памінак прыйшоў... Усё як мае быць... Пасядзелі, памянулі, выпілі за ўпакой...

Буслай *(ашалела)*. Вы чужога чалавека пахавалі, а не мяне!

Шаргаёў. Як гэта? Цябе ж тыдзень назад міліцыя мёртвага знайшла ў Дубровенску...

Буслай. Гэта яны не мяне знайшлі... Толькі паліто маё. Вось жа я, вось!

Шаргаёў. Бачу... І не разумею... Калі ты здань, дык павінен быць халодным, а ты цёплы... А ўсё было як мае быць... Бацьку пасведчанне аб смерці ў сельсавеце выпісалі... У Дубровенску пісаць не згадзіліся, таму што пашпарт знайшлі, а ў пашпарце прапіска: нашы Калодзічы... Так што ты не залівай... Мы цябе правільна пахавалі... Па форме...

Буслай. Ну, а маці? Бацька? Ты?! Няўжо вы не разабраліся, што гэта не я?!

Шаргаёў. Дык ты ж сапсаваны быў ушчэнт... Усю зіму пад снегам... І труну нават не адчынялі... Толькі партрэт паставілі зверху...

Буслай. Ды не я гэта!! Не я!!!

Шаргаёў. Можа, і не ты, можа, і ты... На пашпарце быў? Быў... Паліто тваё? Тваё...

Буслай. Госпадзі! Жывога пахавалі!.. На кладзішча адвезлі... У зямлю закапалі... Жывога...

Шаргаёў. А ты не перажывай... Усё як мае быць! Па форме... Касцюм табе купілі за сто пяцьдзесят рублёў, гальштук у крапінку, чаравікі мадняцкія... Мяне, такскаць, як сябра твайго, магілку папрасілі... Я пастараўся... Роўненька, глыбока... Там труна старая нечая трапілася, дык я яе акуратненька абышоў, дно лапнікам заслаў, каб табе, такскаць, утульна там было, ёмка, суха...

Буслай *(істэрычна)*. Га-а-ад!!

Б'е Шаргаёва па твары. Той пакаціўся па падлозе. Так-сяк падняўся на калені.

Шаргаёў *(заплакаў)*. Ну, за што ты мяне? За што? Сам ведаю... усё... пра сябе... Ведаю, што нельга сябруку сваймў магілку капаць... Грэх. Але выпіць, Андрэйка, хацелася выпіць... Ведаў, што да-

дуць... Калі гора — людзі шчодрыя на ўсё... І на грошы і на сэрца... Ведаў, што і на памінкі паклічуць... Вось таму і ўзяўся за рыдлёўку... І сорамна не было... Я нейкі парог пераступіў, а дзверы за мной хлоп: і зачыніліся. Я ж ужо не жыву, а так... смылею, як галавешка... Ад чаркі да чаркі... Маці пасівела, жаніцца не змагу ўжо, грошай мне не даюць, толькі распісваюся ў канторы. Шаргаём дзяцей пужаюць... За што ты мяне? Я, можа, нават табе і зайздрошчу, таму што ты ўжо адмучыўся... Ты ўжо там... Табе лёгка...

Буслай. Матухна, мілая мая! Што ж гэта?

Шаргаёў *(плача)*. Смерць, Андрэйка... Сука ты касая... Твая матка праўду мне сказала: глядзіць яна мне ў вочы... Вой, глядзіць.... Учора, калі табе магілку ўжо выкапаў, сеў на дне на лапнічак пакурыць... Зверху вецер сцюдзёны, макрэча, неба шэрае за зямлю чапляецца, а ў яміне ўтульненька, ціха, ціха... Гліна жоўценькая, лапнічак зялёны, зямлёй пахне... І думаю сабе: а мо тут і лепей?.. Га, Андрэй?.. Мо і лепей?

Кладзецца на падлогу і засынае. Буслай, скамянелы, стаіць сярод хаты.

Хата Міколы. Ужо ноч. Стол. На стале бутэлька. Буслай з атупелым выглядам сядзіць насупраць Міколы. Той не міргаючы глядзіць на яго.

Буслай *(расказвае дрыжачым голасам)*. Паліто маё апрануў і пабег... Пайшоў, і з канцамі... Я яго ўсю зіму чакаў... А яно вунь як атрымалася...

Мікола. Ну, а сям'я? Сваякі? Няўжо яго ніхто не шукаў?

Буслай. Якая сям'я, Мікола? Якая ў такіх, як мы, сям'я? Бабка ў яго адна была... Сектантка нейкая... Заявіла ў кантору, што п'яніца ўнучак, грошы ёй пасылалі, а яна яму па пошце трыццатку ў месяц пасылала на хлеб... А мы заместа хлеба «чарніла» пілі... Як быццам калі грошай чалавеку не даваць, ён і піць не будзе... Яшчэ больш будзе... Я і думаў, што ён да гэтай бабкі задаў лататы і моліцца разам з ёй... А ён... Памяняліся мы з ім месцамі... Што я перажыў, Коля, за гэтыя гадзіны, не дай бог... Чуць не чокнуўся...

М і к о л а. Дадому не заходзіў?

Б у с л а й. Ты што? Да Шаргая зазірнуў толькі... Я яшчэ ў горадзе выпадкова пра ўсё даведаўся... Агародамі прабіраўся па вёсцы, каб ні з кім не сустрэцца... Хацеў Шаргая папрасіць, каб да нас схадзіў, растлумачыў... Але ў яго вочы зусім залітыя... Налізаўся на памінках.

М і к о л а. Ён табе магілку капаў...

Б у с л а й. Ведаю... Як жа маці паказацца? У яе ж сэрца разарвецца... Ты вунь ні ў бога, ні ў чорта не верыш, а да гэтага часу белы як палатно... Як жа гэта вы так?

М і к о л а. Мы? А ты?

Б у с л а й. Што пра мяне казаць...

М і к о л а. Не крыўдуй, але я нават узрадаваўся тваёй смерці...

Б у с л а й. Ды не маёй! Гэта Бэра...

М і к о л а. Прабач... Вось, думаю, і ўсё... Скончыліся мае пакуты, мой боль... Дзесяць гадоў сэрца балела... Дзесяць гадоў! Калі на вяселлі тваім з Нінай гуляў...

Б у с л а й. Дзе яна?

М і к о л а. Да маці пайшла начаваць...

Б у с л а й. І Рыгорка з ёй?

М і к о л а. З ёй... І калі Рыгорка ў вас нарадзіўся, і калі бачыў, што яна хадзіла заплаканая... І калі прыйшла да мяне — таксама балела! Ну скажы, ці любіў ты яе калі-небудзь хоць кропельку?

Б у с л а й. Не. Каб любіў, я б да такога не дакаціўся. Любоў чалавека ад усяго ратуе. Нікога я не любіў...

М і к о л а. Ужо два гады разам жывём... Я ёй сэрца сваё на патэльні падсмажыць гатовы, а яна цябе кахае... Цалую, лашчу яе — вочы закрывае, каб цябе на маім месцы ўявіць... За што? Чым ты заслужыў гэта? Чым? Чым я не заслужыў? Ну хіба я горшы за цябе?

Б у с л а й. Лепшы, Мікола, лепшы, таму і не заслужыў... Мяне ўсе шкадавалі і заўсёды... А любоў з жалю пачынаецца...

М і к о л а. А чаму мяне ніхто не пашкадуе?! Толькі таму, што не п'ю? Таму, што нармальны чалавек? Але ж і ў мяне жывое сэрца! І ў мяне душа баліць... Я ж яе са школы кахаю...

Буслай. І скажы дзякуй богу, што кахаеш... Шчаслівы не той, каго, а той, хто кахае... Вось як ты... У цябе штодня душа працуе, дзейнічае... А дзеянне — жыццё, вечнае аднаўленне... Прасі лёс, каб не ўсё ў цябе гладка атрымлівалася... Каб зрэдку ён табе гора пасылаў... Гора робіць чалавека больш чыстым... Праз сваё гора зірнеш на людзей і пашкадуеш... А я вось нікога не пашкадаваў. Не разумеў! Хацеў, каб толькі мяне шкадавалі і разумелі... А душа, яна не дурніца! Яна свайго патрабавала... А я яе глушыў гарэлкай! Толькі хто я такі ў параўнанні з душой?! У ёй увесь наш сялянскі род сядзіць: справядлівы, чысты, мудры, цвярозы... Мае хаўтуры даўным-даўно адбыліся, а не сёння па памылцы... Заснула душа... Яна не можа, каб нікога не пашкадаваць, каб толькі цябе шкадавалі! Яна не можа гэтага вытрываць...

Мікола. А цябе і зноўку шкадаваць будуць. Ніна даведаецца, што ты жывы,— ратаваць пабяжыць... Змагацца за цябе... Яна ж вінаватай сябе лічыць, што не зберагла цябе...

Буслай. Чалавек сам сябе павінен зберагаць... Жывіце спакойна...

Мікола. А я зноў адзін застануся са сваім шчасцем-каханнем... Зноў!

Буслай *(нахіліўся да Міколы)*. Міколка, прабач ты мне...

Мікола. Ці толькі ты ў гэтым вінаваты? Як усё несправядліва на свеце...

Буслай. Я не пра тое... Мне ва ўсяго свету прабачэння прасіць трэба... Я перад усім светам вінаваты... Дык пачну ўжо з цябе. А заўтра, калі ўсё ўтрасецца, пайду за вёску на поле... Памятаю з маленства адно: чырвоны камбайн плыве па збажыне, а мы за ім па ржышчы босыя бяжым... Сонца гарачае... І рабыя каровы каля жоўтых коп... Што ж гэта сталася з намі? Чаму ж я заблудзіўся? Прыйду на гэта поле, знайду прагаліну, стану на калені, пацалую зямлю і буду ў яе прабачэння прасіць... А мо і даруе, а мо параду дасць... Няма іншага выйсця... Няма...

Ляпнула клямка, адчыняюцца дзверы, уваходзіць Маці. Буслай здрыгануўся да страху, закрыў твар далонямі.

М і к о л а *(збялеў)*. Што? Што, цётка Маруся?

М а ц і. А дзе Нінка?

М і к о л а. Да маці пайшла начаваць... Кажа, пажыву дзень-другі ў маці... Цяжка ёй тут са мной... Я разумею...

М а ц і *(кіўнула на бутэльку)*. Памінаеце?

М і к о л а *(нервова)*. Ага, памінаем...

М а ц і. Мікола, не крыўдуй ты на мяне, дурніцу старую... Ад гора ў мяне галава і сэрца здранцвелі... Ад гора...

М і к о л а. Што вы, цётухна? За што крыўдаваць?

М а ц і. За тыя словы, што на цябе казала сёння... Даруй мне... Усё, што ты казаў,— чыстая праўдачка... Толькі хіба ж маці яе слухаць?..

М і к о л а. І вы мне даруйце... Не стрымаў я сёння свой боль... Вырваўся ён...

М а ц і. А пра яго не варта думаць блага... Добрым успомніць нямашака чым, дык хоць ужо саўсім не ўспамінай... Хай ён там ляжыць спакойна... Добра?

М і к о л а. Добра...

М а ц і. Ну, а паслязаўтра на тры дні прыходзьце... Разам з Нінай... І Рыгорку прывядзіце... Хоць за сталом пасядзіць. Мне лягчэй будзе...

М і к о л а. Добра, добра, цётка...

М а ц і *(да Буслая)*. І ты, дзетухна, прыходзь... Ведаў жа, мабыць, Андрэя нашага?..

Б у с л а й *(запалым голасам, не адымаючы далоняў ад твару)*. Ага...

М а ц і. Прыходзьце, дзеткі... Хочацца ж, каб усё як у людзей было...

Выходзіць. Паўза. Буслай павольна-павольна адымае далоні. На яго твар страшна глядзець. Мікола кідаецца да яго.

М і к о л а. Андрэй! Ты што? Ты чуеш мяне? На, на выпі... *(Дрыжачымі рукамі налівае гарэлкі, спрабуе выліць у рот Буслаю. Гарэлка разліваецца.)* Нічога... Я зараз яе даганю, растлумачу... Тут я не мог! Яна б не вытрымала... Андрэй!!

Б у с л а й. Вось... Вось яна, адплата... За ўсё!

М і к о л а *(апранае паліто)*. Я зараз, зараз...

Б у с л а й *(раптам імпэтна кінуўся на яго, павіс*

*на руках)*. Стой! Стой, Мікола... Не трэба нічога! Не трэба! Так павінна быць... Няхай усё так і будзе! Адплакала-адгаласіла, ёй жа цяпер лягчэй будзе... І табе, і Ніне, і бацьку... Усім! Досыць... Магілка мая ёсць на кладзішчы, пасведчанне аб смерці ёсць! Навошта ж вам зноў пакуту на плечы ўзвальваць? У мяне толькі адна дарога... Адна... Туды, у небыццё! Я свой парог пераступіў... Я жыў не па-людску, дык хоць памерці трэба, каб вам спакойней жылося... Хоць смерцю адплаціць вам за ўсё... Хоць апошні крок добра зрабіць...

Мікола. Што ты мелеш?

Буслай. Бэру шукаць ніхто не будзе, мяне не знойдуць... Я так усё зраблю, што ніколі не знойдуць...

Мікола. Пусці!

Буслай. Я толькі да Шаргая заходзіў... Ён п'яны, падумае, што прыснілася ўсё, а ты не кажы нікому... Га, Мікола? Я цвярозы сёння...

Мікола *(злосна)*. Гад! Гад ты! Ты што мне прапаноўваеш? Я лепей здохну ад уласнага гора, бабылём памру, чым вазьму такое на душу! Пусці, свалата!

Адпіхнуў Буслая, выбег... Той сеў на падлогу, нейкі час нерухома сядзеў, потым падняўся, пачаў нешта шукаць на стале. Яго позірк спыніўся на ручніку, якім быў прыкрыты хлеб. Буслай цягне яго да сябе. Ручнік вузкі і доўгі. Буслай ліхаманкава скручвае яго і робіць пятлю. Потым падыходзіць да стала, налівае поўную шклянку гарэлкі, падносіць да твару, хоча выпіць, але раптам шпурляе шклянку з гарэлкай на падлогу. Шклянка разбіваецца. Буслай ідзе да дзвярэй. З другога пакоя выходзіць заспаны Рыгорка.

Рыгорка *(у яго вочы яшчэ не расплюшчыліся)*. Татка...

Буслай здрыгануўся. Зірнуў на хлопчыка.

Буслай. Рыгорка... Сыночак мой...

Рыгорка. А дзе мой тата Коля?

Буслай. Я ж твой... *(Схамянуўся.)* Ён пайшоў... На вуліцу пайшоў...

Рыгорка. Ваўкоў праганяць?

Буслай. Ага... Ваўкоў...

Р ы г о р к а. І мамка ваўкоў ганяе?..

Б у с л а й. І мамка...

Р ы г о р к а. А ты чаму не пайшоў ганяць?

Б у с л а й. Не ўмею...

Р ы г о р к а. А што ты ўмееш?

Б у с л а й. Сабакам сена касіць... Толькі сабакам сена касіць...

Р ы г о р к а. А сабакі сена не ядуць...

Б у с л а й. А я вось кашу...

Р ы г о р к а. А я цябе ведаю... Ты сёння ў скрынцы ляжаў у бабы Марусінай хаце... І яшчэ на карцінцы з чорнай стужкай быў... Карцінка на скрынцы стаяла... Баба Маруся плакала, і мама плакала і цалавала мяне, а яшчэ цябе ў лес вазілі і ў ямку закапвалі... А ў мяне шапку адабралі... мароз за вушы кусаўся... А ты ўцёк з ямкі?

Б у с л а й. Уцёк... Толькі ты не бойся мяне...

Р ы г о р к а. А я і не баюся... Холадна табе там было?

Б у с л а й. Дзе?

Р ы г о р к а. У ямцы...

Б у с л а й. Холадна, сыночак, холадна...

Р ы г о р к а. А ты схавайся, каб цябе не знайшлі і зноўку не закапалі. Лезь да нас на печ... Яна цёплая... Мы зімой заўсёды з мамкай там спім...

Б у с л а й. Можна, я пацалую цябе, сыночак?

Р ы г о р к а. Не, ты, мабыць, калючы, дзядзя...

Буслай падыходзіць да хлопчыка, становіцца перад ім на калені.

Б у с л а й. Прабач, Рыгорка... Прабач, родненькі... прабач, маленькі... Буслік мой! Толькі ты прабач, а са светам я паміруся... Толькі ты адзін прабач... Прабач... Прабач...

Схіляецца да маленькіх ножак, цалуе іх, плача.

Р ы г о р к а. Дзядзя, дзядзечка, не трэба плакаць... Гэта толькі дрэнныя дзеці плачуць... Ты мне лепей казку раскажы... Тата Коля мне заўсёды расказвае...

Б у с л а й *(бярэ хлопчыка на рукі)*. Зараз, зараз, сыночак... *(Прытуляе да сябе.)* Жыў-быў... *(Успамінае.)* Жылі-былі... *(Намагаецца ўспомніць.)* Жылі-

былі... *(З жахам.)* Не памятаю... *(Апускаецца на падлогу.)*

У хату амаль адначасова ўбягаюць Маці, заплаканая і расхрыстаная, Бацька, Ніна, Мікола. Усе спыняюцца каля дзвярэй. Глядзяць.

Буслай *(яшчэ мацней прытуляючы сына да сябе)*. Не памятаю... Не памятаю... Не памятаю...

*Заслона.*

# УЗЛЁТ

драматычная аповесць
у дзвюх дзеях



## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

ЖАНЧЫНА.
БАРТКЕВІЧ.
ГРЫШЧУК.
ВАГУРА.
ЦУБАНІК.
МАРЫНА.
ДЗЯЎЧЫНКА.
ШУМСКІ.
ГРЭЙВІЦ.
КРАФТ.
ШОЛЬЦ.
ЯФРЭЙТАР.
ЛЕЙТЭНАНТ.
МАРДАТЫ.
САЛДАТЫ.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Цёмна. На сцэне не бачна ніякіх дэкарацый. У залу ліецца ціхая, сумная мелодыя рэквіема. І зрэдку цішыню і гэтую мелодыю парушаюць гукі званоў: дон-дзінь! дон-дзінь! Гасне ў зале святло, паступова заціхае музыка. З глыбіні сцэны павольна-павольна выходзіць Маці. Простая наша жанчына. Маці. У яе на руках некалькі вышываных ручнікоў. Маці спынілася на авансцэне, глядзіць у залу, потым схіляецца, рассцілае на зямлі ручнік. Высвечваецца: Барткевіч. Маці рассцілае другі ручнік. Высвечваецца: Грышчук. Маці рассцілае трэці ручнік. Высвечваецца: Вагура. Ціхая музыка. Паступовае зацямненне.

І раптам цішыню разрывае прарэзлівы гук пікіруючага бамбардзіроўшчыка. Выбухі бомбаў, чэргі скарастрэльных зенітак, гукі каманд па радыё. Пачалося! Кабіна самалёта капітана Барткевіча. Іх трое: Барткевіч, штурман-лейтэнант Грышчук, стралок-радыст Вагура.

Барткевіч *(да штурмана).* Грыша! Катэр ля пантонаў бачыш? Злева, ля берага!

Грышчук. Бачу!

Барткевіч. Дзеўбанём яго!

Грышчук. Ёсць!

Прарэзлівы гул, посвіст бомбаў, выбухі.

Грышчук. Мазанулі! Зайдзі яшчэ разок!

Голас па радыё. Барткевіч, парушаеш строй! Не адрывацца!

Барткевіч. Катэр трэба разбіць! Не паспеем адляцець — ён зноў пантоны сцягне!

Голас па радыё. Зразумела. Давай!

Барткевіч. Грыша! Сыпані на яго ўсё, што толькі ёсць!

Грышчук. Толькі ўздоўж зайдзі, уздоўж...

І зноў пікіруе бамбардзіроўшчык. Высвечваецца: сяржант Вагура. Ён пачынае страляць па катэры з кулямёта.

Барткевіч *(не адрываючы вачэй ад цэлі).* Што ты робіш?

Вагура. Страляю!

Барткевіч. «Месеры» наваляцца, чым страляць будзеш? Не чапай боезапас!

Вагура. Ёсць!

Грышчук *(скідаючы бомбы)*. Ляціце, мае галубочкі!!

Посвіст, выбухі.

Грышчук *(радасна)*. Гатоў! Гарыць, міленькі!

Барткевіч. Малайчына!

Голас па радыё. Усё! Усё, хлопцы! Скончылі! Крыло ў крыло і тупаем дадому...

Барткевіч. Па калоне яшчэ б садануць!

Голас па радыё. Дай бог ад знішчальнікаў уцячы... Аховы няма... Строй, дыстанцыя — і хутчэй у воблакі...

Грышчук *(нахіляецца да Барткевіча)*. Доўга яны тут будуць кукаваць, сукі! Раскалашмацілі здорава! Хай цяпер...

Раптоўна, як удар грому, пад самалётам трахнуў зенітны снарад. Чырвоная бліскавіца асвятліла на імгненне твары лётчыкаў.

Барткевіч *(хапаючы штурвал)*. Грыша? Цэлы?

Грышчук *(выціраючы скрываўлены твар)*. Пацалавалі, сволачы! *(Закрычаў.)* Выраўняй, выраўняй машыну! Зараз грабанёмся!

Барткевіч *(злосна)*. Штурвал заела. Памажы!

Камандзір і штурман удвух схапіліся за штурвал і сталі цягнуць яго на сябе. Падбіты самалёт, стогнучы, ляціць да зямлі.

Барткевіч *(выводзячы самалёт з «піке»)*. Слухаецца, слухаецца, родны... *(Прыціснуў мікрафон да шыі, пачаў выклікаць.)* Вагура! Вагура!

Вагура. Я нічога! Ліхтар наскрозь прасадзіла, кусок вуха, здаецца, адарвала, а так — нічога...

Голас па радыё. Барткевіч, гарыш!

Грышчук *(высунуўся з кабіны, зірнуў пад крыло)*. Бензабак прабіты!

Вагура *(спалохана закрычаў)*. Алё, алё! Мы загарэліся! Бензін льецца... Ці чуеце вы там?!

Барткевіч. Ціха! Не ўзарваліся, значыць, яшчэ пажывём.

Голас па радыё. «Мікола! Даляціце да лесу і скачыце...»

Барткевіч. Мо дацягнем?

Голас па радыё. «Узарвешся к чортавай матары. Усё!»

Барткевіч. Ёсць!

Голас па радыё. «Скачыце і прабівайцеся як-небудзь да сваіх. Усё! Шчасліва!»

Барткевіч. Грыша, сядзь за штурвал... Я зірну! Вагура, як ты?

Вагура. Дым... Не відаць ні трасцы!

Барткевіч *(высунуўся з кабіны)*. Праз мінуту ўсё да кроплі выльецца... *(Грышчуку.)* Давай пройдземся над калонай!

Грышчук. Даю!

Барткевіч. Хай жаруць наш бензін! Разам з полымем...

Грышчук пачаў зніжаць самалёт.

Грышчук. Ага! Сыпанулі ў бакі, гады! Ой, шкада! Ніводнай бомбы.

Вагура. Таварыш капітан! Улева трохі! Вецер адносіць, бензін гарыць каля дарогі ля машын!

Барткевіч. Улева, Грыша, улева!

Грышчук. Ёсць улева!

Барткевіч. Ніжэй!

Грышчук. Ёсць!

Барткевіч. Яшчэ ніжэй!

Грышчук. Можна!

Барткевіч *(зірнуў уніз)*. От так і трымай! Акурат на галовы кладзецца! Вагура!

Вагура. Што, таварыш капітан?

Барткевіч. Чаму не страляеш?

Вагура. Зараз!

Загрукатаў кулямёт.

Грышчук. Мыйцеся! Мыйцеся, гніды! Я вам пакажу, як бензабакі прабіваць!

Барткевіч. Цяпер над лесам! Убок... Далей, далей...

Гудзе полымя.

Барткевіч. Заварот!

Грышчук. Ёсць заварот!

В а г у р а *(жудасна закрычаў)*. А-а-а-а-а!!!

Б а р т к е в і ч. Лёша! Вагура!

В а г у р а. Я ўсё! Увесь чыста гару! Бензін пракляты!.. На звароце абдало ліхтар...

Б а р т к е в і ч. Скачы!

В а г у р а. Дык гэта... партонаў трохі ёсць...

Б а р т к е в і ч. Я сказаў — скачы!

В а г у р а. А вы?

Г р ы ш ч у к. У лапы да іх трапіш! А тут лес!

В а г у р а. Ёсць!

Вагура адкрыў ліхтар і саслізнуў уніз.

Б а р т к е в і ч *(тонам загаду)*. Штурвал!

Грышчук перадаў штурвал камандзіру.

Б а р т к е в і ч. Давай, Грыша! Скачы!

Штурман нерухома сядзіць побач.

Б а р т к е в і ч. Ну!

Г р ы ш ч у к *(злосна)*. Канчай, капітан! Тут я сам сабе камандзір!

Б а р т к е в і ч. Лейтэнант Грышчук!

Г р ы ш ч у к. Не рві глотку!

Б а р т к е в і ч *(ужо спакойна)*. Грыша, паліва на нулі...

Г р ы ш ч у к. Чорт з ім!

Б а р т к е в і ч *(схапіў яго за камбінезон, штурхнуў да люка)*. Дурань! Разаб'ёмся ж... Навошта разам?

Г р ы ш ч у к. Пусці!

Б а р т к е в і ч *(выхапіў з кабуры пісталет)*. Не выканаеш загад — застрэлю! Скачы, я табе сказаў!

Г р ы ш ч у к. Псіх!

Грышчук адкрывае люк, скача ўніз. Барткевіч аберуч хапаецца за штурвал. Самалёт гарыць амаль увесь.

Б а р т к е в і ч *(шэпча)*. Толькі не ўзрывайся! Я прашу цябе, толькі не ўзрывайся. Пацярпі трошкі... Пацярпі...

Зараўлі ў паветры маторы «месершмітаў». Пачуліся адрывістыя каманды на нямецкай мове. Знішчальнікі кінуліся дабіваць палаючы самалёт. Загрукаталі кулямёты.

Б а р т к е в і ч. Давайце, сволачы, давайце!

Я вяртаюся! Я жывы! І машына мая жывая! А-а-а! Зноў пабеглі! Не чакалі... *(Закрычаў нервова.)* Я адзінаццаты! Я адзінаццаты! Прашу пасадку! Штурвал ад сябе! Потым трошкі на сябе! Зноў ад сябе! Потым... Ма-а-ама-а!!

Страшэнны выбух. Крывавае зарава. Дым. Самалёт урэзаўся ў тэхніку.

*З а ц я м н е н н е.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Лясная паляна. Цішыня. Толькі птушынае цвірканне далятае з глыбіні лесу. Метры за два ад зямлі вісіць на стропах В а г у р а. Парашут зачапіўся за вершаліну елкі. Вагура ў непрытомнасці. На паляну, аберуч трымаючы два бярозавыя кругляшы, выходзіць М а ц і. Пасівелая, расхрыстаная, у падранай вопратцы, [redacted] няцямным позіркам змучаных вялікім горам вачэй. Ідзе, прыціскаючы бярозавае паленне да грудзей.

М а ц і *(гаворыць голасам без усялякіх адценняў)*. Неба на золку разарвалася... Маланкі пякучыя пасыпаліся ў жыта, бы вогненныя вужакі... Перуны пакаціліся па роснай траве... Страшна... Страшна... З усіх могілак падняліся ўгору старыя заімшэлыя крыжы, і лётаюць, бы чорнае вараннё над стрэхамі, і выюць дзікімі галасамі, і б'юць зямельку цяжкімі ланцугамі... і разрываюць яе грудзі... А яна толькі дрыжыць і стогне, дрыжыць і стогне... За што ж гэта яе так?

Вагура застагнаў.

Во зноўку плача гаручымі слязамі... Скардзіцца, бедная... *(Прысела, пагладзіла зямлю вольнай рукой.)* Пацярпі, родненькая... любачка ты наша... А можа, гэта дзеткі мае плачуць? *(Гукае.)* Валерык! Зоська! Ці памылі вы ножкі ў рэчцы? З бруднымі ножкамі спаць класціся нельга... Ідзіце, дзетухны, на рэчку... Крыжы чорныя не наляцяць на вас, пашкадуюць... А яны наляцелі, маланкамі крывавымі спапялілі вашы кволенькія цельцы... Валерык! Зоська!

На палянку з кошыкам грыбоў выйшаў Шумскі. Заўважыў Вагуру. Спыніўся. Потым падышоў, агледзеў лётчыка з усіх бакоў.

Шумскі *(да Жанчыны)*. Ідзі хутчэй адсюль! Чуеш, Яніна? Зараз сюды прыбягуць лавіць яго...

Маці *(няцямна)*. Га? Хто гэта?

Шумскі. Гэта я, Шумскі. Пазнала?

Маці. Хведар Пятровіч... А мне крыжы трэба... Дзецям...

Шумскі. Ведаю...

Маці. Думаю, для Зоські гэта во... *(Паказвае бярозавае паленне.)* Беленькая ж яна... як бярозачка... А Валерку няблага б дубовы... Трэці дзень шукаю... Няма Валерыку... Пакрыўдзіцца сыночак...

Шумскі. Ідзі, Яніна, ідзі... А то горай будзе. Зусім з глузду з'ехала ад гора.

Маці. Знайсці ж трэба... Валерыку.

Шумскі. Ідзі да рэчкі! Там знойдзеш.

Маці. Там жа хмызняк толькі. А мне на крыж...

Шумскі. Ідзі, яны цябе там клічуць...

Маці. Хто?

Шумскі. Дзеці, дзеці твае...

Маці. Ля яміны?

Шумскі. Так.

Маці. Валерык! Зоська! Я добрую бярозку знайшла... Прыгожа будзе. Добры крыж будзе.

Маці пайшла. Вагура застагнаў яшчэ раз, расплюшчыў вочы. Шумскі прысеў перад ім, пачаў скручваць цыгарку.

Шумскі. Ну што, сокал-саколік, даваяваўся?

Вагура. А дзе гэта я?

Шумскі. У цешчы. Зараз бліны будзеш есці...

Вагура паспрабаваў вызваліцца ад парашута. Нічога не атрымалася, замок не паддаецца.

Вагура. Памажыце.

Шумскі. Гэта можна *(Разрэзаў стропы.)*

Вагура скочыў на зямлю, паваліўся, застагнаў.

Шумскі. Шоўк, можа, аддасі?

Вагура. Які шоўк?

Шумскі. Ну гэты... Парашут твой.

Вагура. Бярыце, калі трэба. Дзе нашы?

Шумскі. Можа, ты мне скажаш?

В а г у р а. А немцы ў якім баку?

Ш у м с к і *(сцягваючы парашут з дрэва)*. У любы бок ідзі, знойдзеш. Яны ўжо цэлы тыдзень паўсюль...

В а г у р а. Як жа мне выбрацца?

Ш у м с к і. А нашто? Вунь дарога. Ідзі, яны цябе прымуць... Зялёны ты, можа, і пашкадуюць. Не сам жа ты сеў у гэты самалёт. Пасадзілі. Так і скажы...

В а г у р а. За такія жарты...

Ш у м с к і. Кончыліся жарцікі, любенькі... Пагулялі ў рэвалюцыю, у свабоду, у роўнасць... А цяпер сілу паказваць трэба. А сілы — цю-цю! Нямашака...

В а г у р а. Што гэта вы кажаце? Вы ж савецкі чалавек...

Ш у м с к і. Пакажы ты мне хоць адзін Савет? Тады я буду савецкім. Гегемоны! Кінулі бедных людзей дый сказалі: не забывайце — вы савецкія. А гэта значыць — нацягвай сам сабе пятлю... на сваю тонкую шыю. Ідзі, сокал-саколік, ідзі...

В а г у р а *(усё зразумеў)*. Ану аддавай мой парашут, падла!

Ш у м с к і. Што-о?

В а г у р а. Аддавай шоўк!

Ш у м с к і. А што ты з яго — кашулю сабе на смерць пашыеш, герой?

В а г у р а. Пятлю для цябе зраблю, псялыжнік!

Ш у м с к і. Ах жа ты, чарвячок!

Вагура выхапіў з кабуры пісталет.

В а г у р а. Кульгай адсюль, кулацкая морда!

Ш у м с к і. Вось гэта ты дарэмна. Думаў, што вы на вякі...

В а г у р а. Ідзі, падлюга!

Ш у м с к і. Ладна, пайду...

Ш у м с к і пайшоў. Да паляны данеслася страляніна, брэх сабак. Вагура кінуўся ў кусты. З процілеглага боку даляцеў дзіцячы крык: «Мама!» Вагура азірнуўся, нейкае імгненне пастаяў нерухома, а потым кінуўся на крык. Праз момант на сцэну выкаціўся тоўсты ф а ш ы с т. Порстка падхапіўся і, сагнуўшы шыю, кінуўся на стралка.

В а г у р а. Па... падла! *(Штомоцы выцяў яго ботам па твары.)*

Фашыст пакаціўся па зямлі, але зноў падхапіўся, трымаючыся рукой за твар. Вагура кінуўся на яго, збіў з ног і пачаў душыць. Праз мінуту ўсё скончана. Вагура падняўся, як у сне, з зямлі, уважліва разглядваючы свае дрыжачыя рукі. Потым аслупянела паглядзеў на мёртвага фашыста.

Вагура *(з жахам).* Вой, мама... *(Цяжка дыхаючы, паваліўся на зямлю.)*

На паляну выбягаюць фашысты. Заўважаюць Вагуру.

Лейтэнант *(выхапіў пісталет).* Рукі!

Вагура падымае галаву.

Вагура. Што?

Лейтэнант *(выхапіў пісталет).* Рукі!

Вагура здрыгануўся і зноў пачаў разглядваць свае рукі.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Ля разбітай пераправы дагарае напалову знішчаная калона варожай тэхнікі. Трохі воддаль два нямецкія салдаты капаюць яміну. Побач ляжыць у абсмаленым камбінезоне капітан Барткевіч. З'яўляецца Маці. Сцэна ідзе ў трохі запаволеным рытме. Зрэдку гучаць званы.

Барткевіч *(не расплюшчваючы вачэй).* Навошта? Навошта ты сюды прыйшла?

Маці. Я — маці. А маці заўжды побач, калі дрэнна. Табе страшна?

Барткевіч. Страшна. Нічога не памятаю. Увесь палёт як у тумане...

Маці. Калі народзішся, вырываешся з небыцця, і страшна, страшна вяртацца назад. Гэта супраць усіх законаў. Няўжо нельга было ўратавацца?

Барткевіч. Не ведаю. Мабыць, нельга. Не плач толькі.

Маці. Я не плачу. У маім сэрцы гора ўсіх мацярок зямлі нашай. Выказаць гэтае гора ні слязамі, ні крыкам немагчыма. Я не плачу.

Барткевіч. Нас падбілі. Можна было скочыць з парашутам. Можна! Я зірнуў уніз і зразумеў: праз гадзіну яны прыцягнуць новыя пантоны, праз дзве-тры ўварвуцца ў горад! У мяне ад злосці ўвач-

чу пацямнела. Ды няўжо іх стрымаць немагчыма?! Але чым? Бомбы ніводнай. Чым? Толькі сабой, сваім самалётам...

М а ц і. Табе загадалі?

Б а р т к е в і ч. Загадалі ратавацца.

М а ц і. Не дай бог нікому быць маткай героя! Бацька, калі пра цябе паведамілі па радыё, сказаў: «Добра, што не палон». А я закрычала: «Няхай бы лепей палон!» Я ведаю цябе. Ты ўсюды застанешся такім жа! А на бацьку не крыўдуй. Цяжка яму. Усім зараз, сынок, цяжка. Усяму народу, усёй зямлі.

Б а р т к е в і ч. Чым жа ўсё гэта скончыцца? Як не хочацца паміраць цяпер!

М а ц і. Ты не памрэш, сынок... *(Становіцца на калені, шэпча, нібы моліцца.)* Зямля мая родная! Ты ўсемагутная маці наша, ты адраджаеш з небыцця ўсё жывое... Звяртаюся да цябе са сваёй матчынай малітвай. Зрабі так, каб сын мой, мая плоць, мая кроў, часцінка мяне, застаўся жыць. Забяры мой час, маю сілу, калі трэба, усё жыццё...

Б а р т к е в і ч. Мама! Што ты, мама!

М а ц і. ...І аддай яму...

Б а р т к е в і ч. Не трэба!

М а ц і. І аддай яму!

Б а р т к е в і ч. Мама!

М а ц і. Беражы сябе, Коля! Я з табой! Я заўжды з табой...

Да Барткевіча падыходзяць с а л д а т ы, Ш о л ь ц і я ф р э й т а р. Узялі за рукі і ногі, нясуць да ямішы.

Ш о л ь ц *(спыніўся)*. Дзіўна! Ён стогне...

Я ф р э й т а р *(абыякава)*. Здалося...

Ш о л ь ц *(нахіліўся)*. Жывы... Дзіўна...

Я ф р э й т а р *(раздражнёна)*. Бярыся!

Ш о л ь ц. Ганс, ён жа...

Я ф р э й т а р. Пан штурмфюрэр загадаў! Трэба выконваць!

Ш о л ь ц. Не ведаў, пэўна...

Я ф р э й т а р *(віскнуў)*. Радавы Шольц! Выконваць загад!

Ш о л ь ц. Як жа так? Жывога?

Я ф р э й т а р. Вазьмі вінтоўку і застрэль, калі такі...

Ш о л ь ц. Я не магу...

Я ф р э й т а р. І я не магу... без загаду. Бярыся!

Панеслі, кінулі Барткевіча ў яміну. Узяліся за рыдлёўкі, пачалі засыпаць. Падышоў Г р э й в і ц. Высокі, стройны, у цывільным скураным паліто. Закурыў. Назірае за салдатамі.

Г р э й в і ц *(кіўнуўшы галавой на яміну)*. Хто гэта?
Я ф р э й т а р. Рускі лётчык.
Г р э й в і ц *(зірнуў у бок шашы)*. Той самы?
Я ф р э й т а р. Так точна!
Г р э й в і ц. Хіба самалёт не ўзарваўся?
Я ф р э й т а р. Ён пасадзіў яго на шашу, акурат на нашы машыны... Самалёт спачатку разваліўся на часткі, а потым узарваўся. Яго выбухам адкінула ў стог. Толькі трохі абгарэў.
Ш о л ь ц. Ён жывы, гер... Прабачце.
Г р э й в і ц. Не можа быць!
Ш о л ь ц. Неслі сюды — стагнаў...
Я ф р э й т а р. У нас загад... *(Пачаў капаць.)*
Г р э й в і ц. Кіньце рыдлёўку!
Я ф р э й т а р. Мы выконваем загад!

Грэйвіц выхапіў з кішэні невялічкую чорную кніжачку, паднёс яе да твару яфрэйтара. Той перасмыкнуўся ад страху, выпусціў рыдлёўку, выцягнуўся.

Я ф р э й т а р. Хайль Гітлер!
Г р э й в і ц. Дастаньце яго!

Яфрэйтар порстка саслізнуў у яміну, асцярожна змахнуў зямлю з твару лётчыка і разам з Шольцам паклаў яго на край ужо непатрэбнай магілы. Грэйвіц памацаў у Барткевіча пульс.

Г р э й в і ц *(задуменна)*. Цуд... *(Да яфрэйтара.)* Спыніце ад майго імя любую машыну і адвязіце яго ў мястэчка... У афіцэрскі шпіталь.
Я ф р э й т а р. Яволь, групенфюрэр!

Я ф р э й т а р пабег. Шольц, выцягнуўшыся, трымаў рыдлёўку каля нагі, нібыта карабін.

Г р э й в і ц. Дзе ваш Крафт?
Ш о л ь ц. Не ведаю, гер... Прабачце.
Г р э й в і ц. Паклічце да мяне.
Ш о л ь ц. Ёсць! *(Пабег.)*

Грэйвіц прысеў каля Барткевіча. Доўга глядзеў на яго бледны твар. Падбеглі салдаты з насілкамі, асцярожна паклалі лётчыка на іх, панеслі. Падбег эсэсавец Крафт.

Крафт *(ускінуўшы руку)*. Хайль Гітлер! Камендант мясцовага гарнізона штурмфюрэр Крафт!

Грэйвіц. Вось мае дакументы. Я вяртаюся ў Берлін з важным кінаматэрыялам. Аператар у машыне. Калі ласка, размясціце нас на некалькі дзён. Мы тут затрымаемся.

Крафт. Слухаю, гер групенфюрэр!

Грэйвіц. Мяне зацікавіў гэты выпадак з рускім самалётам...

Крафт. Вось дакументы лётчыка! *(Падаў вайсковую кніжку і картку.)* Вось зброя! *(Паказаў кабуру з пісталетам.)*

Грэйвіц прысеў пад стогам, пачаў разглядаць дакументы.

Грэйвіц *(чытае)*. Капітан Барткевіч Мікалай... *(Да Крафта.)* Як вы лічыце, гэта не выпадкова?

Крафт. Прабачце, не зразумеў...

Грэйвіц. У падбітага самалёта адказала кіраванне, і ён дзюбнуўся разам са сваім пілотам на нашы бедныя машыны?

Крафт. Не! Самалёт быў падбіты яшчэ над пераправай. Замест таго каб ляцець прэч, ён пайшоў нізка над калонай. Знарок. Бензін ліўся на машыны і гарэў... разам з імі... Над лесам, на мінімальнай вышыні бамбардзіроўшчык пакінулі два лётчыкі, а гэты завярнуў самалёт і пачаў садзіцца на шашу... Што з гэтага атрымалася, вы бачылі.

Грэйвіц. Дык ён быў не адзін?

Крафт. У бамбардзіроўшчыка экіпаж: камандзір, штурман, стралок.

Грэйвіц *(зноў зазірнуў у кніжкі)*. Значыць, камандзір?

Крафт. Магчыма, і штурман...

Грэйвіц. Дзе астатнія?

Крафт. Я адразу ж паслаў у лес роту.

Грэйвіц. Ну і...

Крафт. Знойдзены парашуты.

Грэйвіц. А дзе лётчыкі? Неадкладна пашліце яшчэ дзве роты! Знайдзіце іх, штурмфюрэр, да-

станьце з-пад зямлі! Узначальце групу пошуку асабіста. Трэба, каб гераічны экіпаж знаходзіўся каля свайго камандзіра.

Крафт. Будзе зроблена, гер групенфюрэр! Вечарам яны будуць тут. Жывыя або мёртвыя.

Грэйвіц. Жывыя, Крафт, толькі жывыя! Мёртвы герой — гэта мармуровы помнік, а жывы — проста чалавек... З нервамі, жаданнямі і пачуццямі...

Крафт. Гэта фанатыкі, гер групенфюрэр. Я не думаю, што...

Грэйвіц. А што такое фанатык, па-вашаму?

Крафт. Да канца перакананы ў нечым чалавек.

Грэйвіц. Можна яшчэ дадаць: чалавек, якога немагчыма пераканаць.

Крафт. Так точна.

Грэйвіц. У вас ёсць мама?

Крафт. Ёсць.

Грэйвіц. Як яна вас клікала ў дзяцінстве?

Крафт. Ганс.

Грэйвіц. Ганс ці Гансік?

Крафт *(усміхнуўся)*. Гансік.

Грэйвіц. Хіба яна не гаварыла вам: Гансік, не разбурай ластаўчыных гнёздаў... Гэта грэх, Гансік, не страляй з рагатак па вераб'ях... Яны таксама хочуць жыць. Гансік, не хапай кошку за хвосцік... І ёй балюча.

Крафт. Гэта кажуць усе мацеры ўсім хлапчукам.

Грэйвіц. А сёння гэты Гансік загадаў сваім салдатам закапаць у зямлю жывога чалавека. Вы ж ведалі, што ён жывы? Так ці не?

Крафт *(злосна)*. Гэта наш вораг, гер групенфюрэр! Наш вораг!

Грэйвіц. Я не казаў, што ён наш друг... Я сказаў, што гэта чалавек...

Крафт. Я вас не разумею!

Грэйвіц *(засмяяўся)*. Не крыўдуйце...

Крафт. Дазвольце ісці?

Грэйвіц. Ідзіце. Хаця пачакайце... Яшчэ два пытанні. У вас ёсць узнагароды?

Крафт. Так точна. Жалезны крыж трэцяй ступені і асабістая падзяка рэйхсфюрэра.

Грэйвіц. Вы аддана служыце вялікай Германіі і фюрэру.

Крафт. Не мне пра гэта гаварыць.

Грэйвіц. Другое пытанне. Абстрактнага характару. Калі б вас паставілі на краі бяздоння і сказалі: штурмфюрэр Крафт, калі ты скочыш уніз, наша ідэя пераможа, немцы зробяцца нацыяй, якой не ведала гісторыя, рэйх будзе існаваць не тысячагоддзе, а мільёны гадоў. Вы скочылі б?

Крафт. Мне цяжка з вамі размаўляць, гер групенфюрэр.

Грэйвіц. Усё, ідзіце... І памятайце: толькі жывымі... Я буду чакаць вас у камендатуры.

Крафт. Хайль Гітлер!

Грэйвіц. Да пабачэння.

Крафт пайшоў. Грэйвіц дастаў цыгарэту, але ў гэты момант здалёк пачуўся роўны гул бамбардзіроўшчыкаў. Замітусіліся немцы, пачуліся каманды. Грэйвіц спалохана зірнуў на неба і таропка пашыбаваў прэч.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Пуня на пасецы Цубаніка. Сена. На сене ляжыць Грышчук. Стары Цубанік завіхаецца каля яго. Пыльны промень святла падае зверху.

Цубанік. Зараз, зараз крынічнай вадзіцай галаву табе абмыем — і палягчэе... От так...

Грышчук *(расплюшчыў вочы)*. Ты хто? Дзе я?

Цубанік. Ляжы ты ўжо, ляжы... Дзякуй богу, што ачухаўся... Я ўжо думаў — гамон! Уходаў хлопца...

Грышчук. Вой, чаго гэта ў мяне галава трашчыць... Мне ж здаецца, той фрыц на дарозе руку прастрэліў...

Цубанік. Правільна, рука ў цябе паранена, я ўжо анучай перавязаў... А галава... Хочаш крыўдуй, хочаш — не, але гэта я цябе палепам па патыліцы чахнуў...

Грышчук. А за што?

Цубанік. Ранкам, гэта... папраўляў вулей ля малінніку... Глядзь: нехта з лесу да пасекі прэцца. З аўтаматам не нашым, морда злосная, і ўвесь у чорным... Хвашыст, думаю, па мёд заявіўся! Бачу — адзін... Ну я яго і вырашыў трохі... гэта... прылашчыць...

Грышчук *(усміхнуўся)*. Дзякую...

Цубанік. Ты дарэмна лыбішся! Добра, што сякеры з сабой не было... Такі грэх на душу ўзяў бы... Чорт вас разбярэ! Мешаніна! Не расшалопаць, дзе свой, а дзе чужы... Тыдзень назад, калі немцам тутацькі яшчэ і не пахла саўсім, сустрэў тут у лесе салдацікаў... Змораныя ўсе, відаць, галодныя... Адступаюць. Запрашаю: сынкі, кажу, давайце да мяне на пасеку ў лес... Там ціха, адпачнеце, мёдам пачастую... Спыніліся, глядзяць на мяне, як пні. А потым адзін «сынок» падыходзіць і з усяго размаху ў зубы як гваздане, аж іскаркі з вачэй ва ўсе бакі... Загергеталі нешта і пайшлі. Аказваецца, немчура праклятая, каб ім галавешкі ў штаны...

Грышчук. Дыверсантаў хацеў мядком пачаставаць.

Цубанік. Чорт іх ведаў! Дыверсанты ці музыканты... Ва ўсім жа нашым, падлы! А ўчора во цябе... Хочаш вер, хочаш — не, а, далібог, на бальшаку бачыў іх у такім жа адзенні, як і ты. Ля машын калупаліся...

Грышчук. Танкісты, мабыць...

Цубанік. Танкісты, кавалерысты... Галава ўжо не баліць?

Грышчук. А палена добрае было?

Цубанік. Дык гэта... Кругляк бярозавы, во такенны, што пад вулей падкладаў... Каб немцам быў, дык адразу б капыты адкінуў, а раз наш — ачуняеш... Не крыўдуй, сынок, не цябе біў... Вочы пад старасць — як у крата таго...

Грышчук. Ды ладна, баця... Чаго там.

Цубанік. Есці хочаш, пэўна... Зараз я табе каўбасы з бульбачкай... Падсілкуешся.

Грышчук. Піць хочацца...

Цубанік. Я табе медавушкі халодненькай... Яна тут.

Ідзе ў куток, вяртаецца з конаўкай медавухі. Грышчук прагна п'е.

Ц у б а н і к. На здароўе, сынок, на здароўе...
Г р ы ш ч у к *(напіўшыся)*. Дзе аўтамат?
Ц у б а н і к. Тут, тут... І аўтамат і наган твой. Пад падушкай, усё тут. Ты не палохайся. Сюды яны не дабяруцца... Да Сасноўкі лес сцяной, дарогі не ведаючы — заблытаешся, а ад бальшака — балотца; вузенькае, праўда, але ўтапіцца ёсць дзе.
Г р ы ш ч у к. Я ж не ўтапіўся.
Ц у б а н і к. Ты што, ад дарогі — сюды?
Г р ы ш ч у к. Ну.
Ц у б а н і к. Дык гэта... Там жа яны толькі...
Г р ы ш ч у к. Збілі над дарогай.
Ц у б а н і к. Лётчык?
Г р ы ш ч у к. Лётчык.
Ц у б а н і к. А гэта... парашут дзе?
Г р ы ш ч у к. Ён жа не навалачка, каб з сабой цягаць...
Ц у б а н і к. Так, так... А ўсё ж кажуць, што гэтыя лётчыкі разам з самалётам у іх танкі рэзнуліся...
Г р ы ш ч у к. Гэта камандзір. Адзін. А нам загадаў выскачыць...
Ц у б а н і к. Ну пухам яму зямля наша! Хвацкі, мабыць, хлапчына быў... А дзе ты аўтамат раздабыў?
Г р ы ш ч у к. На зямлі паспеў аднаго прыкончыць.
Ц у б а н і к. І ты, значыцца, напрасткі цераз Змяінае балотца?
Г р ы ш ч у к. Не ведаю цераз якое... Бег па чарпічніку.
Ц у б а н і к. Ты ж, хлопча, у сарочцы нарадзіўся... У вышыванай... Там жа багна, толькі адзін вузенькі праход ад сасны і прама, прама... Ты, значыць, на яго і ўзбіўся! Каб у другім жа месцы — пайшоў бы да жаб у госці... Во, а кажуць, што бога няма... Ляжы, хлопча, і маліся яму, пакуль бульба зварыцца! І не хвалюйся. Тут як у бога за пазухай. Яны ўжо спрабавалі сунуцца сюды, а ў мяне адзін вулей не для мёду, а для аховы. Пчолы ў ім злосныя — лепей не падыходзь! Ну, і пабеглі па лесе з распухлымі мордамі. І гэты Шумскі быў разам з імі! От скажы ж ты мне, што гэта робіцца? Ён жа, гэты Шумскі, усе гады мяне ў калгас цягнуў як толькі

мог... Гаварыў, брат ты мой, што я і адсталы, што і палкі ў калёсы новай уладзе стаўлю, брахаў як па пісанаму, а во ўжо немцаў водзіць, жываглот!

Грышчук. Дык гэта не калгасная пасека?

Цубанік. Гм... Калгасная... Мая!

Грышчук. А-а-а...

Цубанік. Што а-а-а-а? Аднаасобнік я. Жыў і жыву сам па сабе. Ну дык што?

Грышчук. Нічога. Лёгка цяпер жыцца будзе. Немцы такіх не пакрыўдзяць.

Цубанік злосна плюнуў, шпарка падбег да дзвярэй, адчыніў іх.

Цубанік. Ану чашы адсюль!

Грышчук. Чаго ты, баця?

Цубанік. Які я табе баця? Я ж аднаасобнік! Кулак! Немцаў чакаў не дачакаўся...

Грышчук. Ды нічога такога я не хацеў сказаць!

Цубанік. Што за людзі! Будзь ты сумленны хоць да апошняй болькі сваёй, а калі не так жывеш, як усе,— нехарош! Хаця чаго там! Не ты першы.

Грышчук. Ты не крыўдуй, баця...

Цубанік. Я не крыўдую. Спакон веку так. Не ўмеюць людзі погань распазнаваць, дык і добрых людзей у іх запісваюць... Во гэты Шумскі... Да начальства лез без мыла, круціўся, як скура на сабаку, заўсёды першы... І во ўжо з першага дня памагаты! Ён такі! Хто ні прыйдзе — усім дапамагаць будзе... Спачатку пану служыў, потым гэтага ж пана куды трэба здаў, аднавяскоўцаў сваіх раскулачваў. Не паверыш! На роднага брата данос напісаў, а цяпер сельсаветчыкаў з немцамі ловіць... У яго душа без касцей. Каб мая воля, я б усіх, хто па сем скур мае, у скрыню і на край свету, туды... З іх уся погань у нашым народзе. А мы, Цубанікі, усім чужакам па мордзе білі... А іх тут перабыло на маім вяку — ого-го! Вёска ў чорта на рагах стаіць... Ён бадзецца, а не пападае... Цяпер во немчура накацілася...

Грышчук. Нічога, гэты раз непадоўга... Хутка зломім хрыбет!

Цубанік. Дай бог, каб пуп не лопнуў, калі

гэты самы хрыбет ламаць будзем... Сілішча, я табе скажу, у іх! Едуць і едуць! Канца-краю не відно.

Грышчук *(упэўнена)*. Зломім.

Цубанік. Яно канешне. Народ у нас такі... Пад чужой світкай жыць не захоча.

Грышчук. Трэба да фронту прабівацца.

Цубанік. Перачакай трохі... Нідзе твой хронт не дзенецца... Во звечарэе, у схованку цябе завяду... Там некалькі ўжо нашых адлежваюцца. Часць прахадзіла, мяне палкоўнік папрасіў, каб параненых байцоў прыхаваў... Гэй, лётчык, як цябе завуць? *(Нахіліўся, паслухаў.)* Ну, спі, спі, сынок...

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Камендатура. Кабінет Крафта. За сталом Грэйвіц.

Грэйвіц *(падымае трубку тэлефона)*. Злучыце са шпіталем... З вамі гаворыць групенфюрэр Грэйвіц. Некалькі гадзін таму да вас у шпіталь быў дастаўлены чалавек. Як ён?.. У прытомнасць прыйшоў? Як гэта, можа не прыйсці? Памерці яму нельга! Дазваляю прымяняць любыя сродкі... Яго здароўе мяне мала цікавіць... Ён павінен пажыць хаця б тыдзень, а потым як атрымаецца. Дайце яму штонебудзь. У любой канцэнтрацыі... Пастарайцеся, калі ласка... *(Паклаў трубку.)*

Уваходзіць Крафт.

Крафт. Дазвольце?

Грэйвіц. Што вы, што вы, Крафт? Гэта ж ваш кабінет...

Крафт. Гер групенфюрэр! У вёсцы схапілі другога лётчыка...

Грэйвіц. Прывядзіце.

Крафт. Слухаю! *(Пайшоў.)*

Пад аховай прыводзяць Вагуру. Рукі ў яго звязаны, твар разгублены і перапалоханы.

Грэйвіц *(да Крафта)*. Дакументы!

Крафт падаў дакументы і зброю.

Г р э й в і ц *(разгарнуў кніжку).* Вагура Аляксей Рыгоравіч... Сяржант. *(Да Вагуры.)* Стралок?

Вагура маўчыць.

*(Да Крафта.)* Супраціўляўся?

К р а ф т. Ніяк не! Адразу ж падняў рукі.

Г р э й в і ц. Цудоўна. Што яшчэ?

К р а ф т. Ён забіў яфрэйтара 68-га сапёрнага батальёна.

Г р э й в і ц *(здзіўлена).* Ён?

К р а ф т. Так точна. Мы знайшлі таго ў кустах.

Г р э й в і ц. Значыць, страляў?

К р а ф т. Ніяк не! Усе патроны на месцы. Я правяраў.

Г р э й в і ц. Як жа ён змог?

К р а ф т. Вельмі дзіўна, гер групенфюрэр. Той сапёр разы ў два вышэй за гэтага заморка...

Г р э й в і ц. Нож?

К р а ф т. Ён задушыў яго.

Г р э й ц. П'яны быў ваш сапёр, калі дазволіў гэтаму дзіцяці задушыць сябе...

К р а ф т. Магчыма.

Г р э й в і ц. Развязаць! Зрабіце яму перавязку, накарміце і дайце выспацца. Не трэба яго баяцца. Гэта ніякі не вораг... Пужлівае дзіця, якое пасадзілі ў самалёт.

В а г у р у вывелі. К р а ф т пайшоў следам.

Чакайце, Крафт... Я зараз вярнуся ў прыфрантавую паласу. Пабуду там з тыдзень. Вы знойдзеце трэцяга, размясціце іх па асобных камерах. Ніякіх размоў, ніякіх допытаў. Яны вынікаў не дадуць. Гэтыя людзі будуць паводзіць сябе ў рытмах тых абставін і падзей, якія былі да гэтага. Інерцыйна. А мне яны патрэбны ўжо супакоеныя, здольныя асэнсоўваць сваё становішча, расслабленыя і, што важней за ўсё — здольныя думаць! Абыходзіцца з імі як са звычайнымі палоннымі, добра карміць. Больш за ўсё чалавека бянтэжыць неверагоднае, незразумелае, нечаканае! Што яны могуць чакаць, трапіўшы ў палон? Допытаў, катавання і прымусу выдаць ваенную тайну. Нічога гэтага не будзе! На які чорт мне гэтая тайна, хай гэтым займаецца адмірал Канарыс. Мне трэба гэтыя людзі з іх подзвігам! Чалавек, які не

пабаяўся пайсці на верную пагібель адзін раз, не спалохаецца, калі яго будуць біць, ламаць рукі, заганяць пад пазногці іголкі... Гэта аксіёма. Дух узяў верх над матэрыяльным. Значыць, матэрыяльнае трэба пакінуць у спакоі, бо яно паднявольнае... Трэба разбурыць тое, што зверху! Я шмат разоў мяняў свае погляды, але ў адным заўжды быў цвёрда пераканаы: людзі, дзе б яны ні жылі, на якой бы мове ні размаўлялі, якому б богу ці ідэі ні маліліся — аднолькавыя! Сусветная літаратура існуе таму, што існуе сусветная псіхалогія чалавека. А раз яна існуе, яе можна вывучаць і ёю можна кіраваць...

К р а ф т. Дазвольце спытаць, гер групенфюрэр?

Г р э й в і ц. Не трэба. Я растлумачу. Я ўпэўнены, што руская прапаганда зробіць з гэтых лётчыкаў ідалаў, прыклад для пераймання. А мы зробім усё магчымае і немагчымае, каб гэты гераізм не быў гераізмам. Выпадак. Супадзенне абставін. Праз тыдзень я здыму гэтых лётчыкаў на плёнку. Здыму ў той момант, калі яны будуць падпісваць дакумент аб супрацоўніцтве з нашымі ўзброеннымі сіламі. Гэта будзе прыклад незвычайны па сіле ўздзеяння! Калі героі, а іх ужо лічаць героямі, пераходзяць на наш бок, дык што ж застаецца рабіць звычайнаму салдату! Да пабачэння, Крафт... Я вярнуся праз тыдзень... *(Грэйвіц выходзіць.)*

У кабінет уваходзіць л е й т э н а н т. Н е к а л ь к і с а л д а т цягнуць Ш у м с к а г а. Левае вока ў лейтэнанта заплыло, нават не відаць павек. Ніжняя губа распухла і надае твару ідыёцкі выгляд.

К р а ф т *(зарагатаў)*. Што гэта з вамі?

Л е й т э н а н т. Пчолы, гер штурмфюрэр! *(Кіўнуў на Шумскага.)* Гэты прахвост завёў нас на пасеку... Увесь узвод перакусалі. Дзікія пчолы. Наляцелі, нібы ўраган...

К р а ф т. Знарок?

Л е й т э н а н т. Што?

К р а ф т. Я пытаюся: ён знарок на вас пчолаў пагнаў?

Л е й т э н а н т. Так точна! Яны ўсе тут партызаны...

К р а ф т. Расстраляць!

Ш у м с к і *(упаў на калені, заплакаў)*. Пан...

гер афіцэр! Я невінаваты! Там Цімох Цубанік жыве... Байцоў нашых хавае... І цяпер нехта ў яго. Пчолаў ён сам распужаў... Я невінаваты...

Крафт *(да лейтэнанта)*. Каго-небудзь знайшлі на пасецы?

Лейтэнант. Не змаглі падысці, гер штурмфюрэр! Цэлы рой...

Крафт. Дык якога чорта вы тут?! Гэта што, кулі?

Лейтэнант. Пчолы...

Шумскі *(загаварыў таропка, падымаючыся з зямлі)*. Ён заўжды так... Яшчэ да вайны самагонку аднойчы гнаў, а тут міліцыя на парог... Дык ён доўга не думаючы чарку першаку ў вулей, і ўсё! Пчолы як ашалелі... Тры дні да пасекі не падысці было... І цяпер...

Крафт *(да лейтэнанта)*. Вам пялёнкі пэцкаць, а не афіцэрскі мундзір насіць...

Лейтэнант. Гер штурмфюрэр, вы забываецеся!

Крафт. Ідзіце к чортавай матары рабіць сабе халодныя прымочкі!

Шумскі *(да Крафта)*. Гер афіцэр! Каб не спазніцца нам... Гэты Цубанік хітры, як чорт...

Крафт. Ён там адзін?

Шумскі. Аднаасобна жыве. У калгас не захацеў...

Крафт. Дзеці ёсць?

Шумскі. Стары ўжо... Дачка жыве ў вёсцы. А муж яе ў войску.

Крафт. Дзе?

Шумскі. У Чырвонай Арміі. Афіцэр.

Крафт. Я пытаюся: дзе гэтая кабеціна?

Шумскі. У Пуцяціне.

Крафт. Пакажыце.

Шумскі. Яволь!

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Лясная паляна перад пасекай. Гудуць пчолы. На паляну выходзяць Крафт, Шумскі, некалькі салдат вядуць Марыну з дзяўчынкай.

Крафт *(Шумскаму)*. Растлумачце, што трэба рабіць...

Шумскі *(да дзяўчынкі)*. Ну, дзяўчынка, хадзі сюды.

Марына. Навошта, Хведар Пятровіч?

Шумскі. Не бойся, не бойся... Пан афіцэр нічога дрэннага не зробіць. Ну, дзяўчынка, скажы дзядзю афіцэру, як цябе завуць?

Дзяўчынка. Вера...

Шумскі. Верачка, значыцца... От, малайчына... А колькі табе годзікаў?

Дзяўчынка. Восем ужо было...

Шумскі. Вось разумніца...

Крафт. Не марудзьце!

Шумскі *(паспешліва)*. Ну, Верачка, давай твайго дзядулю паклічам. Ён будзе рады, што ты да яго ў госці прыйшла...

Марына. Я сама паклічу...

Шумскі. Маўчы! Не наклікай бяды на сваю галаву... Ну, Верачка... Кліч яго: дзе-дзя! Ну!

Дзяўчынка *(ціха і палахліва)*. Дзе-дзя!

Шумскі. Ён не пачуе так. Ну, яшчэ разок!

Дзяўчынка. Дзедзя!

Шумскі. Яшчэ!

Дзяўчынка. Дзядуля!

Марына. Хвадар Пятровіч! Ці ж яна зможа... са сваім галасочкам?

Шумскі. Маўчы! Ну, Верачка!

Дзяўчынка заплакала.

Шумскі. Кліч!

Дзяўчынка. Дзядуля! Дзядулечка!

Голас Цубаніка. Верачка, дзе ты?

Марына *(хацела азвацца)*. Та...

Крафт заціснуў ёй далоняй рот.

Голас Цубаніка. Дзе ты, унучачка?

Шумскі. Адзавіся!

Д з я ў ч ы н к а. Я... я тут!

На паляну выбег устрывожаны Ц у б а н і к. Заўважыў немцаў, спыніўся. Крафт скіраваў у бок дзяўчынкі пісталет і махнуў рукой. Маўляў, падыдзі. Цубанік падыходзіць, схіляецца каля ўнучкі.

Ц у б а н і к. Ну, чаго ты, дурненькая? Не бойся. Я ўжо тутацькі... У госці да дзеда прыйшлі... Мёд салодкі любяць.

Ш у м с к і. Пан афіцэр пытаецца, каго ты хаваеш на пасецы?

Ц у б а н і к. Нікога. Хай твой пан праверыць...

Ш у м с к і. Чаму распужаў пчол?

Ц у б а н і к. Дурное кажаш, Пятровіч... Які ж пчаляр сваіх пчол без дай прычыны будзе ганяць? Вайна распудзіла... *(Праз зубы.)* Навошта Марыну з дзіцем сюды прыцягнуў? Ці ж самі не разабраліся б?

Ш у м с к і. Не я прыцягнуў. Улада загадала. А я заўсёды ўладу слухаўся... Ты ж ведаеш, Цімох...

Ц у б а н і к *(да дачкі)*. Ідзі, Марына... Мы ўжо самі тут... Ідзіце.

Марына падышла да дачкі.

К р а ф т. Хальт!

Ш у м с к і. Ён хоча ведаць, чаму ты напусціў на іхні атрад пчол?

Ц у б а н і к. Дык то ж пчолы! Ці яны разбяруцца, дурныя? Не разгледзелі, што вызваліцелі прыйшлі... Сваіх і то не шкадавалі... Аднойчы нават начальніка міліцыі, што ты прывёў, пакусалі... Памятаеш?

Ш у м с к і *(зацята)*. Памятаю.

Ц у б а н і к. Нікога няма. Хай хоць усё тут пералтрасуць... Ой і будзе ж табе на тым свеце, Хведар Пятровіч! Без штаноў на чортаву патэльню сядзеш.

Ш у м с к і. Маўчы, Цубанік...

М а р ы н а. Тата, скажы ты ім, што пытаюцца! Яны ж нешта рабіць з намі будуць...

Ц у б а н і к. Няма мне чаго гаварыць.

М а р ы н а. Ты хоць пра нас падумай... Чаму ты заўсёды такі ўпарты?

Ц у б а н і к. Сціхні! Не сарамаціся!

Крафт падышоў да Шумскага, пачаў нешта гаварыць яму. Той згодліва ківае галавой.

Шумскі *(закрычаў, склаўшы рукі каля рота)*. Гэй! Рускі лётчык! Калі ты тут і чуеш нас — выходзь і не супраціўляйцеся! Інакш расстраляюць гэтых нявінных людзей і дзіця... Чуеш? Расстраляюць! Пан афіцэр лічыць да пяці...

Крафт. Айн!

Шумскі. Раз!

Крафт. Цвай!

Шумскі. Ну, выходзь жа ты, гад!

Крафт. Драй!

Марына. Тата, татачка!

Шумскі. Тры!

У гэты момант на паляну выбег Грышчук.

Грышчук. Не страляйце, сволачы!!

Шумскі. Дзякуй табе, божа!

Салдаты скіравалі аўтаматы ў яго бок. Зашчоўкалі замкі.

Крафт *(да салдат)*. На месца! Не варушыцца!

Аўтаматы зноў скіраваліся ў бок заложнікаў. Грышчук з аўтаматам разгублена спыніўся на краі паляны. Крафт схаваў пісталет у кабуру, спакойна і ўпэўнена накіраваўся да штурмана. Дулы аўтаматаў прыцiснуліся да спінаў заложнікаў.

Крафт. Адзін рух — і іх расстраляюць... Зброю!

Грышчук аддае аўтамат. Крафт паказвае рукой на кабуру. Грышчук пачынае расшпільваць кабуру. Дастаўшы пісталет, штурман ускідвае руку да скроні. Спрытная і дужая рука эсэсаўца выбівае зброю. Пісталет ляціць у траву. Грышчук стогне ад болю і роспачы.

Цубанік *(да Грышчука)*. Дурань! Хто ж так робіць, хлопча? Эх, дурань! На голы кручок папаўся...

Крафт *(махнуў на Цубанікаў)*. Вэк!

Шумскі. Ідзіце!

Цубанік, Марына і дзяўчынка пайшлі да пасекі.

Крафт *(аднаму з салдат)*. Фойер!

Шольц *(разгублена падымае аўтамат)*. Гер штурмфюрэр, ён жа здаўся...

Крафт. Фойер!

Шольц *(апускае зброю)*. Гер штурмфюрэр...

Крафт нервова выхапіў пісталет і рукаяткай коратка выцяў па твары салдата. Раз, другі, трэці...

Крафт. Фойер! Фойер! Фойер!

Пачуўшы каманду, усе астатнія салдаты ўскінулі зброю. Доўгія чэргі зліліся ў адну і рэхам пакаціліся па лесе. Цубанік паваліўся тварам у малінавы куст. Марына, прыціскаючы да сябе ўжо мёртвую дачку, павольна апусцілася на зямлю.

Грышчук (*кінуўся на эсэсаўца, закрычаў нечалавечым голасам*). Сука-а-а-а!!

Яго схапілі, заламілі параненую руку. Грышчук страціў прытомнасць.

Шумскі (*ледзь чутна да Крафта*). На... навошта?

Крафт (*кіўнуў на Грышчука*). У машыну!

Грышчука пацягнулі прэч з паляны. Усе пайшлі. Апошнім, выціраючы разбіты, скрываўлены твар, пацягнуўся Шольц. Нейкі час сцэна пустая. Потым з другога боку выходзіць Жанчына з бярозавым паленам. Азіраецца па баках, глядзіць угору.

Жанчына. Божухна, калі ты ёсць, як жа гэта ты дазволіў? Дзе ж твая справядлівая рука? Дзе ж твая любоў? Навошта ты даў блаславенне чорным крыжам з могілак на здзек, на лютасць. Навошта пакінуў безабаронных сваіх дзяцей? Праклянцце табе, госпадзі... Праклянцце...

*Заслона.*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Камендатура. Кабінет Крафта. Грэйвіц сядзіць за сталом. Перад ім старая паштовая сумка. Грэйвіц дастае з яе пісьмы-трохкутнікі, газеты...

Грэйвіц. Як вы лічыце, Крафт, колькі паперы можа з'есці звычайны чалавек?

Крафт. У якім сэнсе?

Грэйвіц. У прамым.

Крафт. Не ведаю... Не думаў ніколі.

Грэйвіц (*кіўнуў на пісьмы*). Гэта іх пошта... Я быў у пяхотнай дывізіі, якая толькі-толькі выбіла рускіх з адной вёскі. А адвячоркам у вёску, ці то па старой памяці, ці то сувязь у іх дрэнна працавала, прыехаў на веласіпедзе паштар вось з гэтай самай сумкай... Скеміў, што да чаго, і ў лагчыну! Адстрэльваецца, а ўсё, што вёз з сабою, есць... Палову гадзіны адстрэльваўся і палову гадзіны глытаў паперу... Ну, колькі ён мог з'есці?

Крафт. Гэта залежыць ад таго, што было на ёй напісана.

Грэйвіц. Зараз убачыце... (*Бярэ адзін трохкутнік.*) Ну вось хаця б гэтае... (*Разгортвае.*) Та-ак! (*Чытае.*) «Учора вадзіла карову да быка Аўдоцці Радзівілавай. А яна, падла старая, запатрабавала цэлы мех жыта ды яшчэ і грашыма трохі. Я кажу ёй — дарага. А яна кажа — схадзі вазьмі Піліпавага казла, калі хочаш дзешавей... Так і не паджанілася наша Ластаўка. Павяду заўтра ў Пагодзіна, а то яшчэ перагарыць і ялаўкай застанецца... А ва-ўтарых страках...» Ну і гэтак далей... Варта глытаць?

Крафт. Наўрад.

Грэйвіц. Паглядзім гэта. (*Разгортвае яшчэ адзін трохкутнік.*) Почырк дзіцячы... Памылка на

памылцы. *(Чытае.)* «Дзень добры, татка!» Гэта бацька, мабыць. *(Працягвае.)* «Сёння ў сельсавеце Кузьма Андрэевіч сказаў, што мы хвашыстаў шапкамі закідаем. Дык вось што я прыдумаў: калі ў вас не хапае шапак, я прышлю табе свой картуз. Шкада, канечне, ён яшчэ новы саўсім, але кідайце і яго. І яшчэ. Калі закідаеце немцаў, прывязі дадому аднаго фрыца. Мы з ім будзем на паляванне хадзіць. Няхай за зайцамі бегае». *(Усміхнуўся, Крафту.)* Нічога сабе перспектыўка для нас з вамі...

Крафт. Бязглуздзіца.

Грэйвіц. Не, Крафт! Гэтая бязглуздзіца вельмі дорага каштуе. Кожнае такое пісьмо — гэта ўзброены батальён, нават болей. Бальшавікі праўду кажуць, што вайну выйграюць людзі... Даводзіцца пагадзіцца. Не тэхніка, не ідэі... Людзі. *(Разглядае газеты, чытае загалоўкі.)* «Уперад на ворага!», «Абаронім нашу святую зямлю», «Апошні ўзлёт». Цікава, цікава... *(Чытае.)* Цудоўна! Чорт вазьмі, якая ўдача! Які шанец! Ну што, Крафт, вернемся да нашых адважных лётчыкаў...

Крафт. З каго пачнём?

Грэйвіц. Не будзем парушаць вайсковай субардынацыі... Давайце камандзіра. Як яго прозвішча?

Крафт. Барткевіч... Капітан.

Грэйвіц. Дзе ён?

Крафт. Пакуль у шпіталі.

Грэйвіц. У такім разе хай папраўляецца.

Крафт. Я паслаў у шпіталь ахову.

Грэйвіц. Добра. Давайце стралка.

Крафт *(падняў трубку тэлефона)*. З шостай камеры да мяне...

Грэйвіц. А вы, калі ласка, пакіньце кабінет. Ваш мундзір будзе бянтэжыць яго.

Крафт. Слухаю! *(Выходзіць.)*

Грэйвіц выйшаў з-за стала, закурыў, падышоў да акна, чытае газету. Дзверы адчыняюцца, салдат, які прывёў Вагуру, разгублена патаптаўся ля парога і выйшаў. Паўза.

Грэйвіц *(азірнуўся, паклаў газету на стол)*. Добры дзень!

Вагура *(разгублена)*. Добры...

Г р э й в і ц. Сядайце. У нагах, кажуць, праўды няма.

Вагура прайшоў, сеў ля стала.

Вы, пэўна, не курыце?

В а г у р а. Не...

Г р э й в і ц. Малайчына! Хаця яшчэ навучыцеся. Але чым пазней, тым лепей... Вас, здаецца, Аляксеем завуць?

В а г у р а. Ну...

Г р э й в і ц. Тыповае рускае імя. Вы рускі?

В а г у р а. Беларус...

Г р э й в і ц. Значыцца, белы рускі. *(Засмяяўся.)* Колькі вам год?

Вагура маўчыць.

Ну што ж, не адказвайце. Я лічу, што самае правільнае патрабаванне воінскага статута — гэта не адказваць на пытанні, калі знаходзішся ў палоне. Сапраўднага салдата не спалохаюць ні катаванні, ні допыты, ні страх смерці... На тое ён і салдат сваёй Радзімы... Але я тут не за тым, каб задаваць гэтыя пытанні... Недалёка ад таго месца, дзе вы трапілі ў палон, быў знойдзены забіты яфрэйтар... Вы яго забілі?

В а г у р а *(спалохана)*. Не!

Г р э й в і ц. Добра. Вайна самае жорсткае, што можа быць у свеце. Яна робіць жорсткімі людзей і адносіны паміж імі. Той, хто забіў гэтага няшчаснага яфрэйтара, будзе расстраляны... Я рады, што гэта не вы... І веру вам. Гэта зрабіў нехта з вашага экіпажа. Вы скочылі не адзін, мы ведаем...

В а г у р а. З экіпажа — не! Я ішоў адзін.

Г р э й в і ц. Вы маглі проста не сустрэцца...

В а г у р а. Я сказаў: з экіпажа — не!

Г р э й в і ц. Не настойваю. У нашым тыле шмат акружэнцаў. Значыць, нехта з іх... Аднаго салдата ўжо дапытваюць трэці дзень... Ён адмаўляецца. Але я цяпер упэўнены, што ён забіў яфрэйтара. Яго расстраляюць!

В а г у р а. Гэта не ён!

Г р э й в і ц. Адкуль вы ведаеце?

В а г у р а. Не ён... Гэта... я... я яго...

Г р э й в і ц *(шэптам)*. Цішэй, цішэй... Гэта ж прысуд... Калі яны пачуюць...

В а г у р а *(нервова)*. Я не хацеў яго забіваць, не хацеў... Але ж ён... Дзяўчо, якое яшчэ носа не выцірае, якое... Ён схапіў яе і ў кусты! Ну як жа гэта?! Я ніколі нікога не біў, мяне заўжды білі, а тут... Нічога не памятаю... Кінуўся на яго, і ўсё! Потым гляджу — ужо ляжыць... А дзяўчынка... Не зразумела нават... Думала, што ён хацеў яе сукенку забраць сабе... У вас жа, мабыць, ёсць дзеці? Як жа так...

Г р э й в і ц. Госпадзі! Якая жудасць гэтая вайна! Усім мярзотнікам яна развязвае рукі... Супакойцеся... Гэта мяняе справу. Ва ўсякім разе для мяне. Я немец, але, паверце, мне нізколькі не шкада гэтага нягодніка. Вас не расстраляюць, даю слова. Вы паступілі высакародна, а высакародства ўсюды высакародства... Не трэба плакаць.

В а г у р а. Я не плачу.

Г р э й в і ц. Вось і добра... Я скажу, каб прынеслі вады.

В а г у р а. Не трэба.

Г р э й в і ц *(задуменна)*. Вось што мы зробім... Вы напішаце нешта накшталт заявы нямецкаму камандаванню. Скочыў з самалёта, нікога не забіваў. Так і напішыце. Патроны ў вашым пісталеце цэлыя ўсе... Гэты факт на вашу карысць... А даказаць штонебудзь ніхто не зможа...

В а г у р а. А як жа...

Г р э й в і ц *(не даў дагаварыць)*. І яшчэ. Напішыце, што вам семнаццаць гадоў. Семнаццаць. Маўляў, хацелася на вайну, дабавіў сабе гадоў, каб узялі ў армію. Ну што вы так глядзіце? Нідзе, ні ў якім статуце, ні ў якой прысязе не напісана, што забараняецца хлусіць ворагу... Згодны?

В а г у р а. Я... я не ведаю...

Г р э й в і ц. Не трэба нервавацца. Вось паспрабуйце закурыць. Гэта супакоіць. Я не раю пісаць адразу... У вас ёсць час... Да ранку. Я дам вам паперу і аловак. Больш нічога не трэба? Ну і добра. Напішыце, што я сказаў. Толькі гэта.

В а г у р а. У мяне почырк дрэнны...

Г р э й в і ц. Гэта не важна... Усяго добрага, сяржант.

Вагура пайшоў да дзвярэй. Грэйвіц глядзіць яму ў спіну. Раптам нечакана пытаецца.

Вам загадалі па радыё, каб вы кінулі свой самалёт на калону?

Вагура *(азірнуўся)*. Хіба такое можна загадаць?

Грэйвіц. Да пабачэння. Ідзіце.

Вагура выйшаў. Уваходзіць Крафт.

Крафт. Прабачце, гер група́нфюрэр, гэта і ўсё?

Грэйвіц. Падслухоўвалі?

Крафт. Ніяк не! Вучыўся.

Грэйвіц. Усё! Ён напіша гэтую паперку, а праз тыдзень адкажа на любое пытанне... І зробіць усё, што яму загадаеш.

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Камера. На падлозе ляжыць непрытомны штурман Грышчук. Рэзка ляпнула засаўка. У камеру ўваходзяць Грэйвіц і Крафт.

Грэйвіц *(да Крафта)*. Што гэта такое?

Крафт. Гадзіну назад ён спрабаваў задушыць дзяжурнага. А той трахнуў яго галавой аб сценку.

Грышчук застагнаў.

Грэйвіц *(да Крафта)*. Выйдзіце!

Крафт. Ён вельмі небяспечны... *(Дастаў з кабуры парабелум.)* Вось вазьміце, калі ласка...

Грэйвіц *(злосна)*. Вон!

Эсэсавец ляпнуў каблукамі і знік за дзвярыма.

Грэйвіц *(нахіліўся над штурманам)*. Вы можаце падняцца?

Грышчук, стогнучы, пачаў падымацца, абапіраючыся на здаровую руку.

Грэйвіц. Дазвольце, я дапамагу...

Грышчук. Ідзі ты!

Грэйвіц *(пасля паўзы)*. Дзе вы нарадзіліся, Грышчук?

Грышчук. У бальніцы!

Г р э й в і ц. У псіхічнай? Сядзь, супакойся і не крычы. Крыкам нічога не возьмеш...

Г р ы ш ч у к. Я вас, падлюг, ненавіджу!

Г р э й в і ц *(проста)*. Не трэба корчыць героя! Вы самі здаліся... Позна кідацца на сценку. Раней трэба было. У лесе. Калі ў вас была зброя.

Г р ы ш ч у к. Я здаўся! Здаўся, таму што думаў — вы людзі... Хоць на іншай мове размаўляеце, але ж людзі... А з вамі трэба як з клапамі: душыць, паліць, травіць...

Г р э й в і ц. Хопіць! Думайце не пра нас, а пра сябе! Добраахвотная здача ў палон па вашых законах — злачынства! І нікога з вашых камандзіраў не будзе цікавіць, як гэта адбылося... Для іх галоўнае — факт... Вы здаліся без супраціўлення. Самі аддалі зброю. І другое: вас пахавалі. Вось! *(Дастаў з папкі газету, паднёс да твару штурмана.)* Вы — мёртвы! Чытайце: «Апошні ўзлёт экіпажа Барткевіча...» Вы патрэбны там мёртвы, а не жывы. Але вы яшчэ жывы і можаце нам спатрэбіцца...

Г р ы ш ч у к. А вось гэта не бачыў? Нічога ты з мяне не выцягнеш...

Г р э й в і ц. З вас нічога не будуць цягнуць... Вы самі пацвердзіце тое, што нам патрэбна.

Г р ы ш ч у к. Ты што, сляпы? Я ж табе паказваю: во!

Г р э й в і ц. А трэба нам, каб вы адмовіліся, што вы лёталі на гэтым самалёце, што вы лейтэнант Грышчук. Не было гэтага палёту! Не было!

Г р ы ш ч у к. Во!

Г р э й в і ц. Ну што ж... Падумаем, што будзе, калі вы не адмовіцеся... Радзіма вас лічыць героем, які разам са сваім камандзірам «урэзаўся ў скопішча варожай тэхнікі». А гэты герой раптам заяўляе, што ён жывы... Жывы ды яшчэ і ў палоне... Радзіма, вядома, мёртвага Грышчука будзе лічыць героем, а жывога — здраднікам або правакатарам. І не толькі Радзіма...

Г р ы ш ч у к. Сволач!

Г р э й в і ц. А вы баязлівец, Грышчук... Няўжо вы думаеце, што я не разумею, чаму вы кідаліся на дзяжурнага і чаму вы так паводзіце сябе зараз... Вам хочацца смерці. Не, лейтэнант, вы будзеце жыць! І адкажацеся ад самога сябе, каб ад вас не

адракліся там... Я пакіну вам аркуш. На ім вы і напішыце сваю новую біяграфію. Можаце ўзяць сабе новае прозвішча: Іваноў, Пятроў... Любое... Толькі не Грышчук, лейтэнант і штурман, які тыдзень назад бамбіў пераправу.

Грэйвіц паклаў перад Грышчуком аркуш, накіраваўся да дзвярэй. Спыніўся.

Грэйвіц. Дарэчы, калі жадаеце, можаце на гэтым аркушы напісаць, што Грышчук — гэта вы і што вы самі здаліся... Хто ведае, можа, ваша камандаванне і ўзрадуецца...

Выйшаў. Грышчук, збянтэжаны, стаіць сярод камеры.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

Камера. У куце, прытуліўшыся галавой да сцяны, спіць Вагура. З'яўляецца Маці. Доўга глядзіць на сына.

Маці *(ціха)*. Алёшка... Сыночак...

Вагура расплюшчыў вочы, глядзіць на Маці.

Не пазнаў, дзетухна? Гэта ж я...

Вагура *(здзіўлена)*. Ма-ма... А чаму ты нейкая белая?..

Маці. Гэта сівізна, Алёшка... Старэчы іней. Я ўжо старая. Доўгі век бог даў, каб і за цябе пажыла...

Вагура. Табе ж і сорак гадоў не было...

Маці. Было... Даўно ўжо было, дзетухна... І сорак, і пяцьдзесят... Восьмы дзесятак дажываю.

Вагура. Як жа гэта? Калі ж ты састарылася? Трох месяцаў не прайшло, як ты мяне на вайну праводзіла...

Маці. Шмат гадоў прайшло, Алёшка... Твае гады прайшлі... Твае гады дажываю... За цябе. А ты, як пайшоў перад сенакосам ваяваць, дык усё ваюеш і ваюеш... Усе старэюць, а ты маладзенькі...

Вагура. Значыць, я загінуў?

Маці. Не ведаю. *(Паказвае паперку.)* Вось на

гэтай казённай паперчыне напісалі мне, што ты «не вярнуўся з задання». Я ўжо сорак гадоў чакаю: можа, вернешся. Таму, мабыць, і жыву доўга. Няма калі пра смерць падумаць. А ты не вяртаешся. Сваё заданне выконваеш...

Вагура. Падбілі нас, мама...

Маці. Ведаю. Пра камандзіра вашага, што такую страшную смерць прыняў, і па радыё гаварылі, і ў газетах пісалі... А я і не ведала, што і ты з ім лётаў... Нядаўна толькі напісалі, што і ты герой...

Вагура. Я выскачыць паспеў... Бачыш, у палон трапіў... Сказалі, каб прасіўся ў іх...

Маці. Прасіць і прасіцца горай за ўсё... А табе ордэн далі, з ваенкамата мне прывезлі і сказалі, што ты на гэтым самалёце таксама лётаў... Ты ж ціхі заўсёды быў, рахманы, ледзь што, адразу ў слёзы, а во — на табе! І герой.

Вагура. З кім ты жывеш цяпер?

Маці. Адна, дзетухна.

Вагура. Хата наша яшчэ стаіць?

Маці. Што ты, Алёшка?.. Якая хата? Вёскі не засталося...

Вагура. Як?

Маці. Няма нашых Бярозавак. Спалілі. І нас таксама палілі.

Вагура. Каго?

Маці. Людзей. І мяне палілі. І сястрыцу тваю меншую. І Гэльку Кацярыніну. Дзверы і вокны дошкамі забівалі і запалку пад страху. Дык я з Надзькай з агню вырвалася, а Гэлька Кацярыніна згарэла...

Вагура. За што яны вас?

Маці. Нізавошта... Чужынцы...

Вагура. Значыць, і Перамога будзе?

Маці. Будзе... Дык вось, калі людзі з лясоў вярнуліся, ніхто хаты не прыйшоў будаваць на папялішча... Былі Бярозаўкі вёскай, а сталі могілкамі, крапівой зараслі... Я туды часта прыходжу паплакаць... Надта мне Гэльку Кацярыніну шкада... Яна ж бы тваёй жонкай была, каб у агні не згарэла... І калі б ты вярнуўся...

Вагура. Адкуль ты ведаеш?

Маці. Ведаю, сынок, я ўсё ведаю. Кажуць, гора чалавека мудрэйшым робіць, а я ўжо столькі

перацярпела на сваім вяку, што гэтай мудрасці і розуму поўная галава павінна быць... Была б яна тваёй жонкай... І было б у вас трое дзетак. Адзін хлопчык і дзве дзяўчынкі... І я іх няньчыла б. Гэтак было б. Вайна ўсё забрала. І вас, і дзяцей вашых, і ўнукаў, і праўнукаў...

Вагура. А Надзейка засталася жыць?

Маці. З агню я яе вынесла, ад куль зберагла. Праз год у партызанах ад голаду памерла. Блакада была.

Вагура. А бацька?

Маці. На міне падарваўся. Пасля вайны. На трактары. Шмат, шмат людзей палегла. Кажуць, што з усяго нашага народа з чатырох адзін у зямлю сышоў. А калі браць нашы Бярозаўкі, дык з дзесяці адзін жыць застаўся. А Бярозаўкі таксама народ.

Вагура. Госпадзі! І за што ж гэта людзям? За якія грахі? Бедныя Бярозаўкі! А я думаў: прыйду з вайны, хату добрую пастаўлю на пагорку, над рэчкай. Каб першыя промні ў нашы вокны! Бярозак каля плота шмат будзе. А вось атрымліваецца, што не вярнуся. Бярозаўкі магілкамі сталі.

Маці. Ты толькі страх да сэрца не пускай. Той, хто пужаецца,— памірае цяжка. І ў магілцы яму цяжка... Ты не пужайся... А калі ўжо зусім дрэнна будзе, Бярозаўкі нашы ўспомні... Вясёлку, што з рэчкі ў возера, вярбу пад вокнамі, луг у жоўтых кветках, па якому басаножбегаў па расе... Успомні, лягчэй будзе...

Вагура. Колькі прайшло пасля Перамогі?

Маці. Сорак гадоў цябе чакаю...

Вагура. Больш вайны не было?

Маці. Бог літасцівы...

Вагура. І не будзе?

Маці. А хто ж яго ведае? Можа, людзі і разумнейшыя сталі. Нездарма ж столькі жыццяў праклятай вайне аддалі... Нездарма... Што табе яшчэ сказаць? А, во... Ведаю, родны мой, што не выжывеш ты... Ведаю, што не вернешся, але беражы сябе... Чуеш? Беражы сябе, Алёшка!

Вагура. Мама!

Маці. І не бойся... Я побач... Я заўсёды побач...

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДЗЕСЯТАЯ

Шпіталь. На ложку ляжыць капітан Барткевіч. Перад ім Грэйвіц.

Грэйвіц. Маё прозвішча — Грэйвіц...

Барткевіч *(не адразу)*. Капітан Барткевіч...

Грэйвіц. Як вы сябе адчуваеце? Вы можаце са мной размаўляць?

Барткевіч. Дзякую за клопат. Паспрабую.

Грэйвіц. У вас, капітан, смерць, мабыць, блізкая сваячка. За адзін дзень вы гінулі тры разы... Першы — калі ўрэзаліся ў нашы бедныя машыны... Другі, калі вас хацелі жыўцом закапаць у зямлю... І трэці... *(Грэйвіц падышоў да ложка, паклаў газету.)* Гэта ўжо, мне здаецца, канчаткова... Вас пахавалі свае. Ваша смерць стала палітычным фактам... Чытайце, чытайце... Гэтую газету я прывёз з перадавой... Нічога не скажаш, аператыўна працуюць вашы карэспандэнты...

Барткевіч чытае.

Грэйвіц. Гэта цуд, што вы цяпер знаходзіцеся тут і можаце размаўляць са мной... Вы засталіся жыць... Ні пра якія ваенныя тайны вас ніхто і ніколі не будзе пытацца. Будова самалёта, на якім вы лёталі, нам была вядома яшчэ да пачатку вайны...

Барткевіч. Не трэба прэлюдый... Вы ваенны чалавек. А ваенныя павінны быць канкрэтнымі.

Грэйвіц *(усміхнуўся)*. Я не ваенны чалавек...

Барткевіч. Што я павінен зрабіць?..

Грэйвіц. Жыць! Скарыстаць тое, што вам падараваў лёс. Ад імя нямецкага камандавання я прапаную вам супрацоўніцтва з германскім вермахтам.

Барткевіч. Здорава! Як у нас кажуць: быка за рогі...

Грэйвіц. Без прэлюдый ва ўсякім разе...

Барткевіч. Што ж атрымліваецца? Тыдзень таму я бамбіў вас, а цяпер вы мяне пасадзіце ў свой самалёт, нагрузіце яго бомбамі, і я палячу бамбіць уласны аэрадром... Так нават у кніжках не бывае...

Грэйвіц. Непасрэднага ўдзелу ў баявых дзеяннях вы прымаць не будзеце. Мы не будзем прыму-

шаць вас ваяваць супраць свайго народа. Вы вопытны лётчык і спатрэбіцеся як інструктар.

Барткевіч. Больш вы мне нічога не хочаце прапанаваць?

Грэйвіц. Свой абавязак вы выканалі да канца. Вы зрабілі нават больш, чым трэба было...

Барткевіч. Не губляйце марна час...

Грэйвіц. Адмаўляецеся?

Барткевіч. Я ўсё сказаў.

Грэйвіц. Тады дайце слова, што не будзеце ваяваць супраць нас, і вас вызваляць сёння ж... Вам не будуць помсціць за тое, што вы зрабілі... Мы разумеем. Салдат выконваў свой абавязак.

Барткевіч. Я не магу даць такога слова.

Грэйвіц. Чаму?

Барткевіч. Таму што я выконваў не абавязак салдата, а абавязак чалавека... І буду выконваць яго, пакуль жывы...

Грэйвіц. Гэта вам толькі здаецца, што вы жывы... Вось тут чорным па беламу напісана: вы мёртвы. А гэта вызваляе вас ад усяго, ад усіх абавязкаў... Што б ні здарылася, ваша імя ніколі не запішуць у чорны спіс здраднікаў. На вас кляймо! Пашаны, любві, прыкладу... Усім раззванілі, што вы герой. Абставіны склаліся так, што ў любым выпадку на вас будуць маліцца.

Барткевіч. Вы забыліся яшчэ пра нешта.

Грэйвіц. Ну...

Барткевіч. Ёсць такое слова — сумленне.

Грэйвіц. Хіба вы не сумленна шандарахнуліся на галовы нашых няшчасных салдат? Ваша сумленне ўжо шлак... Яно нікому не патрэбна.

Барткевіч. Мне не так важна, што будуць думаць пра мяне іншыя, мне важна, што буду думаць пра сябе я.

Грэйвіц. Калі вас паставяць да сценкі — думаць пра гэта не будзе каму...

Барткевіч. Слова такога я не дам.

Грэйвіц. І калі будзе магчымасць?

Барткевіч. Буду змагацца...

Грэйвіц *(нервова)*. Ды не будзе ў вас такой магчымасці! Не будзе! Не, не... Менавіта мы вас ні катаваць, ні расстрэльваць не збіраемся... Тое, што вы не баіцёся смерці,— вы даказалі... Але запомні-

це: варта вам толькі з'явіцца ў сваіх і сказаць, хто вы, вас паставяць да сценкі і... без суда і следства. (*Узяў газету.*) Барткевіч тут! Легендарны герой, на якога трэба раўняцца іншым. Ён загінуў смерцю героя. Вам проста не паверацъ, назавуць самазванцам... А што ў Расіі рабілі з самазванцамі ва ўсе часы? Выйсце ў вас адно — прыняць маю прапанову... Альбо павесіцца.

Барткевіч. Не хвалюйцеся, я не павешуся.

Грэйвіц. Значыць, прапанова прымаецца?

Барткевіч. Мне надакучыла...

Грэйвіц (*суха*). У такім разе я загадаю пераправіць вас праз лінію фронту.

Барткевіч. Зрабіце ласку...

Грэйвіц. Няўжо вы верыце, што вас там сустрэнуць як героя? З вас зрабілі ідала! Ніхто не дазволіць, каб ідал быў жывым чалавекам.

Барткевіч. Я таксама гэтага не дазволю. Я проста назаву сябе чужым імем, звычайным салдатам, стану ў строй і буду біць вас...

Грэйвіц. А калі замест фронту будзе Сібір? Руднікі!

Барткевіч. Буду працаваць як пракляты, жылы з сябе цягнуць, каб вам хоць на хвіліну раней зламалі шыю...

Грэйвіц. Вы альбо сляпы фанатык, альбо псіхічна хворы чалавек, што ўрэшце адно і тое ж. Вы свядома пайшлі на пагібель. Навошта? Са смерцю знікне ўсё: камунізм, фашызм, справядлівасць, рэлігія. Усё! Адкажыце: навошта вам гэта трэба было? Хто вам загадаў? Толькі не трэба пра любоў да Айчыны, пра пачуццё вышэйшай справядлівасці. Прасцей.

Барткевіч. Усё вельмі проста. Вы — хвароба чалавецтва, вірус.

Грэйвіц. А вы?

Барткевіч. А мы ахоўныя сілы, якія знішчаць вас... Фізічна знішчаць.

Грэйвіц. Нас — гэта немцаў?

Барткевіч. Вас, асабіста вас, тых, хто падобны на вас і ўсё тое, што стварылі... У вас ужо цяпер вочы мерцвяка.

Грэйвіц (*спакойна*). Усё! Даволі, капітан... Дыпламатыя скончылася. У мяне да вас апошняя

прапанова. Грубая і нават цынічная. Я працую ў аддзеле ідэалагічнай работы войск СС. Мне патрэбна, каб нашы салдаты не баяліся Барткевічаў. Каб паверылі, што вы ніякія не героі, а звычайныя салдаты. Вам неабходна з усмешкай на твары падпісаць дакумент аб супрацоўніцтве з намі... Потым вас адправяць у канцлагер. Ваш экіпаж ужо даў згоду. Гэта будзе толькі інсцэніроўка. Плёнку будуць круціць толькі ў нашых войсках.

Барткевіч. Я падпішу апошні.

Грэйвіц. Не, вы падпішаце першы!

Барткевіч. Усё ясна. Ідзіце да д'ябла, я стаміўся.

Грэйвіц. Калі вы адмовіцеся — памрэце маруднай, пакутлівай смерцю. Чаго, чаго вы ўсміхаецеся?

Барткевіч. Я ўявіў, як вас будуць вешаць... Вы будзеце трэсціся, плакаць ад страху і крычаць, што вы невінаваты, што вам загадвалі...

Грэйвіц. Маўчаць! Свіння...

Барткевіч. Адказаць не магу. Вельмі слабы, каб даць вам па мордзе.

Грэйвіц *(крычыць)*. Крафт!

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

Камендатура. Насупраць Грэйвіца стаіць Вагура. Грэйвіц трымае чысты аркуш.

Грэйвіц. Нічога не напісалі?

Вагура. Не.

Грэйвіц. Сядайце да стала і пішыце. Я дапамагу.

Вагура. У мяне почырк дрэнны... Я з памылкамі пішу. Па дыктоўках двойкі ў школе былі...

Грэйвіц. Нічога. Я вам пастаўлю пяцёрку. Сядайце.

Вагура не зварухнуўся. Грэйвіц чакае.

Грэйвіц. Вы ж абяцалі ўчора.

Вагура. Нічога я не абяцаў... Гэта нядобра.

Грэйвіц. Што нядобра?

Вагура. Няпраўду пісаць... Я... я не хачу.

Грэйвіц. А жыць ты хочаш?

Вагура. Жыць усе хочуць.

Грэйвіц. Паслухай, ты ж сам здаўся... Ты ж нават не зрабіў ніводнага стрэлу. Значыць, на нешта спадзяваўся...

Вагура. Я не спадзяваўся... І здаўся не сам. Гэта толькі здаецца, што сам... Калі ён захрыпеў — мне дрэнна зрабілася. Я нават кацянят ніколі ў жыцці не тапіў, а тут... Пена на губах, і вочы белыя... са мной усё што хочаш можна было зрабіць. Мне дрэнна было...

Грэйвіц. За ноч прыдумаў?

Вагура. Я не прыдумаў. Я ўспомніў.

Грэйвіц. Што дрэннага я цябе прымушаю рабіць?

Вагура. Гэта нядобра... Скажу, што не я яго забіў, а на каго-небудзь іншага спішуць.

Грэйвіц. Калі чалавеку дрэнна, ён не можа думаць пра іншых... Гэта закон.

Вагура. Ніякіх законаў я не ведаю. І мне не семнаццаць гадоў, а дваццаць адзін. Хутка будзе.

Грэйвіц. Наўрад ці будзе. Цябе расстраляюць.

Вагура маўчыць.

А магчыма, яшчэ і будуць катаваць... Няўжо ты не баішся гэтага?

Вагура. За што катаваць? Вы ж мне ўчора казалі, што так яму і трэба, мярзотніку...

Грэйвіц. Гэта я так лічу...

Вагура. Ну, дык і растлумачце тады ім, калі вы такі добры...

Грэйвіц. Я хачу ўратаваць цябе, але адзін я не змагу гэтага зрабіць. Ідзі і яшчэ падумай.

Вагура. Я ўжо думаў. Усю ноч.

Грэйвіц. Падумай яшчэ.

Вагура павярнуўся і выйшаў. Грэйвіц застаўся адзін, трымаючы ў руках непатрэбны аркуш. Злосна скамячыў яго, шпурнуў пад стол, схапіў трубку тэлефона.

Штурмана да мяне!

Прывялі Грышчука. Ён збянтэжана спыніўся каля дзвярэй. Знешне ўся яго рашучасць некуды знікла. У руках аркуш.

Сядайце, калі ласка... *(Грышчук сеў.)* Напісалі?

Грышчук *(запалым голасам)*. Так точна!

Грэйвіц. Усё, як я казаў?

Грышчук *(гэтак жа)*. Так точна!

Грэйвіц. Вось гэта лепей... Я чамусьці быў упэўнены, што мы з вамі зразумеем адзін другога. І працягнем размову...

Грэйвіц працягнуў руку па аркуш. Грышчук падаў яго дрыжачай рукой. Аркуш выслізнуў і ўпаў на падлогу. Грэйвіц выйшаў з-за стала, нахіліўся... Нечакана штурман выцяў яго нагой па твары. Грэйвіц коратка войкнуў і зваліўся на падлогу. Грышчук кінуўся на яго зверху, пачаў душыць здаровай рукой.

Грышчук. Маё прозвішча — Грышчук! Лейтэнант Грышчук! Гэта я шостага ліпеня бамбіў вашу пераправу! Я!

Грэйвіц *(хрыпіць)*. Крафт...

Грышчук. Я рады, што мы скінулі ўсе да адной бомбы вам на галовы... Я рады, што не згарэў у самалёце, а змог выскачыць і прыкончыць яшчэ аднаго...

Грэйвіц *(змагаючыся)*. Крафт, памажыце!

Грышчук. Мне шкада, што па памылцы я раней часу запісаны ў мёртвыя!.. Але я яшчэ жывы! Я, лейтэнант Грышчук! І я не баюся тваіх пагроз! Чуеш, ты! Сумленныя людзі — заўсёды застануцца сумленнымі... Хоць здохні — нічога ты не зробіш!!! Чытай, падлюга, чытай!

Грэйвіц *(з апошніх сіл)*. Крафт!

Убягае Крафт. Заўважыўшы, што адбываецца, ён спакойна дастае з кабуры парабелум, гэтак жа спакойна прыцэльваецца і страляе. Грышчук падымаецца, трымаючыся за жывот, і робіць некалькі крокаў, падае. Хаўкаючы ротам, падымаецца Грэйвіц. Крафт налівае з графіна ваду, падае Грэйвіцу.

Навошта вы?.. Ён самы слабы з іх... Навошта вы стралялі?

Крафт. Я не думаю, што было б лепей, калі б ён перагрыз вам горла...

Грэйвіц. Азіяты! Дзікі народ...

К р а ф т. Гер групенфюрэр! Пакуль вы знаходзіцеся тут, я адказны перад рэйхам за вашу бяспеку. І таму я маю права патрабаваць, каб вы спынілі вашы эксперыменты. Даруйце, але вы займаецеся глупствам. Гэта не той народ, з якім можна весці псіхалагічную вайну. Іх псіхалогія не паддаецца тлумачэнню, не мае сістэмы і правіл. Яна падсвядомая, інтуітыўная... Яны адвяргаюць усё, што прыходзіць збоку. Усё чужое, усё тое, што з'явілася не на іх зямлі... Яны могуць прыняць недарэчнае, жорсткае, страшнае, але сваё! І будуць змагацца да канца супраць чужога, нават калі гэта чужое і нясе з сабой прагрэс для іх... Мы яшчэ не ведаем, на што здольны гэты народ у сваёй стыхійнай барацьбе. *(Падняў трубку тэлефона.)* Прывядзіце жанчыну! Вось вам яскравы прыклад: сёння ноччу адна мясцовая кабеціна спаліла ў сваёй хаце трох афіцэраў.

Г р э й в і ц. Як?

К р а ф т. Замкнула дзверы, абліла газай вуглы і запаліла... Сёння на гарадскіх могілках хаваюць тры абсмаленыя шкілеты.

Г р э й в і ц. Яе злавілі?

К р а ф т. А яна і не думала хавацца. Хадзіла вакол палаючай хаты і падкідвала ў агонь бярозавае паленне... Каб лепш гарэла.

С а л д а т прыводзіць Ж а н ч ы н у. Валасы і вопратка ў яе абсмаленыя, твар скрываўлены, і толькі вочы гараць ненатуральным бляскам.

Г р э й в і ц. Навошта ты гэта зрабіла?

Жанчына маўчыць.

Ты ж жанчына! Маці! Як так можна з жывымі людзьмі?..

Ж а н ч ы н а. Гэта не людзі... Гэта чорныя крывавыя крыжы з могілак... Яны як саранча наляцелі на зямлю нашу, нішчаць усё, паляць усё... Дымам і полымем людзей зводзяць са свету... Дзетак маіх спалілі. А я іх саміх спапяліла... У хаце сваёй...

Г р э й в і ц. Яна вар'ятка...

К р а ф т. Я гэта заўважыў. Але ж яна не спаліла свайго суседа. Яна знішчыла нашых людзей.

Г р э й в і ц *(да Жанчыны)*. Ты ведаеш, што з табой зробяць?

Жанчына. Нічога вы са мной не зробіце.

Грэйвіц. Цябе будуць катаваць, а потым заб'юць...

Жанчына. Мяне нельга забіць... Мяне нельга спаліць... нельга... нельга... нельга... Я доўга буду жыць, я вечна буду хадзіць па гэтай зямлі...

Грэйвіц *(спалохана)*. Вывесці! Вывесці яе!

Жанчыну выводзяць. Грэйвіц дрыжачымі рукамі закурвае цыгарэту.

Крафт. Вяртайцеся ў Берлін, гер групенфюрэр... Я паспрабую зрабіць усё, што вам патрэбна, сваімі метадамі. Растлумачце кінаапаратару, які сюжэт трэба зняць. Я іх прымушу ўсміхацца перад камерай...

Грэйвіц. Наўрад, Крафт, наўрад...

Крафт. Гэты народ можна зламаць толькі лютай жорсткасцю. І адразу. Пакуль ён не паспеў ачуняць.

Грэйвіц. А калі маланкавая вайна зацягнецца?

Крафт. Тады... Вы ведаеце, што такое зімовае паляванне на мядзведзя? Знаходзяць логава, дзе ён спіць, разбураюць яго. Страшнейшага звера, чым патрывожаны зімой мядзведзь,— няма. Яго трэба застрэліць адразу, бо ён раздзярэ цябе на шматкі... Рускіх завуць мядзведзямі...

У гэты момант Грышчук заварушыўся і цяжка пачаў падымацца, прыціскаючы да раны руку. Грэйвіц азірнуўся, збялеў і жудасна закрычаў.

*Зацямненне*

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

Камера. На падлозе курчыцца ад болю смяротна паранены Грышчук.

Грышчук *(сцяўшы зубы)*. Ма-ма... Ма-ма...

З'яўляецца Маці.

Маці. Ты клікаў мяне, Антон? Я слухаю цябе.

Грышчук. Я не Антон!

М а ц і. Не, ты Антон. Маленькага цябе прынёс у прытулак салдат. Яго звалі Грыгор'еў. Цябе тады і назвалі Рыгор Грышчук. Але імя тваё — Антон.

Г р ы ш ч у к. Хто ты? Адкуль?

М а ц і. Я твая маці.

Г р ы ш ч у к. У мяне няма маці. Я падкідыш.

М а ц і. Няпраўда. Паглядзі на мяне. Ты ўбачыш свае рысы.

Грышчук падымае галаву, глядзіць.

Г р ы ш ч у к. Колькі табе гадоў?

М а ц і. Дваццаць.

Г р ы ш ч у к. Я ж старэйшы за цябе...

М а ц і. Мёртвыя не старэюць. У дзевятнаццатым годзе, калі табе было толькі чатыры месяцы, мяне засеклі шабляй пад Самарай, на чыгуначнай станцыі. Я хадзіла ў разведку. Разам з табой. Жанчына з дзіцем на руках — хто на гэта зверне ўвагу? Звярнулі. Выдалі... Я адстрэльвалася, бегла па пуцях паміж вагонаў. А ты толькі вачаняткамі лыпаў пасля кожнага стрэлу... Стаяў пусты вагон. Дзверы адчынены. Я паклала цябе ў гэты вагон, адбеглася і стрэліла ў апошні раз... Здаецца, трапіла ў некага. Падбег рыжавусы вахмістр, падняў шаблю... Калі я валілася на рэйкі, убачыла, што цягнік ужо рухаўся, цягнучы і той вагон, у якім ты плакаў...

Г р ы ш ч у к. Мама!

М а ц і. Хлопчык мой!

Г р ы ш ч у к. Добра, што ты прыйшла да мяне...

М а ц і. Ты клікаў мяне...

Г р ы ш ч у к. Быў час, калі я ненавідзеў цябе... І бацьку свайго невядомага ненавідзеў...

М а ц і. Твой бацька быў цудоўным чалавекам.

Г р ы ш ч у к. Я не ведаў нічога.

М а ц і. Мы разам з ім змагаліся за тваё шчасце. Спачатку ў рэвалюцыйным падполлі, потым на грамадзянскай... Мы змагаліся за шчасце для ўсіх людзей...

Г р ы ш ч у к. Я таксама змагаўся за шчасце для некага... Мама! Ці надыдзе калі-небудзь той час, калі не трэба будзе змагацца?

М а ц і. За шчасце заўсёды трэба змагацца.

Г р ы ш ч у к. Але ж не кроў ліць. Вы ваявалі, мы ваюем, няўжо і дзеці нашы будуць ваяваць? Хто

ж піхае людзей у гэтую бяздонную крывавую прорву?

М а ц і. Зло. Калі кожны чалавек будзе змагацца з ім — яно знікне. Але толькі кожны! Кожны! Кожны!

Г р ы ш ч у к. Я, здаецца, сумленна змагаўся. Але што я зрабіў. З-за мяне трох людзей расстралялі... Барацьба супраць зла — зло нараджае.

М а ц і. Ты добра паводзіў сябе ўсё жыццё. Я ганаруся сваім сынам.

Г р ы ш ч у к. Я баязлівец, мама! Чуеш? Нікому не сказаў бы, а табе скажу: я страшэнна баюся катаванняў! Я праз гэта і кінуўся на гэтага вылюдка, каб прыняць больш лёгкую смерць.

М а ц і. Хлопчык мой, ты не ведаеш сябе. Ты моцны. Ты ўсё вытрымаеш, што лёс пашле табе. Ты ўжо вытрымаў.

Г р ы ш ч у к. Я памру?

М а ц і. Памрэш. Твая рана смяротная.

Г р ы ш ч у к. Я не баюся, мама.

М а ц і. Веру.

Г р ы ш ч у к. Я толькі хачу спытацца ў цябе... Бацька мой жывы?

М а ц і. Не. У дваццатым годзе загінуў у харчатрадзе...

Г р ы ш ч у к. Колькі яму было?

М а ц і. Дваццаць тры.

Г р ы ш ч у к. Табе — дваццаць, яму — дваццаць тры, а я ў дваццаць два зрабіў свой апошні ўзлёт. І ўсё! І трэба паміраць. Ці зменіцца што-небудзь пасля нас? А можа, мы марна аддавалі сваё жыццё?

М а ц і. Зменіцца, хлопчык мой. Калі-небудзь абавязкова зменіцца. Нічога ў свеце не праходзіць марна, бясследна. Нічога. Трымайся... Беражы сябе. Да апошняга беражы сябе! Я заўжды з табой.

Адчыняюцца дзверы. С а л д а т ы штурхаюць збітага, у акрываўленай кашулі капітана Б а р т к е в і ч а. Ён падае на падлогу і ляжыць нерухома.

Г р ы ш ч у к. Мама! Не пакідай мяне, мама...

Б а р т к е в і ч *(падымае галаву)*. Грыша! Гэта я, Грыша...

Г р ы ш ч у к. Коля... Няўжо ты паспеў выскачыць? Ці гэта трызненне?

Барткевіч. Выскачыць не паспеў... Але тут усё ж апынуўся... Лёс. Цябе дапытвалі? *(Барткевіч падпоўз да штурмана, абняў яго.)* Білі? *(Заўважыў рану.)* Сволачы!

Грышчук. Коля, трох людзей, трох бязвінных людзей: старога, жанчыну, дзіця за мяне з аўтамата ў. Сэрца нехта бы абцугамі сціснуў. Сціснуў і трымае.

Барткевіч. Гэта фашызм, Грыша...

Грышчук. Дажыць! Ой, як хочацца дажыць, каб спытаць: людзі, як жа гэта вы змаглі так азвярэць, як дажылі да такога?

Барткевіч. Людзі невінаватыя...

Грышчук. Хто ж вінаваты? На праклятыкапіталізм усё будзем спісваць? Не, усіх трэба судзіць! Усіх! Асабліва тых, хто пальцам не зварухнуў за ўсё сваё жыццё ні ў той, ні ў другі бок... Якія толькі загадаў чакаюць... Абы ад каго... Толькі загадаў... Эх! Дажыць бы...

Дзверы адчыняюцца. Салдаты ўносяць непрытомнага Вагуру і кідаюць на падлогу. Барткевіч нахіляецца над ім.

Барткевіч. Лёша! Вагура!

Вагура *(адкрывае вочы)*. Таварыш капітан... Я нічога ім не сказаў... Нічога не зрабіў, што ім трэба было, чэснае слова. Я толькі крычаў. Вельмі ўжо балюча было. Нясцерпна...

Барткевіч. Супакойся, супакойся...

Вагура. Я нічога не сказаў... Паверце...

Барткевіч. Я веру табе... Ты малайчына... Я рады, што ўзяў цябе ў экіпаж.

У камеру ўпіхнулі шыракаплечага мардатага чырвонаармейца ў падранай гімнасцёрцы. Ён стаяў ля дзвярэй і глядзеў на лётчыкаў.

Барткевіч. Праходзь... Чаго стаў?

Мардаты *(нервова)*. Адваяваліся? Я таксама...

Барткевіч. Што таксама?

Мардаты. Як яны кажуць, «хендэ хох» зрабіў... Цудоўненька так... З асалодай... Эх, браткі! А вы хто? Летуны? Чорт, толькі цяпер зразумеў: увесь сэнс жыцця чалавечага ў яго руках... Праваю

тыцкаеш угору — значыць «за», левую — устрымаўся... Абедзве: усё! Капцы! Я не я і мама не мая! Адна секунда, і чалавека няма!

Барткевіч. Сядзь і аддыхайся!

Мардаты. А вы, былы таварыш камандзір, не камандуйце! Я ж вам ясненька давёў: я не я... Быў цудоўненькі салдацік, патрыёт гэтакі, а зараз — гад, сволач, здраднік... Што? Думаеце, з глузду з'ехаў? Свядома, сам здаўся... Шкуру сваю ратаваў! Ха-ха!

Грышчук. Заткніся!

Мардаты. Шкуру-у... Біўся, як звер, да апошняга змагаўся... Адзін з усяго палка жывым застаўся: думаў, сустрэнуць як чалавека... Сустрэлі! Добра сустрэлі! З аркестрам!

Вагура. Ён акружэнец... Яго ў вёсцы разам са мной схапілі... Мне гэты казаў...

Мардаты. Ніхто мяне не хапаў! Я сам як цюцька прыбег да іх... Прыбег і расказаў. Усё, што толькі ведаў! А-а-а, аж анямелі... Здзівіліся? А вы паслухайце! Нас на другім тыдні вайны раскалашмацілі!.. Я не кінуў зброю! Нас, як ваўкоў, ганялі па лесе... Я не кінуў зброю! Увесь узвод перабілі пад Смілавічамі... Я не кінуў зброю! Адзін застаўся, тры дні галодны хадзіў, ваяваў... Са зброяй прапоўз да сваіх... Зноў гатовы быў ісці ў бой біць захопнікаў... А мяне на праверку ў асобы аддзел, пагаварылі, як з забойцам, і ў штрафную на ўсякі пажарны... У кампанію да сапраўдных здраднікаў... Ну што ж! Здраднік дык здраднік... Вось я і тут...

Барткевіч *(не адразу)*. Дык ты сам?

Мардаты. Што? А-а-а... Сам, хлопчыкі... Прыдумаў, як лепей змыцца, і цю-цю... А якая розніца?

Грышчук *(ледзь чутна)*. Гадаўка! Ты ж, пэўна, у школе пяцёркі атрымліваў, на сходах выступаў, вершы ў сценгазету пра Радзіму пісаў...

Мардаты. Пляваць мне на ўсё!

Грышчук *(спрабуе падняцца)*. Зараз крывёй плюнеш...

Барткевіч. Не трэба, Грыша... *(Падышоў да Мардатага.)* На каго ты крыўдуеш? Каго папракаеш? Радзіму, якая слязамі з крывёю абліваецца.

З Радзімай хочаш, як на базары: ты мне — я табе... Плаці за ўсё! За тое, што іду за цябе пад кулі, за тое, што ратую цябе, за тое, што паміраю за цябе... Плаці! Будзеш плаціць — буду табе сумленным сынам, а калі не... Хто ж гандлюе сваім сумленнем? Хто ж яго прадае?

Мардаты. Мне нічога не трэба было! Нічога! Толькі справядлівасці...

Вагура. Родная маці бывае несправядлівай... Але застаецца маці... Назаўсёды.

Мардаты. Казкі гэтыя дзеткам саплівым расказвай... Я не Ісус Хрыстос... Я чалавек!

Грышчук. Юда ты! Юда...

Мардаты. Так! Так! Я Юда... Тысячы год гэта імя бэсцілі самымі апошнімі словамі, і за тысячы год ніводнаму разумніку і ў галаву не прыйшло, што Юда не сам здрадзіў... Яго прымусілі! Ён абавязаны быў здрадзіць, каб потым усе людзі адчувалі віну сваю за загубленага Хрыста... Ён выканаў волю неба і павесіўся... Адзін павесіўся, а святыя праведнікі засталіся жыць... Адракліся ад свайго настаўніка, а ўсё спіхнулі на гэтага няшчаснага Юду: ён вінаваты... І мяне прымусілі! Прымусілі стаць Юдам...

Барткевіч. Усё?

Мардаты. А табе мала? Гэтага на ўсіх вас хопіць...

Барткевіч. Цяпер паслухай: самае страшнае для чалавека не смерць, не тое, што яго ў нечым несправядліва абвінавачваюць, нават не тое, што ад яго ўсе адракаюцца... Самае страшнае — гэта калі памірае душа. Хлопча! Што ж ты робіш? Ты ж яе сваімі рукамі душыш... Яна чалавеку сілы дае выстаяць, вытрымаць усё страшнае, што звальваецца на яго, а ты... Хочаш ведаць, чым усё гэта скончыцца? Да скону дзён сваіх ты будзеш поўзаць у брудзе, па табе будуць таптацца, пляваць табе ў твар... Ты будзеш пакутаваць, плакаць і крычаць, але ў цябе не стане сілы, каб узняцца... Лёс усіх, хто спапяліў сваю душу... З-за гэтага твой Юда і павесіўся...

У камеру заходзіць Шумскі. Ён у чорным кіцелі, з белай павязкай на рукаве. Выгляд у яго апапураны, разгублены.

Шумскі (*да Мардатага*). Выходзь... Цябе па

памылцы завялі да іх... Ну чаго аслупянеў? Выходзь, табе кажуць...

Мардаты моўчкі пакідае камеру. Шумскі спыняецца каля дзвярэй.

Мо вам што-небудзь трэба? Дык я прынясу...

Грышчук стогне.

Вагура. Піць хочацца...

Барткевіч. Прынясіце вады...

Грышчук. Не трэба! Коля! Нічога ад іх не трэба...

Паўза.

Шумскі. Дык прыносіць ці не?

Барткевіч. Ідзіце адсюль.

Шумскі. Ну як хочаце сабе.

Шумскі выходзіць.

Барткевіч *(падышоў да Грышчука)*. Пацярпі, Грыша... Ужо нядоўга... Разам пасадзілі, значыць, нядоўга... Хутка наш апошні палёт скончыцца...

Вагура. Заб'юць? Няўжо заб'юць?

Барткевіч. Супакойся... Усё ў гэтым свеце заслужыць трэба: і шчасце, і пашану, і памяць... Але цяжэй за ўсё заслужыць смерць, якая вартая чалавека... Гэта як узнагарода за ўсё жыццё... Смерць — вартая чалавека — гэта смерці смерць...

Вагура. Прабачце... Прабачце, таварыш капітан...

Грышчук *(нечакана)*. Слухайце казку... Чалавек пражыў доўгае жыццё і паклікаў Смерць... Смерць прыйшла і сказала яму: «Я не магу цябе забраць, бо ты не разлічыўся з усімі даўгамі на зямлі...» Чалавек разлічыўся з даўгамі... Зноў паклікаў Смерць... Смерць сказала: «Я не магу цябе забраць, бо ты не выгадаваў нікога сабе на змену». Чалавек прынёс дадому сірату-немаўлятка і выхаваў яго аж да сталых гадоў... А Смерць зноў адмовілася забраць яго да сябе... «Чаму?» — спытаўся стары чалавек. Смерць адказала: «Я б забрала цябе адразу, але я паднявольная вялікаму ўладару Жыццю... Яно цябе не адпускае... Ты павінен яшчэ пасадзіць дрэва». У чалавека не было сіл, але ён пасадзіў і ўзгадаваў

дрэва... І тады Смерць прыйшла па яго... Але разам са Смерцю да чалавека прыйшло Жыццё і сказала: «Я не магу аддаць цябе Смерці. Ты будзеш жыць!» — «Два разы не жывуць!» — адказаў чалавек. «Ты будзеш жыць часцінкай усіх людзей, якія хоць зрэдку ўспомняць цябе добрым словам, ты будзеш жыць часцінкай таго дзіцяці, якога ўзгадаваў, ты будзеш жыць часцінкай дрэва, якое...» *(Задыхаецца.)* Коля... і ты, Лёша... Калі вы вырвецеся адсюль, калі дажывеце... Даўгоў я, здаецца, не пакінуў... Сына не выгадаваў... Тут ужо ўсё... нічога не зробіш... Вярбу... пасадзіце дзе-небудзь вярбу... Жывучае дрэва... Я ўсё жыццё хацеў, але... Ніколі ніводнай вярбы не... Вярбу... Вяр...

Барткевіч *(кінуўся да штурмана)*. Грыша! Грыша! Нашы дрэвы будуць расці! Ты чуеш? Мы не знікнем з гэтай зямлі! Мы абаранялі яе да апошняга... Яна не забудзе гэтага! Людзі могуць забыць, але яна не забудзе! Чуеш, Грыша? *(Падняў галаву, ціха.)* Памёр...

Вагура заплакаў. З'яўляецца Маці, схіляецца над Грышчуком, закрывае яго твар ручнікам.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ

Яны стаяць на авансцэне. Промень святла высвечвае толькі іх твары. Камандзір і стралок. Кожную секунду могуць загрукатаць аўтаматы, каб абарваць іх жыццё. Убаку стаіць Грэйвіц.

Вагура. Страшна... Страшна, таварыш капітан... І за Радзіму паміраць страшна...

Барткевіч. Не думай пра гэта... Дай мне руку...

Вагура. Не магу. Яны мне перабілі яе.

Барткевіч абняў яго, прытуліў да сябе.

Барткевіч. Адкуль ты, Лёша?

Вагура. З Віцебшчыны... Браслаўскі раён... Чулі?

Б а р т к е в і ч. Край азёраў...

В а г у р а. Ну.

Б а р т к е в і ч. А як твая вёска завецца?

В а г у р а. Бярозаўка...

Б а р т к е в і ч. Там што, шмат бяроз?

В а г у р а. Ніводнай... Клёнаў шмат, дуб расце на пагорку, а бяроз нямашака... Я думаў насадзіць пасля вайны... Таварыш камандзір, няўжо вам не страшна?

Б а р т к е в і ч. Страшна, Лёша.

В а г у р а. Гэта ж усё... Зараз секануць у плечы, і ўсё... Таварыш камандзір...

Б а р т к е в і ч. Мяне Мікалаем завуць...

В а г у р а. Вы ведаеце... Я ж нават цукерак за сваё жыццё не наеўся ўдосталь... У калгасе якія заробкі... Маці давала зрэдку грошай... Бегаў за дзесяць кіламетраў у Браслаў і купляў падушачкі... Ведаеце, цукеркі такія танныя... Ну як жа паміраць?

Б а р т к е в і ч. Так трэба... Чалавек абавязаны да канца выканаць свой чалавечы абавязак на зямлі... Адны яго і за ўсё жыццё не выконваюць, іншым жыцця хапае, а мы вось паспелі раней... Ты не бойся... Нічога не знікае. Мы вышэй за смерць... Так павінна быць! Інакш у прыродзе няма справядлівасці...

З'яўляецца Ш у м с к і.

Ш у м с к і. Яны вам у апошні раз прапануюць... Ну, падпішыце вы гэтыя лісты перад фатографам... Інакш — усё!

Б а р т к е в і ч *(да Вагуры)*. Чалавечае жыццё ў адносінах да вечнасці — бліскавіца... Успыхне і згасне... Успыхне і згасне...

Ш у м с к і. Лісты пустыя... Разумееце? Толькі распісацца, і ўсё...

Б а р т к е в і ч *(да Вагуры)*. Бліскавіца можа быць на мільённую долю імгнення даўжэй ці карацей. Гэта няважна. Семдзесят год ці дваццаць пяць для вечнасці ўсё адно.

В а г у р а. Мне дваццаць.

Б а р т к е в і ч. Важна, як ярка ўспыхне гэтая бліскавіца. Як яна асвеціць цёмнае асяроддзе і сагрэе яго.

Ш у м с к і *(закрычаў)*. Ідыёты! Ёлупні зацятыя!

Вы ж здохнеце зараз! Пройдзе час, і пра вас забудуцца... Пра ўсіх забудуцца! І пра герояў і пра нягоднікаў... Што вы хрыстосікамі прыкідваецеся?!

Барткевіч *(да Вагуры)*. Бачыш, Лёшка... Зброя ў руках, забіваць нас будзе — і баіцца... Як ён баіцца самога сябе.

Шумскі знікае. Салдаты выводзяць да лётчыкаў Маці.

Вагура. Няўжо і яе?

Барткевіч. За што яны цябе, маці?

Жанчына *(смеючыся)*. Дурні... Вой, дурні! Забіць мяне хочуць... А мяне забіць немагчыма... Гора маё неўміручае, боль у маім сэрцы вечна жывы... Я злілася з зямлёй, а яе як ні палі, як ні знішчай, яна ўсё адно дасць зялёныя парасткі напрадвесні... І вы не бойцеся... Усе крыжы струхнеюць, пылам брудным зробяцца, а чалавек будзе жыць... Будзе жыць... Жыць...

Голас Крафта. Падрыхтаваліся!

Бразганне зброі.

Голас Крафта. На прыцэл!

З глыбіні сцэны выбягае Мардаты з вінтоўкай у руках і ў чорным кіцелі.

Мардаты. Не хачу! Не прымусіце! Гарыце вы ўсе сінім агнём... Сволачы! Што ж вы са мной робіце? Я ж чалавек.

Кідае вінтоўку, распранае кіцель, кідае яго, становіцца поплеч з лётчыкамі і Маці.

Страляйце! Ну, страляйце ж!!

Цішыня.

Барткевіч *(сумна)*. Позна, хлопча... Яны не возьмуць назад свае сярэбранікі... Позна.

З'яўляецца Крафт. Падыходзіць да Мардатага.

Крафт *(вельмі спакойна)*. Падымі кіцель.

Мардаты як заварожаны падняў кіцель.

Апрані!

Мардаты апранаецца.

Зброю!

Мардаты падае вінтоўку. Крафт коратка б'е яго.

На месца!

Мардаты сагнуўся і, стогнучы, знік у глыбіні. Паўза. Потым здалёк чуецца зязюля.

Барткевіч. Лёшка! Ты чуеш? Зязюля кувае... Вайна, смерць побач, а птушкі пяюць...

Жанчына *(спявае)*.

А ў лесе сінім
Зязюля кукуе.
Кліча маці сына,
Толькі сын не чуе.

Вагура. Прыгожа... Калі зязюля ў лесе кувае — значыцца, вясна прыйшла насаўсім... Ужо цёпла будзе... Босым можна бегаць...

Барткевіч. Зязюля-зязюля! Колькі нам жыць?

Зязюля кувае.

Барткевіч. Два...

Зязюля кувае.

Вагура. Тры...

Зязюля кувае.

Барткевіч. Чаты...

Застрачылі аўтаматы. Сціхла куванне, упаў Барткевіч, схапіўшыся за грудзі, упаў Вагура, паваліласся Маці. Цішыня. Потым зноў, насуперак усяму, закувала зязюля. Яе куванне становіцца ўсё гучней і гучней. І раптам Маці пачала падымацца. Ці то кулі праляцелі міма яе і не зачапілі, ці то яна не Жанчына, а Зямля наша неўміручая. Маці стаяла на каленях і глядзела на мёртвых хлопцаў.

Маці. Дзеткі мае родныя... Стаміліся вы... Спіце, мае любенькія, спіце... *(Здымае з галавы хустку.)*

Грэйвіц *(з глыбіні сцэны)*. Аго-онь!!!

Доўгая аўтаматная чарга. Маці спакойна накрывае хлопцаў хусткай. Кувае зязюля.

Маці. Ночка прыйшла зорная... Спіце...

Г р э й в і ц *(істэрычна)*. Аго-онь!!!

Грукочуць аўтаматы.

М а ц і. Месячык выплыў шчарбаты... Спіце...
Г р э й в і ц. Агонь! Агонь! Агонь!

Голас фашыста і стрэлы аддаляюцца, гучаць усё цішэй і цішэй і знікаюць зусім.

М а ц і *(да хлопцаў)*. Я вам калыханачку праспяваю: а-а-а-люлі, а-а-а-люлі, а-а-а-люлі...

Усё гучней кувае зязюля.

*З а с л о н а.*

# РАДАВЫЯ

БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯНКІ КУПАЛЫ

1

Рэпетыцыя спектакля. А. Дудараў (злева) і В. Раеўскі, галоўны рэжысёр тэатра.

2

В. Філатаў — Дзерваед, В. Манаеў — Адуванчык, А. Дзянісаў — Дугін.

3

Сцэна са спектакля.

4

Рэпетыцыйны момант.

5

Сцэна са спектакля.

6

Г. Фёдарава — Лідка, В. Манаеў — Адуванчык.

7

Г. Давыдзька — Бушцец, А. Дзянісаў — Дугін.

ВЯЛІКІ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР імя МАКСІМА ГОРКАГА (Ленінград)

8

На рэпетыцыі: Г. Таўстаногаў, злева направа: Ю. Дзяміч, К. Лаўроў, Л. Невядомскі.

9

Сцэна са спектакля.

10

М. Марозаў — Адуванчык, К. Лаўроў — Дугін, Л. Невядомскі — Дзерваед.

11

Рэпетыцыя.

12

Ю. Дзяміч — Бушцец. Л. Невядомскі — Дзерваед.

БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯКУБА КОЛАСА

**13**

Л. Трушко — Дзерваед.

ЦЭНТРАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР САВЕЦКАЙ АРМІІ

**14**

Л. Галубкіна — Люська, А. Меньшыкаў — Адуванчык, Л. Чурсіна — Вера, Т. Крынкін — Дзерваед, І. Ледагораў — Дугін, А. Васільеў — Бушцец.

МАЛЫ ТЭАТР САЮЗА ССР

**15**

Э. Марцэвіч — Дугін. Ю. Васільеў — Бушцец.

**16**

В. Коршунаў — Дзерваед, Ю. Васільеў — Бушцец, Е. Дароніна — Люська.

**17**

Сцэна са спектакля.

# ВЕЧАР

БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯКУБА КОЛАСА

**1**

В. Петрачкова — Ганна, Я. Шыпіла — Васіль.

**2**

Сцэна са спектакля.

**3**

Т. Кокштыс — Гастрыт, Я. Шыпіла — Васіль,
Я. Петрачкова — Ганна.

**4**

Сцэна са спектакля.

**5**

Рэпетыцыя. Злева направа: Ул. Пузыня, В. Мазынскі,
Т. Кокштыс, Я. Петрачкова, А. Дудараў, Я. Шыпіла.

БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯНКІ КУПАЛЫ

**6**

Г. Макарава — Ганна, В. Тарасаў — Васіль.

**7**

В. Тарасаў — Васіль, Б. Дубашынскі — Гастрыт.

**8**

Сцэна са спектакля.

# ПАРОГ

ВЯЛІКІ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР імя МАКСІМА ГОРКАГА
(Ленінград)

1

У. Іўчанка — Буслай, В. Яромін — Драгун,
В. Караваеў — Міліцыянер.

УЛА-УДЭ. ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР

2

Сцэна са спектакля.

БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯНКІ КУПАЛЫ

3

Г. Гарбук — Буслай, Г. Фёдарава — Аліна.

4

Сцэна са спектакля.

БЕЛАСТОК. ТЭАТР ДРАМАТЫЧНЫ імя А. ВЕНГЕРКІ

5

Сцэна са спектакля.

РУСКІ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР імя А. ЛУНАЧАРСКАГА
(Севастопаль)

6

В. Юрчанка — Буслай, Я. Смірноў — Шаргаёў.

БЕЛАРУСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯКУБА КОЛАСА

7

Я. Шыпіла — Буслай, Л. Пісарава — Маці.

# ВЫБАР

драматычная аповесць
у дзвюх дзеях



10 Зак. 3075

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

СЯРЖАНТ ДРОБАЎ.
РАДАВЫ КРЫНКІН.
РАДАВЫ ШАБУНЯ.
КАПІТАН КУРБАТАЎ.
РАДАВЫ КАШЫН.
ІРЫНА.
ВАЕНКОМ.
ПРАДСТАЎНІК МУС.
ЧЛЕН КАМІСІІ.
ЖАНЧЫНА, ПРАДСТАЎНІК ГАРАНА.
МАЛАДЫ КАМБАТ.
ПАЛКОЎНІК.
МАЦІ ДРОБАВА.
АЛЯШКЕВІЧ.
ЧАЛАВЕК У ЧОРНЫМ.
ЧАЛАВЕК У ПАМЯТЫМ ПІНЖАКУ.
ЖАНЧЫНА-ДОКТАР.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Чорны конус са зламанай, няправільнай асновай уваходзіць сваёй вяршалінай у глыбіню сцэны. Ён асветлены цьмянымі, нерэальнымі кроплямі святла, што раскіданы па ўсёй яго паверхні. У адным месцы гэтыя кроплі сабраліся ў круглае белае воблачка, у другім — у крывую тоўстую лінію, у трэцім — іх зусім няма, там-сям яны раскіданы па адной, дзве, тры... І запаволена, як гадзіннік, што адлічвае незямныя, расцягнутыя хвіліны, рэзка б'е метраном. Чок! — цішыня, чакаеш новага ўдару, але ён прыходзіць запознена і нечакана: чук! чок-чук! чок-чук! Спакваля чорны конус запаўняецца знаёмымі жывымі гукамі: металічны ляскат цяжкіх гусеніц па камяністай горнай дарозе набліжаецца, нарастае, і праз яго пачынаюць прабівацца іншыя гукі: віск эфіру, пакуль яшчэ не зразумелыя каманды: «Хуткасць максімальная! Трымаць дыстанцыю! Асаблівая ўвага на заваротах!» «Увага! Увага! 601 м! 601 м! — Я Зурна, Зурна! Паветраная атака праціўніка!» І гул самалётаў, і ляскат танкаў, і каманды — усё зліваецца ў страшэнны жудасны гул, які вось-вось, здаецца, разарве душу і з яе вырвецца нечалавечы, немы крык.

— Мама-а-а!!! — крыкнулі адначасова два чалавекі, два галасы: тоненькі, слабы дзіцячы і грубаваты, але ўсё яшчэ звонкі — юнацкі.

І гэты суладны крык перакрэсліў усе астатнія гукі. І застаўся толькі метраном. Нікому непадуладнае, няспыннае і свабоднае: чок!.. чук!.. чок!.. чук!..

У чорным конусе экіпажа танка.

К р ы н к і н. Як лёгка... Ціха... Хіба могуць сніцца чалавеку такія... бязважкія сны?.. Мама трымае мяне на руках. Я маленькі, я яшчэ не бачу яе, не чую, я толькі адчуваю, што ціхая ласкавая сіла калыша мяне, калыша... Дзівосны сон. Няма ні неба, ні зямлі, ні паветра. Лёгка. Нічога. Нікога...

Д р о б а ў. Я бачу... Чую. Нервы, слых, зрок жывуць самі па сабе. Толькі знявечанае цела дагарае ў разбітым танку пад скалой каля горнай рачулкі... Жах! Жах!

Шабуня. Мне цяжка! Я задыхаюся... Дапамажыце! Вузкая дарога паляцела ўгору, прыціснулася да воблакаў... Нічога не зробіш. Непаслухмяныя рычагі, здранцвелыя рукі... *(Крычыць.)* Памажыце.

Дробаў. Шабуня!

Шабуня. Таварыш сяржант, таварыш сяржант! Я задыхаюся! Зрабіце што-небудзь... Я не разумею, што са мной робіцца!

Дробаў. Пацярпі, зараз усё скончыцца...

Шабуня. Чырвоныя густыя цені ліжуць мой твар. Я не магу засланіцца... Дыхаць! Я хачу дыхаць... Люк! Дзе люк?!

Дробаў. Яшчэ хвіліна... Дай мне руку... Так. Цяпер падыміся. Ніякага люка няма... Падыміся...

Шабуня. Не магу. Я трымаю рычагі... Рычаг. Правы рычаг...

Дробаў. Я загадваю! *(Шабуня з дапамогай Дробава цяжка падымаецца.)* Усё. Табе больш не страшна.

Шабуня. Не. Я не адчуваю нават вашых рук. Яны праходзяць праз мяне. Я сплю...

Дробаў. Мы ўсе спім. Увесь экіпаж. Усё скончана. Нічога няма. Усё засталося далёка ад нас.

Шабуня *(сам сабе)*. Крутая гара...

Дробаў. Больш крутой не бывае. Бездань... Прорва. Мы павінны, мы абавязаны былі праскочыць над ёй і выйсці ў зададзены пункт да світанку... Такі быў загад.

Шабуня. Я не пра тое... Каля нашай вёскі лес на ўзгорку крута абрываецца ў рэчку. Крутая гара... Сонца з'ядае снег з шэрай леташняй травы... Крутая гара... І новыя зялёненькія нітачкі выбіваюцца з-пад мёртвага парыжэлага дывана. Цёплая зямля пад сонцам. Крутая гара... Рукі да грудзей прыціснеш, коцішся ўніз да зялёнага кучаравага лазняку. Толькі неба мільгае... Неба, сонца, трава, лес...

Крынкін. Неба, сонца, трава, лес...

Дробаў. Дакаціліся.

Крынкін. Дзе мы?

Дробаў. У горнай цясніне. Каля вузенькай рачулкі...

Крынкін. Што здарылася, камандзір?!

Дробаў. Трэба разабрацца. Мы ехалі гадзіны дзве. Танк шкробся ўгору па камянні. Чым вышэй

мы падымаліся, тым рабілася святлей і святлей. Змрок заставаўся ўнізе. Я назіраў праз трыплекс за дарогай. Выразна бачыў шэрую сцяну валуноў злева, навісалі над дарогай. Справа — абрыў, прорва.

На самым перавале, перад крутым заваротам, я крутануў трыплекс і ўбачыў сонца... Я яшчэ паспеў падумаць: мы спусцімся ў цясніну раней, чым туды зазірнуць першыя прамяні. Мы абгонім раніцу. Мы выканаем загад. Усё. Кропка. Акраец сонца скочыў угору. У трыплекс пырснула цемрадзь. Усё! Гэта ліпкая цемрадзь заліла ўсяго мяне. Вочы, твар, цела... І засталося адчуванне бязважкасці, абыякавага спакою, цішыні... Апошняе, што нам засталося. Свядомасць, мабыць, памірае не разам з чалавекам, а пасля...

К р ы н к і н. Танк разбіўся...

Ш а б у н я. Не! Не! Не хачу!

Д р о б а ў *(Крынкіну)*. Не ведаю. Напэўна, ад страшнага ўдару ён узарваўся. Мы згарэлі на дне гэтай цясніны.

Ш а б у н я. Не хачу быць мёртвым!

Д р о б а ў. Ціха!

Ш а б у н я. Не хачу гэтай пустой цішыні. Не хачу бачыць вас такімі!

Д р о б а ў. Не крычы!

Ш а б у н я. Страшна!

Д р о б а ў. Маніш. Мёртваму не можа быць страшна, як не можа быць балюча. Чаму нас знесла з дарогі? Шабуня, ты кіраваў танкам.

Ш а б у н я. Нічога не ведаю. Я трымаў рычагі, глядзеў на дарогу, бачыў усё. Не ведаю, не ведаю!

К р ы н к і н. Снег... Лавіна?

Д р о б а ў. Неверагодна. Лавіна магла нас засыпаць, але знесці магутны танк у бездань... Не! Быў рэзкі паварот у правы бок. Няўжо абвал?

Ш а б у н я. Не ведаю.

Д р о б а ў. Камень трапіўся на дарозе? Заклініла правую гусеніцу?

Ш а б у н я. Не ведаю.

К р ы н к і н. Трэба вярнуцца паглядзець... Трэба зразумець, што адбылося. Чаму мы разбіліся? За што?

Д р о б а ў. Мы выконвалі баявую задачу.

К р ы н к і н. Ніхто нам не ставіў такую задачу.

Я хачу зірнуць на тое месца, дзе знікла ўсё. Хадземце!

Шабуня. Не трэба!

Дробаў. Немагчыма.

Крынкін. Мёртвыя могуць усё.

Дробаў. Усё могуць боскія анёлы. Яны з крылцамі. А мы? А мы проста мёртвыя. Мы можам бачыць і чуць толькі тое і толькі там, дзе пра нас успомняць, куды нас паклічуць.

Шабуня. Нас ужо нікуды не паклічуць.

Дробаў. Памыляецеся. Супакой не прыйдзе да нас да таго часу, пакуль жыццё не выкрасліць нас з думак жывых, да таго часу, пакуль мы не разлічымся з усімі даўгамі, што пакінулі на зямлі. Мёртвае цела абыякавае да ўсяго, мёртвай свядомасці не бывае... Чуеце? Нас ужо клічуць.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Канцылярыя роты. Стол. Некалькі крэслаў. Чыйсьці партрэт на сцяне. На стале пішучая машынка. Капітан Курбатаў вырваў з карэткі аркуш, скамечыў яго, шпурнуў пад стол.

Курбатаў. Пустыя, недарэчныя словы... Нават брыдка і сорамна... Трэба нешта тлумачыць... А што? Як? Галава трашчыць... *(Зноўку пачынае нешта друкаваць.)*

Дробаў. От, глядзіце... Першае, што зробяць,— гэта выкрасляць нас з усіх ведамасцей... Здымуць з забеспячэння. Праз дзень-другі нехта сядзе за наш стол у салдацкай сталоўцы, а хтосьці ляжа спаць на нашы ложкі...

Шабуня. Як жа так?

Дробаў. А так. Накрыўшыся тваёй і маёй коўдрай...

Курбатаў *(піша)*. Віцебская вобласць, Клепінскі раён, вёска Лысаўка...

Шабуня. Лыскаўка!

Курбатаў. Не, няправільна — Лыскаўка... *(Спрабуе выправіць, нічога не атрымліваецца. Камечыць і гэты аркуш.)*

Шабуня. Гэта не ведамасці. Дадому мне піша. Матцы. Паведамляе, што я разбіўся.

Д р о б а ў. Так не паведамляюць, так пішуць... Прыдумае як-небудзь лягчэй...

К р ы н к і н. Каму ад гэтага будзе лягчэй? Хіба толькі паперы...

Ш а б у н я. Што ж з ёй будзе?! І думаць не думала. Сынок, пішы часцей... Хоць жывы-здаровы, хоць паштоўку прысылай, мне і гэтага хопіць... Мама, мама... Што я нарабіў?

Д р о б а ў. Пра што ты?

К у р б а т а ў. Днявальны!

Белабрысы стрыжаны хлапчук як з-пад зямлі вырас перад камандзірам. Гэта К а ш ы н.

К а ш ы н. Таварыш капітан! Днявальны па роце радавы Кашын...

К у р б а т а ў. Рота спіць, чаго ты крычыш?

К а ш ы н. Старшына так вучыў. Рапарт камандзіру павінен гучаць бадзёра, радасна. Во я і радуюся...

К у р б а т а ў. Яшчэ паспееш. Даўно ў арміі?

К а ш ы н. Так точна! Семнаццаць дзён. З паловай.

К у р б а т а ў. Цяжка?

К а ш ы н. Як у сне. Калі ваўкі прымрояцца. Бегаеш, уцякаеш ад іх, а ногі не слухаюцца. Адно суцяшэнне — ведаеш, што калі-небудзь прачнешся...

К у р б а т а ў. Вобразна і дасціпна. Колькі чалавек у вучэбным узводзе?

К а ш ы н. Таварыш капітан, гэта ж ваенная тайна.

К у р б а т а ў. А ты, я бачу, артыст!

К а ш ы н. Амаль угадалі. Да арміі працаваў у цырку.

К у р б а т а ў. Клоунам?

К а ш ы н. Не, малпаў карміў арэхамі. Рыхтаваў уласны нумар. Ведаеце, чатыры малпы ў більярд рэжуцца. Дырэктар цырка тросся ад смеху. Абяцаў на манеж выпусціць у наступным сезоне. Ды не паспеў, прыйшла позва... Засталіся мае макакі сіротамі.

К у р б а т а ў. Табе доктар на прызыўной камісіі нічога не гаварыў?

К а ш ы н. Не, здароў, як... Адным словам, годны да страявой.

Курбатаў. А пра язык?

Кашын. Язык здаровы...

Курбатаў. Нават беспамерны...

Кашын. Вінаваты, таварыш капітан! Прабачце.

Курбатаў. Я чуў, што нехта з навабранцаў няблага на машынцы друкуе. Ёсць такі?

Кашын. Ёсць. Так точна.

Курбатаў. Ты яго ведаеш?

Кашын. Трохі ведаю. Гэта я.

Курбатаў. І добра друкуеш?

Кашын. Двума пальцамі.

Курбатаў. На курсах машыністак быў?

Кашын. Сам навучыўся. На ўсялякі выпадак. Стану знакамітым дрэсіроўшчыкам, як Дураў, давядзецца мемуары страчыць.

Курбатаў. Хопіць! Сядай. Аддрукуеш два лісты... Можа, не табе б іх друкаваць, але трэба...

Дробаў. Чаму толькі два? Няўжо маім бацькам паведамілі раней?

Кашын. Што друкаваць?

Курбатаў. Вось тут, у правым куточку, адрас... Пішы. Віцебская вобласць, Клепінскі раён, вёска Лыскаўка... Шабуня Матруне... Пачакай, пачакай... А як яно правільна будзе: Шабуня ці Шабуні?

Шабуня *(падказвае)*. Шабуня!

Дробаў. Якая розніца?

Кашын. Каму? Чаму? Шабуня... Шабуні... Хто яго ведае... І так і гэтак...

Курбатаў. А я думаў, ты ўсё ведаеш.

Кашын. Толькі пра малпаў.

Курбатаў. Пішы: Шабуні Матруне Рыгораўне...

Кашын *(сумеўся)*. Даруйце, таварыш капітан, не ведаў... Гэта яны? Тыя хлопцы, што ў гарах?..

Курбатаў. І ты ўжо ведаеш?

Кашын. У роце толькі пра гэта і гавораць. Увогуле хлопцы малайцы... Не спасавалі, не разгубіліся...

Курбатаў. Затое разбіліся. Колькі яшчэ тлумачыць давядзецца, гаварыць нейкія словы, спачуваць, уздыхаць... Чаму недагледзелі? Як іх было дагледзець?

Кашын. Ну, што тут гаварыць? На вайне вунь не столькі загінула...

Курбатаў. Фільмаў нагледзеўся?

Кашын. Чытаў.

Курбатаў. Прыгожая смерць — толькі ў дрэнных раманах. Яны — героі! Але лепш было б для ўсіх, каб яны засталіся звычайнымі хлопцамі, негероямі... Вось як ты. Ну, добра, у арміі шмат не размаўляюць... Значыць, Шабуні Матруне Рыгораўне. Та-ак... Адступі крыху і далей... Паважаная Матруна Рыгораўна. Клічнік! Чакай. А мо не трэба клічнік? Як лічыш?

Кашын. Хто яго ведае.

Курбатаў. Пісьмо такое, і раптам — клічнік. Усё адно як радуемся...

Кашын. Лепей не ставіць.

Курбатаў. Давай далей... З пачуццём глыбокага жалю і смутку... *(Курбатаў задумаўся, падбіраючы словы.)*

Кашын. Дазвольце, таварыш капітан... Мо не трэба гэтага на машынцы? Тэхніка! Яна жалезная... І словы клепле гэткім жа... Сядзьце і ад рукі, як бог на душу пакладзе... Такое пісьмо на машынцы не напішаш...

Курбатаў. Я ўжо табе казаў: ты вельмі шмат размаўляеш. Адвыкай. Армія — гэта не цырк. Зразумеў?

Кашын. Адчуў.

Курбатаў. На чым мы там спыніліся?

Кашын. На смутку, на глыбокім...

Курбатаў. З пачуццём глыбокага жалю і смутку... паведамляем Вам... Вам з вялікай.

Кашын. Здагадаўся.

Курбатаў. Паведамляем Вам... Коска... што Ваш сын, Шабуня Мікалай Пятровіч, трагічна загінуў адзінаццатага чэрвеня гэтага года пры выкананні службовых абавязкаў. Памяць пра яго назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах. Усёй душой падзяляем Ваша мацярынскае гора. Усё! Зноў крыху адступі, і подпіс: камандаванне вайсковай часці.

Кашын. Гатова.

Курбатаў *(глядзіць на ліст, сумна)*. Малайчына... Цяпер зробіш так: тэкст будзе той жа, толькі адрасы і прозвішчы паставіш бацькоў Крынкіна...

Спачатку маці, потым бацькі... *(Паўза.)* Ну што, не ясна?

Кашын. Тады ўжо лепей пад кальку. А адрасы ад рукі напішам. Як запрашальныя білеты. На ўрачысты сход! Паважаны таварыш, і далей кропачкі, кропачкі... А пад кропачкамі хоць самога госпада бога запрашай...

Курбатаў. Маўчаць!

Кашын. Гэта няцяжка.

Курбатаў. Разумны занадта... Рабі, што загадана! Цыркач!..

Машынка застракатала.

Скончыў, разумнік?

Кашын. Так точна!

Курбатаў. Давай сюды і марш да тумбачкі.

Кашын. Ёсць да тумбачкі!

Курбатаў. Чакай. Табе колькі год?

Кашын. Васемнаццаць, два месяцы і тры дні.

Курбатаў. Як цябе завуць?

Кашын. Радавы Кашын.

Курбатаў. Імя.

Кашын. Антон.

Курбатаў. Хочаш да мяне ў роту пасля вучэбкі?

Кашын. Ніяк не!

Курбатаў. Ну хопіць, Антон...

Кашын. У канцылярыю пісарам не хачу.

Курбатаў. А ў баявую машыну?

Кашын. Пайду.

Курбатаў. Нашы танкі ходзяць над безданню. Не баішся?

Кашын. Баюся. Але трэба, значыць, трэба. Героем быць не хачу.

Курбатаў. А калі і гэта спатрэбіцца?

Кашын. Спатрэбіцца — буду! *(Збянтэжыўся.)* Толькі вось малпаў шкада...

Курбатаў. Ідзі.

Кашын. Ёсць.

Кашын выйшаў. Курбатаў задуменна глядзіць на надрукаваныя лісты.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Асвятляецца пляцоўка танкістаў.

Д р о б а ў. Высакародны парыў дурня! У баявую машыну! У той жа ўзвод! І на тую ж самую скалу, дзе мы скруцілі сабе шыю. Ідыёт, прэцца ў першыя рады. Навошта? Каму гэта трэба, хлопчык?

К р ы н к і н. Перастань, Дроб!

Ш а б у н я. Таварыш камандзір...

Д р о б а ў. Кінь, Шабуня! Які я камандзір? Кім мне камандаваць? Нябожчыкамі! Яны нікому не падуладныя. Сяржант Дробаў згарэў у танку! Вунь Курбатаў чакае нашых бацькоў... нас будуць хаваць урачыста, з музыкай... Нашым бацькам будуць дзякаваць за тое, што выхавалі такіх герояў... Героі...

Ш а б у н я. Хай бы матка не прыязджала...

Д р о б а ў. Прыедзе, не зможа не прыехаць... Усе, хто быў звязаны з намі на гэтай зямлі, рана ці позна прыйдуць да нас. Вось, бачыце, ідзе першая. Дзякуй богу, пакуль што не да мяне...

Хлопцы заўважаюць І р ы н у, якая набліжаецца да КПП.

Ш а б у н я. Дзяўчына... У мяне дзяўчат яшчэ не было... Не паспеў.

Д р о б а ў. Да цябе, Андрэй... Хто яна?

К р ы н к і н. Іра...

Д р о б а ў. Зразумела.

К р ы н к і н. Я не паспеў ёй напісаць. *(Вінавата.)* Я не паспеў, Ірынка...

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

КПП іх вайсковай часці. Каля жалезнай брамы стаіць капітан К у р б а т а ў... Да яго падыходзіць І р ы н а.

І р ы н а. Дзень добры. Вы тут дзяжурыце?

К у р б а т а ў. Добры дзень. Я тут дзяжуру.

І р ы н а. Мне трэба прайсці.

К у р б а т а ў. Куды?

І р ы н а. Туды.

Курбатаў. Навошта?

Ірына. Трэба. У мяне там служыць салдат... адзін салдат...

Курбатаў. Вы яму сваячка?

Ірына. Прапусціце мяне, я прашу вас.

Курбатаў. Як вас завуць?

Ірына. Іра.

Курбатаў. Вось што, Іра, спатканні салдаты прызначаюць у горадзе.

Ірына. Ён абяцаў прыйсці і не прыйшоў.

Курбатаў *(весела)*. Вы, спадзяюся, не скардзіцца на яго прыйшлі?

Ірына. Прапусціце мяне, калі ласка.

Курбатаў. Не магу. Даруйце, не маю права. Мы калі і прапускаем, дык толькі бацькоў і то не заўсёды.

Ірына. Я ўсё разумею. Але мне трэба... Трэба яго ўбачыць.

Курбатаў. Ён атрымае звальненне ў горад, і вы яго ўбачыце.

Ірына. Ён сказаў тыдзень назад, што прыйдзе, і не прыходзіць.

Курбатаў. Значыць, не можа.

Ірына. Ён бы паштоўку прыслаў. Заўсёды так і было...

Курбатаў. Ну, што ж рабіць? Цяпер вы напішыце пісьмо і спытайце, што здарылася.

Ірына *(не адразу)*. Пісала я яму... Не адказвае.

Крынкін. Капітан, прапусці яе!

Дробаў. Навошта? Хочаш, каб яна ліла па табе слёзы? Не трэба. Хай не ведае, што ты мёртвы... Так будзе лепей...

Шабуня *(Дробаву)*. Ты што? Лепей?.. Усё табе лепей... Калі яна не даведаецца, ён жа навек, на ўсё жыццё застанецца для яе мярзотнікам. *(Да Курбатава.)* Ну, прапусці ты яе, што за чалавек?

Курбатаў *(Ірыне)*. Даруйце мне маё не зусім тактоўнае пытанне. Ён вам нешта абяцаў?

Ірына. Можна мне прайсці?

Курбатаў. Колькі яму засталося служыць?

Ірына. Ужо ўсё. Ён сваё адслужыў. У гэтым месяцы дэмабілізацыя.

Дробаў. Ага, дэмабілізаваўся.

Курбатаў. І даўно вы з ім сустракаецеся?

Ірына *(абурана)*. Што вы мяне дапытваеце?

Курбатаў. Даруйце... Толькі вы, пэўна, не там яго шукаеце. Я думаю, што ён ужо дэмабілізаваўся...

Ірына. Што? Што вы сказалі?

Курбатаў. Дадому паехаў.

Ірына. Адкуль вы ведаеце?

Курбатаў. Адрас у вас ёсць?

Ірына. Я не пыталася.

Курбатаў. Так, так...

Ірына. Ён з Мінска.

Курбатаў. А я з Кіева. Вялікія гарады... Мільёны жыхароў.

Крынкін. Хлопцы! Глядзіце, ён жа пераканаў ужо яе.

Дробаў. У Курбатава заўжды жалезная логіка...

Крынкін *(спрабуючы сысці са сваёй пляцоўкі)*. Іра, Ірынка, не вер яму... Гэта не так... Нас паднялі па трывозе, мы выехалі на вучэнне, я не мог адтуль напісаць, не мог. Мы ж пра ўсё з табой дамовіліся.

Дробаў. Усё дарэмна.

Ірына *(ледзь чутна)*. Я ж пісала...

Шабуня. Паштоўкі, пэўна, на тумбачцы ляжаць. Аддаваць іх няма каму...

Дробаў. Адрасат выбыў.

Ірына *(схамянулася)*. Не! Гэтага не можа быць! Ён не мог так, я ведаю...

Курбатаў. Я нічога не кажу. Вам, канешне, лягчэй меркаваць. Але ўчора дэмабілізавалася апошняя партыя... Гэта я дакладна ведаю.

Ірына *(вельмі ціха)*. Мы з ім куплялі разам чамадан...

Крынкін *(да яе)*. Ён ляжыць у капцёрцы... Іра... Новенькі, бліскучы чамадан...

Ірына *(сабе)*. Мы ж разам хадзілі на вакзал глядзець расклад цягнікоў...

Крынкін *(ёй)*. І мы паехалі б у 12.30... Хуткім... Разам, да мяне... Я напісаў ужо бацькам.

Ірына *(ненатуральна ўсміхаецца)*. Я яму сарочку купіла...

Крынкін. Дзякуй, Іра...

І р ы н а. Я яшчэ збіралася яму сказаць, што... баялася толькі... *(Заплакала.)*

К р ы н к і н. Ірка? Няўжо?

І р ы н а. Як жа так? Гэта ж... Хіба можна? *(Плача.)*

К у р б а т а ў *(падышоў да яе)*. Ну, ну... Не трэба. Што вы? Магчыма, я і памыліўся... Днявальны!

З КПП выйшаў К а ш ы н.

К а ш ы н. Слухаю!

К у р б а т а ў. Вада ёсць?

К а ш ы н. Ёсць.

К у р б а т а ў. Ні, дык прынясі. Чаго глядзіш?

С а л д а т знік.

Ш а б у н я *(крычыць)*. Таварыш капітан! Спытайце яго прозвішча! Спытайце! Гэта ж ваш салдат! Ён загінуў, а яна думае, што яе ашукалі. Ну, спытайце! Хіба так цяжка?

Д р о б а ў. Маўчыце, таварыш капітан! Па ім і так пральецца шмат слёз... Гэта лішнія... Падман лепей за смерць...

Ш а б у н я *(да Дробава)*. Гад! Гад ты! Нельга так! Нельга, каб пра сумленнага чалавека думалі, што ён поскудзь. Не павінна гэтага быць!

Д р о б а ў. Яму ўсё адно, як пра яго думаюць,— ён мёртвы.

Ш а б у н я. Яна ж жывая! Падумай...

Д р о б а ў. Змоўкні ты! Філосаф з падпечча...

К р ы н к і н. Ірынка! Не думай так... Успомні, ты ж гаварыла, што я зусім не ўмею хлусіць... Смяялася з гэтага...

І р ы н а. Што ж гэта? *(Пайшла прэч.)*

К р ы н к і н. Ты ж заўжды мне верыла!

Ш а б у н я. Капітан! Спыніце! Ну!

К р ы н к і н *(крычыць ёй услед)*. Ірынка, не вер!

Дробаў зарагатаў.

Д р о б а ў. Дурні! Пакіньце! Жывыя жывых, бывае, не чуюць, а вы захацелі, каб пачулі і зразумелі мёртвых.

Выйшаў са шклянкай вады К а ш ы н.

К а ш ы н. Во, прынёс...

Курбатаў. Што?

Кашын. Гэта? Вада...

Курбатаў. Позна ўжо. Не трэба. Яна пайшла.

Кашын *(выпіў са шклянкі сам)*. Да каго яна прыходзіла?

Курбатаў *(задуменна)*. Не ведаю...

Кашын *(уражана)*. Як, вы не спыталіся ў яе?

Курбатаў. А навошта?

Кашын. Дык яна ж, можа, да каго-небудзь з тых хлопцаў прыходзіла... Здаецца, нехта ж павінен быў дэмабілізавацца?

Курбатаў *(злосна і раздражнёна)*. Крынкін!

Кашын. Ну вось...

Курбатаў. Што вось?

Кашын. Нічога... Можа, я яшчэ даганю? Спытаю... Дазвольце?

Курбатаў. Не трэба. Хай не ведае...

Кашын. Таварыш капітан!

Курбатаў *(строга)*. Усё. Ідзі на месца. Ты малады, шмат чаго не разумееш... Яе жыццё не канчаецца на гэтым...

Кашын. Але ж гэта...

Курбатаў. Кру-гом!

Кашын. Ёсць кру-гом!

Зацямненне на верхняй пляцоўцы.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Шабуня. Вось так.

Дробаў. Так трэба.

Шабуня. Што гэта за крывое трэба?

Падышоў да Крынкіна.

Крынкін *(як у сне)*. Паверыла... Паверыла і пайшла. *(Ідзе да Дробава.)* Я ж ашуканец! Мярзотнік! Гэта ж на ўсё яе жыццё!

Дробаў *(упарта)*. Так будзе лепей.

Шабуня. Што лепей?

Дробаў *(Крынкіну)*. Калі ты будзеш для яе здраднікам... Нягодніка лягчэй забыць... А выкінуць цябе з памяці трэба! Жыццё ёсць жыццё. Мёртвы ж

ты застанешся сумленным і каханым. І будзеш перашкаджаць ёй жыць. Ёй і таму, хто будзе з ёй побач... Хіба не так?

Ш а б у н я. Так! Так! Так! Усё так... Божухна, за што ты рвеш душы тых, хто нас любіў? За што нам пакуты пасля смерці? Мы ж нічога дрэннага не зрабілі... За што-о???

Д р о б а ў. Шабуня, канчай!

К р ы н к і н. Не чапай яго! Хай плача...

Ш а б у н я. Вам лёгка! Лёгка не плакаць! Тым, хто будзе па вас галасіць, ёсць да каго прытуліць галаву... А ў мяне маці адна, зусім адна...

К р ы н к і н. Коля...

Ш а б у н я. Нарадзіла сына, каб, жыццё пражыўшы, не класціся пустым коласам у зямлю... Людзі помсцілі ёй за гэта... Ёй і мне. Быццам мы нешта ўкралі... Яна выцерпела, усё вынесла, і во, на табе, «з пачуццём глыбокага жалю і смутку...».

Д р о б а ў. Дзе ж твой бацька?

Ш а б у н я. Сабакам сена косіць!

К р ы н к і н. Ну, хопіць!

Ш а б у н я. А цяпер усё! У яе сэрца разарвецца на часткі... Гэткае гора! Развітальны вечар мне зрабіла, усё як трэба... На вакзал прыйшла — ні слязінкі не было... Думала, усё добра будзе... Колькі з вёскі ні служыла — усе вярталіся... Я — першы.

К р ы н к і н. Некаму трэба быць і першаму.

Ш а б у н я. Але чаму мне, чаму мне?

Д р о б а ў. Няма на каго наракаць. Выпадак ёсць выпадак. Гэта не матэрыяльнае, судзіць няма каго...

Ш а б у н я. І зноў так! Няма... Але нехта ж асудзіў мяне на смерць...

К р ы н к і н. А хто? Хто цябе асудзіў?

Ш а б у н я. Адкуль я ведаю?

К р ы н к і н. Ведаеш! Ты сам! Сам сябе асудзіў...

Д р о б а ў. Што-о?

Ш а б у н я. Што ты сказаў?

К р ы н к і н. Сам. Ты ж мог... мог застацца дома...

Святло гасне.

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

З'яўляецца Ваенком. У яго ў руках ліст, які пісаў капітан Курбатаў.

Ваенком *(задуменна)*. Крынкін... Крынкін Андрэй... Не памятаю.

Крынкін. Гэта было два гады назад, таварыш Ваенком, прызыўная камісія. Мы тады не думалі, што сустрэнемся яшчэ раз на гэтым жахлівым лісце...

Каля Ваенкома з'яўляюцца члены прызыўной камісіі: Прадстаўнік МУС, Член камісіі, Жанчына — прадстаўнік гарана, яшчэ некалькі чалавек. Перад імі на гумавым дыванчыку Крынкін.

Ваенком *(чытае)*. Крынкін Андрэй Сцяпанавіч, 1960 года нараджэння, адукацыя сярэдняя, член ВЛКСМ, працуе на маторным заводзе, слесар чацвёртага разраду, нежанаты... Гм... Па заключэнні прызыўной медыцынскай камісіі прызнаны годным для страявой службы. У каго ёсць пытанні?

Прадстаўнік МУС. Ну, як настрой, таварыш прызыўнік?

Крынкін. Звычайны. Як і ва ўсіх.

Жанчына. Даўно працуеце?

Крынкін. Адразу пасля школы.

Жанчына. Спрабавалі куды-небудзь паступіць? Не атрымалася?

Крынкін. Не спрабаваў. Яшчэ не ведаю, куды трэба.

Жанчына. Усе дарогі перад вамі адчынены.

Крынкін. Калі шмат дарог, дык і не ведаеш, куды пайсці. Губляешся. Яны ў розныя бакі вядуць, а ў цябе толькі дзве нагі... Стаіш і думаеш...

Прадстаўнік МУС *(засмяяўся)*. Гэта добра...

Крынкін. Добра, што не ведаю?

Прадстаўнік МУС. Добра, што не мітусішся. Усе дарогі стаптаць ног не хопіць. Трэба пастаяць і спакойненька падумаць. Час ёсць.

Крынкін. Ёсць. Два гады. Думай колькі ўлезе.

Ваенком. У якіх войсках жадаеце служыць?

Крынкін. Ды як сказаць... Мне ўсё адно.

Усе позіркі скіраваліся на Крынкіна.

Член камісіі. Што вы сказалі?

Крынкін. Тое, пра што ў мяне спыталі.

Ваенком. Чаму ж вы так без энтузіязму?

Жанчына. Гэта, малады чалавек, ганаровы абавязак кожнага савецкага чалавека...

Крынкін. Дык я і стаю перад вамі, таму што гэта ганаровы абавязак. І ганаруся. Але радавацца ж зараз, можа, мне не абавязкова?

Прадстаўнік МУС. Гэта праўда. Неабавязкова.

Член камісіі. Дзіўна.

Ваенком. Армія, малады чалавек, гэта школа жыцця. Вы там убачыце шмат цікавага, так сказаць, памужнееце, загартуеце свой характар, навучыцеся валодаць складанай тэхнікай.

Крынкін. Тэхніка і ў нас на заводзе цікавая. Робім маторы для трактароў.

Ваенком. А ў арміі хлеб не сеюць, там вучаць страляць... А вучаць гэтаму дзеля таго, каб усе астатнія спакойна сеялі хлеб...

Крынкін. Гэта я ведаю, таварыш ваенком...

Член камісіі. Крынкін, вы ж камсамолец! Што вы дазваляеце сябе?!

Крынкін. Казаць тое, што думаю.

Член камісіі. Значыць, няправільна думаеце...

Крынкін. Як ужо атрымліваецца.

Жанчына. Гатовы пацыфіст.

Крынкін. Мяне спыталі — я адказаў. Шмат цікавага ёсць і ў звычайным жыцці... Жыццю трэба ў жыцця вучыцца. Тут ніякая школа не дапаможа.

Ваенком. Я ўпэўнены, што ваш бацька так не разважаў.

Крынкін. Ён ніяк не разважаў. Ён проста жыў. Рамантаваў трактары. Бяда прыйшла — узяўся за зброю. Перамог — вярнуўся да трактароў...

Ваенком. Ну вось, а вы...

Крынкін. Я невінаваты, што гэта давялося рабіць яму, а не мне. Давядзецца — зраблю і я. Упэўнены, не горш за яго.

Чалавек з краю. А вось мы ў гэтым не ўпэўнены.

Крынкін. Важна, каб у гэтым быў упэўнены я.

Ваенком. Словы, таварыш Крынкін, словы...

Крынкін. Не зразумеў.

Ваенком *(да ўсіх)*. Тут, у справе прызыўніка, ёсць адзін надзвычай цікавы дакумент. *(Чытае.)* Дырэкцыя маторнага завода просіць прадставіць прызыўніку Крынкіну А. С. адтэрміноўку ад прызыву ў рады СА. У цяперашні час у КБ завода ў стадыі распрацоўкі знаходзіцца прапанаваная ім тэхналагічная схема. Таварыш Крынкін у будучым таленавіты і перспектыўны інжынер-тэхнолаг. Завод мае намер накіраваць яго ў гэтым годзе на вучобу ў вышэйшае тэхнічнае вучылішча. Дырэктар завода... Ну і гэтак далей. *(Да Крынкіна.)* Чаго збянтэжыліся, малады чалавек? Усё складаецца менавіта так, як вы і хацелі. Адтэрміноўку вы атрымаеце, паступіце ў інстытут, і мы вас больш турбаваць не будзем. А на ваша месца прызавём іншага. Можаце ісці.

Крынкін не зварухнуўся.

Прадстаўнік МУС. Ну што, уступіце сваё месца менш таленавітаму і менш перспектыўнаму?

Крынкін. Я сваё месца ўступаю толькі ў грамадскім транспарце старэнькім бабулькам. І ўсё! Гэту паперку я бачу ўпершыню.

Ваенком. Па вашых папярэдніх разважаннях гэтага не скажаш.

Крынкін. А якіх разважанняў вы хацелі? Каб я сказаў, што жыў і марыў пра той час, калі стану ў строй і буду хадзіць у нагу з усімі? Дык я гэтага ніколі не скажу, бо гэта няпраўда! Але ніякай адтэрміноўкі я не прасіў, не прашу і прасіць не буду. Ніколі. Усё, што трэба ведаць пра абавязак і пра неабходнасць, я ведаю...

Жанчына. Словы, словы...

Крынкін. Армія, таварыш ваенком, гэта не мая дарога. Гэта я ўжо таксама ведаю... Маю я на гэта права ці не?!

Прадстаўнік МУС. Супакойся. Маеш.

Ваенком. Крынкін Андрэй Сцяпанавіч. Рашэннем прызыўной камісіі Першамайскага раёна вы прызваны ў рады Савецкай Арміі... Віншуем вас і жадаем быць сапраўдным абаронцам нашай Радзімы.

Крынкін. Дзякую. Я пайду?

Ваенком. Трэба казаць: дазвольце ісці. Прывыкайце.

Крынкін. Дазвольце ісці?

Ваенком. Ідзіце.

Крынкін. А «ёсць» трэба казаць?

Ваенком. Абавязкова.

Крынкін. Ёсць ісці. *(Выйшаў.)*

Усе заварушыліся.

Член камісіі. Та-ак... Экземплярчык!

Жанчына. Я не разумею, адкуль такія разважанні? Яму ёсць жа з каго браць прыклады, ёсць на каго раўняцца. А як у яго з характарыстыкамі?

Ваенком. Добрая ў яго характарыстыка. Хто гэта ў армію дрэнную напіша.

Жанчына. Ці не забываецца той-сёй з маладых пра святую ісціну: жыць у грамадстве і быць свабодным ад яго — немагчыма!

Прадстаўнік МУС. Таварышы! Што вы тут такога ўбачылі? Ён сумленны хлопец! Гаворыць, што думае! Радавацца трэба, што не барабаніць замусоленымі фразамі як заведзены. У нас у Канстытуцыі запісана: служба ў арміі — абавязак...

Жанчына. Ганаровы абавязак.

Прадстаўнік МУС. Так. Але абавязак. Не права ж на адпачынак. Пад'ёмы, жорсткі рэжым, марш-кідкі... Два гады такога жыцця...

Член камісіі. Ну, ведаеце...

Прадстаўнік МУС. Колькі б ён матораў зрабіў за гэтыя два гады?

Ваенком. Але ж...

Прадстаўнік МУС. Ён ведае, што гэта «але ж» існуе... Ідзе служыць свядома, ведае, куды ідзе. Дык чаго ж мы здзіўляемся? Чаго мы напалі на яго, ярлык пацыфіста гатовы павесіць? Ах ты, такі-сякі... А хіба для нашага народа радасць трымаць па сабе такую армію? Цяжар! Вымушаюць нас, таму і трымаем. Я во служу ў міліцыі. Але былі б людзі ўсе як адзін сумленнымі, здаў бы я свой мундзір у гарадскі музей і пайшоў бы гайкі круціць. З задавальненнем пайшоў бы... Вось такіх хлапчукоў мацеры праводзяць на вакзалах і плачуць. Думаеце, па традыцыі? Не! Ведаюць, куды праводзяць. На сур'-

ёзную, цяжкую і адказную справу. Яны ж там не ў бірулькі будуць гуляць. Гэты Крынкін верыць, што людзі калі-небудзь утопяць у акіяне апошнюю бомбу і перастануць ганарыцца тым, што некалі вынайшлі порах. А пакуль гэтага няма — ён ідзе і будзе служыць сумленна...

Жанчына. Не ведаю, не ведаю...

*Зацямненне.*

І зноў толькі яны. Яны і чорная пустата. Цемра. Небыццё.

Шабуня. Ты кажаш — не ісці ў армію... А я мог бы... У мяне маці адна. Але як? Усе служаць, а я што? Заганны які?.. Ды і маці хацела.

Крынкін. Ты не жадаў быць убаку...

Шабуня. Я... Я не мог...

Крынкін. Значыць, сам...

Дробаў. Сам...

Шабуня. Каб яна ведала, каб яна толькі ведала... Зачыніла б у хаце, каб ніхто не дабраўся да мяне. Як у дзяцінстве... У нас возера каля вёскі... Там мы купаемся... Утапіўся адзін хлопчык, дык яна ўсё лета пад замком мяне трымала. Сама на работу, а мяне замыкае... Я цераз акно вылезу, збегаю, удосталь накупаюся і зноў сяджу. А ў яе душа спакойная. Не ўтопіцца сынок... Што ж яна цяпер рабіць будзе адна?..

Крынкін. Ёй будзе цяжка, Коля... Але ж яна ведала і не пярэчыла... Яна зразумее...

Дробаў. Што зразумее? Маці зразумее, што сын павінен быў скруціць сабе шыю? Што ён іначай не мог? Лухта!

Маці. Здароў, дзетка...

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Да хлопцаў прыйшла Маці Дробава. Сямён пазнаў яе ў цемры. Пазнаў па кроках, якія чуў у дзяцінстве, па дыханні. Па ўсяму таму, што навечна ўвайшло ў яго свядомасць. Маці — гэта свет, маці — гэта жанчына, маці — гэта ўсё... Маці заўсёды прыходзіць, калі нам дрэнна...

Дробаў *(збянтэжана)*. Добры дзень, мама... Як? Чаму ты тут?

Маці. Нешта неспакойна ў мяне на душы. Як ты?

Дробаў. Вось так...

Маці. Чаму не пішаш?

Дробаў. Я... *(Не змог.)* Як дома?

Маці. Жывём памаленьку... Гэлька, дурнічка, закахалася... Да іх у школу новага настаўніка прыслалі... І што ёй у галаву ўвайшло? Есці перастала, ходзіць як не свая...

Дробаў. Пройдзе... Гэта нават добра. А як бацька?

Маці. У бальніцы цяпер. Сэрца ў яго, ты ж ведаеш... Сыночак, што ў цябе, адкажы...

Дробаў. А хіба ты не атрымала тэлеграмы?

Маці. Не.

Дробаў. А ліст?

Маці. Ад каго?

Дробаў. Ад камандавання маёй часці...

Маці *(устрывожана)*. Што здарылася? Я цябе ў сне вельмі нядобра бачыла... Чорны камень ляжаў у цябе на грудзях...

Дробаў. Прывыкай, мама... Цяпер ты будзеш бачыць мяне толькі ў сне... Мяне няма, мама! Я загінуў на вучэннях... Разбіўся!

Маці. Госпадзі!

Дробаў. Цябе яшчэ выклічуць сюды, паспачуваюць і скажуць, каб ты ганарылася сынам-героем...

Маці. Навошта?! Навошта мне мёртвы герой?! Мне жывы сын трэба... Як жа гэта? Што ж ты нарабіў?

Дробаў. Я не адзін, мама... Нас трое. Экіпаж.

Маці. Вось ён, чорны камень... І бярозка твая...

Дробаў. Якая бярозка?

М а ц і. Што ў пятым класе пасадзіў... Памятаеш?

Д р о б а ў. Ну...

М а ц і. Вершаліну ёй зрэзалі.

Д р о б а ў. Навошта? Хто?

М а ц і. Да правадоў дарасла... Баяліся, каб замыкання не было... Цяпер, як запалка, зверху жаўцее, жаўцее... *(Нервова заламала рукі, загаласіла.)* Сыно-о-очак! Чаму ж ты пра мяне не падумаў!! Герой... Што ж вы нарабілі?! Героі...

Д р о б а ў. Мама, родная... Я прашу цябе — не трэба... Ідзі, не рві сваё сэрца... У цябе яшчэ Гэлька малая... Мёртвым слёзы не патрэбны...

М а ц і. Сыночак!

Ш а б у н я *(закрычаў)*. Гэта я!.. Гэта я!.. Гэта ўсё я, хлопцы. *(Таропка і нервова.)* Я вёў танк, я націснуў на правы рычаг, я вас тут пахаваў. Я!!

К р ы н к і н. Што? Што ты вярзеш?

Ш а б у н я. Я вас загубіў... Я, хлопцы, сам... заехаў у бездань... Я сам заехаў у бездань! Я сам заехаў у бездань.

*З а с л о н а.*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Усе знаходзяцца ў той жа мізансцэне, што і ў канцы першай дзеі.

Шабуня *(крычыць)*. Гэта я!.. Гэта ўсё я, хлопцы. *(Таропка і нервова.)* Я вёў танк, я націснуў правы рычаг, я вас тут пахаваў... Я!

Крынкін. Што? Што ты вярзеш?

Шабуня. Я вас загубіў... Я, хлопцы, сам... заехаў у бездань...

Дробаў. Як заехаў?

Крынкін *(кінуўся да вадзіцеля)*. Гавары! Гавары, смаркач! Ты заснуў за рычагамі?!

Дробаў *(турнуў Крынкіна ад Шабуні)*. Ты што? Здурэў? Як ён мог заснуць? *(Да Шабуні.)* Значыць, не абвал, Шабуня?

Шабуня. Не, не абвал...

Дробаў. Пэўна, сістэма кіравання падвяла... Ён жа не вінаваты? Сістэма адмовіла, Шабуня?!

Крынкін адвярнуўся.

Шабуня. Танк быў спраўны... Усё было нармальна... Гэта я... Сам...

Дробаў. Як гэта здарылася?

Шабуня. Сам не ведаю...

Крынкін *(праз зубы)*. Як не ведаеш?

Шабуня. Не ведаю... адкуль ён узяўся... гэты хлопчык... на дарозе... Уперадзе ж ішлі танкі, а ён выбег і стаў перад нашым... Я бачыў у шчыліну яго заплаканыя вочы... па яблыку, скрыўлены рот і рукі... Ён хацеў засланіцца імі ад нас... Стаяў як укопаны і рукамі хацеў спыніць танк...

Крынкін. Чаму ты не затармазіў?

Шабуня. Позна было. Машыну занесла б, і мы ўпіснулі б яго ў гэту дарогу...

Дробаў. І ты паехаў у бездань?

Шабуня. Не, не... Я толькі правы рычаг на сябе пацягнуў. Хацеў вывернуць, не зачапіць яго...

Крынкін. Але ж з правага боку абрыў!

Шабуня. Ну. Я, хлопцы, вінаваты... Ён стаяў крыху злева, каля скалы. Куды ж было ехаць?

Дробаў. Ён быў адзін?

Шабуня. Ага. Як ён туды трапіў — не разумею.

Дробаў. Адзін?

Шабуня. Я ж сказаў.

Дробаў. Ззаду за табой у танку сядзелі два чалавекі. Два! Трэцім быў ты!

Крынкін (*нечакана*). Коля, ты гэта... даруй мне.

Шабуня. Я вінаваты, хлопцы... Але калі б я пераехаў яго, я раздушыў бы і яго, і сябе...

Крынкін (*усё зразумеў*). І нас таксама. Ты невінаваты...

Шабуня. Рычагі трымаў я...

Дробаў. Невінаваты? А хто ж тады вінаваты? Хто зрабіў нас нябожчыкамі? І з-за чаго?

Крынкін. З-за чалавека, Сёма...

Дробаў. А мы не людзі? Нас трое... Нас звязвала з гэтым светам больш, чым яго, маленькага. У нас тры маці... Колькі слёз пралілося! Больш, больш, чым бы па ім... Ён — адзін!

Крынкін. Твая праўда, Сямён... Тут і сказаць няма чаго... Арыфметыка... З ёй няма сэнсу спрачацца. А жыццё іншы раз кідае нас у такія абставіны, у якіх, каб выйграць,— трэба прайграць... Мы вось прайгралі...

Дробаў. Нейкія вар'яцкія разважанні...

Шабуня. Стань на сваё месца. Што б ты зрабіў?

Дробаў. Паехаў бы...

Шабуня (*з жахам*). На яго?

Дробаў. Уперад, а не на яго! Уперад!

Маці. Але як жа ехаць на жывога чалавека?

Дробаў. Быў бы я адзін у гэтым танку — тады ясна... Я не баязлівец! Выратаваў бы, хай бы і скруціўшы сабе шыю... Тут выбару няма. А ён вёў танк, у якім, акрамя яго, сядзелі людзі... Якое ён меў права распараджацца нашым жыццём? Жыццём! З-за аднаго жыцця...

М а ц і. Бывай, сынок...

Ж а н ч ы н а адплыла ў цемру.

Д р о б а ў. Мама! Чакай... Ты не так мяне зразумела... Мама! *(Закрыў твар рукамі.)*

Ш а б у н я. Не мог я зрабіць так, як ты... Правільна і разважліва... Не мог!

Д р о б а ў. Ты сваё зрабіў... І цябе яшчэ называюць героем?

К р ы н к і н. Цябе таксама... Ты ж наш камандзір...

Д р о б а ў. Становяцца героямі, ратуючы многіх, а не так вось...

К р ы н к і н. Логіка! Праклятая логіка! Што яна робіць з чалавекам...

Ш а б у н я. Дзіця ж, дзіця...

Д р о б а ў. Разумею. Калі гінуць дзеці — гэта надзвычай жахліва, бо кожны з іх мог стаць Моцартам. Так?..

К р ы н к і н. Так...

Д р о б а ў. Мы мёртвыя, у нас ёсць магчымасць зазірнуць і ў мінулае, і ў будучыню... Давайце паглядзім, кім будзе гэты хлапчук, за жыццё якога наш Шабуня так дорага заплаціў... Давайце...

К р ы н к і н. Не трэба!

Д р о б а ў. Не трэба? Чаму? Ну, чаму? Маўчыш... Зразумела. Я скажу: Моцарты нараджаюцца раз у сто гадоў. Ён ім не стане.

К р ы н к і н. Тэорыя неймавернасці?

Д р о б а ў. Не стане! Не!

К р ы н к і н. Моцарт ці не... Усё ў гэтым. Ну, а калі ён стане ім, хлапчук гэты... Тады нам варта гінуць? Нам, тром? Адкажы...

Д р о б а ў. Мой сын ці дачка, якія б жылі, каб жыў я, таксама маглі стаць нечым асаблівым...

К р ы н к і н. Вось яно, Сёма! Я ж казаў — апраўдаць можна ўсё. Толькі захацець.

Д р о б а ў. Так, яны маглі б нечым стаць, нечым быць... і твае дзеці, Андрэй, і яго... Хто ж вінаваты, што іх не будзе? Хто? Правы рычаг? Маці, што недагледзела свайго сына? Лёс ці бог, якога няма? Хто вінаваты ў гэтым?

Ш а б у н я. Я...

К р ы н к і н. Не, не ты.

Дробаў. А хто ж?

Крынкін. Закон.

Дробаў. Які закон?

Крынкін. Закон чалавечага сумлення... Чалавек павінен памятаць, што ў яго, акрамя жыцця, ёсць яшчэ нешта вечнае, неўміручае...

Дробаў. Ну, чаго змоўк?.. Што ж гэта такое? Што?

Крынкін. Сумленне... Гэта — чалавечае сумленне... Людзі, каб не страціць яго, ахвяруюць усім... Бацька мне выпадак адзін расказваў з вайны...

Дробаў. Я не хачу слухаць! У вайну ўсе адносіны паміж людзьмі парушаны. Яна бывае рэдка...

Крынкін. А танкі кожны дзень у бездань падаюць?.. Слухай...

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

Пражэктар асвятляе зямлянку камандзіра стралковага палка. Самаробны стол, на ім карта, гадзіннік, палявы тэлефон. Чуваць гукі блізкага бою...

Палкоўнік *(у трубку тэлефона)*. Трэці?! Я кажу — трэці! Куранскага, жыва! Якога чорта ты там калупаешся?.. Нічога не хачу слухаць! Ляж касцьмі, а два кіламетры вырві ў іх... Як хочаш... Калі, не дай бог, з-за цябе адрэжуць пяты батальён, лепш сам застрэлься... Усё! Каб праз паўгадзіны быў каля Шварцвальда!

Уваходзіць Малады камбат. Ён бледны, разгублены, аслаблены.

Малады камбат. Таварыш палкоўнік!

Палкоўнік. А-а-а... Дакладвай, капітан... Толькі... коратка.

Малады камбат. Батальён замацаваўся на вышыні...

Палкоўнік. Добра...

Малады камбат. Немцы палезлі ў контратаку... Пакуль трымаемся...

Палкоўнік. Што яшчэ?

Малады камбат. Загінуў зампаліт...

Палкоўнік. Пашынскі? Як?

Малады камбат. У час атакі...

Палкоўнік. Ён што, з мыліцай у атаку пабег?

Малады камбат. Пайшоў...

Палкоўнік. І ты дазволіў?

Малады камбат. Яму ніхто не мог забараніць...

Палкоўнік. Такога афіцэра паклалі... Хацеў жа я яго на свой НП выклікаць...

Звоніць тэлефон.

Палкоўнік. Слухаю... Першы... Замацаваліся? Малайчына! Не, не, далей не сунься... Не суньея, кажу! Слухай, можаш два ўзводы Куранскаму падкінуць... Ну добра, давай... *(Паклаў трубку, да Маладога камбата.)* Так, агульныя страты?

Малады камбат *(не адразу)*. Трыццаць восем чалавек...

Палкоўнік. Нешта вельмі шмат. Колькі забітых?

Малады камбат. Гэта забітыя...

Палкоўнік. Трыццаць восем? Ты што, смяешся?

Малады камбат. Доты, тры доты... таварыш палкоўнік...

Палкоўнік. А артылерыя, мінамёты... Яны што, па месяцы лупілі ці па дотах? *(Схапіў трубку.)* Шосты!

Малады камбат. Вышыня ўзята без адзінага стрэлу... Гэтыя вылюдкі прывязалі да амбразуры дзяцей сваіх, нямецкіх дзяцей! Мы не стралялі...

Палкоўнік. Дык ты... Ты... на кулямёты людзей пагнаў... Псіхічную атаку ўстроіў! Трыццаць восем чалавек! Ты ўяўляеш, што натварыў?

Малады камбат. Там былі дзеці!

Палкоўнік. Там былі і людзі! Нашы людзі! Чаму яны павінны плаціць сваім жыццём за тое, што гэта чорная сволач вытварае?

Малады камбат. Таму, што яны людзі... Што ж ім рабіць?

Палкоўнік. Навучыць! Даць гэтым гадам зразумець, што не наша віна і не наша адказнасць. Не мы прыцягнулі гэтых дзяцей на перадавую? Чаму мы павінны браць чужыя грахі на сябе? Трыц-

цаць восем за вышыню, якую было ўзяць раз плюнуць... А калі б мы у сорак першым паспрабавалі вось так абараняцца? Ды ніводзін з гэтых шалудзівых «оберманаў» і вокам бы не міргнуў...

Маланды камбат. Я лічу абразай хоць у чым-небудзь параўнаць сябе і іх...

Палкоўнік. А мне пляваць на тое, што ты лічыш! Падымі мне трыццаць восем хлопцаў, якіх чакаюць маці, жонкі, дзеці... Падымі людзей, загубленых з твае ласкі ад нямецкіх байструкоў...

Малады камбат. Веру, што вы сказалі гэта не падумаўшы... З гарачкі...

Палкоўнік. Я думаю! Зразумеў ты! Я нават тады думаў, калі іншыя баяліся...

Малады камбат. Тады мне вас шкада.

Палкоўнік. Маўчаць! Ты тут не лезь са сваёй мараллю... У мяне таксама мараль: адказнасць за жыццё людзей, якіх нам даверылі...

Малады камбат. Людзей, таварыш палкоўнік...

Палкоўнік. На які д'ябал ты палез пад кулі? Трэба было зрабіць абходны манеўр!

Малады камбат. Спрабавалі! І злева і справа батальён трапляў пад перакрыжаваны агонь мінамётаў... Толькі ў вузкім праходзе яны не маглі біць прыцэльна... А ў гэтым праходзе тры доты... І дзеці... Усё разлічылі, сволачы! Ведалі, што мы не зможам страляць...

Палкоўнік. Колькі іх было?

Малады камбат. Каго?

Палкоўнік. Дзяцей...

Малады камбат. Хіба гэта мае значэнне?

Палкоўнік. Колькі?

Малады камбат. Не трыццаць восем. Менш. Значна менш.

Палкоўнік. Пойдзеш пад трыбунал.

Малады камбат. Ёсць пад трыбунал!

Палкоўнік. Ты не выканаў баявы загад! Табе было загадана правесці артпадрыхтоўку перад атакай... Ты забараніў байцам выкарыстаць зброю! Гэта афіцыйна. А неафіцыйна за тых трыццаць восем, што ляжаць пад вышынёй, за гора, якое прынёс іх блізкім...

М а л а д ы  к а м б а т. Мінамётчыкам загадаў я... А байцам... Калі ішлі ў атаку, я дазволіў страляць усім... Хто хоча... Хто можа... Яны не стралялі...

П а л к о ў н і к. Ты павінен быў загадаць! Не прапанаваць, а загадаць...

М а л а д ы  к а м б а т. Ніколі яны не даравалі б мне гэты загад, а я сабе тое, што выканалі яго... Усе... І тыя трыццаць восем таксама. *(Застагнаў, пахіснуўся.)* Яны не стралялі... Сяржант Міхалевіч, нават калі ўварваліся ў дот, не страляў... Траіх рукамі задушыў... Яго да ордэна трэба.. Прашу... Дзеці, яны не маюць нацыянальнасці... Яны і ў нас і ў іх аднолькавыя... Проста дзеці... А гора, якое я прынёс. Не ведаю... Мо лепей атрымаць пахаронку з фронту, чым сустрэць пасля вайны жывога нябожчыка... Без душы чалавека...

Малады камбат падае. Палкоўнік падхапіў яго, асцярожна пасадзіў на крэсла. Падняў трубку.

П а л к о ў н і к. Медсанбат, жыва!.. Зараз жа санітара да мяне... *(Націснуў рычажок.)* Злучы з чацвёртым... Чацвёрты? Хто застаўся за камандзіра? Лебедзеў? Трымай батальён... Ды не, усё нармальна... Крыві шмат страціў, ну і самлеў... Раненых выводзіце? Чаму не? Ах так... Дзеці... Ну, вядома... дзяцей у першую чаргу... *(Паклаў трубку.)*

*З а ц я м н е н н е.*

## КАРЦІНА ДЗЕСЯТАЯ

Пляцоўка танкістаў.

К р ы н к і н. Ну, чаго маўчыш?

Д р о б а ў. Гэта несправядліва...

К р ы н к і н. Можа. Можа, і несправядліва, але гэта правільна...

Д р о б а ў. Што правільна? Гінуць дзесяткам людзей за двух-трох. Калі ёсць мараль, якая патрабуе гэтага,— гэта мараль ідыётаў...

Шабуня. Людзі гінулі не дзеля двух-трох. Хаця і дзеля іх таксама. Але ж...

Дробаў. Ніколі чалавек не разумеў і не зразумее, дзе дабро, а дзе зло! *(Крынкіну.)* Не стралялі яны — героі! А стралялі б?

Крынкін. А калі стралялі б...

Дробаў *(не даў дагаварыць)*. Таксама героі! І так гуманнасць, і гэтак гуманнасць. Дабро ў зле, і зло ў дабры! Бог і д'ябал, якія змагаюцца і па чарзе бяруць верх... Перамагае д'ябал — яго завуць богам, а бога, канешне, д'яблам. І спакон веку! Чалавек заблытаўся ў гэтай мешаніне. А людзі проста служаць! Таму, хто зверху...

Шабуня. Служаць?

Дробаў. А ты што думаў? Жыццё — служба! Нас прызываюць на яе з цёмнай вечнасці без нашай згоды, і, адслужыўшы свой тэрмін, мы туды і вяртаемся... Таксама без згоды...

Шабуня. Няўжо ты ніколі ў жыцці не разбіраўся ў тым, што добра, а што дрэнна?

Дробаў. А гэта немагчыма.

Шабуня. У чалавека ёсць сэрца, яго не падманеш...

Дробаў. Сэрца прымае тое, што дыктуе розум.

Крынкін. Што ж рабіць чалавеку?

Дробаў. Чакаць... Старая лухта аджыве, струхлее, яе месца зойме новая, больш правільная, больш цікавая, але ўсё ж лухта...

Крынкін. А праўда? А чалавечае сумленне? Гэтыя ж катэгорыі, здаецца, вечныя!

Дробаў. Вечнага нічога няма... Ад праўды і хлусні, ад шчырасці і крывадушша, ад славутага Сумлення, якое мучыць чалавека ўсё жыццё, ад усяго вызваляе смерць... Перад ёй усе роўныя і ўсе сумленныя.

Крынкін. Чалавек заўжды павінен заставацца чалавекам! Нават пасля смерці!

Гэту спрэчку слухае Аляшкевіч. Ён з'явіўся на пляцоўцы з глыбіні чорнага конуса.

Дробаў. Бязглуздзіца!

Аляшкевіч. Гэта праўда!

Дробаў *(азірнуўся)*. Хто ты?

Шабуня. Чаму ты размаўляеш з намі?

А л я ш к е в і ч. А я таксама мёртвы... Я магу размаўляць з вамі. *(Крынкіну.)* Тое, што ты сказаў,— праўда... *(Дробаву.)* Смерць... нікога не вызваляе...

*З а ц я м н е н н е.*

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

На верхняй пляцоўцы цяпер прасторная цёмная зала, стол, некалькі крэслаў, аграмаднае палатно чорна-чырвонага сцяга са свастыкай. Каля стала малады светлагаловы Ч а л а в е к у ч о р н ы м. Ён перабірае нейкія аркушы... Нервова звоніць тэлефон.

Ч а л а в е к у ч о р н ы м. Слухаю... Ужо прывялі? Цудоўна... Чакаю! *(Паклаў трубку, абапёршыся рукамі на спінку крэсла, глядзіць на дзверы. Праз хвіліну Чалавек у памятым пінжаку ўвёў збітага, у скрываўленай кашулі Аляшкевіча.)*

Ч а л а в е к у ч о р н ы м *(чалавеку ў памятым пінжаку)*. Можаце ісці.

Ч а л а в е к у п а м я т ы м п і н ж а к у выходзіць. Аляшкевіч і Чалавек у чорным ва ўпор глядзяць адзін на аднаго. Паўза.

Ч а л а в е к у ч о р н ы м. Ну, што вы глядзіце на мяне, як тамбоўскі мядзведзь?

А л я ш к е в і ч *(цяжка)*. Воўк...

Ч а л а в е к у ч о р н ы м. Хіба воўк? Гм... Можа, і так... Дзякуй... Праходзьце...

Аляшкевіч сеў.

Ч а л а в е к у ч о р н ы м. Закурыце? *(Маўчанне.)* Курыце, курыце... Я думаю, што адна цыгарэта ад ворага нават у вас не будзе лічыцца здрадай Радзіме.

Аляшкевіч бярэ цыгарэту.

Ч а л а в е к у ч о р н ы м *(пстрыкнуў запальнічкай)*. Калі ласка! *(Спакойна, без пагрозы.)* Заўтра на досвітку вас расстраляюць... *(Паўза.)* Страшна? Можаце не адказваць, я і сам ведаю. Чалавек перш за ўсё — чалавек, гома сапіенс, жывая істота, а потым патрыёт і змагар... Вось таму, таварыш камса-

малец Аляшкевіч, давайце пагаворым з вамі як самыя звычайныя людзі.

Аляшкевіч. Дарэмна вы камедыю ламаеце... Нічога не будзе.

Чалавек у чорным. Што не будзе? Не скажаце нічога? А што вы ведаеце, малады чалавек? Вы — маленькі вінцік у вялікай машыне... Хаця не... Гэта для вас занадта... Вас толькі змазкай можна назваць... Але не будзем пераходзіць на асабістыя знявагі, інакш не атрымаецца размовы...

Аляшкевіч. Усё роўна не атрымаецца.

Чалавек у чорным *(пасля невялікай паўзы)*. Добра! Пяройдзем да справы, калі вы настойваеце... Дык вось. Пакуль вы ўпарта крычалі «не ведаю!» і «не скажу», ваш сябар, Войтаў, з якім вас выпадкова арыштавалі на таварнай станцыі, усё расказаў нам... Усё... *(Паўза.)* Не верыце? То слухайце... Прозвішчы я назваў. Цяпер далей... далей... Вас прынялі ў арганізацыю ўсяго тры дні назад... Які вы падпольшчык? Назва адна... Хочаце, скажу месца вашай яўкі? Закінуты склеп каля вадакачкі... Так? Уся ваша арганізацыя разбіта на пяцёркі. Сувязь — праз кіраўнікоў пяцёрак, а вы нічога не ведаеце, акрамя тых пяці чалавек? Праўда?

Аляшкевіч. Гэта вы самі прыдумалі?

Чалавек у чорным. Кіраўнік вашай пяцёркі — Пятроў... Самуіл. Імя ж якое? Яўрэй, пэўна... Вуліца Маладзёжная, восем, кватэра трыццаць чатыры. Жонка і двое дзяцей... Мы іх, дарэчы, узялі, як і вашу маму...

Аляшкевіч. Гад!

Чалавек у чорным. Ну навошта ж так?

Аляшкевіч. Што ж вам ад мяне трэба, калі ўсё ведаеце?

Чалавек у чорным. Дробязь... Толькі зразумейце мяне правільна. Вы — герой... Я гавару гэта без іроніі. Вы заслужылі гэта слова... Мы не зламалі вас, не змаглі, хаця зрабілі ўсё, што толькі магчыма...

Аляшкевіч. Дзякуй.

Чалавек у чорным. Дык вось, вы заслужылі захапленне пры жыцці і пашану пасля сваёй смерці... Як гэта кажуць у вас: Радзіма не забудзе... Усё вы гэта атрымаеце, але пры адной умове: Вой-

таў назваў нам чатырох — сябе, вас, Пятрова і Мількевіча. Іх арыштавалі. Пятага ён не паспеў назваць. На жаль, звар'яцеў. На допыце крыху перастараліся.

Аляшкевіч. Ну дык што?

Чалавек у чорным. Тое, што не сказаў ён,— скажаце вы. Скажаце. Жыццця вам захаваць не змагу... Вас расстраляюць, але вы памрэце тым, кім вы былі і хто вы ёсць. Вамі будуць ганарыцца...

Аляшкевіч. Памерці вы мне не перашкодзіце.

Чалавек у чорным. Не, не перашкодзім. Але мы нанова перапішам пратаколы допытаў... З Войтава зробім вас, а з вас — Войтава... І пакінем іх тут... Сведак у вас няма, і вы застанецеся здраднікам да тае пары, пакуль не забудзецца гэта жудасная вайна. У вас ёсць маці, сёстры, браты, якія ваююць супраць нас... Яны будуць жыць... Пасля. Вам не страшна?

Аляшкевіч падняўся з крэсла.

Чалавек у чорным. Сядзьце! Не страшна?

Аляшкевіч. Страшна.

Чалавек у чорным. Гэта добра, што вы думаеце не толькі пра сябе...

Аляшкевіч. Страшна, што няма бога.

Чалавек у чорным. Згодны?

Аляшкевіч *(крыкнуў)*. Не!

Чалавек у чорным. Вы дзівак! Гэта ж не кампраміс... Жыцця я вам не абяцаю...

Аляшкевіч. Не!

Чалавек у чорным. Нават самы строгі мараліст не назаве вас здраднікам. За што? Здрадзіў Войтаў. Ён назваў двух, а трэцяга не паспеў, бо з'ехаў з глузду. Чысты выпадак...

Аляшкевіч. Не!

Чалавек у чорным. Калі б ён звар'яцеў на хвіліну, на палову хвіліны пазней, вы мне не спатрэбіліся б... Разумееце?

Аляшкевіч. Не!

Чалавек у чорным. Адказнасць цалкам кладзецца на аднаго Войтава... І юрыдычная, і маральная...

Аляшкевіч. Вось і спытайце ў яго.

Маўчанне.

Чалавек у чорным. Ну добра! Я дапамагу вам... Войтаў паспеў нам назваць і пятага... Мы ведаем! Ведаем... Але мне хочацца пачуць гэта яшчэ раз, і менавіта ад вас. Ад вас... Капрыз, цікаўнасць філосафа... Ну?

Аляшкевіч. Чаму ў вас такія маленькія вочы? Як у тхара.

Чалавек у чорным *(закрычаў)*. Гаварыце! *(Узяў сябе ў рукі.)* Вы эгаіст, Аляшкевіч... Вы думаеце толькі пра сябе... Няўжо вам не шкада тых, хто з-за вашай ідыёцкай упартасці будзе пакутаваць усё жыццё... Маці здрадніка, сястра здрадніка...

Звоніць тэлефон.

Чалавек у чорным. Слухаю!.. Чаму не бярэ? Загад быў... Так, хвілінаачку... Я зараз сам разбяруся... *(Паклаў трубку.)* Праз дзве хвіліны я вярнуся... Або вы скажаце імя пятага, або я зраблю тое, што абяцаў... Я не жартую, Аляшкевіч...

Выходзіць. У кабінет асцярожна зайшоў Чалавек у памятым пінжаку. Нейкі час стаяў моўчкі, падышоў бліжэй.

Чалавек у памятым пінжаку. Слухай, малец... Не будзь дурнем, скажы, што ён пытае...

Аляшкевіч. Пайшоў ты!

Чалавек у памятым пінжаку. Гэта ўсё эксперыменты, разумееш? Кнігу ён піша. «Рацыяналізм і пачуццё» называецца. Во і мардуе людзей... Доследы робіць... Хто што скажа, дзе заплача, а дзе закрычыць... А вашых пахапалі ўсіх... Пятроў кулю сабе ў лоб пусціў, калі бралі... Мількевіч з Казачонкам у адзіночках.... Убачыш заўтра, калі на распыл пацягнуць... Войт ваш па двары бегае, немцы рагочуць... Скажы і не мучай сябе, а то ён і напраўду зробіць усё... Ён такі...

Аляшкевіч. Я нічога не ведаю! Зразумеў ты?

Чалавек у памятым пінжаку. Хоць

не ведаеш, а скажы... Пяты ваш — Казачонак Андрэй Уладзіміравіч — шавец, што каля стадыёна жыў... Скажы, чуеш, скажы... Ён ад цябе і адчэпіцца адразу... Я маці тваю ведаю...

Аляшкевіч. Нашы прыйдуць — ты ўсё і скажаш.

Чалавек у памятым пінжаку. Ага, разганюся... Я ўжо, хлопча, усё... Гамон... Адгаварыў, аджыў, адкруціўся... Пятля начамі сніцца... А ты... Няма каго выдаваць... Яны ўсё ведаюць...

Рэзка адчыняюцца дзверы. На парозе Чалавек у чорным. Паўза.

Чалавек у чорным *(да Аляшкевіча).* Што ён вам гаварыў?

Чалавек у памятым пінжаку. Я... Я маўчаў.

Чалавек у чорным. Я вас не пытаю. *(Аляшкевічу.)* Нічога?

Аляшкевіч. Вершы чытаў.

Чалавек у чорным. Ну, хай нічога. *(Сеў за стол, узяў ручку.)* Слухаю. Прозвішча і адрас пятага?

Аляшкевіч. Мне падумаць трэба.

Чалавек у чорным. Час у вас быў.

Аляшкевіч. Ну, не адразу ж... так...

Чалавек у чорным. Слу-ха-ю.

Аляшкевіч. Пішыце... Я... Нічога... Не ведаю... Стаўце кропку. Гэта ўсё!

Паўза.

Чалавек у чорным *(нервова кінуў ручку).* Не! Не ўсё! Паслухайце цяпер мяне. Вы лічыце сябе і свае ідэі самымі высакароднымі і гуманнымі. На нас вы глядзіце, як на дзікіх звяроў. Мы вылюдкі! Садысты! Лютыя пачвары! А вы? Хто вы?! Дзе ж гэта ваша высокая гуманнасць? Любоў? Калі вы можаце адрачыся і ад бацькоў, і ад каханых, і ад сяброў... І ад самога сябе... Хто з нас большы вылюдак? Вы дайшлі ў сваім фанатызме да крайняй кропкі... Нават чалавека, які пераступіў вашы маральныя законы і прынцыпы, вы не можаце выдаць... А мо скажаце? *(Аляшкевіч маўчыць.)* Скажыце слова ў слова ўсё тое, што ён вам гаварыў

тут, і я загадаю яго заўтра расстраляць... Разам з вамі. Клянуся, што так і будзе... Клянуся памяццю сваёй маці... Толькі скажыце...

Аляшкевіч маўчыць. Чалавек у памятым пінжаку кінуўся на калені, заплакаў.

Ён здраднік! Што вам?

Аляшкевіч маўчыць.

Вы ідыёт! У вас жа ёсць магчымасць пазбавіць людзей ад яго. Ён жа твой вораг!

Аляшкевіч *(падняўся, да Чалавека ў памятым пінжаку)*. Устань! *(Рэзка.)* Устань!

Паўза. Чалавек у памятым пінжаку падняўся.

Чалавек у чорным *(адчыніў дзверы)*. Бывайце!

Аляшкевіч выходзіць.

Чалавек у чорным *(стомлена, абыякава да Чалавека ў памятым пінжаку)*. Спалохаліся? Не трэба, супакойцеся...

Чалавек у памятым пінжаку *(ледзь чутна)*. Я не гаварыў...

Чалавек у чорным. І не крыўдуйце... *(Сустрэліся позіркамі.)* Ну, чаму вы так глядзіце на мяне? Чаму?

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

Пражэктар асвятляе хлопцаў.

Шабуня *(Аляшкевічу)*. Што ж ты нарабіў?

Дробаў. Усё правільна. Толькі чаму ты пашкадаваў гэту сволач у памятым пінжаку? То і напраўду яго шчоўкнулі?

Аляшкевіч. А ты б што зрабіў?

Дробаў. Выдаў...

Крынкін. А што б ты зрабіў?

Аляшкевіч. Ён і хацеў, каб я хоць у чым-небудзь здрадзіў.

Крынкін. А высакароднай здрады не бывае...

Шабуня. Якая ж гэта здрада? Ён жа ўсё ведаў... Трэба было думаць пра людзей, якія застаюцца...

Крынкін. Ты, Коля, не зразумеў...

Шабуня. Не для сябе ж бы ён зрабіў...

Крынкін. А калі б ён пасля гэтага сказаў: забі сваіх таварышаў, а то перапішу гэтыя пратаколы... Тады як?

Шабуня. Ну, тады вядома... Але ты не раўняй... Гэта не тое...

Крынкін. Гэта тое ж самае.

Шабуня. Не...

Дробаў. Вось, Андрэй! Гэты слабак Шабуня стаў бы здраднікам...

Крынкін. Гэта ён толькі збоку... Сам бы зрабіў тое ж...

Шабуня. Не зрабіў бы...

Дробаў. Ну, во!..

Крынкін. Калі б давялося, падумаў бы і выбраў...

Дробаў. Не веру! Стаў бы вагацца, разважаць... Ах, пакуты маці, ах, на яго магілу несправядліва плюнуць, і ўсё...

Аляшкевіч. Я таксама пра гэта думаў...

Дробаў. Але ж не вагаўся...

Аляшкевіч. Я не хацеў, каб гэты чалавек думаў, што эксперымент удаўся і я здрадзіў, каб не быць здраднікам...

Дробаў. Які чалавек? Гэты «вучоны»? Якая табе розніца, што высока ён пра цябе падумаў бы? Лічыў героем ці здраднікам.

Аляшкевіч. Розніца ёсць.

Крынкін. Ёсць.

Шабуня *(задуменна)*. Ёсць...

Дробаў. Нічога не разумею... Якая розніца пасля смерці...

Аляшкевіч. Пасля смерці... Кожная смерць нешта пакідае тым, хто застаецца... Ворагам, сябрам, проста людзям...

Дробаў *(упарта)*. Смерць — гэта заўжды толькі смерць...

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ

Верхняя пляцоўка. На ёй Жанчына-доктар і Ірына. Стаяць, глядзяць на хлопцаў. Аляшкевіча ўжо няма.

Доктар. Ты не пытаешся, чаго ш цябе сюды прывезла?

Крынкін *(закрычаў)*. Іра!

Дзяўчына маўчыць.

Доктар. Заўтра цябе выпішуць.

Крынкін. Ірынка!

Маўчанне.

Доктар. Што ты думаеш рабіць?

Дзяўчына маўчыць.

Доктар. Не раздумала... У цябе вельмі рэдкая група крыві. Настолькі рэдкая, што мы ледзь знайшлі яе...

Ірына. Я падзякавала ўжо вам за гэта. Магу яшчэ раз...

Доктар. Падзякуй свайму донару... Ён тут...

Дробаў. Вельмі прыемна... Кроў здаваў некалі я...

Доктар. Дваццаць год... Аддаў сваю кроў і праз тыдзень загінуў, ратуючы маленькага хлопчыка. А яшчэ праз месяц мы пераліліі яго кроў табе... Падумаць толькі! Ён ужо цэлы месяц ляжаў, прысыпаны жвірам, а змог ўратаваць цябе...

Крынкін. Як жа ты магла паверыць? Чаму ты не пачула мяне мёртвага?

Доктар. Добра, што мёртвыя не чуюць... Уяві, што б ён сказаў? Ён, мёртвы, перамог тваю смерць, якую ты сама паклікала да сябе лязом брытвы...

Дробаў. Я б сказаў, што такіх вось не трэба ратаваць! Хай лезуць у труну, калі прыспічыла... Калі ласка, не перашкаджайце!

Крынкін. Маўчы, Дроб! Ты яе выратаваў, але ж ты...

Дробаў. Яе? Дзеля чаго?

Шабуня. Абавязкова табе гэта «дзеля чаго»?

Дробаў. Яна сама захацела! Я, дурань, думаў, што кроў пераліюць хвораму дзіцяці, жанчыне

пры родах, каму-небудзь яшчэ, а тут... Не, лепей бы гэту шклянку выліць пад плот, на траву... Было б хоць угнаеннем...

Крынкін. Замаўчы, сволач!

Шабуня. Ты жыццё выратаваў, Сямён...

Дробаў. Выратаваў! Ахвяруючы сабой! Не думаючы! Не разважаючы! Высакародна і самааддана! Пляваць я хацеў на такое высакародства. Гэта ідыятызм. Недарэчнасць! Аддаў кроў самагубцы. Смяшней не прыдумаеш...

Урач. Гэта быў цудоўны чалавек, Іра...

Ірына. Герой!

Доктар. Проста чалавек... Ён кінуў свой танк у бездань, каб не наехаць на маленькага хлопчыка. Жыў чалавекам і застаўся ім у сваю апошнюю хвіліну... Гэта, пэўна, і ёсць гераізм...

Шабуня. Чуеш?

Крынкін. Ты — герой!

Дробаў. Усіх, хто памрэ не па-людску, жывыя хочуць зрабіць героямі...

Ірына. Навошта? Навошта вы ўсё гэта мне расказваеце? Хіба я прасіла, каб мяне ратавалі? Не трэба было мне гэтай крыві. Я заснула... Навошта вы мяне разбудзілі?

Доктар. Дзіўна... У галаве не змяшчаецца... Калі замахваюцца на жыццё другога, людзі лічаць гэта цяжкім злачынствам. Калі на сваё — нічога... Яшчэ і шкадуюць усе, вінаватымі сябе лічаць... Незразумела...

Ірына. Я ўсё адно гэта зраблю... Гэта маё жыццё...

Доктар. Тваё? Няма ўжо ў цябе свайго жыцця. Яно скончылася тыдзень назад. Яно цяпер маё, таму што я ратавала цябе... Яно цяпер яго, гэтага мёртвага хлопца, што пакінуў частку сябе самога тут, на зямлі... Тваё жыццё — гэта і жыццё тваіх дзяцей, якія некалі ў цябе будуць...

Ірына. Не будзе...

Доктар. Яны павінны таксама жыць, радавацца, плакаць, пакутаваць. А ты іх хочаш асудзіць на небыццё? Тысячы ніцяў... Нябачных і моцных... Хто табе дазволіў іх разрываць?

Ірына. Старая песня...

Доктар. Перш чым адысці туды, трэба нешта зрабіць тут. А што ты зрабіла?

Ірына. Верыла!!!

Крынкін. Іра!!!

Ірына. Вы ведаеце, што такое, калі ўвесь бясконцы свет сходзіцца ў адным чалавеку, калі ты сама ўваходзіш у яго кожнай сваёй клетачкай, кожным нервам. Калі ты — гэта ён! А потым усё гэта разбураецца. Разбураецца і свет. Пусты і нікчэмны.

Доктар. Не так гэта ўсё, дзяўчынка... Не ведаю, хто цябе давёў да такіх думак, але гэта не так...

Ірына. Не, так! Вы мне расказалі пра гэтага салдата... Вам хацелася ўразіць мяне, ускалыхнуць маю душу... Ён здаў сваю кроў! А для чаго? Для таго, каб каму-небудзь бескарысна дапамагчы, ці для таго, каб стаць прыкладам, героем... Хіба мог ён ведаць, каму пойдзе гэта кроў?

Доктар. Якая розніца?

Ірына. Вось! Розніцы няма... Яму ўсё адно было, каму яе выльюць... Чалавеку, што наскочыў на нож, абараняючы слабага, або параненаму мярзотніку, якога ратуюць толькі для таго, каб потым расстраляць...

Доктар. Хопіць!

Ірына. Нявіннаму дзіцяці, у якога гэту кроў адняла хвароба, або жанчыне, што зрабіла няўдалы аборт...

Доктар хлёстка б'е яе па шчацэ. Яна, трымаючыся за сэрца, адышла.

Доктар. Табе і сапраўды не варта далей жыць... Калі б у мяне была магчымасць, я б адабрала ў цябе тваё жыццё і аддала яго аднаму з гэтых хлопцаў.

Ірына. Хіба ён быў не адзін...

Доктар. Іх было двое... Экіпаж...

Дробаў *(злосна)*. Трое! Трое!

Ірына. Як іх звалі?

Доктар. Прачытай сама...

Ірына *(чытае)*. Радавы Шабуня... Радавы Крын... *(Закрычала.)* Андрэйка-а-а!!! Гэта ты... Божа мой, што ж я пра цябе думала? Даруй мне, лю-

бы... Як я змагла паверыць, што ты — гэта не ты... Я ж ведала цябе, як сябе... як я змагла?

Крынкін. Усё добра, Іра... Ты пачула мяне. Усё добра...

Ірына. Ніхто ні ў чым не вінаваты. Ніхто ні ў чым не павінен быў пераканаць мяне... Гэта я... сама... сама...

Доктар *(усё зразумела, падышла да яе)*. Не трэба, дзяўчынка... Пойдзем адсюль...

Ірына. Пакіньце мяне... І даруйце... Я не толькі перад вамі, я перад усімі людзьмі, перад усім светам вінаватая... Даруйце...

Доктар. Пойдзем... Ты потым сюды прыйдзеш... Адна... А цяпер пойдзем.

Ірына. Ты будзеш жыць, Андрэйка! У цябе будзе дзіця... Ты чуеш?

Крынкін. Чую...

Доктар абдымае яе, адводзіць.

Крынкін *(гледзячы ім услед)*. Страшна падумаць, як бы яна жыла далей, калі б не прыйшла сюды і не даведалася пра ўсё... Вось яна, твая халодная развага, Дробаў...

Шабуня. Твая і Курбатава...

Крынкін. Глядзі, не адварочвайся...

Дробаў *(злосна)*. Вы мне надакучылі! І ты, і ты! Што вам ад мяне трэба? Філосафы! Калупаецеся ў дробязях, нясеце лухту пра нейкую чалавечнасць, пра высокі сэнс... Які тут сэнс? Мне ясна толькі адно, што я нябожчык! Мярцвяк па недарэчнасці... А я хацеў жыць! Жыць! Жыць! Жыць! Жыць...

Крынкін. Ціха, ціха... *(Крычыць.)* Замаўчы! Ты хацеў жыць? А я што, не, а ён? Але так, пэўна, трэба. Мы сталі на месца, на якое замахнулася смерць... Добраахвотна сталі...

Шабуня. Ага! Так, Андрэй...

Дробаў. Усё к чорту лысаму... Усё ненавіджу!

Крынкін. А я ўсё разумею!

Дробаў. Што ты разумееш? Што?

Крынкін. Ты, Дробаў, бачыў гэтага хлопчыка на дарозе! Ты павінен быў убачыць яго раней за Шабуню!

Д р о б а ў *(з жахам).* Не!

К р ы н к і н. Менавіта ты як камандзір павінен быў прыняць рашэнне.

Д р о б а ў. Не!

К р ы н к і н. Але ў адно імгненне ты разлічыў, што гэта дзікая, нечалавечая сітуацыя, з якой выйсця няма. І ты спіхнуў усю адказнасць на сумленне таго, хто трымаў рычагі. І тады Шабуня стаў нашым камандзірам! А камандзір, сяржант Дробаў, мае права распараджацца не толькі сваім жыццём! І ён выбраў адзінае, што павінен быў выбраць ты! І вось толькі таму, што мёртвых не чуюць, цябе лічаць нашым камандзірам і да цябе плыве слава і ўдзячнасць...

Д р о б а ў. А мне пляваць! Слава ці ганьба — гэта ўсё роўна пасля смерці...

К р ы н к і н. Ну, ладна, хопіць! Даволі спрачацца, разважаць... Час ставіць кропку... Мы мёртвыя і можам ўсё? Дык вось, мы можам нават вярнуцца туды, на вузкую горную дарогу, і паспрабаваць праехаць яшчэ раз... Ты, сяржант Дробаў, сядзеш за рычагі... *(Загадвае.)* За рычагі!..

Дробаў застаецца адзін. Асветлены яго твар і рукі, што трымаюць умоўныя рычагі. Уперадзе х л о п ч ы к. Грукат, цяжкі лязгат гусеніц па камяністай дарозе... Танк ляціць уперад... Слуп святла імкліва набліжаецца... Вось! Вось ён!.. Маленькі хлопчык з шырокімі вачыма... Кучаравенькі, заплаканы... Справа — бездань, злева — скала...

Д р о б а ў *(крычыць).* Тармазы? Дзе тармазы?

Г о л а с К р ы н к і н а *(з цемры).* Тармазоў няма!

Г о л а с Ш а б у н і. Толькі рычагі...

Рукі Дробава знерухомелі. Слуп святла ўжо дайшоў да хлопчыка. З цемры аднachасова выбягаюць К р ы н к і н і Ш а б у н я. Яны хапаюць Дробава за рукі. Страшны слуп знікае.

Д р о б а ў *(дзіка закрычаў).* А-а-а! Рука! Пусціце, рука!!!

Ш а б у н я. Балюча?

Дробаў трымаецца за правую руку і стогне.

К р ы н к і н. Табе балюча? *(Зрабіў крок назад.)*

Ш а б у н я. Ты жывы... *(Крок назад.)*

К р ы н к і н. Жывы... *(Адступае.)*
Ш а б у н я. Жывы-ы! *(Адступае.)*
К р ы н к і н. Жывы-ы-і!
Ш а б у н я. Жывы-ы-і!..

Яны знікаюць у шчыльнай цемры.

Р а з а м. Жывы.

Д р о б а ў *(падае на калені)*. Хлопцы, хлопцы... Чакайце... Я не ўсё сказаў!..

Пражэктары гаснуць. На сцэне і ў глядзельнай зале запальваецца звычайнае святло. Знікае чорны конус, знікае ўсё... Сон Дробава скончаны... Сцэна ўся белая. Падобна на тое, што гэта бальніца... Так і ёсць. Гарнізонны шпіталь. Палата, два ложкі. На адным К а ш ы н, на другім Д р о б а ў.

## КАРЦІНА ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ

К а ш ы н *(Дробаву)*. Жывы? Прачнуўся? От і добра! Малайчына, сябрук. Напляваў на ўсе медыцынскія законы! Сто год будзеш жыць... Прафесар казаў, што хай толькі паправіцца,— напаю спіртам за тое, што так хоча жыць...

Д р о б а ў *(яшчэ напалову ў забыцці)*. Дзе... я? Андрэй, Шабуня, дзе мы?

К а ш ы н. Спакойна, спакойна... Гэта шпіталь... Мы, брат, з табой, як у Чэхава... Палата нумар шэсць...

Д р о б а ў. Я ж хацеў затармазіць... Я не паехаў бы на яго... Затармазіць...

К а ш ы н. Ты ўжо добра затармазіўся... Месяцы на два-тры... Не гавары пакуль што, добра? Я, брат, і за сябе, і за цябе буду... Люблю гаварыць, хоць памры... Ведаеш, ты тут усіх ледзь заікамі не зрабіў... Такое гаварыць — страшна слухаць было...

Д р о б а ў. А хлопцы? Дзе хлопцы?..

К а ш ы н *(бы не пачуў)*. А ты мастак лаяцца! І дзе толькі навучыўся так... Нават калі аперацыю рабілі... Практыканткі з інстытута прыходзілі —дык чырванелі, бедныя... А прафесар задаволены: раз лаецца — будзе жыць... Абы не заціхаў...

Крокі па калідоры.

К а ш ы н. Усё! Я сплю... Курбат сюды прэцца.

Асцярожна ўваходзіць капітан К у р б а т а ў.

К у р б а т а ў *(вінавата ўсміхаецца).* Дзень добры, Дробаў!

Д р о б а ў. Дзень добры.

К у р б а т а ў. Ну, як вы тут?

Д р о б а ў. Нічога... Рука баліць...

К у р б а т а ў. Калі цяжка размаўляць — вачыма мне адказвай... Расплюшчвай — заплюшчвай. Добра?

Д р о б а ў. Што з хлопцамі?

К у р б а т а ў *(няшчыра ўсміхнуўся).* Ды нармальна... Крынкін тут, а Шабуню на самалёце адправілі...

Д р о б а ў. Таварыш капітан!

К у р б а т а ў *(сумна).* Разбіліся, Сямён, хлопцы!.. Шабуня дні тры яшчэ пажыў, а Крынкін адразу...

Д р о б а ў. Іх тут пахавалі?

К у р б а т а ў. Чаму тут? Дадому павезлі. Шабуню ў Віцебск, а Крынкіна...

Д р о б а ў *(падказвае).* У Мінск... Як яго завуць?

К у р б а т а ў. Каго? Крынкіна?

Д р о б а ў. Хлопчыка... Які быў на дарозе...

К у р б а т а ў. Андрэем яго завуць.

Д р о б а ў. Эх, Андрэйка... Як жа гэта ён?..

К у р б а т а ў. Звычайна, заблудзіўся... Яго маці ўжо другі тыдзень з прыёмнага пакоя не выходзіць: хоча пабачыць цябе...

Д р о б а ў. Не трэба...

К у р б а т а ў. Дарэмна, Сямён... Ёй цяпер цяжэй, чым табе...

Д р о б а ў. Не трэба... Скажыце ёй, хай не прыходзіць!

К у р б а т а ў. Добра. Ну, усё, пайду я... Ты, пэўна, стаміўся... Папраўляйся... Мы будзем наведваць цябе... *(Падышоў да ложка Кашына.)* Спіце, радавы Кашын?

К а ш ы н. Ну, а што? Так точна!

К у р б а т а ў. Вось трымайце... *(Аддаў некалькі апельсінаў, вінаград, загорнутую ў паперу бутэльку.)* Мне сказалі, што яму пакуль нельга...

К а ш ы н *(узяў бутэльку)*. Таварыш капітан...

К у р б а т а ў. Сок, сок -гэта... Мандарынавы.

К а ш ы н. Ну... ну... дык я бачу. Дзякую.

К у р б а т а ў. Як толькі выпішашся са шпіталя — паедзеш у водпуск. Ужо ёсць загад. Ну, добра, хлопцы, папраўляйцеся... Заўтра хто-небудзь зойдзе да вас...

К а ш ы н. Пошту хай прыпруць, а то адсталі...

К у р б а т а ў. Бывайце. *(Пайшоў.)*

К а ш ы н. Будзем. *(Раптам засмяяўся.)* Ёлкі зялёныя! Радавы Кашын заяўляецца ў водпуск. Бацька ўсё адно не паверыць. Падумае, што ўцёк з арміі... Ён казаў, што ў мяне тут будзе тры месцы: кухня, туалет і «губа»... Далей мяне не пашлюць...

Д р о б а ў. Слухай, я цябе недзе ўжо бачыў...

К а ш ы н. Ну, я ж з трэцяга ўзвода...

Д р о б а ў. Малады?

К а ш ы н. Сёмы месяц, гатовы даць адпор любому агрэсару...

Д р о б а ў. А чаму ты тут?

К а ш ы н. Ды ўсё гэтая служба... Цераз дзень на рэмень, цераз два на кухню... Ну, вырашыў адпачыць... Ім нейкія мазгі з касцей спатрэбіліся, ну я і думаю: хай трохі возьмуць, не шкада. А я тут паляжу, высплюся...

Д р о б а ў. Гэта мне?

К а ш ы н. Што, мазгі? Не, не... Тут... э-э... у суседняй палаце салдат адзін ляжыць... У яго трохі не хапае... Дык у мяне во з касцей узялі і яму...

Д р о б а ў. Кажаш, усе спадзяваліся, што я памру?

К а ш ы н. Як гэта спадзяваліся? Што ты пляцеш.

Д р о б а ў. Ну, думалі...

К а ш ы н. Мала што думалі... Тое, што думаеш, ніколі не бывае... Законна.

Д р о б а ў. Слухай... Ну, а калі б ты на сто працэнтаў быў упэўнены, што я ўсё роўна загнуся... Аддасі ты гэтыя свае мазгі ці не... Разумееш, усё роўна памру... Ты б пайшоў у шпіталь?

К а ш ы н. Ну, а што? Каб з галавы бралі, дык яшчэ падумаў бы, бо яна і так у мяне не надта кемлівая, а з касцей...

Д р о б а ў. Не блазнуй!.. Адкажы... Разумееш,

на сто працэнтаў упэўнены... Шанцу ніводнага... Пайшоў бы?

Кашын *(раздражнёна)*. Ідзі ты к чортавай матары са сваімі працэнтамі! А хто б не пайшоў?.. Супакойся, супакойся... Ты мне нічым не абавязаны... Я Шабуні свае мазгі аддаваў...

Дробаў. Дык ён жа памёр?

Кашын. Ну і што? *(Злосна.)* Ну і што? У цябе, мабыць, па матэматыцы адны пяцёркі былі?.. Трэба іншым разам і двойкі атрымліваць...

Дробаў. Даруй... Ты ведаеш, што я перажыў?

Кашын. Ведаю...

Дробаў. Не! Гэтага ніхто не ведае... Страшна зазірнуць у сваю душу і ўбачыць там бездань. Чорную, бяздонную бездань... Калі па справядлівасці, дык хлопцы павінны былі застацца жыць... Мой экіпаж, а не я...

Кашын. Значыць, так трэба... Ты павінен дажыць за іх... і за сябе таксама. І тут ужо выбару няма...

Дробаў *(нібы трызнячы)*. Няма... няма... няма...

*Зацямненне.*

Калі зноўку набіраецца святло, Дробаў стаіць на авансцэне з новенькім бліскучым чамаданчыкам. Гучыць ціхая музыка. З глыбіні сцэны з'яўляюцца Крынкін і Шабуня. Яны стаяць і моўчкі глядзяць на свайго камандзіра. Дробаў павольна-павольна азіраецца.

*Заслона.*

# ЗМЕСТ



АЛЕКСЕЙ АНУФРИЕВИЧ
ДУДАРЕВ

ДИАЛОГ

ПЬЕСЫ

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. І. Сямёнава. Мастак У. У. Сытчанка. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Т. М. Собалева.

ІБ № 2499

Здадзена ў набор 06.11.86. Падп. да друку 10.07.87. АТ 07165. Фармат 84×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,26+1,66 укл. Ум. фарб.-адб. 15,07. Ул.-выд. арк. 14,61. Тыраж 7100 экз. Зак. 3075. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.